


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**8** (1066)

***ЖНІВЕНЬ***

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар
*МАЛЬЧЭЎСКАЯ Алена Аляксандраўна*



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2018

# *ЗМЕСТ*



Мікола МАЛЯЎКА

# ЛЕТУЦЕНІЦЬ ЖАЛЕЙКА...

## БАРАВІКІ Ў КАПЕЛЮШЫ

Стары абрад — грыбных мясцін агляд.
Баравікі яшчэ не ўсюды лезлі,
Але паэту паспрыяла лета.
Засведчыў сынаў фотаапарат:
Трапляюцца грыбы, хоць і няшмат,
Як быццам тут, у пухавіцкім лесе,
Дыхнула раптам водарам палескім, —
У маладосць вяртаў грыбны абрад.

Не сцьмеў ад часу здымак прыжыццёвы,
Гаворыць болей, чым жывыя словы.
У лесе гэтым Колас не чужы —
І ён спакойна так, з усмешкай добрай,
Баравікі нясе ў капелюшы,
Як свой апошні паэтычны вобраз.

---

*__Маляўка Мікалай Аляксандравіч__ нарадзіўся 13 снежня 1941 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1965). Настаўнічаў у вясковых школах. Працаваў на Рэспубліканскім радыё і тэлебачанні, у часопісе «Вясёлка».*

*Аўтар паэтычных зборнікаў «Едуць маразы» (1966), «Лотаць» (1973), «Эстакада» (1982), «Аднавякоўцы» (1988), «Зімні дождж» (1991), «Ручнічок на крыжы» (1995), «Покуць» (2001), «Сядзіба, або Хата з матчынай душой» (2002), «Старая зямля» (2005), «Ой, бярозы і сосны...» (2006), «Дзічка ў полі» (2007), «Крыштальная галінка снегападу» (2011), «Беражыце шыпшыну» (2013), «Нябесны фатограф» (2016), «Раманс на два галасы» (2018), «Сланечнік» (2018), кніг вершаў і казак для дзяцей «Дзед і ўнучка» (1983), «Салодкі лядзяш» (1986), «Як дом будавалі» (1987), «Дзе жывуць казкі» (1994), «Запрашаем на калядкі» (1998), «Папялушка» (2000), «Пачынайце дзень з усмешкі» (2013) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1992), прэміі Фэдэрацыі прафсаюзаў Беларусі (1997), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2002).*

## МАЛАДЗІЧОК КАХАННЯ

Зямля спавіта дзіўнай цішынёю,
А мне на родным беразе не спіцца:
У небе, над маёю галавою,
Маладзічок кахання залаціцца.

Над Нёманам стаю адзін і мрою,
І бачу вобраз твой, як на экране.
І ты, магчыма, недзе над ракою
Таксама летуценіш у тумане.

Сплывае ноч
У ранак сіні,
І лёгка голас мой кладзецца
На гукавую стужку плыні,
У кожным слове —
Сэрца б’ецца.

Не дацягнуцца да цябе рукою
Праз кіламетры і туман ружовы,
І я цябе ракою непакою,
Каб ты пачула іх, прызнання словы.

Над Нёманам убачуся з табою,
І будзе вечна доўжыцца спатканне:
У небе, над маёю галавою,
Маладзічок кахання поўняй стане.

Сплывае ноч
У ранак сіні,
І лёгка голас мой кладзецца
На гукавую стужку плыні,
У кожным слове —
Сэрца б’ецца.

## ВЯЛІКІ ГОГАЛЬ БІЎ У ПРАЎДЫ ЗВОН

Вялікі Гогаль біў у праўды звон,
І вешчы голас чула ўся Расія —
На троне цар, народ свой і чужыя.
Праз век прыгону вёў герояў ён —
І дажылі яны да нашых дзён,

Не проста людзі — добрыя, благія,
А цэлы свет, саслоўных душ стыхія —
З адметным знакам лёсаў і імён.

Куды нясецца Русь?.. І страшна стала
Ад явы, што пяро намалявала.
Прасіла неба: «Рукапіс не руш!»
Ды не паслухаў творца нават Бога:
Спаліў жывых герояў «Мёртвых душ» —
Другі свой том, лічы — сябе самога.

## ЖАЛЕЙКА

Электрычкі прыходзяць,
Адыходзяць з вакзала —
І журбою лагодзяць,
Ты чужою не стала.

Чую тут,
Над жалезнымі рэйкамі,
Летуценіць нібыта жалейка.

За дажджамі, за снегам
Затрымалася недзе —
Пад захмараным небам,
На далёкім раз'ездзе.

Засталіся ўспаміны
Ды вясёлыя здымкі —
Без паштоўкі адзінай,
Без вяртання ў абдымкі.

За мяжою вакзала
Свет, тугою замглёны, —
Не пачуў, што сказала
Мне з прыступкі вагона.

Ціха так,
Са слязою на вейках,
Аддаляецца, чую, жалейка.

Электрычкі нібыта
Абяцаюць спатканне,
І жыву я, забыты,
Як у зале чакання.

## ПЧОЛКА БУДЗІЦЬ

***Юрку Міцкевічу — музейнаму руплііўцу з Коласавай радні***

Ах, Юрка, Юрка, дзе ты?.. Над табой
Яшчэ зямныя кветкі не завялі,
Як быццам зблізку нёманскія хвалі
Іх асвяжаюць ласкай і журбой.
Гляджу, і пчолка з поймы лугавой
Гудзе-звініць-спявае так, без жалю,
Нібы цябе ў труне не пахавалі,
А ўранку будзіць музыкай жывой.

Я сам люблю пчаліных гукаў скерца.
Здаецца, і тваё заб’ецца сэрца:
Устанеш ты, рассунуўшы вянкі,
І тут ужо, на беражку магілы,
Агучыш спавядальныя радкі
Пра родны кут, які і мёртвым мілы.

## ЖЫЦЦЁ ЗЯМНОЕ — ВЕЧНАСЦІ ПРАЛОГ

Жыццё зямное — вечнасці пралог,
Праверка сіл і духу загартоўка.
Закончыцца часовая вандроўка
У свеце торных і глухіх дарог —
І ўсіх, здавалася б, раўняе Бог:
У кожнага адна труна-дамоўка,
Касцюм адзін — апошняя абноўка,
Вянкі і крыж, жалобны некралог.

Ды час бяжыць, і тайнаю замглёны,
Па-новаму высвечвае імёны:
Магнатаў розных згадваем радзей,
А бедны творца спадчыны яскравай
Уваскрасае ў памяці людзей,
Ушанаваны ўдзячнасцю і славай.





Людміла РУБЛЕЎСКАЯ

# АВАНТУРЫ ВЫРВІЧА З БАНДЫ ЧОРНАГА ДОКТАРА*

*Раман прыгодніцкі і фантасмагарычны*

### РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### Як Вырвіч з Лёднікам амерыканца з калодзежа даставалі

Бліскучыя ў вечаровым змроку градзінкі балюча ўдарылі па тварах…

У кожнай хавалася маленечкая цукерка, і каб Вырвіч быў вечна галодным менскім шкаляром, яму было б крыўдна, што столькі дабра падае ў чорныя воды канала.

Але кампанія ў дзіўных уборах і масках, стоячы на мосце, шчодра сыпала рогат і карнавальныя пачастункі на праплываючыя ў святле паходняў і зораў гандолы, падобныя да чорных стручкоў. Парцалянавыя аблічча дзівоснай і мёртвай прыгажосці… А вунь дзюбатая застрашлівая маска Чумнога Доктара. Лёднік калісьці ў такой сапраўднай хадзіў, без блішчынак…

**— Ragazzo! Sei un bel ragazzo!**

Дамы ў масках махалі юнаму зграбнаму шляхціцу, што стаяў у гандоле, дзівячыся на горад, нават зоры над якім — быццам канфеці, шпурнутыя сюды гіганцкай рукой тысячагоддзі таму.

— Сядзь, Алесь, а то зараз прыйдзецца з вады вылоўліваць… А ў гэтых прыўкрасных каналах гніль ды смяццё, — прабурчэў старэйшы пан, захутаны ў чорны плашч, у чорным капелюшы і простай паўмасцы з серабрыстай тканіны, якая не магла схаваць драпежнага носу і пагардлівых вуснаў.

— Ды хопіць, Бутрым, лекцый… Дай хлапцу вольным паветрам падыхаць!

Ладны пан у пунсовым уборы з залатымі галунамі і масцы Арлекіна з чырвона-сінімі пісягамі шырока ўсміхаўся. Яшчэ адзін пасажыр гандолы, хлопчык гадоў дзесяці ў залацістым гарнітурчыку з белымі карункамі весела лавіў канфеці і тут жа спрабаваў іх на смак, пускаючы абгорткі, як матылькоў, у чароўную ноч.

Гандальер у паласатай куртцы завёў саладзенькую песню. Пан у чорным плашчы штосьці сярдзіта прамовіў спеваку, той на пару імгненняў змоўк, абварыўшы чужынца пагардлівым позіркам, і зноў заспяваў, яшчэ грамчэй.

— Да чаго бязглузды горад…

У Пранціша не было чым абвергнуць крыўднае для самага чароўнага горада свету вызначэнне. Сапраўды, тры дні як у Венецыі, а нічога не дабі-

---

* Працяг. Пачатак у № 7 за 2018 г.

ліся. Да Пане Каханку не дабрацца — раз'язджае па балях дзень і ноч. Самы шал карнавалу! Ні дожа, ні судовага, ні дробнага пісарчука Найсветлай Рэспублікі Серэнісіма не адловіш для сур'ёзнай гаворкі. Толькі і патрапілі, што схадзіць на пляц ля сабора Святога Марка ды падзівіцца на калоны. Пранціш змушаны быў прызнацца, што нат у шкалярскім юнацтве не ўскараскаўся б... Затое паненка Агалінская заявіла, што ўзлазіла на куды вышэйшае дрэва сяквою, з вершаліны якога, як сцвярджаў ейны пан-бацька, беларуская зямля відаць. Размаўляла паненка зараз трохі прышэптваючы, бо за час падарожжа выпаў верхні зуб.

Леў — вунь стаіць, на вяршыні слупа. Лёднік заявіў, што драпежніка перарабілі з паганскай хімеры. Ды няхай хімера... А як дастаць? Тут жа, перад Палацам Дожаў, дзень і ноч варта. Нат карнавальныя хвалі аб гэтых малойцаў у мундзірах разбіваюцца. Бо дожы — гэта не ліцвінскія магнаты, якія хаця б на словах шануюць адносіны «пане-браце». Ніводзін з іх, як Пане Каханку, з п'янымі шляхцюкамі абдымацца не будзе. На іх простым смяротным толькі здалёк глядзець: ходзяць у сваіх высокіх дзіўных капелюшах, як жывыя помнікі, а вакол ахова.

І самае крыўднае, што пан Гервасій Агалінскі дзесь тут, у Палацы Дожаў з вытанчанымі каменнымі карункамі арак і калон. Не ў пакоі з пазалочанай ляпнінай, а ў адной з дзевятнаццаці жахлівых камер падземнай турмы Поццы, або Турмы калодзежаў. Пад самым дахам палаца — П'ёмбі, Свінцовая вязніца. Але туды садзяць толькі дзяржаўных злачынцаў высокага палёту… А пана Гервасія здалі Трыбуналу, як звычайнага забойцу.

І без асабістай просьбы Караля Радзівіла, на якога нібыта рыхтаваў замах Агалінскі, у мясцовы Трыбунал не сунешся.

І вось чарнавусы пан Рысь са світы Пане Каханку, той самы, з-за чыйго ліста заварылася каша, паведаміў: ёсць шанец! Князь прыедзе з Мурана, з загараднага вясёлага дома ў тэатр. Трэба лавіць яго ў ложы.

Вось і слізгалі яны цяпер у гандоле па чорных каналах, пад гарбатымі мастамі, адным з якіх праводзяць вязняў у страшную венецыянскую турму.

«Аморэ! Аморэ!»

І к'янці не трэба, каб ап'янець ад гэтых мігатлівых агнёў і звонкіх руладаў, ад рухавых таямнічых постацяў Каламбін і Смеральдзін — ці пацалунак атрымаеш, ці стылет пад скабы? Забаўлівы жаночы смех растае ў вузкім, як сцежка да смерці, завулку, і так хочацца забыцца на ўсё — і бегчы, даганяць кароткае карнавальнае шчасце-ачмурэнне… Хай і вылавяць назаўтра тваё цела ў адным са смярдзючых каналаў незадаволеныя смеццяры — да тваіх мёртвых вуснаў прыліпла шчаслівая ўсмешка, што ператвараецца пастунова ў жаласны выскал… Ніхто не зважыць на след ад каралавай памады, што не змыла марская вада з тваёй шчакі, як змыла з тваёй кашулі кроў. Ніхто не будзе шукаць, чый залацісты волас змяіцца між тваіх скурчаных пальцаў…

А ўладарка гэтага золата ўсё гэтак жа смяецца з-пад белай парцалянавай маскі на адным з гарбатых масткоў, і паказваецца з-пад чорнага аксаміту плашча вострая дзюбка серабрыстага туфліка…

Чароўная і згубная, як найлепшае віно, Венецыя!

Ад Пане Каханку сапраўды за тры сажні патыхала віном. Ён, апрануты ў сармацкі строй — серабрысты жупан, гранатавы кунтуш, мусіць, і гузікі на жупане з тым жа надпісам — «fiducia amicorum fortis», асунуўся ў выгодным фатэлі і драмаў, не зважаючы на позіркі.

А пазіралі на ягоную ложу ўвесь час: уладальнік шаснаццаці гарадоў з далёкай Сарматыі быў знакамітасцю. Хадзілі легенды, як на княскіх прыёмах

жывыя вераб'і выляталі са шматпавярховых пірагоў, білі фантаны віна, замест напояў у кубках на сталах аказваліся залатыя манеты. Але стравы падаваліся такія тлустыя, цяжкія для страўніка, што толькі ў дзікай сармацкай краіне падобнае могуць есці.

Твар князя быў чырвоны, як і ягоная лысіна, а вочы не адплюшчваліся. Хаця на сцэне на ўсе засаўкі буялі жарсці, і чароўная Беатрычэ ніяк не магла з'яднацца з адважным Фларында. У глыбіні ложы стаілася пышная пані, лена абмахваючыся веерам — відаць, мясцовая княская метрэса, бо Пане Каханку любіў такіх кабетаў, каб адной рукой не абхапіць. Мо таму жвавенькая Тэрэза Ржавуская не выклікала ў яго сімпатыі?

Пан Рысь, таксама ў сармацкім уборы, таптаўся ўшчыльную ля княскага фатэля, не наважваючыся нат перхануць, каб прывабіць увагу ўладара. Так яны да сканчэння спектакля таптацца будуць… Вунь гледачы запляскалі, зараўлі, засвісталі, ухваляючы прыгажуньку, што скончыла руладу, а пан Караль сапе сабе.

А вось свіст проста над вухам… У чатыры пальцы… Тут хочаш не хочаш, вочы адплюшчыш. Князь неўразумела аглядаўся. Пранціш хуценька адсунуў за спіну задаволеную Рэгінку, якая абцірала абсліняўленыя пальцы аб камзольчык, і бухнуўся на калені:

— Пане-дабрадзею, сонца наша!

А чаго ўжо мёду шкадаваць… Краем вока заўважыў, як Бутрым трохі скрывіўся… Ну, давай жа на калені, не да рэспубліканства! Не, не стаў. Толькі галаву схіліў пачціва. Сын гарбара, а фанабэрыі… Зусім сапсаваўся падчас зносінаў з масонам Жыліберам.

Пакуль князь вагаўся, якой ступені гневу заслугоўваюць нікчымнікі, Вырвічываліў усё, што мог, перасыпаючы ліслівымі слоўцамі. І што яснавяльможнага князя падступна падманулі шпегі ды змоўшчыкі… І пра горкі лёс абгаворанага Агалінскага ды ягонай няшчаснай дачушкі… І пра доктара Лёдніка, які пацярпеў з-за таго, што збіраўся паслужыць ягонай вяльможнай мосці… І пан Вырвіч, суддзя менскі справядлівы, з-за таго ж пасады пазбавіўся.

— Заторкніся, балбатун, у мяне зараз галава выбухне ад тваёй малатні… Квасу!

Зараз жа, адштурхнуўшы Пранціша, да князя кінуўся слуга з гліняным чорнадымленым збанам, відавочна лепленым дзесь у Ганцавічах.

Князь шумна адпіў проста з гарлача, абліваючы парчовы жупан. Кракатануў задаволена.

— Ліцвінскі квас — гэта вам не іхні «лі-ма-на-да», ад якога дупа зліпаецца. Ну, давайце вашы паперы.

Пан Рысь шумна выдыхнуў над вухам Вырвіча: здаецца, вяльможны не дужа ў гневе. Пранціш хуценька працягнуў ліст, напісаны Адамам Брастоўскім.

Радзівіл вывучаў пасланне, а Пранціш крадма вывучаў князя. Той павольна варушыў азызлымі вуснамі, трымаючы ліст амаль ля аб'ёмнага носа з чырвонымі прожылкамі, і Вырвіч успомніў погаласку, што Пане Каханку — невук, дурань прыродны. Літары ледзь у падлеткавым узросце вывучыў, калі адзін настаўнік дапяў выкарыстоўваць іх у якасці мішэняў для стральбы, да якой юны княжыч быў ахвочы. Але князь на імгненне адарваў светла-мутныя вочы ад паперы, укалоўшы позіркам Лёдніка, як пекар трэсачкай працінае пірог, ці ўпёкся… Не, князь быў кім заўгодна, але не дурнем. Цікава, як ён паводзіўся, калі жыў ягоны старэйшы брат-блізнюк? Зайздросціў, злаваўся, намагаўся пераўзысці? Ён ужо тады, у падлеткавым узросце, пачаў збіраць сваё войска,

фундаваць банду адданых людзей — падарункамі, панібрацтвам, зваротам да шляхецкіх ідэалаў. Дурань такое не правярнуў бы.

А калі застаўся адзіным спадчыннікам?

Ніхто не можа прыпомніць, каб Пане Каханку ўвогуле згадваў брата Януша, чыё месца заняў, нібыта хацеў сцерці яго ў памяці людской. Застацца адзіным і непаўторным.

— Ты майго пана-бацьку лячыў?

Лёднік схіліўся ў паклоне.

— Так, меў гонар, ваша княская мосць.

— Паглядзім, які ты эскулап хвалёны. Прызначыш мне пасля штось ад пячонкі. Пячонка прыхоплівае.

Нездарма Бутрым першае, што зрабіў па прыездзе ў Венецыю — набыў сабе скураную доктарскую валізку з неабходным рыштункам, замест той, што звёз у рыдване баязлівы Фульчык.

Князь паварушыў адвіслымі вуснамі.

— Агалінскі здрайца. Прамяняў маю схільнасць на ўсмешкі падшыванкі Багінскай. Хіба што каб ейнаму братку нос падбіць, заступлюся. Няма чаго расейцам бязродным нашых князёўнаў аддаваць.

Махнуў нецярпліва рукой метрэсе, і тая нібыта выцекла з ложы, ледзь сваё крэсла не паваліла ды мушкі з набеленай круглай фізіяноміі не пагубляла. Радзівіл насупіўся, не зважаючы на тое, што на сцэне зноў загучалі рулады, і Смеральдзіна мела дастаткова пышны бюст.

— Адам піша, вы можаце здабыць рог святога Юрыя. А то мае пасланцы па яго нешта марудзяць. З пячоры святога Тарэла іх увогуле вытурылі жаўнеры, нібыта самім Папам прысланыя.

— У нас толькі здагадкі, ваша княская мосць, пра знаходжанне згаданай святой рэчы, — парушыў маўчанне Лёднік. — І насмелюся выказаць сваё нявартае меркаванне — гэта хутчэй за ўсё легенда…

— Раз Адам піша, што зможаце, значыць, не выяўляйце майго вернага сябра лгуном. Бо гэта абраза мне самому, пане каханку, — вочы Радзівіла пачалі налівацца чырванню. Ён наўрад лічыў сябе простым смяротным.

Пранціш паспяшаўся запэўніць, што прыкладуць усе намаганні… Але князь ужо гневаўся, упёршыся позіркам у наравістага Лёдніка.

— Я яшчэ не забыўся, як з-за вас мне вогненны меч не дастаўся!

І сапраўды, калісь Лёднік і Пранціш у кампаніі з панам Агалінскім і ягонай будучай сужонкай адправіліся здабываць таямнічую зброю доктара Дзі ў Ангельшчыну. На той артэфакт прэтэндавалі абодва магнаты: і Радзівіл, і Багінскі. Але ўся таямніца выявілася шалберствам… Што, вядома, зараз давесці было немагчыма.

— Насмелюся нагадаць, вашамосць, што менавіта доктар Лёднік выратаваў вашых прыхільнікаў, студэнтаў Віленскай акадэміі, ад арышту, гэта і ксёндз Марэк можа пацвердзіць! — пачаў лемантацыю Пранціш.

— Ведаем, як вызваліў… З расейскай царыцай у ложку, — вырачыў вочы Радзівіл. У злосці ягонай быў добры дамешак зайздрасці.

— Гэта плёткі, вашамосць… — спахмурнеў доктар, але яго словы раставалі ў тэатральнай прасторы, як дымок ад адной з тысяч свечак.

— Або шукайце рог, або запхну вас, пане каханку, туды ж, куды Агалінскага. Ні ў якім разе нельга, каб рэліквія худапахолку Панятоўскаму дасталася! Да святога Тарэла ён мае адносінаў не болей, чым свіння да сухой ігрушы. Знойдзеце — вазьму цябе, Лёднік, у свае асабістыя лекары, а тваіх дзяцей прыстрою пры сваім двары.

Баўтрамей стрымаў скептычны каментар да такога гонару. Алесь тузануў за руку Рэгінку — уяўнага брата, каб не забылася пачціва пакланіцца і не запярэчыла князю наконт сапраўднага паходжання. Зарабіў выспятак у лытку: маўляў, не дурней за васпана, вось як кланяцца па-прыдворнаму ўмею…

Пранціш, якому не было дэкляравана ніводнага перніка, не спяшаўся падымацца з каленяў, якія ўжо балелі ад пачцівага стаяння:

— Ваша княская мосць, насмелюся нагадаць пра абяцанне вызваліць пана Гервасія Агалінскага…

Радзівіл адвярнуўся да сцэны:

— Хай падрыхтуюць ліст трыбунальным. І сто дукатаў вам на расходы. А заўтра… Не — лепш пазаўтраму прыйдзеце ў мой палац з дакладам.

Пан Рысь хуценька выпхнуў просьбітаў з ложы і выцер рукой спацелы лоб.

— Колькі ведаю вас, пан Лёднік, столькі даводзіцца трапляць на падобныя цяжкія размовы. Лепш бы мы зноў з вамі на двубоі пабіліся. Віншую, аднак: пан дабрадзей наш у гуморы.

Калі гэта «ў гуморы», дык што тады кепскі настрой па-княску?

…За сценамі Палаца Дожаў узрываліся феерверкі, а перад вачыма візіцёраў мільгалі ў цемры калідора белыя панчохі турэмшчыка. Ліхтар акрэсліваў рухомую выспу святла, з якой не хацелася збочваць. Бо па-за ёй у густой, аж да скуры ліпла, цемры крапала вада, чуліся застрашлівыя шоргаты і стогны… Пранціш мацней сціскаў дзяржальна свайго Гіпацэнтаўра. Хоць з кім тут біцца? У іх з Бутрымам афіцыйная папера на вызваленне вязня, вунь турэмшчык які ветлівы: «Прэга, прэга, сіньёры»… А калідор усё спускаецца, а лесвіцы ўсё вільготней ды пакручасцей…

Калодзежы турмы Поцы былі, вядома, больш выгодныя, чым студня ў ашмянскіх сутарэннях, але падабенства несумненнае. Так і чуўся голас ашмянскага Харона: «Ты ніколі не сыдзеш з майго чоўна». Нізкія дзверы, ажно чорныя ад вільгаці, з зачыненым на засаўку акенцам… Турэмшчык забразгаў ключамі. Шчоўкнуў замок… Дзверы расчыняліся марудна, па вяршку, бо разбухлая драўніна ледзь сунулася па камні з агідным шоргатам. Праз шчыліну можна было заўважыць, што падлога вязніцы ніжэй за парог дзесь на локаць, унізе люстравала святло ліхтара вада. Пахла морам і сметніцай адначасова.

Але разгледзець убранне камеры не ўдалося: дзверы штурханула знутры нейкая пагрозная сіла, турэмшчык паваліўся, і на яго галаву да таго ж абрынулася цяжкая дошка.

— Пакрышу італьяшак!

Узброены драўляным абломкам сіньёр, які выскачыў з залітага вадою каменнага пакоя, выглядаў застрашліва. Плячысты, па-дзікунску зарослы валасамі, што адлівалі ў святле ліхтара меддзю, адзежа падраная і збуцвелая…

— Свае, пан Гервасій!

Лёднік спакойна адхінуўся ўбок ад замаху дошкі.

— Святая Цэцылія, наш доктар тутака! І пан Вырвіч! Можа, я ўжо выпруціўся ў гэтых італійскіх сутарэннях, і не заўважыў?

Калмата-барадаты адкінуў убок сваю зброю і сціснуў у абдоймах гасцей.

— Яны ж, заразы, да мяне заходзіць баяліся, ежу, як сабаку, праз дзірку ў дзвярах кідалі. А пад рукой нічога, толькі дошка даўгая замест лаўкі ўздоўж сцяны. Бо як прыліў — падлогу ледзь не па калена залівае. Я, мусіць, месяц згнілы канец той дошкі адломваў, каб хоць якая зброя… Думаў — толькі з'явіцеся, гады, учыню Грунвальд! Выпіць ёсць што? Гарэліца? Ну хоць вінцо? Я б зараз бочку… Ды кумпяком закусваючы…

Пранціш сунуў раззлаванаму турэмшчыку, які паціраў выцятае плячо, пару сольда, а Лёднік тым часам частаваў Агалінскага з біклажкі. Расчараванне — не гарэлкай, а ўмацавальным настоем. Лусту хлеба з сырам Агалінскі заглынуў, амаль не жуючы.

— Ну, пайшлі ў бліжэйшую карчму!

Але падумаць толькі — апрануты ў мокрае рыззё Амерыканец яшчэ й незадаволены, што вызваліцелі для яго прыхапілі не праўдзівы сармацкі строй, з кунтушом ды слуцкім паясам, а модны камзол ды куртатыя нагавіцы! Як ён перад сваім дарагім панам Каралем у такім неадпаведным альбанчыку выглядзе пакажацца?

Думае, той пан Кароль яго проста на вуліцы чакае.

А на вуліцы, дзе нават няяркае вечаровае святло змусіла нядаўняга вязня прыжмурыцца, ад прычалу, дзе гайдалася адзінокая гандола, кінуўся хлопчык у серабрыстым камзоле:

— Тата! Прабач мне!

Ашаломлены пан Гервасій падхапіў сваю радасць на рукі:

— Вавёрачка! Красачка мая!

Голас Агалінскага зрываўся ад узрушэння.

— Пан Вырвіч, пан Лёднік, абавязаны вам… Усё, што хочаце… О, а гэта няўжо Аляксандр Лёднік?

Словы, адрасаваныя юнаку, былі вымаўленыя з нейкім незразумелым пачуццём. Алесь паважна пакланіўся, насцярожана разглядаючы бацьку Рэгінкі: ці не сваяк? Але князёўна і сама жадала гэта высветліць:

— Татусю, а вось гэты пан Аляксандр, ён брат мой?

Пранціш адвесіў у думках сабе і Лёдніку ляпаса: калі пачалі таямніцы адкрываць, дык трэба было да канца пыл мінулага вытрасаць. А то вунь Агалінскі ледзь не паваліўся разам з дачкой на венецыянскую брукаванку:

— Не ведаю, што тут хто выдумаў, але ў гэтым маладым пане ні кроплі крыві Агалінскіх няма. І Багінскіх таксама.

І кінуў пагрозны позірк на Бутрыма, той збянтэжана апусціў вочы. А вось паненка, калі і расчаравалася, дык на нейкае імгненне. Хітры позірк, які яна паслала Алесю — больш не брату, змусіў хлапца здрыгануцца ад нядобрых прадчуванняў.

Праз смугу і вецер прайшла карнавальная кампанія: шаргатлівыя спадніцы, прыўкрасная парцалянавая абыякавасць масак, плашчы, што таямніча ляцяць за постаццю… Леная п'яная лаянка між сіньёрамі наконт зніклай срэбнай табакеркі, аднак, змяншала казачнасць карціны.

— Ну што, у карчму?

Усмешка пана Гервасія цяпер была дакладна падобная да ўсмешкі ягонай дачушкі, бо ў ёй таксама не хапала верхняга зуба.

Ну і лясун з тымі зубамі, іх Пан Бог дае нам цэлую жменю — каб не было падставы ўнікаць шляхецкай бойкі, хай і на кулаках. Усе за адзін раз не выб'юць!

У італьянскай карчме пад назвай «У каралевы амазонак» можна прыстойна пабіцца. Добра, што адзін баявіты ліцвін надта згаладаўся ды знясіліўся ў паганай калодзежнай турме. Кухару, пэўна, адна любасць глядзець, як паглынаюць ягоныя духмяныя творы наведнікі, падобныя да пана Гервасія Агалінскага. Схуднелы Амерыканец так наварочваў нейкую мясцовую страву — макароны з пакрышанай ялавічынай, што, здавалася, чарга дойдзе да глінянай талеркі. Праўда, каб вылаяцца на славалюбную жоначку ды падступных Брастоўскіх, Панятоўскіх, Багінскіх ды іншых здрайцаў, часу вылучаў.

Калі ж дайшло да дэсерту ў выглядзе гары маленькіх піражкоў з вішнёвым ды персікавым варэннем, злосна выгукнуў, стукнуўшы кулаком па стале:

— У Трыбунал пайду! Дзіця пры жывым бацьку адбіраць! З усялякімі прыхаднямі заручаць!

Малая Агалінская згодна і шчаслівa ківала галавой і шчарбата ўсміхалася,ззяючы рабацінкамі.

— І ўсё-ткі кахаю яе, заразу… — тужліва прамовіў Агалінскі. — Паланэйку, валькірыю сваю. Яна ж такая… — голас пана загучаў зусім пяшчотна. — Робіць, як галавой з моста, не падумаўшы… Старэйшаму нашаму, Міхалу, усяго год быў, а мне давялося тэрмінова з'ехаць — рушэнне, напад на суседні форт. Дык яна праз дзень прыехала да мяне разам з немаўляцем, на кані, адна, праз лес, па дарозе ад ваўкоў адстрэльваючыся. Сказала — засумавала! Я ледзь не пасівеў тады. А яна рагоча! Але дзяцей сваіх Багінскім не аддам!

Пан Гервасій зноў стукнуў кулаком.

— І ўсё-ткі астыньце ды падумайце, вашамосць, — асцярожна прамовіў доктар. — Ці не пашкадуеце пасля? Штакельбергі — бароны, род уплывовы. Камергеры, дыпламаты. І ў вашага швагра, вялікага гетмана, сваіх дзяцей няма, таму панна Рэгіна будзе спадчыннiцай невераrодных уладанняў.

— Закладніцай на ўсё жыццё яна будзе! — рыкнуў пан Гервасій. — Ведаце, сярод дзікіх лясоў і моцных простых людзей вельмі хутка разумееш сапраўдную вартасць славы. Шчасця можа адсыпацца куфар з верхам у будане і з парушынку ў палацы. А стаць нявесткай чалавека, які кіраваў знішчэннем тваёй радзімы — ганьба!

— Татусю, нізавошта мяне не аддавай назад! — заверашчала Рэгінка, учапіўшыся за рукаў бацькі. — Я там памру!

Пан Гервасій растрапаў яе рудыя валасы:

— Нізавошта, вавёрачка! Усіх злыдняў шаблямі пакрышым! Калі што, ягамосць князь Радзівіл нас выратуе!

І абое ўчапіліся зубамі ў венецыянскія піражкі.

Адно слова, рудая агалінская парода.

— Зялёная вішня
З-пад кораня выйшла.
Аддала мяне маці,
Дзе я непрывычна…
Ты думаеш, маці,
Што я тут паную,
Прыйдзі, падзівіся,
Як я тут гарую,—

спяваў ціхенька Пранцысь і ўсміхаўся сумна, успамінаючы тую кручаную заакіянскую Рэгінкіну маці… І тое, як пан Гервасій, у чарговы раз трапіўшы з-за Паланэйкі ў турму, шчыра, не вагаючыся гаворыць «кахаю». Ці змог бы Вырвіч вось так?

Між тым Амерыканец ірваўся кінуцца ў ногі свайму дабрадзею Радзівілу. Не можа вялікага сэрца князь не адгукнуцца на шчырае парыванне вернага слугі.

Вось толькі за вызваленне гэтага слугі яшчэ трэба было расплаціцца.

Вестку пра тое, што мусяць здабываць рог святога Георгія, а можа, самую трубу Іерыхонскую, пан Агалінскі сустрэў з энтузіязмам.

За суседнімі сталамі радавітыя патрыцыі, звычайныя гараджане — чытадзіні, а мо і багатыя прасталюдцы-папалана, ураўняныя між сабою лічынамі і маскараднымі ўборамі, гулялі ў карты, пілі віно, дамаўляліся пра галантныя спатканні…

Банда Чорнага Доктара складала план апаганьвання святыні. Амерыканец завёў быў пра сваё ўменне караскацца на высозныя дрэвы, але нат ён усведамляў, што гладкі граніт — не кара. Драбіны велізарныя змайстрачыць? Надта высока… Рэгінка падумала і прапанавала ўчыніць маленькі такі сімпатычны ўзрыўчык. Раз нельга ўзняцца да льва, хай леў спусціцца на зямлю.

— У прапанове паненкі адна слушнасць ёсць, — прамовіў Лёднік. — Трэба шукаць неверагодны на першы погляд шлях. Ускараскацца нельга. Тады…

— Узляцець, ці што? — насмешна кінуў Агалінскі.

Пранціш, Бутрым і Алесь павольна сустрэліся позіркамі. Агалінскі папярхнуўся, гледзячы на іх задуменныя твары.

— Гэй, вы што, я пажартаваў!

— А зараз карнавал, пан бацька, — гэтак жа задуменна прамовіў малады Лёднік. — Можна хоць з гарматаў страляць, хоць ракеты запускаць…

— Ракета, бадай што, занадта… А вось спадар Чунь Лі распавядаў мне ў Вільні пра кітайскія паветраныя ліхтарыкі, якія ўздымаюцца з дапамогай нагрэтага паветра, — Лёднік мройна прыжмурыў вочы.

— А помніш, Бутрым, мы паветраных змеяў бачылі ў Дракошчыне? Там такія велізарныя былі, што на іх можна было ад зямлі адарвацца! — ажывіўся Пранціш.

— Тым болей нам не трэба да аблокаў, усяго на колькі сажняў падняцца, — заківаў Алесь у радасным прадчуванні эксперымента, адзін у адзін — малады варыянт бацькі. Нос дзюбаты, толькі яшчэ ні разу не ламаны, цёмныя вочы гарэць…

— Вы вар'яты, панове! — Агалінскі нават жаваць перастаў. — Я думаў, толькі мае індыяне выдумляюць казкі пра ўсялякіх лётаючых цмокаў ды чоўны.

— Ды нават тут, у Венецыі, трыста год таму інжынер Джавані дзі Фантана прапаноўваў падымаць людзей з дапамогай нагрэтага паветра, — няўважна тлумачыў Лёднік. — Пасля Франчэска Лана-Тэрцы хацеў скарыстаць для таго ж сферы з вакуумам. Ну, гэта бескарысна… А вось цяперашнія доследы Жака Шарля з рознымі газамі…

— Віват! Мы зробім паветранага змея! — падскоквала на цвёрдай лаўцы італьянскай карчмы Рэгінка. А Лёднік дастаў свой нататнік і давай штось крэсліць, пад пільнай і трохі раўнівай увагай сына. Ясна, хлапец улучыцца ў вынаходніцтва. Пан Гервасій жа, сумленны беларускі шляхціц, руды, адважны і прамы, як прадзедаўскі меч, дзіваваўся і піў з празрыстага сіняга келіха венецыянскае хмяльное пітво, радуючыся ў сэрцы сваім віну, сяброўству і мілай дачушцы.

— Татуся, а мяне пан Пранціш замест ангельскай песні пра ром беларускай навучыў:

Ад панядзелка да панядзелка
Дробны дождж ідзе.
Сабрала-ася бедна басота,
Ды гарэлку п'е…

Князёўна выводзіла так старанна пранізлівым галасочкам, што госці па ўсёй карчме заазіраліся, ці не трэба каму сольда кінуць. Каб сціх.

— П'ем мы гарэ-элку,
П'ем мы вішнёву,
Будзем піць віно-о.
А хто пры-ыдзе, з нас пасмяецца,
Будзем біць таго-о-о…

І пан Агалінскі зноў заперхаўся, небарака.

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

## Як Аляксандр Лёднік над Венецыяй лётаў

Ягамосць Караль Радзівіл біцца ў маладосці любіў. Тут галоўнае было майстэрства з боку прыдворных — паддацца так, каб княжыч застаўся ва ўпэўненасці, што атрымаў годную вікторыю. Толькі пан Рысь, сын арганістага, калісьці ўсыпаў юнаму Каралю, калі пасварыліся ў двары нясвіжскага палаца з-за птушкі па імені паўлін… Чым, аднак, выклікаў сяброўства на ўсё жыццё.

Вось пан Гервасій Агалінскі прыхільнасць князкую страціў. Пане Каханку намагаўся не глядзець на былога альбанчыка, які застыў у нізкім паклоне побач з панамі Вырвічам і абодвума Лёднікамі.

Венецыянскі палац нясвіжскага ардыната быў раскошны, не горш, чым на радзіме. Карцін, статуй — месца пустога на сценах няма, аж уваччу стракаціць ад антычных багінь. Князь узяў з залатога падноса цэлую жменю падсмажаных арэхаў і закінуў у рот. Тут жа клапатлівая рука лёкая паднесла пану келіх. Ясная рэч, залаты.

— Ну, дзе рог святога Юрыя, пане каханку?

Фраза гучала трохі няўцямна з-за арэхаў у княскім роце.

Радзівіл з відочным задавальненнем выслухаў план неверагоднага паветранага прадстаўлення, пакруціў у руках чарцяжы:

— Даўно я гэтых лодачнікаў не цвеліў! Давайце праз тыдзень балаган зладзьце, якраз нос падцяру пракуратару Андрэа Трону. Хто пойдзе на яго блазнаў глядзець, калі ў нас такое! Хваліўся, што пяць тысяч дукатаў на свята ў гонар свайго абрання даў, восем тысяч лір на адныя бісквіты, і ніхто яго не пераўзыдзе. Лодачнік! У іх, бачыце, законы такія, што дожам ганебна размаўляць з замежнікамі. Грэбуюць! Як ад чумы, уцякаюць! Грошай не шкадуйце, людзей наймайце не менш за сотню… Радзівіл дукатаў не лічыць! А хто ж птушкай у вас будзе?

Вочы князя гарэлі так, што было зразумела: сам гатовы паляцець, каб не камплекцыя ды не званне… Пане Каханку якраз любіў пра сябе сачыняць падобныя гісторыі: як на палове каня з бойкі ўцёк, васьміногага зайца ўпаляваў, з русалкай любошчамі займаўся, ад чаго селядцы нарадзіліся… А тут — у паветра ўзняцца!

Пан Агалінскі выпнуўся наперад, аддана ўпаў на калені на пухнаты персідскі дыван:

— Я, вашамосць, гатовы!

На фізіяноміі пана можна было смажыць аладкі. Радзівіл толькі скоса зірнуў на нявернага альбанчыка, ад чаго той скіс, як забытае на сонцы малако.

— Я прыдумаў, я і выпрабую на сабе, — цвёрда заявіў Баўтрамей.

Вырвіч ведаў, што былы алхімік да гневу Саламеі ўсе свае вынаходніцтвы на сабе выпрабоўваў. Нават самыя небяспечныя ды атрутныя. А каб жонка больш не сварылася, мусіць, апошнія гады з дапамогай Праксэды з уласнага арганізма здзекаваўся. Не дзіва, што гэтак здружыліся з асістэнткай.

— Літасціва прашу прабачыць маю дзёрзкасць, ваша княская мосць і пане-бацька, але я таксама браў удзел у прыдумцы, і я лягчэйшы, — не менш цвёрда, хоць і ветліва, заявіў Аляксандр.

Князь махнуў рукой:

— Самі вызначайцеся, каму на камяні гахнуцца. А што, пане каханку, ты ж алхімік? — светлыя вочы князя з пачырванелымі бялкамі ўтаропіліся ў док-

тара. — Можаш мяне ў тыглі перагнаць, а потым наноў адліць, каб я памаладзеў ды хваробаў пазбыўся?

Паспрабуй зразумей, сур'ёзна гаворыць, альбо блазнуе?

— Я пакінуў алхімічныя штудыі, як і ўсялякія магічныя заняткі, вашамосць.

Баўтрамей перахрысціўся і пачціва схіліўся, але відаць па ўсім, напяўся, гатовы зноў плаціць за свае перакананні. Старэйшы брат пана Гервасія, чыім рабом Бутрым быў, цэлы год з яго скуру лупіў, спрабуючы змусіць складаць гараскопы, да чаго ў маладосці доктар быў вялікі майстар. І дарэмна. Але Радзівіл толькі пасміхнуўся:

— Ну, тады давай лячы маю пячонку. Толькі калі, пане каханку, як іншыя мае эскулапы, запатрабуеш, каб я ні кроплі ў губу не браў, з лесвіцы паляціш без паветранага цмока.

І з крэхтам узняўся з фатэля, адпіхнуўшы рукі канфідэнтаў, што адразу пацягнуліся дапамагчы свайму сонейку.

Агляд і кансультацыя адбыліся ў княскай спальні, за зачыненымі дзвярыма. Вырвіч жа ў калідоры, пасярод дываноў і карцін з паўголымі німфамі радасна ўзважваў важкі мех з дукатамі, перададзены княскім прыдворным. Ды на такія грошы яны ўсю Венецыю ў паветра падымуць! Пан Гервасій Агалінскі, пакуль чакалі доктара, не сказаў ні слоўца. Па разгубленай фізіяноміі ясна: не можа паверыць, што князь-дабрадзей, з якім столькі келіхаў выпіта, такі з ім халодны. Алесь жа прыліп вачыма да адной з карцінаў: тры грацыі, ахутаныя празрыстымі вэлюмамі, круціліся ў манерным танцы вакол хударлявага дрэўца з рэдкімі лісцікамі. Грацыі ў параўнанні з насельніцамі іншых палотнаў былі худзенькімі, таму, мусіць, карціну, каб не абражаць густы гаспадара, сунулі між калонаў, у цень. Адна Грацыя, з мілым засяроджаным тварыкам і тонкімі рукамі, была так падобная да Праксэды…

Рэзкі боль у лытцы змусіў спыніць сузіранне. Князёўна Багінская-Агалінская ў вобразе наймалодшага Лёдніка сярдзіта лупілася, прыкусіўшы губу. А цяпер за што мілы анёлачак б'ецца?

Між тым вярнуўся старэйшы Лёднік з улюбёнай валізкай, спакойны такі, фанабэрысты… Галавой хітнуў: нармальна, маўляў, дагадзіў магнату. Але не паспела кампанія сысці, па паркетнай падлозе зацокалі абцасікі, нехта пыхкаў і сіпеў, даганяючы:

— Сіньёр датторэ!

Таўсманая метрэса, якую яны бачылі ў княскай ложы, увенчаная высокім парыком, у якім гняздзілася цэлая зграйка штучных птушак, у неверагодна аб'ёмнай белай сукенцы з карункаў і муару ўчапілася за Чорнага Доктара, быццам за самае дарагое ў жыцці. Залапатала, аддыхваючыся, ціха штосьць, ледзь пудра не сыпалася з пухлявых шчок. Пяшчотна пагладжвала пухленькай далікатнай ручкай доктарава пляча... Пранціш з цяжкасцю адвёў вочы ад дэкальтэ сіньёры, якое нагадвала кошык са свежаспечанымі булкамі. Урэшце пані зрабіла спробу ўпасці на калені, і Лёднік пакорліва ўздыхнуў, кінуўшы сваім:

— Пачакайце мяне, панове, на пляцы… Я мушу затрымацца.

Амерыканец праводзіў Баўтрамея не самым добрым позіркам. Пані вісла на худым доктары, як прасцірадла на штыкеціне. Да таго ж чаканне на пранізлівым ветры, паміж двух каменных ільвоў, толькі не тых, што трэба, не самая прыемная штука. Добра, у Венецыі поўна ўсялякіх арачак, калон ды порцікаў, куды можна зашыцца. Месцічы ходзяць, нешта балбочуць… А што? Хоць Пранціш, жывучы ў Лангедоку, італьянскую трохі засвоіў, у венецыянцаў аказалася свая, разумееш, мова. Джульета ў іх «Дзульета». Ды што там!

У Венецыі нат каляндар свой! Новы год у сакавіку спраўляюць. Поўнач тут наступае, калі сонца сядае. Абы не так, як ва ўсіх.

Калі доктар нарэшце вярнуўся, Агалінскі працадзіў скрозь зубы:

— А цябе, Бутрым, усё гэтак жа цягне скакаць у ложкі радавітых чужых кабетаў.

Алесь ледзь не падскочыў ад абразлівых словаў, і ў ягоным позірку на бацьку адбілася не самае цёплае пачуццё. Бутрым не змяніўся ні рысачкай:

— Выбачайце, панства, цяжкі пацыент.

Схіліўся да Рэгінкі:

— Не змерзлі, паненка? Не аднеквайцеся, бачу — нос збялеў. У гатэлі зраблю вам адвар ад застуды, а то, як у Вене, будзеце тыдзень ляжаць у ложку з кашлем.

— Толькі салодка рабіце, пан доктар-магік! — павісла на руцэ Бутрыма Рэгінка, але Агалінскі сярдзіта адцягнуў дачку ад доктара, тая аж неўразумела заазіралася.

Ісці да гатэля трэба было праз тры крывыя мосцікі і чатыры засмечаныя пляцы. Пранціш дагнаў Бутрыма, які даўганогім чорным жоравам выдрыгваў паперадзе маўклівай кампаніі, насунуўшы на выбітны нос капялюш.

— Ты, Бутрым, або назнарок людзей цвеліш, альбо сапраўды не разумееш, як твае ўчынкі можна трактаваць, — Вырвіч раззлаваўся не на жарт. — Што за гешэфты пад князкім носам з красунькай, якая на цябе так глядзіць, быццам вырашае, ці зжэрці, ці маліцца? Ад цябе цяпер ейнай парфумай смярдзіць — і вецер не ратуе.

Лёднік рэзка павярнуўся і спыніўся, ажно пан Агалінскі, які вёў за руку дачку, ледзь у яго не ўрэзаўся, як у слуп.

— Я, спадарства, яшчэ ў юнацтве кіраваўся выслоўем, што аднолькава вартыя ўхвала ад годных і ганьба ад нягодных, і ніколі ні перад кім не апраўдваўся. Хочаце бачыць ува мне сусветнае зло — ваша права.

Голас гучаў халадней ветру, падобна, недавер блізкіх людзей закрануў Лёдніка больш, чым ён жадаў прызнаць.

— Вам не прыйшло ў галаву, што я найперш — доктар, і калі да мяне звяртаюцца па дапамогу, мне ўсё адно, жабрак гэта, князь альбо княская фаварытка? І ёсць такая рэч, як лекарская таямніца. Мы не распавядаем пра хваробы пацыентаў, каб пацешыць цікавасць сяброў.

— Ды якая ў такой хвароба? — выгукнуў недаверліва пан Гервасій. — Яе дупай цвікі можна забіваць.

Лёднік дакорліва перавёў позірк з пана на Рэгінку — маўляў, хіба пры малой такое рэкаць, хмыкнуў і зноў пакрочыў у напрамку гатэля, за ім пацягнулася ягоная банда.

— Калі прыгажосць патрабуе ахвяраваць здароўем — гэта ўжо не прыгажосць, — нарэшце парушыў маўчанне былы алхімік, разумеючы, што ўсе чакаюць тлумачэнняў. — Колькі я фурункулаў, што ўтварыліся ад велізарных парыкоў, залячыў! Звярталася і процьма дзяўчатак ды жанчынаў, у якіх ад тугіх гарсэтаў дэфармаваліся скабы. Былі выпадкі, калі рэбры ўпіваліся ва ўнутраныя органы. І ўжо, вядома, нармальныя цяжарнасць і роды часам былі проста немагчымыя.

— А мяне ў Багінскіх змушалі насіць гарсэт! — зараз жа абурана паскардзілася Рэгінка. — Зацягвалі так, што не ўздыхнуць!

— Дык вось, — неахвотна працягваў Лёднік, — у сіньёры Апалоніі — гэта яе сцэнічны псеўданім, праблема роўна адваротная. Але таго ж роду. Неяк яе пабачыў на сцэне пан Караль, упадабаў… Адзінае што, пабедаваў — трохі

на ягоны густ худая. Іначай… Для сіньёры гэта быў бліскучы шанец. За тры тыдні паненка нагнала на сябе, можа, цэлы пуд тлушчу… Пане Каханку прыйшоў у захапленне. Асыпаў золатам, падарункамі, пасяліў у сябе… І вось два гады небарака імкнецца набраць паболей вагі і, не дай Гасподзь, не патанчэць. Не пытайцеся, якімі метадамі, і як адбілася на здароўі. Але — бяда. Княскім дактарам прызнацца баіцца ў хворасцях. Да каго звярталася таемна — рады не даюць. Пачала худнець… Вось і кінулася да мяне, начуўшыся ўсялякіх казак пра маё майстэрства. Хочаце — верце, хочаце — не…

— Я вам веру, пан доктар-магік! — заявіла Рэгінка. — І ніколі гарсэт насіць не буду! Мая пані маці не носіць, у куфры сукенкі з гарсэтамі трымае…

Вырвіч скасавурыўся: Алесь ішоў, апусціўшы галаву. Відаць было, што і сорамна за кепскія думкі пра бацьку, і прасіць прабачэння не хоча. Што ж, старэйшы Лёднік тая яшчэ паляндра… Як гэты прасталюдца ўмудраецца кіраваць ганарыстымі шляхцюкамі?

Вось, цягам тыдня, што рыхтаваліся да палёту за спадчынай Тарэла, неяк жа не пусціў пана Агалінскага ў тракцір «Грэцкі мост» — хіба не адзінае месца, дзе можна ў Венецыі выпіць добрай гарэліцы. Там працавала дванаццаць перагонных кубоў, за празрыстае шчасце з кожнага з якіх пан Рысь пану Агалінскаму паручыўся. А хіба праўдзівы шляхціц можа задаволіць душу салодзенькім кіпрскім віном, што нагадвае кампот, альбо лікёрам з пялёсткаў ружаў ды апельсінаў?

Затое нат аскетычны Лёднік не змог не прызнаць, што золата — вялікая сіла. Без княскіх дукатаў як за такі кароткі тэрмін зладзіць начны баль! П'яцэта, невялікая плошча ля Палаца Дожаў, што выходзіла на ўзбярэжную, нагадвала балота на Дзень усіх святых, калі, як вядома, запальваюцца балотныя агеньчыкі. Папяровыя ліхтарыкі, зробленыя па чарцяжах Баўтрамея сотнямі майстроў, свяціліся ў цемры прывіднымі сэрцайкамі, бо ў кожным гарэў маленечкі свяцільнік. Ліхтары былі розных памераў, адны з галуба, другія з фазана, а некалькі, з прамазанага клеем шоўку — проста гіганцкія, як карэта, да кожнага пачэпленыя смешныя лялькі ў карнавальных уборах, напханыя саломай. Адзін з такіх ліхтароў, у форме вялізнай гандолы, лунаў у некалькіх сажнях над плошчай, навязаны на канат. А на тым канаце гайдаўся Арлекін — наняты артыст. Ён дрыгаў рукамі і нагамі, выкрыкваў нешта смешнае, кідаўся ў публіку канфеці… А публікі! У карнавальную Венецыю з'ехалася ўся Еўропа. І паспрабуй адрозні, хто адкуль — адны Смеральдзіны, П'еро, Каламбіны, Скарамуча, Пульчынелы ў масках… Фантастычнасць дадавалі феерверкі, якія час ад часу выбухалі на плошчы, ледзь не падпальваючы паветраныя шары і людзей.

— Рыхтуйся, Алесь… — напружана прамовіў высокі Прывід, увесь захутаны ў чорнае. Маска Прывіда, альбо Баўты, была зладжаная такім чынам, што ніжняя частка адыходзіла ад твару, дазваляючы есці і піць, не здымаючы яе. А яшчэ пачварна скажала голас. Плашч Баўты развяваецца, чорны балахон захінае валасы… Самае то аблічча для Чорнага Доктара.

Алесь, таксама ў чорным, але апрануты, каб можна было зручна рухацца, трымаўся за канат яшчэ аднаго гіганцкага ліхтара ў выглядзе серабрыстай гандолы, які пагойдваўся на марскім ветры, напоўнены цёплым паветрам. Для надзейнасці на канаце была спецыяльная раменная пятля.

— Ну чаму не я палячу? Я ж самая лёгкая! — нудзела Рэгінка. Агалінскі жа час ад часу, як адвергнуты закаханы, касавурыўся на ярка асветленую ложу ў будынку Пракурацыі, насупраць Палаца Дожаў. Там красаваўся князь Радзівіл у суправаджэнні світы.

Выбухнуў чарговы феерверк, і паветраная гандола ля калоны Святога Марка пайшла наверх — рабочыя, як было дамоўлена, патроху адпускалі канат. Паколькі падымаліся адразу ўсе ліхтары на плошчы, ніхто асабліва не зважаў на цёмную фігуру пад адным з іх. Падумаеш! Вунь калі на кампанілу — званіцу сабора Святога Марка ўздымаецца на вяроўках падобная гандола з адважным венецыянцам, вось тады — відовішча! Канатаходца, што ў гэты час вытылінгвае смяротна небяспечны танец на вяроўцы паміж балконамі Палаца Дожаў і Пракурацыі, над стракатай балбатлівай безданню П'яцэты, непараўнальна больш прыцягвае позіркаў. Да таго ж ля калон тоўпілася куды менш народу: тут, бліжэй да мора, было цямней і халадней, а месца між калонамі лічылася праклятым. Там стагоддзямі каралі злачынцаў, таму праўдзівы венецыянец нізавошта не пройдзе паміж гранітнымі слупамі.

Паветраная гандола роўненька прыляпілася да спіны каменнага льва, пагойдваючыся, быццам ад здзіўлення. Вось, як дамоўлена, уніз паляцела светлая аксамітная хустачка з загорнутым у яе каменьчыкам… Цяпер канат належыць замацаваць на патрэбнай вышыні.

Старэйшы Лёднік прыўзняў маску і выцер рукавом лоб. Як жа Алесь высока… Ледзь удалося ўламаць суровага доктара, каб дазволіў рызыкнуць сыну. Вось яшчэ адна светлая плямка паляцела на брукаванку… Няўжо ўдалося дабрацца да спадчыны святога Тарэла? Падобна, так.

Цяпер хутчэй цягнуць уніз…

Выбухнула адразу некалькі феерверкаў, і раптам усе ліхтары на плошчы павольна паплылі ўверх, адпушчаныя ў чорнае венецыянскае неба. Ранавата… Мусіць, Радзівіл даў знак. Людзі загарлалі «Віват!» Нейкі чужы Арлекін, п'яна пагойдваючыся, прабягаў паўз калоны Святога Марка, заўважыў няправільнае: адзін вялізны ліхтар, замест каб узлунаць, апускаўся ўніз… Ці гэта была сапраўды п'яная недарэчнасць, ці вынік змовы — але Арлекін сякануў палашом па канаце і пабег, губляючыся ў маскарадным моры. Чорны Доктар неверагодным скачком падкінуў сябе ўверх, але кончыкі пальцаў саслізнулі з абрэзанай вяроўкі.

Паветраная гандола не тое, каб адразу рынулася да зор, але ляцела дастаткова высока, каб не даць саскочыць. Вецер нёс яе ў бок пляца Сан-Марка. Баўтрамей і Пранціш кінуліся следам, расштурхваючы бязлітасна публіку… Агалінскі з Рэгінкай на плячах пёрся следам, як дрыгкант. Вырвіч краем вока заўважыў: некалькі чалавек таксама пераследавалі ліхтар… Які раптам згас, тузануўшыся. Ясна — скеміў Алесь, усё ж спрытны хлопец, у татку, дабраўся да палаючай гарэлкі, загасіў. Цяпер паветра будзе патроху астываць, шар апусціцца… Вось камусьці прываліць шчасце — цэлая гара добрага кітайскага шоўку! На ўсё жыццё хопіць насоўкі рабіць!

Між тым шчасце прывальвала за нейкі каменны плот, упрыгожаны ссохлым плюшчом. Менавіта туды, у дворык, апускаўся згаслы ліхтар з давескам у выглядзе дактаровіча. Дружны дзявочы віскат, які пачуўся з-за агароджы, змусіў Пранціша прыспешыцца… Чорны Доктар караскаўся на шурпатую сцяну ў белых плямах пабелкі, а Вырвіч штурхаў жалезную браму... Вось табе на — патрапіў Аляксандр Лёднік у адзін з дабрачынных прытулкаў для паненак пад назвай аспітале. Пра гэтыя ўстановы з захапленнем распавядаў Пранцішу пан Рысь. Тут пад прыглядам пачцівых мнішак венецыянскія паненкі вучыліся прыгожым навукам, і асабліва спяванню. Хоры выхаванак аспітале лічыліся найлепшым далікатэсам да любой урачыстасці… А для багатых сіньёраў, кшталту Радзівіла — аранжарэя юных кветачак на любы густ.

Не паспеў Алесь прызямліцца сярод паненак у цёмных манаскіх сукенках з белымі каўнерчыкамі…

— Гэта да мяне! Ай, брава, якая смеласць!

— Чаму гэта да цябе, лахудра? Гэта той малады сіньёр, які падміргваў мне ў касцёле!

— Не табе, а мне!

Алеся схапілі дзясяткі пяшчотных тонкіх ручак:

— Сіньёр, туды, туды, хавайцеся…

Гучны голас пані, якая тут, відаць, была за галоўную, дапытваўся, што за гармідар, што за смяццё валяецца пасярод двара, але юны ліцвін аказаўся засунуты ў драўляную нішу з краткамі, на шчацэ падсыхалі пацалункі…

— Гэта нейкая карнавальная штука звалілася!

— Відаць, паветраны змей, мадам!

Зноў крыкі, на гэты раз з мужчынскай лаянкай. Чорны Прывід злавесна выгукнуў:

— Алесь, ты дзе?

Дактаровіч ледзь выламіўся са скрыні, куды яго засунулі міласэрныя венецыяначкі, што не стрымалі зараз расчараваных стогнаў.

— Пан бацька, я тут!

Карціна вымалявалася, як на сцэне італьянскага тэатра. Невядома толькі, у духу Гоццы ці Гальдоні, вечных супернікаў. Відаць усё-ткі, Гоццы, прыхільніка казкі і маскі. Праз сцены лезлі іншыя персоны, хто ў касцюме Арлекіна, хто Панталонэ, на чыім хто баку, незразумела, але мэта ўсіх ясная: металёвы цыліндр, які Аляксандр Лёднік пяшчотна прыціскаў да грудзей. Іншай зброі ў пана не было.

Затое ў астатніх была.

Заліхвацкі свіст у чатыры пальцы засведчыў, што падбегла цяжкая кавалерыя ў асобе пана Агалінскага, і паненка Рэгіна заняла стратэгічна выгадную пазіцыю на версе сцяны. Ейны татухна натхнёна гарлаў:

— Пасяку, сучыя дзеці! За Літву, за Беларусь!

Але гэта была не Беларусь, а шалёная ноч венецыянскага карнавалу. Бліскалі шпагі, рапіры і шаблі, бліскалі зоры, паходні і феерверкі, бліскалі ўпрыгожванні ўбораў і масак, вішчэлі выхаванкі аспідале, то ад жаху, то ад захаплення…

— Дай сюды, сыне!

Лёднік выхапіў у Алеся здабытае ў пашчы льва Святога Марка і, як запраўскі акрабат, ускараскаўся на чарапічны навес пад абразам Маці Божай над уваходам у адзін з будынкаў аспідале. Не зважаючы на варожы вір унізе, раскруціў цыліндр, дапамагаючы нажом… Дастаў адтуль нешта светлае… Пасунуўся бліжэй да лампады, якая асвятляла абраз. Старыя паперы… Знайшоў час чытаць! Вунь сын ягоны здабыў шпагу ды б’ецца адразу з двума…

Раптам глыбокі голас звона змусіў замерці сцэну. Гэта Чорны Доктар тузануў вяроўку маленькай званіцы, зладжанай над абразом.

— Audire vocem Dei! Legatum Santa Torello!

У Бутрыма голас таксама быў, калі трэба, пераканаўчы ды гучны. Лёднік зняў маску Прывіда і разгарнуў папяровы світак:

— Перакладаю на лаціну… Verba Ecclesiastes filii David regis Hierusalem. Vanitas vanitatum dixit Ecclesiastes vanitas vanitatum omnia vanitas. Quid habet amplius homo de universo labore suo quod laborat sub sole, generatio praeterit et generatio advenit terra vero in aeternum stat…

Што такое? Гэта ж Эклезіяст. Біблія. «Марная марнасць, сказаў Эклезіяст, марная марнасць, — усё марнасць! Якая карысць чалавеку ад усёй працы ягонай, якую ён робіць пад сонцам? Пакаленне прыходзіць, і пакаленне сыходзіць, а зямля векавечна стаіць».

— Шаноўныя прэтэндэнты на рог Ісуса Навіна, Святога Георгія, альбо што вы там сабе ўяўляеце! — гукнуў Лёднік на чысцюткай лаціне, якую Пранціш усё-ткі засвоіў, як належала пііту. — Вось гэта ён і ёсць, здабыты намі ў пашчы каменнага льва на калоне Святога Марка. Самая бясхібная, святая зброя, якая належыць усім — і нікому з зямных уладароў. Світак, няма сумніву, рарытэт… Напісаны на старагабрэйскай, магчыма, у часы, калі Госпад наш хадзіў па зямлі. Менавіта яго і атрымаў святы Тарэла ад рымскага папы Іяана Дваццаць Трэцяга.

— Што ты вярзеш? Гэта ж не труба! — выгукнуў хтось на польскай мове.

— У сімвалічным сэнсе — менавіта шафар, святы рог. Сапраўдны вернік не можа не прызнаць, што Слова Божае здольнае рушыць сцены. Амін.

Лёднік перахрысціўся, пачціва паклаў паперу і футарал ад яе перад абразом і спрытна саскочыў на зямлю. Зараз жа з дзясятак малойцаў кінуліся караскацца па святыню. Бутрым падбег да сваіх:

— Рушылі!

— Чакай, і ўсё пакінем, дзеля чаго рызыкавалі? Можа, ты, Бутрым, добра не разгледзеў, і там якісь тайнапіс? — сярдзіта азваўся расчараваны Пранціш. І Алесь падцiснуў вусны. Дзеля чаго над горадам на вяроўцы боўтаўся, як балванчык?

— Што мы тут стаім ды назіраем? — раззлаваўся пан Агалінскі. — Панятоўскаму і світак ад міфічнага продка прыдаўся б!

Бутрым з горкай насмешкай паглядаў на бойку ў двары.

— Прыдаўся б… Але ведаеце што, панове… Вам ёсць справа да таго, каму зараз спадчына пустэльніка дастанецца?

Абвёў вачыма абураных спадарожнікаў…

— А мне неяк абыякава! Адзін аднога вартыя. Хай Гасподзь управіць, аб чым я і памалюся. О, вось ужо і ўправіў. Амін.

З купкі, што біліся за валоданне світкам, раздаўся расчараваны дзікі крык.

— Я ж казаў, папірусу не менш як тысяча гадоў, — меланхалічна прамовіў Лёднік. — Як ён яшчэ ў мяне ў пальцах увесь не рассыпаўся… А вось тузанулі добра — і рассыпаўся, спадарства. Пыл на вецер. І што з таго? Словы ж засталіся!

— А вось цяпер уцякаем… — змрочна прамовіў Пранціш, калі брама расчынілася, каб прапусціць гарадскую варту.

На маленькім пляцы, абкружаным шэрымі сляпымі дамамі, ліцвіны нарэшце прыпынілі бег. За імі ляцеў, на хаду здымаючы маску, шыракаплечы вусач, з тых, што біліся за шафар у двары аспідале.

— Ну, і ўчынілі вы, панове-брацці! — Пан Рысь не мог аддыхацца. — Ледзь за вамі паспяваў — то па небе лецiце, то святынямі раскідваецеся…

Схіліўся, каб адперхацца.

— Праклятыя венецыянцы, кругом мора, а вады пітной няма! Толькі цэбры жалезныя, каб дажджавую ваду збіраць. Ніводнага нармальнага калодзежа ці фантана.

Адпіў са сваёй біклажкі, абцёр чорныя вусы.

— Нат не ведаю, што параіць. Я, вядома, пастараюся пана Караля суцешыць, распісаць, як Панятоўскі з трухой застаўся… І пані Апалонія дапаможа — вось жа з’явілася ў цябе прыхільніца, доктар…

Лёднік уздыхнуў:

— Усё ў волі Божай. І вам, пан Гервасій, з паннай Рэгінай — на першы ж карабель, ды ў Амерыку… У Трыбунал лепей проста ліст дашліце пра незаконнае ўдачарэнне. А мы…

Урачыста ўздзеў маску Прывіда і выгукнуў злавесна змененым голасам:

— А мы вернемся і будзем шукаць панну Праксэду!

У Алеся ажно вочы падазрона заблішчэлі. Але сентыментальнічаць яму не далі. За рукаў настойліва тузалі:

— Пан Аляксандр, а раскажыце, як вы ляцелі? Анёлаў бачылі? А можна яшчэ раз паўтарыць, каб і я з вамі паляцела?

А вакол шчэрыліся каменныя ды жалезныя львы… Ды не тыя, што верна захоўваюць святое слова, а зусім наадварот. У пашчы гэтых пачвар, што разіналіся ў сценах ля ўваходаў у важныя дзяржаўныя ўстановы ці храмы, добрасумленныя месцічы стагоддзямі кідалі даносы на сваіх суграмадзян ці падазроных прыхадняў.

Неадменна не адзін такі леў у бліжэйшы ж час праглынуў цыдулкі пільнікаў наконт блюзнерскіх дзікуноў, якія лётаюць у небе, падобна нячысцікам, б'юцца раз'юшана, лаюцца непамысна і замыслілі штось супраць вялікай марской рэспублікі і ейных уладароў…

Так што прыхадням дужа пашанцавала. Першы ж карабель у Амерыку адыходзіў усяго праз тыдзень. На гэты тыдзень перабраліся на ўсялякі выпадак у іншы гатэль, зладжаны ў былым кляштары. Мяркуючы па ўсім, тут быў ордэн флагелянтаў — дасюль на відным месцы з глыбокай пашанай дэманстраваліся прылады, з дапамогай якіх мніхі дагаджалі Госпаду: бізуны, розгі, тоўстыя вяроўкі з завязанымі вузламі, чорна-брунатныя ад бруду і, напэўна, засохлай крыві… Вырвічу так і мсціліся крыкі болю, калі клаўся ў даволі мяккі ложак, перасыпаны персідскім парашком вытворчасці Баўтрамея. Хаця вунь у Пане Каханку звычай ёсць: як прыязджае ў які кляштар, наймае самага тоўстага мніха, каб лупіў сябе ў выкупленне грахоў спачылага кумпана, пана Міхала Валадковіча. А іначай прывід Валадковіча ноччу ля ложка Пане Каханку стаіць.

Дарэчы, з Радзівілам… Прынамсі, не паслаў запраторыць у тую ж Поцы. Дужа задаволены застаўся ліхтарнай ноччу, палётам малодшага Лёдніка, ну і тым, што Цялок без рэліквіі. Яшчэ і шпегаў удалося вылічыць сярод прыдворных, якія кінуліся даганяць лётаючага ліцвіна і адбіраць у яго трубу.

Але за пару дзён перад адплыццём Агалінскіх Лёдніка ўсё-ткі выклікалі ў палац князя. Доктар прыхапіў сваю валізку і пайшоў адзін. Пранціш і Алесь змэнчыліся, чакаючы. Амерыканец змрочна дэкляраваў адкласці ад'езд, калі зноў доктара трэба будзе выцягваць са студні. І гідліва касавурыўся на маленькага кажана, якога Алесь Лёднік трымаў у далонях і няўважна дазваляў пагладжваць захопленай князёўне. Кажанчыка дактаровіч падабраў у двары аспітале (калі толькі ўмудрыўся?), і адпойваў малаком. Нельга ж гінуць жывой істоце.

Баўтрамей вярнуўся пад раніцу. У суправаджэнні двух радзівілаўскіх слуг, якія цягнулі і яго, і ягоную валізку. П'яны. Час ад часу падымаў доўгі палец угару і прамаўляў на лаціне: «Марная марнасць, і ўсё марна ў гэтым свеце». Белая маска Прывіда надавала словам значнасць і гудкасць.

Праспаўшыся, Лёднік збянтэжана буркатнуў пра магнатаў, якім немагчыма адмовіць. Значыць, усё-ткі пасядзеў з Пане Каханку за сталом. Наконт медычнай кансультацыі ўспаміны былі цьмяныя. Палез па кішэнях камзола, шукаць сваіх запісаў, і застыў са жменяй заціснутых у руцэ каштоўнасцяў, якімі былі напханыя кішэні. Залатыя ланцугі, маністы, сыкгнеты, дукаты…

Мяркуючы па ашаломленай фізіяноміі, Лёднік круціў у галаве думку: ці не зрабіўся па п’янай справе злодзеем?

З’ясавала дастаўленая цыдулка ад сіньёры Апалоніі, якую доктар учора таксама кансультаваў. Аказваецца, Пане Каханку, пабачыўшы, што нязвыклы да моцных напояў Чорны Доктар прыкладаецца галавой да стала, пашкадаваў эскулапа, якому дастаўся такі слабы арганізм, загадаў насыпаць яму ў кішэні вартую ўзнагароду і даставіць да жытла. У самалюбнага Лёдніка ажно чырвоныя плямы на бледных шчоках загарэліся, калі ўявіў, як спаборнічалі ў жартах над ім радзівілавы нахлебнікі.

Зрабіць Лёдніка прыдворным доктарам Радзівіл, аднак, не наважыўся. Сказаў, пабойваецца занадта вучонага слугі. Дый калі той піць не ўмее, яшчэ і пацыента адвучыць!

А вось яшчэ што паведамляла пышная Апалонія. Для Пане Каханку ўжо тры іерыхонскія трубы даставілі! А чаму не, калі князь хоча? Адну, якую здабылі нібыта проста з рук нябожчыка Тарэла, Пане Каханку выпрабаваў тут жа, за балявальным сталом. Праўда, паколькі доктар гэтага не чуў скрозь гарэлачны туман, іерыхонская труба аказалася слабаватая.

На прычале доўга абдымаліся. Рэгінка цмокнула ў шчаку і пана доктара магіка, і Пранціша… Пан Агалінскі пачырванелыя вочы выціраў. Хаця незразумела было, наколькі тыя слёзы выклікала расстанне са старымі сябрамі, а наколькі — венецыянская гарэліца, да якой альбанчык усё-ткі дабраўся.

Пан Гервасій быў душою ўжо не тут. Ён іраўся да бяспутнай, але каханай жоначкі, а па-другое — ваяваць з «англічашкамі» за вольнасць Амерыкі.

Рэгінка, у якой у кішэні сядзеў выпрашаны напярэдадні ў дактаровіча кажанчык, нарэшце звярнула ўвагу на Алеся:

— Пан Аляксандр, чакаю вас праз шэсць гадоў.

Паненка цырымонна прысела ў рэверансе, што трохі недарэчна выглядала ў нагавіцах. Алесь разгубіўся:

— З якой нагоды, вашамосць?

— Ну як жа, мне будзе шаснаццаць... Мае заручыны са Штакельбергам нядзейсныя, паколькі адбыліся без згоды майго пана-бацькі. Я буду вас чакаць, каб з вамі заручыцца.

Паненка глядзела ясным блакітным позіркам — яна ж распавядала абсалютова зразумелыя і неабвержныя рэчы.

Першым адмёр пан Гервасій. Тузануў дачушку за руку:

— Мы з табой пра гэта пазней пагаворым, вавёрачка…

І ледзь не бегма рушыў па хісткіх сходнях на карабель пад назвай «Каламбета», цягнучы за сабой усмешлівую вавёрачку з кажаном у кішэні і злосна зыркаючы цераз плячо на старэйшага Лёдніка.

І ўсе іерыхонскія трубы не маглі зруйнаваць той нябачнай сцяны, што зараз раздзеліць герояў.

### РАЗДЗЕЛ ДЗЯВЯТЫ

## У горадзе Пацучынага караля

Па шэрай брукаванцы гулка цокалі капыты трох коней, рудога, гнядога ды воранога.

Каб яшчэ чацвёртага дадаць, дык гасцей мястэчка маглі прыняць за вершнікаў Апакаліпсіса.

Не таму, што выглядалі надта страшна — не, звычайныя стамлёныя вандроўнікі. Блакітнавокі ладны дзяцюк, задумлівы чарнавокі юнак, такі ж чарнавокі сталы мужчына, хударлявы і ўладны, хіба што троху злавесны.

Проста мястэчка само нібыта чакала канца свету. Яшчэ не зусім звечарэла, а вузкія вуліцы пустыя, як дзіравы цэбар.

Вяршаліны гор, што аточваюць горад, у тумане. Голыя дрэвы не могуць схаваць за шатамі панылыя краявіды, а снегу яшчэ няма. Дакладней, ёсць, але напалам з дажджом, адна макрыня ад яго. Цяжкія цёмныя аканіцы на вокнах зачыненыя. Не крычаць тачыльшчыкі і вугальшчыкі, не пяюць аматары карчомкі, не сакочуць дробныя падшыванцы… Ды што там, нават сабакі не брэшуць! Там-сям ляпае малаток, грукочуць самотныя калёсы… Быццам вялізны механізм гэтага нямецкага гарадка заржавеў, але асобныя шасцярэнькі ўсё яшчэ трохі, па звычцы, круцяцца. Вось на вострай званіцы — нібы дзіда ўпіваецца ў нізкія аблокі — ударыў звон. Раз, другі, трэці, чацвёрты…

Раптам штосьці шэрае імклівае і бязгучна праслізнула ўпоперак вуліцы, быццам якісь лядашчык ці гуменнік… І знікла ці ў чорнай адтуліне вадасцёку, ці ў акенцы падвала.

— Пацукі… — грэбліва прамовіў блакітнавокі. — Ужо трэці раз дарогу перабягаюць. Страшна ўявіць, што ў іхнім пастаялым двары робіцца. Можа, ну яго, гэты гарадок, паспеем даехаць да больш прыветнага?

Старэйшы вершнік, захутаны ледзь не да носа ў прыкупленую ў нейкім мястэчку шэрую бурку, незадаволена хмыкнуў.

— Ну, гэта ж ты ў ранішняй карчомцы за півам з маракамі засядзеўся, вось і парушылі планы.

— Маракі цікава распавядалі, пан-бацька, — заступіўся чарнавокі юнак. — Пра Новую Зеландыю. Яны туды з капітанам Кукам плавалі, там сапраўдныя цмокі жывуць, толькі маленькія. Лішнія паўгадзіны нічога б не змянілі.

— Тады і наяўнасць пацукоў хай вас не бянтэжыць, — прабуркатаў старэйшы. — Усё роўна гарадскую браму ўжо замкнулі — і чаго так рана? Галоўнае — каб эпідэміі тут якой не назіралася. Дзе паганыя гэтыя пацукі — там і пошасць, і гразюка.

— Пацукі не паганыя, — тут жа азваўся юнак, быццам яго самога пакрыўдзілі. — Яны дужа разумныя, вельмі цікавыя істоты…

Ну каму ж ведаць, як не малодшаму Лёдніку, хмыкнуў пра сябе Пранціш. Помніцца, калі жылі ў Ліёне, шкаляр Аляксандр у шкляной скрынцы цэлае пацучынае сямейства год трымаў. Пакуль прыслуга нібыта выпадкова гэтую клятую скрыню не пабіла.

Але ў гатэлі з трыма залатымі жалудамі на шыльдзе, калі і былі пацукі, гразюкі не відаць. Зусім наадварот: усё такое чысценькае, нашараванае, адпрасаванае, як на вяселле. Ці паховіны. Парцалянавыя кубачкі з пастушкамі, фіранкі з коцікамі (а жывых катоў нідзе тут не бачылі, як і сабак!). На сценах талеркі з прыгожа намаляванымі казачнымі домікамі. І твары гаспадара і гаспадыні нібыта вымытыя і адпрасаваныя: круглыя, белыя і ўсмешлівыя. Праўда, усмешкі здаваліся прыклеенымі, бо вадзяніста-блакітныя вочы гаспадароў, вядома, іх звалі Ганс і Грэтхен, нагадвалі здохлую рыбу. Кожнаму госцю прапанавалі асобны пакой, з печкай, аблямаванай вясёлай белай кафляй з сінімі караблікамі, ложак з пуховай пярынай і балдахінам, з якога прыдзірлівы Баўтрамей Лёднік так і не вытрас ніводнага клапа… Гасціннасць была зразумелая: трое ліцвінаў апынуліся адзінымі пастаяльцамі ў «Трох жалудах».

— …Тры жалуды на цабэрак —
Будзе смак не бядак.
Доўгі цэбараў шэраг
Я абыходжу вось так.
Горкім будзе пітво, будзе пітво... —

напяваў Пранціш, сумуючы па шляхецкай вясёлай кампаніі, сардэчнай беларускай музыцы і мілай радзіме, чаго тут не мелася. Замест піва ім прапанавалі гарачае чырвонае віно з цынамонам. І каўбаскі. Аж сквірчэлі тыя каўбаскі на парцалянавых бялюткіх талерках, прыспешваючы: «З'еш мяне, галодны падарожны!» І залацістыя, яшчэ цёплыя крэндзелі, пасыпаныя дробнымі зернейкамі чароўнай расліны «сезам»…

А Баўтрамей усё занудна разважаў, што вось, трэба беларускія корчмы зрабіць такімі ж чыстымі, абавязаць гаспадароў мыць посуд і падлогу, мяняць бялізну, труціць блох і клапоў… І як бы стварыць па ўзоры Адукацыйнай якую Медычную камісію, якая б сачыла за гігіенай народа… Можна падумаць, не выгнаннік, абылганы злачынца, а па-ранейшаму чалец каралеўскай рады. Некаторыя людзі і на пласе будуць свет да лепшага перарабляць.

Не, каб проста радавацца віну і каўбаскам, і што ўдасца пераначаваць у цяпле і спакоі…

Але спакойна выспацца не ўдалося.

Пасярод ночы гасцей пабудзіў адчайны дзіцячы плач. Дзіця крычала, задыхалася… А вось і ўстрывожана-роспачныя галасы дарослых на першым паверсе.

Пранціш вызірнуў у калідор: Лёднік са сваёй валізкай збягаў па драўлянай лесвіцы, засцеленай доўгім вязаным дыванком.

Калі Пранціш і Алесь далучыліся да Бутрыма, той стаяў перад Гансам. Нямчук у памятай кашулі і скуранай камізэльцы загароджваў дзверы. Цяпер круглы твар гаспадара быў не проста абыякавы, а безнадзейны. Але пускаць гасцей туды, дзе чуўся дзіцячы крык і жаночы плач, гатэльшчык адмаўляўся вельмі рашуча. Нават злосна.

Дарэмна Лёднік на добрай нямецкай мове тлумачыў, што ён — доктар, дэманстраваў лекарскія інструменты з валізкі… Дэкляраваў, што не возьме грошай за лячэнне хворага…

Пры поглядзе на ланцэты і трубкі на абліччы немца з'явілася праўдзівая нянавісць з дамешкам жаху. Плач дзіцяці ўсё слабеў, перарываўся… Твар гаспадара рабіўся ўсё больш адчайны, а адносіны да гасцей — усё больш зласлівымі. Калі Лёднік, страціўшы цярпенне, паспрабаваў прабіцца да хворага гвалтам, Ганс наставіў на доктара доўгі нож, а ў дзвярах за ягонай спінай адразу ж паказалася двое, што скіравалі на гасцей даўжэзныя старасвецкія стрэльбы з пашыранымі на канцах рулямі.

Што ж, лекараў часцяком прымаюць за нячыстую сілу. Пранціш, які засвоіў нямецкую мову яшчэ ў Слуцкім замку, дзе яны з Бутрымам выдавалі сябе за замежнікаў, пачаў: яны добрыя хрысціяне, вось крыж на грудзях…

Але нічога не дапамагала. Плач дзіцяці ўсё цішэў, пасля пачаў аддаляцца, грукнулі дзверы… Падобна, хворага некуды панеслі. Твары ў тубыльцаў зрабіліся зусім ужо адчайныя, у Ганса нават слёзы паліліся… Але ён настойліва прапанаваў гасцям жэстам рукі, у якой усё сціскаў востры мясніцкі нож, падняцца ў свае пакоі.

— Гэта не ваша справа, панове. Не ўмешвайцеся. Усё ў волі Божай.

Вядома, пра тое, каб улегчыся ў ложкі, гаворка не йшла. Пранціш і Алесь занадта добра ведалі Чорнага Доктара. Бутрым нервова хадзіў ад сцяны да

сцяны, стрымліваючы лаянку. Не першы раз яго не пускалі лекаваць з-за дурных забабонаў, альбо чужой хціваспі. А ўсведамленне, што мог бы выратаваць нечае жыццё, ды не даюць, даводзіла Бутрыма да шаленства.

— Кляты горад… Клятыя бюргеры…

— Пан-бацька, вам лепш гэта пабачыць.

Голас Алеся, які застыў перад акном, упрыгожаным фіранкамі з коцікамі, быў такі напружаны, што Пранціш і Баўтрамей зараз жа наблізіліся.

Ледзяныя мурашы прабеглі ў Вырвіча па спіне.

Па бліскучай мокрай брукаванцы, між цёмнымі пачварамі дамоў, у цьмяным святле ліхтароў і паходняў ішлі дзеці. З дзясятак, рознага ўзросту. Самаму малому, можа, гадзікі чатыры. Ішлі ціха, няўклюдныя ў зімовых каптанчыках і задоўгіх футрачках, панурыўшы галовы. Перад сумнай кавалькадай ехаў вершнік на чорным кані, захутаны ў плашч з востраверхім каптуром, і высока ўздымаў зыркую паходню. Такія ж вершнікі ехалі за дзецьмі. Пранцішу падалося, што ў цёмных прагалах вокнаў, не зачыненых шыбамі, мільгаюць белыя плямы спалоханых твараў.

Працэсія рушыла некуды ўверх, у цэнтр горада, дзе ўразаўся чорнай крыгай у неба гмах галоўнага храма і свяціліся чырванню і смарагдам вузкія вітражныя вокны высокага палаца з вежамі.

— Што гэта? — непаслухмянымі вуснамі прамовіў Алесь. — Таемны рытуал? Злачынства? Гандаль дзецьмі?

Пранціш не мог адарваць вачэй ад жудасных агнёў, што паўзлі па вуліцы.

— Вы ўпэўненыя, што гэты горад называецца не Гамельн?

Бутрым недаўменна зірнуў на сябра.

— Не, Гамельн — у Саксоніі, а мы ў Баварыі… У Норнбергу… А гэта ты да чаго?

Вырвіч нервова фыркнуў, не адрываючы вачэй ад маленькіх фігурак, што знікалі ў начы.

— Адразу відаць, што акрамя сваіх колбаў нічым не цікавішся. Літаратуру трэба чытаць, доктар. Легенда такая ёсць — у горадзе Гамельне развялося пацукоў. У магістрат з'явіўся падазроны малойца, падобны з выгляду да цябе, Бутрым. Дэкляраваў знішчыць пацукоў за добрую аплату. І знішчыў… Зайграў на дудачцы, і ўсе пацукі рушылі за ім. Завёў жывёлак у мора… А людзі яму не заплацілі. Пацукалоў пагразіўся адпомсціцца… І з дапамогай сваёй дудачкі звёў з горада ўсіх дзяцей. Іх ніколі больш не бачылі.

— Глупства… — прамармытаў доктар, учапіўшыся рукой за падаконне.

Добра, што з імі няма малой гарэзніцы Рэгінкі… А то яшчэ ў якуюсь страшную гісторыю ўлезла б, не ўсачылі б.

— Пан-бацька, мы пойдзем ратаваць гэтых дзяцей? — з надзеяй спытаў Алесь. Бутрым, прыкусіўшы губу, пакруціў галавою.

— Месцічы ясна заявілі, гэта не наша справа. Мы ж не ведаем, што насамрэч адбываецца. Няхай яно мне вельмі не падабаецца. Па няведанні можна нарабіць большай бяды.

Уздыхнуў цяжка.

— Ну вось што ты, Алесь, будзеш рабіць, калі пабачыш, што хтосьці ўганяе ў горла мне ці пану Пранцішу шыла?

— Заб'ю нягодніка! — рашуча адказаў Аляксандр.

— Вось і мяне аднойчы так... Ледзь не забілі.

Баўтрамей тужліва глядзеў услед жудкай працэсіі.

— Рабіў трахеатамію дзіцяці, якое задыхалася — належала ўставіць металёвую трубачку ў гартань. Бацька хворага вырашыў, што я таго забіваю. Не

даў правесці аперацыю. Гэта было ў альпійскай вёсцы. Мясцовага дыялекту я не ведаў, мяне таксама не разумелі… Я ацалеў. Дзіця памерла. Што назаўсёды пазбавіла мяне ад звычкі судзіць па першым поглядзе. Самі бачыце — на дапамогу ніхто не кліча. Ну, і дудачкі чароўнай не чуваць.

Рэшту ночы ўсё-ткі падрамалі… Вырвічу сніліся вялізныя пацукі. Шчэрылі пашчы з вострымі металёвымі зубамі. Зубы шчоўкалі…

А не, гэта не зубы… Разбуджаны святлом бляклай раніцы, што прабілася скрозь фіранкі і намаляваных коцікаў, Пранціш усвядоміў: пастуквае на варыўні песцік у ступцы альбо малаток, якім адбіваюць мяса. У Баварыі добра ўмеюць смажыць мяса… Нават пах далятае спакусны. І тое, што ўбачылася ў цемры, здаецца блёкатам.

І гаспадары «Трох жалудоў» усё гэтак жа прыклеена ўсміхаюцца… Каб не пачырванелыя вочы ў абаіх сужэнцаў, можна паверыць у сон. Ды фраў не ў бялюткім каптуры, як учора, а ў юлёвым.

Сняданак падалі сытны, а на пытанні адказваць адмаўляліся. І самі гаспадары, і прыслуга — дзябёлая дзявіца з косамі-абаранкамі, і змрочны руды мужык з вадзяністымі запалымі вачыма. Гэта ж ён ноччу настаўляў на гасцей стрэльбу, паскуднік!

Затрымлівацца ў непрыветным месцы не хацелася ні на хвілю. Коней, на шчасце, дагледзелі добра, хоць Пранціш чакаў якой падлянкі, кшталту сырога сена і падрэзанай вупражы. І вось тры вершнікі ад'ехаліся ад «Трох жалудоў» у тым самым напрамку, у якім ноччу рушыла прывідная кавалькада. На вуліцах там-сям паказваліся людзі, насустрач праехаў воз, гружаны вуглем. Але зноў — ні дзяцей, ні сабак, ні котак… Толькі шэрыя цені мільгаюць у падваротнях, ды белыя плямы аблíччаў у вокнах.

Вароты аднаго з дамоў, падобнага да іншых, як пернік да астатніх пернікаў на каляднай ёлцы, з жаласным рыпам расчыніліся. Двое мужчын моўчкі вынеслі скрыню з накінутай на яе прасцінай, узвалілі на калёсы…

— Ды калі ж гэта скончыцца! Божа, пакарай герцага Рутгера!

Жаночы крык з расчыненай брамы, і адтуль жа — задыхлівы плач дзіцяці… Лёднік не вытрымаў, саскочыў з каня:

— Панове, я — доктар. Мяне завуць Баўтрамей Лёднік. Я неаднойчы дапамагаў падчас пошасці. Дазвольце дапамагчы і цяпер.

Пранціш не паспеў затрымаць Баўтрамея, што вечна ўлазіў у непрыемнасці, і зараз мог толькі насцярожана паглядаць па баках, не выпускаючы дзяржальна шаблі. Старэйшы мужчына ў скуранай шапцы, насунутай на лоб, са змрочным, зарослым шчэццем тварам, моўчкі зіркнуў на няпрошанага памагатага. Але выбегла кабета, з-пад каптура выбіваліся неахайна светлыя пасмы.

— Міхель, гэта трэба спыніць! Калі гер доктар хоча дапамагчы…

— Магда, замаўчы! Ты ведаеш, што зробіць герцаг Рутгер... — з пакутай прамовіў мужык, відаць, ейны сужэнец, прымацоўваючы вяроўкамі скрыню да калёс.

— Ды хай хоць заб'е! Лепш, чым цярпець! Пацукі гэтыя, начныя набегі па дзяцей… — вызверылася жанчына. — Вы тут, у гэтым гарадку паміж гор, будзеце сядзець у рондалі, пакуль вада не згатуецца, і з-пад накрыўкі нос не высунеце. А я — са Славакіі, са Святога Юра, мае землякі могуць у нос любому герцагу даць.

У гаворцы кабеты і праўда адчуваўся нетутэйшы акцэнт.

— А што толку, калі мы ўсё адно праклятыя… — тужліва прамармытаў маладзейшы месціч, відаць, брат старэйшага: аднолькавыя квадратныя лбы,

густыя насупленыя бровы, скошанае падбароддзе. — Усе мы рукі пацукам падстаўлялі.

Лёднік, скарыстаўшыся тым, што мужчыны ля калёс завагаліся, рашуча ссунуў прасціну са скрыні:

— Дазвольце мне зірнуць… Я вызначу хваробу.

Жанчына кіўнула. Яе худы бледны твар быў такі ўладны, што старэйшы мужчына прыўзняў накрыўку скрыні… Пранціш здагадваўся, што там убачыць, таму адвярнуўся. Алесь толькі коратка глянуў. Лёднік праз нейкую хвілю вынес вердыкт:

— Воспа. Але нейкая нетыповая. Можна мне агледзець таго, хто хворы? У вас жа нехта яшчэ захварэў у доме, так?

Браты пераззірнуліся, замармыталі неўразумелае:

— Нам забаронена… Герцаг Рутгер кажа, гэта цяпер не хвароба. Гэта выпрабаванне. Ён выратаваў нас ад пошасці з дапамогай жалезнага пацука. Гасподзь забірае тых, хто не вытрымаў... Гэта неабходныя ахвяры… Калі не ўмешвацца, Анхель можа ачуняць... Пачні лекаваць, памрэ...

Фраў Магда нецярпліва прыкрыкнула:

— Сціхніце. Толькі здольныя паўтараць чужыя словы, — перавяла запалыя вочы на Лёдніка. — Тут, у труне, падмайстрык, Гюнтэр. Небарака-сіротка, хай анёлы яго праводзяць у самае лепшае месца... І наш сын, Анхель, захварэў… Не ўберaглі. Казала — трэба адправіць дзетак з горада… А іх абодвух да жалезнага пацука павялі. Знак ставіць.

Што да чаго?

Жанчына павагалася і адцягнула рукаў на левай руцэ. На перадплеччы вылучаліся чырвоныя прыпухлыя шнары, сапраўды, як ад двух зубоў.

— У нас ва ўсіх у горадзе такі знак… Хто не хацеў прымаць — тых войскі герцага з горада выганялі. А выгнанцы амаль усе паміралі ад заразы.

Вось чаму тут так пуста…

Лёднік нахіліўся, уважліва пакратаў шнар. Прыкусіў губу... Павярнуўся да Пранціша і Алеся:

— Вось што, не варта вам са мной у дом заходзіць… З пошасцю не жартуюць. Заставайцеся тут, на вуліцы.

І рушыў у дзверы са сваёй валізай і сужэнцамі-гаспадарамі. Алесь хацеў быў з упартасці адправіцца за бацькам, але Пранціш, пералавіўшы ўмольны позірк Бутрыма, утрымаў юнака. І на вуліцы вусцішна. Маленькая труна на калёсах, змрочны ціхі гарадок, згублены паміж гор, страшная хвароба, славесны герцаг, пацукі…

А вось, дарэчы, і яны… Бягуць па вуліцы шэрай гайнёй, быццам цячэ штосьці агіднае, атрутнае. Коні зафыркалі, шарахнуліся. Добра, Алесь спрытна перахапіў цуглі, супакоіў. Маладзейшы месціч, які застаўся ля калёсаў, ажно збялеў і пачаў нешта мармытаць, прыціснуўшы рукі да грудзей… Вырвіч прыслухаўся:

— Гер Рутгер, мы не хацелі... Гер Рутгер, прабачце…. Гэта ўсё яны… Чужынцы…

Падобна, небарака верыў, што пацукі ўсё дакладуць гаспадару горада.

Паскудная зграя ўладна праімчала пасярэдзіне вуліцы. Раптам Алесь, выпусціўшы коней, зрабіў імклівы рух, кінуўся на брукаванку… І ўстаў, падымаючы за загрывак пацука памерам з котку. Пачвара агідна верашчала і выкручвалася… Але малодшы Лёднік неяк дужа спрытна трымаў яе, не даючы ні ўкусіць, ні вырвацца. І яшчэ ласкава прыгаворваў, зазіраючы ў чырвоныя жудасныя вочы:

— Ціха, ціха, маленькі… Я цябе не пакрыўджу… Толькі пагляджу і адпушчу. Добра, маленькі?

Вырвіч словы пагубляў. Хаця не першы раз бачыў, як Аляксандр з дзяцінства ўпраўляецца з усялякай жывой гідкасцю. Толькі хто ж на ўсякую блазноту дзіцячую ўвагу звяртае? Паляваць хлапец не любіў, проста не мог стрэліць ні ў дзіка, ні ў ляся, ні ў курапатку. Пранціш заўважыў — адмыслова хібіў. У чалавека вось — здаралася, раніў на полі бойкі. Ваяр жа расце! Каня самага наравістага Алесь мог супакоіць. Ну і што? Вырвіч сам яго такому вучыў. Вунь адзін з князёў Загорскіх неяк у карчме пад Нясвіжам хваліўся, што ў іх родзе ўменне перадаецца ў спадчыну — утаймоўваць поглядам нават ашалелых коней і сабак. Праўда, князь быў добра глыкнуўшы. А малодшы Лёднік, бывала, з крумкачом ці голубам на руцэ стаіць... Нібы размаўляе. Тады адпусціць. Блазнота... Але цяпер Вырвіч упершыню падумаў — ці не такім чынам праяўляецца ў хлапцы спадчынная магія? Вось і зараз — пацук неяк абмяк у руках захопніка, склаўшы лапкі, дазваляе сябе гладзіць, пакорліва расціскае сківіцы…

А вось яшчэ страшней — уся зграя за сваім чальцом вярнулася. Гатовыя кінуцца, павіскваюць, але стаяць ля ног Алеся нерухома, лупяцца. А велізарныя ж якія… Хвасты доўгія, голыя, з тры пальцы таўшчынёй. Вырвіч ледзь стрымліваў коней і ваніты, і мімаволі пачаў мармытаць:

— Хай уваскрэсне Бог і рассеюцца ворагі Яго, і няхай бягуць ад аблічча Яго тыя, хто ненавідзіць Яго...

А вось месціч зусім ашалеў. Вочы вырачыў, укленчыў, ледзь не лбом у бруканку б'е. І ўвесь трасецца:

— Я не ведаў… Я не ведаў, што пан таксама Пацучыны Кароль… Не забірайце майго пляменніка… Хопіць з вас Гюнтэра…

Невядома, што прыйшло б яшчэ ў галаву пераляканаму баварцу, але малодшы Лёднік ласкава паказытаў ружовы жывот пачваркі і асцярожна апусціў на бруканку. Статак адразу развярнуўся і плітануў прэч. Быццам смецце ветрам садзьмула.

— Незвычайныя пацукі, — задумліва прамовіў Алесь, акуратна выціраючы рукі хусткай, якая пахла ядлоўцам — Бутрым сам такія рыхтаваў, у настоі вымачваючы, і змушаў сямейных мець з сабою, каб заразу адганяць. — Я гэткіх разумных яшчэ не сустракаў. І будова сківіцаў адметная. Не зусім да грызуноў падобна. Хутчэй — драпежнікі. Быццам нешта сярэдняе паміж пацуком і сабакам.

Алесь схаваў хустку, падышоў да ўстрывожаных коней, пагладзіў па пысах… Тыя адразу супакоіліся. Вырвіч пракаўтнуў сліну і ўважліва ўгледзеўся ў хлапца, якога дагэтуль успрымаў такім вось... дадаткам да ўсемагутнага старэйшага Лёдніка.

— Ты што, размаўляеш з імі? З... пацукамі ды астатнімі?

Алесь неўразумела прыўзняў бровы.

— Ну якія размовы, дзядзька Пранціш… Я проста адчуваю жывёлаў. Не ведаю, як гэта апісаць. Часам мне здаецца, што я магу іх змусіць рабіць, што захачу… Але бацька заўсёды забараняў мне такія эксперыменты. Кажа — грэх. Таму — проста адчуваю. Звычайна — усё проста. Боязь, голад, злосць... А ў тутэйшых пацукоў — амаль як у чалавека. Мноства розных пачуццяў, якія мяняюцца, быццам вада цячэ.

Між тым Чорны Доктар выйшаў на вуліцу, выціраючы рукі ядлоўцавай хусткай. За ім паказалася кабета са Святога Юра. Яна нават спрабавала ўсміхнуцца і дзякавала, дзякавала… Дзіцячага плачу не чулася.

Калі ліцвіны ўселіся на коней і трохі ад’ехаліся ад дома, і грукат колаў за іх спінамі засведчыў, што маленькую труну павезлі ў апошні шлях, Бутрым змрочна паведаміў:

— Я адразу здагадаўся, што гэта за пацучыныя ўкусы… А ўсе таямніцы, рытуалы — вынік гульні не вельмі здаровага на галаву і вельмі жорсткага чалавека. Які, можа, кіруецца лепшымі пабуджэннямі. Я не супраць быў бы паглядзець на гэтага герцага Рутгера… І задаць яму пару пытанняў.

— Дык што за знакі ў іх на руках? — нецярпліва прыспешыў Пранціш… Але адказу не атрымаў: жаданне Лёдніка пазнаёміцца з клятым герцагам, падобна, спраўджвалася на вачах. Таму што па вуліцы ім насустрач скакалі вершнікі. Блішчэлі нагруднікі, кальчужныя панцыры і металёвыя шапкі з вузкімі брылямі, падобныя да місак, напагатове былі арбалеты, пістолі і рапіры…

Тое, што герцаг запрашае гасцей горада ў госці, прагучала так, што незразумела: адразу іх у сутарэнні запратораць, альбо яшчэ дазволяць штосьць сказаць у апраўданне.

Калі працэсія рушыла, Бутрым устрывожана заазіраўся цераз плячо, прасіпеў скрозь зубы:

— Хоць бы нашых знаёмцаў не зачапілі…

Трывога была не дарэмнай: двое жаўнераў адарваліся ад атрада і адправіліся ўслед за сумнымі калёсамі, якія везлі маленькую труну.

Між тым паказалася ратушная плошча. Круглая, нібыта вялізны цыркуль папрацаваў. Брукаванка чысценькая, здаецца, ніколі на ёй ніхто не паміраў. На фоне далёкіх сівых гор — вялізны цёмны гмах храма, не касцёл, кірха. Ніякіх табе статуй і абразоў, цагляныя сцены з вастраверхімі вокнамі. Калі стаць побач і паглядзець на дах — галава закруціцца, нібыта бязлітасны карабель зараз на цябе наплыве. Дамкі, што абкружалі плошчу, здаваліся ў параўнанні з храмам цацачнымі. Акрамя аднаго, які стаяў яшчэ вышэй, на ўзгорку. Палац за высокімі жалезнымі карункамі агароджы. Чырвоная цэгла, вузкія вітражныя вокны, якія ноччу так злавесна свяціліся, чарапічны дах з вострымі схіламі, некалькі вежаў, увенчаных вострымі шпілямі… На браме герб — на чорным фоне срэбная рука з узнятым кароткім мячом.

Ледзь не пад капытамі коней прабеглі пацукі — яны кіраваліся туды ж, у будынак з вежамі. Як там мармытаў мужык — Пацучыны Кароль?

Праехалі па прысадзе між каржакаватых дрэў, падобных да троляў, чые доўгія валасы сталі дыбара. Перад акаванымі жалезам дзвярмі палаца ўсе спешыліся. І дзверы расчыніліся нібыта самі па сабе. Ні лёкаяў, ні варты. Адзін з герцагскіх жаўнераў, з пабітым воспай грубым тварам — быццам калода, на якой сякуць дровы, жэстам паказаў вязням: заходзьце, маўляў. Дзіўна, і зброю не аднялі… І праводзіць не пайшлі, з нейкім багавейлівым пострахам пазіраючы на ўваход у логвішча Пацучынага Караля.

Бутрым паправіў шаблю, задраў нос і рашуча ўзняўся па высокіх мармуровых прыступках, якія за стагоддзі нібыта выгнуліся ўніз, расталі ад шматлікіх крокаў. За Чорным Доктарам насцярожана падняліся Пранціш і Алесь.

## РАЗДЗЕЛ ДЗЯСЯТЫ

## Як Вырвіч даведаўся, што мае варыяляцыю

У палацы было цёмна, так што спатрэбіўся час, каб вочы прывыклі да паўзмроку. Між тым дзверы зачыніліся з лязгатам, і зноў — ні лёкаяў, ні варты. Толькі знутры дома чуўся гук, быццам заводзілі вялізны гадзіннік.

І раптам — голас. Не па-чалавечы гучны і нейкі нежыццёвы, быццам сыходзіў з нутра жалезнага волата.

— Рады вітаць вас, шаноўныя госці! Праходзьце ў маё сціплае жытло. Зараз вас праводзіць мой слуга.

Самі па сабе загарэліся лямпы, асвяціўшы вялізную залу з белымі калонамі і падлогай з шэрых маруровых плітаў. Ні мэблі, ні карцін… Затое шмат жалезных палосаў, прымацаваных на столі, на падлозе, паміж калонаў на ўзроўні паловы чалавечага росту. Палосы з барознамі ў іх выгіналіся, перапляталіся… Нібыта нейкаму дзіцяці далі срэбны аловак і лінейку, і ён бязладна пакрэсліў малюнак інтэр’ера.

Праўда, Вырвіч засумняваўся ў сваёй здольнасці рабіць лагічныя высновы. З паўзмроку да іх ехаў Жалезны Чалавек. Ён нагадваў пустыя рыцарскія латы — бо з проразяў на месцы вачэй глядзела пустэча. Пранціш ажно адступіў на крок назад і скасавурыўся на Лёднікаў… А тыя абодва прагна скіравалі на пачвару насы, цёмныя вочы гарэлі цікавасцю і захапленнем…

Пачвара спынілася якраз перад гасцямі, нібыта дакладна ведала, што робіць. Рукі, палязгваючы ў суставах, варухнуліся ў запрашальным жэсце. Затым страшыдла спрытна развярнулася на адным месцы і плаўна рушыла назад… Госці пакорліва адправіліся следам. Нічога сабе праважатыя тут!

Пранціш нарэшце зразумеў, пра што шэпчуцца Лёднікі, тыцкаючы пальцамі ў падлогу: Жалезны Чалавек ехаў па адной з жалезных палосаў, устаўленых у мармуровыя пліты.

Вырвіч з палёгкай выдыхнуў: чыстая механіка, ніякай магіі! І нават раззлаваўся на сябе за баязлівасць. Знайшоў чаго палохацца! Хіба колькі год таму ён не бачыў лялькі-аўтамата па імені Пандора, якую пакінуў Лёдніку ў спадчыну вялікі гетман Міхал Казімір Рыбанька? Хіба Пранціш не дапамагаў уласнаручна наладжваць тую Пандору, якая ўмела маляваць, круціць галавой і вачыма, нават нібыта дыхала! А ўнутры — адны шасцярэнькі ды падважнікі.

У пакоі за наступнымі дзвярыма з’явілася мэбля — шафы з кнігамі, вялізныя, да столі. А яшчэ — дзясяткі гэткіх жа Жалезных Людзей, якія выстраіліся нерухомымі шэрагамі ўздоўж металёвых палосаў. У аднаго на выцягнутых руках быў паднос са шклянкамі і графінам, і у другога — стос кніг… А вунь тыя, здаецца, узброеныя... Так, трымаюць штосьці падобнае да палашоў. Востра заточаныя з абодвух бакоў палосы… З такім ахоўнікам біцца, напэўна, як з ветраком.

Між тым жалезны лёкай правёў яшчэ за адны дзверы, якія бязгучна адчыніліся пры набліжэнні гасцей. І тыя нарэшце ўбачылі звычайнага чалавека.

Ну як звычайнага…

У прынцыпе, у яго было два вокі, два вухі, нос, рот, рукі… Толькі галава неяк дзіўна сплюснутая з бакоў, так што твар здаецца занадта вузкім і доўгім, а светлыя вочы занадта блізка пастаўленыя. Акуратны напудраны парык, цёмны сурдут, кашуля без мора карункаў, строгі белы каўнер… Так мог быць апрануты прафесар на лекцыі. Стол, за якім ён сядзеў, на першы погляд нагадваў звычайны. Але металёвая стальніца была ўся ўторканая маленькімі стрыжнямі, нібыта цацачныя жаўнерчыкі чакалі рашучай баталіі.

Тонкія вусны чалавека расцягнуліся ў ветлай усмешцы:

— Доктар Лёднік! Даўно марыў з вамі пазнаёміцца! Не прапускаю вашы артыкулы ні ў Лейпцыгскім навуковым часопісе, ні ў Сарбонскім альманаху. Асабліва на медыцынскія тэмы. Ах, якая была ваша выдатная манаграфія пра функцыі мозгу! Праўда, за пару год да вас гэтую тэму першым падняў ваш зямляк… Як яго… Завойскі, Заройскі? Але ў яго столькі грубых памылак…

А пасля ён яшчэ і сам спалохаўся ўласных адкрыццяў. Так непрыгожа — вас звінавацiў, што вы яго падманулі ілжывымі тэорыямі… Прагрэсіўная грамадскасць тады вельмі ўзрушылася. А вы — усё абгрунтавалі, ідэю абаранілі…

Вырвіч ведаў, пра што гаворка: некалькі год таму, каб выратаваць Саламею ад паклёпу, Лёднік аддаў свае напрацоўкі аднаму прадажнаму менскаму доктару, які жадаў праславіцца. А той скарыстацца толкам не змог.

— Але дазвольце прадставіцца…

Чалавек, не ўстаючы, пакланіўся, зусім не цырымонна, так, па-сяброўску:

— Фрыдрых фон Рутгер, герцаг… Уладар гэтага горада. Як вам спадабаліся мае слугі?

Сплюснуты герцаг з гонарам абвёў рукой пакой, потым тузануў некалькі стрыжняў на стале. За спінамі гасцей пачуўся ляскат. Ліцвіны паспешліва расступіліся, і па жалезнай паласе да гаспадара пад'ехаў слуга-аўтамат. На руках у яго жаўцеў стос часопісаў. Іх дапамог перакласці на стол, аднак, не яшчэ адзін аўтамат, а чалавек. Праўда, страхалюдны, здаровы, як вол, з чорнай барадой і перабітым носам. Адна рука ў спадара была па локаць жалезнай, але пальцы паслухмяна згіналіся і выпростваліся.

— Дзякуй, Гуга. Гэта мой паплечнік і памагаты, Гуга Рыфэншталь. Ён выдатны інжынер!

Мяркуючы па знешнасці, той Рыфэншталь быў хутчэй наймітам-забойцам.

— Але што ж я такі няветлы… Нават сесці не прапанаваў гасцям, — хітравата прамовіў герцаг, хуценька пакруціў стрыжань на стале, і да наведнікаў па тых жа металёвых палосах пад'ехалі крэслы без абіўкі, з чорнага простага дрэва. Пазёр! А яшчэ Вырвіча крыўдзіла, што з іх траіх гаспадар заўважае толькі Бутрыма.

— Дзякую за гасціннасць, ваша светласць, — у голасе Лёдніка, які ўсеўся ў крэсла, як на трон, удзячнасці было не болей, чым у каменнай голай багіні — сораму. — Дазвольце прадставіць маіх спадарожнікаў. Гэта мой сябар, шляхціц старажытнага роду, ягамосць Пранціш Вырвіч герба Гіпацэнтаўр…

Пранціш моўчкі пакланіўся, пастараўшыся зрабіць гэта як мага больш фанабэрыста — не звык нашчадак Палямона быць дадаткам да сына полацкага гарбара!

— Гэта мой сын Аляксандр Лёднік, студэнт Віленскай акадэміі.

Алесь таксама пакланіўся, але герцаг на яго нават не зірнуў.

— Мы ў вашых уладаннях з'явіліся выпадкова, праездам на радзіму. Таму просім прабачэння, калі мімаволі парушылі якіясь мясцовыя традыцыі. Тым не менш, — у голас Чорнага Доктара дадалося металу, — хацелася б тое-сёе з'ясаваць. Напрыклад, чаму вашы падданыя нічога не ведаюць пра аперацыю, якая над імі праведзеная, і чаму вы не дазваляеце лячыць іх ад наступстваў той аперацыі… Без усякага сумніву, прагрэсіўнай.

Фон Рутгер нат не паморшчыўся ад такога нахабства, наадварот — расплыўся ва ўсмешцы:

— Так я і ведаў, што вы ацэніце, гер Лёднік! Мне дужа не хапае ў гэтай глухмені адукаваных людзей! Не паверыце, даводзіцца да самых змрочных забабонаў звяртацца, каб прыўнесці прагрэс гэтаму быдлу.

Як Бутрым не любіў падобнага стаўлення да простага люду… Вось загаварыў, як быццам змусілі лекцыю чытаць п'яным студэнтам:

— Варыяляцыя — добрае пачынанне. У Францыі яе шырока практыкуюць, у Рыме, у Даніі… Французскі кароль апрабаваў на сабе, і расейская імператрыца над сабой загадала тое ўчыніць, дзеля прыкладу падданым… Але вы ж павінны разумець: метад пакуль недасканалы.

І патлумачыў, павярнуўшыся да спадарожнікаў:

— Гэта сродак абараніцца ад воспы, вы ж чулі неаднойчы, я сам яго прапагандаваў. У драпіны прыўносяць змесціва воспенных пухіркоў ад кароў, чалавек захворвае, але лёгка. А потым ужо ніколі не заразіцца. Праблема — пасля штучнага заражэння ён можа захварэць наўсур'ёз.

— Абсалютна так, гер Лёднік! — заківаў сплюснутай галавой герцаг Рутгер. — На жаль, гэта неабходныя ахвяры ў барацьбе з пошасцю. І вы не можаце ўявіць, як я намучыўся, пераадольваючы супраціў сваіх неадукаваных падданых!

Пацучыны Кароль пяшчотна пагладзіў стос часопісаў, якія ляжалі на краі стальніцы.

— Я ўсю маладосць патраціў на тое, каб набыць адукацыю. Вучыўся ў лепшых універсітэтах Еўропы, зразумела, пад чужым імем, бо герцаг Рутгер — згадзіцеся, занадта груvastка для студыёзуса. Авалодаў самымі найноўшымі методыкамі… І вось вярнуўся сюды пасля смерці бацькі. І хто я тут? Ніхто.

Герцаг кіўнуў Рыфэншталю, і той акуратна вывез з-за стала крэсла, на якім сядзеў гаспадар… Ногі, што бяссіла звісалі, былі непрапарцыянальна малыя і тонкія, мыскі чорных бліскучых чаравікаў глядзелі адзін на аднаго… Ясна было, што хадзіць Пацучыны Кароль не мог ніколі.

— Мяне не прымалі ўсур'ёз. Але, панове, у мяне мелася мэта, — светлыя вочы запалалі фанатычным агнём. — У мяне было дастаткова грошай і розуму, каб стаць сапраўдным уладаром. І я гэтага дасягнуў.

— На сённяшні дзень яго светласць самы багаты і ўплывовы чалавек у Баварыі, — важка прамовіў нечакана тонкім голасам Рыфэншталь. — Ніхто не наважваецца аспрэчыць ягоныя загады і нанесці яму шкоду.

— Я ўсяго толькі хацеў прынесці на сваю радзіму прагрэс, — сціпла ўдакладніў герцаг. Але відаць было, як яго распірае ад гонару. — І калі я даведаўся, што ўсё наваколле Норнберга ахоплена пошасцю, і вось-вось воспа прабярэцца за гарадскія муры, вырашыў — час дзейнічаць. Вядома, без маіх бравых ландскнехтаў я б рады не даў…

Герцаг правёў тонкім пальцам па бледных вуснах.

— Давялося прыдумаць прыгожую і страшную легенду. Людзі ішлі, каб прыняць укус жалезнага пацука. Я з дапамогай Рыфэншталя сканструяваў адмысловы аўтамат, каб уводзіць патрэбнае рэчыва пад скуру. Вядома, быў супраціў…

Вынаходнік насупіўся, успамінаючы, відаць, не вельмі прыемныя рэчы.

— Дурныя людзі ўцякалі, хавалі дзяцей, высылалі іх з горада.

— І вы дасюль забіраеце дзяцей для варыяляцыі гвалтам? — саркастычна прамовіў Лёднік.

— Дзеля іх жа карысці, — не зважыў на сарказм герцаг.

— Чаму ж не дазваляеце лячыць тых, хто захварэў? Гараваць па памерлых? Чаму людзі ладзяць пахаванні ледзь не таемна?

Баўтрамей чамусь не спяшаўся захапляцца сваім паплечнікам у прагрэсіўнай медыцыне.

— Мае падданыя павінны ўсвядоміць, як ім пашчасціла жыць у маіх уладаннях! — ганарыста ўскінуў галаву фон Рутгер. — Яны мусяць радавацца падоранаму мною жыццю, старанна працаваць, дзякаваць свайму мудраму пану і не траціць сілы на бескарысны смутак. Прырода сама ачышчаецца ад няўдалых асобін. Я ўпэўнены, што тыя, хто не пераносіць варыяляцыю, сла-

быя, і дадуць слабых нашчадкаў, і лепш гэтую нітку абрэзаць, каб у агульнай тканіне не атрымалася вузялкоў і дзірак.

Рыфэншталь усёй сваёй злавеснай фізіяноміяй выказваў падтрымку гаспадару. Нібыта не заўважаў, наколькі словы асуджэння цялеснай недасканаласці двухсэнсоўна гучаць з вуснаў калекі. Лёднік, аднак, не змаўчаў:

— Выбачайце, ваша светласць, але я ведаю шмат выпадкаў, калі цялесныя недахопы аніяк не адбіваліся на бліскучым розуме і высокай маральнасці. Хіба вы самі — не прыклад таго, што магутны інтэлект можа пераадолець любую фізічную слабасць? Наадварот — той, хто ідзе да мэты праз супраціў сваіх слабасцяў, робіцца больш моцным, больш вартым і мудрым. І дазвольце нагадаць, што ў вачах Госпада мы ўсе — роўныя, нас розняць толькі грахі і духоўныя подзвігі.

Пацучыны Кароль нахмурыўся:

— Пра магутны інтэлект і мудрасць вы, гер Лёднік, адгадалі. Наконт роўнага права на жыццё… Выбачайце, нават сяляне праполваюць свае грады.

Баўтрамей аж вочы заплюшчыў, каб супакоіцца і не палезці ў небяспечную і бескарысную спрэчку пра каштоўнасць кожнага жыцця.

— Ваша светласць, вы, як навуковец, мусілі фіксаваць вынікі доследаў. Як шмат памірала з сотні прышчэпленых?

Лёднік гаварыў скрозь зубы, твар ягоны збялеў…

— Не больш за трыццаць чалавек з сотні. Добры вынік!

Герцаг відавочна не бачыў нічога кепскага ў тым, што твbooрыў.

— Пры звычайным захворванні воспай я магу дабіцца такога ж адсотку выздараўлення, — холадна заўважыў Бутрым. — Вы мусіце ўдасканаліць вакцыну!

— Я правяраў яе на сабе, і вынік атрымаўся добры, — герцаг, відаць, пачаў раздражняцца адсутнасцю энтузіязму з боку вучонага калегі. — Я зусім нядоўга знаходзіўся ў гарачцы, і ўтварылася ўсяго дзве язвачкі. Маёй малодшай сястры пашанцавала менш. Яна выявілася слабой, няздатнай да працягу роду. Мне было горка, але я паставіўся да яе смерці, як да неабходнасці. Але, вядома, я не спрачаюся, што ўсё падлягае прагрэсу і ўдасканаленню.

— Ваша светласць, а як вы ўдасканалілі пацукоў?

Гэта азваўся Алесь. Вельмі ў час, дарэчы — лепш было перавесці на іншае размову, якая пачала распальвацца, як сунутая ў агонь качарга. Герцаг нарэшце засяродзіў позірк на малодшым госці, нібыта вырашаючы, ці варты ён размовы. Аляксандр зараз жа з усёй цырымоннай ветлівасцю, якую апошнім часам пачаў забываць, на чысцюткай нямецкай мове распавёў пра сваю цікавасць да натуральных навукаў і эксперыменты над жывёламі, і што менавіта адметнага ён пабачыў у пацуках Норнберга. Пачынаючы з будовы сківіцаў. Так вучона гаварыў, што Вырвіч ледзь не пазяхнуў. А вось фон Рутгеру спадабалася.

— Ну што ж, не магу не задаволіць запыт такога таленавітага маладога чалавека!

Крэсла герцага, як высветлілася, магло ехаць і само, у ім з шоргатам круціліся хітрыя механізмы, фон Рутгер толькі падважнікі на падлакотніках тузаў. У госці да пацукоў, ад чаго Пранціш з задавальненнем адмовіўся б, ішлі ў левае крыло палаца, у прыбудову, падобную да вялізнага куратніка. Мноства драўляных загончыкаў, у якіх за драцяной сеткай сядзелі пачваркі. Былы менскі суддзя намагаўся на іх не глядзець. Яны агідна вішчэлі, аж увушшу закладала, і кідаліся на загародкі, і вочы іх гарэлі чырвонай нянавісцю і пагрозай… Загрызуць, дай волю, і костак не пакінуць.

Старэйшы Лёднік, хоць і слухаў тлумачэнні ўважліва, не выказваў палкага захаплення… У адрозненне ад сына. Падобна, два аматары жывой гідкасці знайшлі адзін аднаго. Герцаг адным сваім словам супакоіў гадаванцаў і давай распавядаць удзячнаму слухачу… Як прыйшоў да высновы: менавіта пацукі, мышы ды іншыя жывёлы, што аціраюцца побач з чалавекам, разносяць заразу. А лепшы спосаб перамагчы любую навалу — зрабіцца яе ўладаром. Пацука, стварэнне хітрае і жывучае, лепш за ўсё можа знішчыць пацук, толькі яшчэ больш хітры і жывучы. Грошай у фон Рутгера было нямерана, пацукоў яму налавілі, хоць у бочках засольвай… Так што перш чым змагацца з воспай, герцаг прыводзіў падданых у жах і пострах, ствараючы ў палацы свае аўтаматы, а паралельна — выводзячы новую пароду пацукоў. Паслухмяных яму, як сабакі. Якія заўсёды вярталіся ў сваю родную, скажам так, стайню. Дзе іх чакала смачная ежа і адмысловы напой, ад якога яны весяліліся і засыналі… Ну зусім як мужыкоў прывабліваюць карчомкай. Гадаванцы герцага сапраўды знішчылі ўсіх сваіх дзікіх суродзічаў. А заадно мышэй, катоў, сабак і любую іншую жыўнасць.

Застрашыць удалося. Горад лічыў герцага Пацучыным Каралём, а пацукоў — ягонымі шпегамі. Хаця нашто былі шпегаўскія паслугі жывёлак, калі ўсе месцічы адзін на аднаго даносілі? Тыя, хто выжыў пасля прышчэпкі ад воспы, пардон, прыняцця рытуальнага ўкусу Жалезнага Пацука, лічылі сябе звязанымі з гаспадаром містычным чынам і былі адданыя яму тым болей, што ім даставалася маёмасць суседзяў, выгнаных за непаслушэнства, памерлых ад хваробы альбо збеглых.

Скардзіцца не было каму. Курфюсту Баварскаму фон Рутгеры не падпарадкоўваліся — іх маленечкае герцагства лічылася асобнай дзяржавай, якое не з'ядалі таму ж, чаму выплёўваюць атрутную ягаду. Галоўны пастар Норнберга быў пасвечаны ў таемства прышчэпак і цалкам іх ухваляў. А калі чаго не ўхваляў, напрыклад, пацучыных жахалак, дык мудра маўчаў.

Пранціш і Бутрым сустракаліся позіркамі і змрачнелі. Не дай Гасподзь жыць у такім прагрэсе.

— Дазвольце мне, ваша светласць, бліжэй пазнаёміцца з вашымі цудоўнымі жывёлкамі! Ніколі не бачыў настолькі разумных…

Герцаг паблажліва ўсміхнуўся на просьбу юнака.

— Яны слухаюцца толькі мяне. Ну і некалькіх davераных слуг, якія за імі даглядаюць. Укусяць.

Аляксандр пасміхнуўся, прысеў перад клеткай, працягнуў даланю ўшчыльную да драцянай сеткі. Адразу некалькі тлустых пацукоў падбегла. Але не сталі кідацца, абнюхвалі пяшчотна працягнутую руку, варушачы сівымі вусамі. Герцаг відавочна здзівіўся, кіўнуў галавой…

Адзін са слуг, у чорнай ліўрэі са срэбнымі галунамі, што нагадвалі пацучыныя хвасты, прыадчыніў дзверцу. Алесь тут жа падхапіў двух страшыдлак на рукі, пачаў размаўляць з гэтымі… галахвостымі, сівавусымі, чырванавокімі… Цьху! Падобна, герцаг ажно прыраўнаваў, бо свіснуў, і адзін пацук адразу ж ускараскаўся яму на калені, і замілавана жмурыўся, калі яго пагладжвала гаспадарская рука. А вось другі пацук гэтак жа песціўся на руках у Аляксандра Лёдніка.

— Я думаў, толькі я валодаю такім уменнем… — павольна, нібыта не жадаючы прызнавацца, прамовіў фон Рутгер. — Ваш сын, гер Лёднік, незвычайны малады чалавек. Я ведаю, што вы — магутны маг і слынны алхімік… Цяпер бачу, што сын успадчынніў вашы здольнасці, толькі чамусьці не ўмее імі карыстацца…

— Не! — Баўтрамей ажно кулакі сціснуў ад гневу. — Вы памыляецеся. У маім сыне няма нічога ад той грахоўнай сілы… І не тлуміце яму галаву. Ён проста любіць жывёл. Калі што і пераняў ад мяне — дык прагу да навукі…

Герцаг прыўзняў бровы, і ягоны сплюснуты твар страшэнна прыпадобніўся пацучынай мордзе.

— Вось як… Цікавая сітуацыя. Што ж, дарагія госці, давайце працягнем размову ў больш зручным месцы, за абедзенным сталом. Можаце ўзяць вашага маленькага сябра з сабой, гер Аляксандр!

Малодшы Лёднік радасна прыцiснуў да сябе агідную жывёлку.

Абедзенны стол быў доўгі, як Рэйн. Па правую руку ад герцага частка стальніцы блішчэла металам і тапырылася стрыжнямі. Крышталёвыя грані келіхаў ззялі, быццам горны лёд. Жалезныя лёкаі стаялі ўздоўж сцен, зусім як калекцыя рыцарскіх лат. Продкі-Рутгеры фанабэрыста пазіралі з партрэтаў светлымі запалымі вачыма. Ва ўсіх былі выцягнутыя твары, хоць і не такія сплюснутыя, як у іх нашчадка.

— У мяне цікавая прапанова да вас, гер Аляксандр і гер Баўтрамеюс, — ветліва прагаварыў герцаг, падымаючы келіх з залацістым напоем. — Ваш сын, гер Лёднік, мусіць застацца са мной. У мяне няма нашчадкаў, а Аляксандр — той рэдкі выпадак, калі я магу перадаць камусьці справу жыцця, і яна прадоўжыцца.

Рыфэншталь, які сядзеў справа ад герцага, ажно перакрывіўся ад гэтых слоў, і ягоная жалезная рука нібыта сама па сабе пачала сціскацца-расціскацца. Пацучыны кароль натхнёна ўсміхаўся:

— Малады чалавек атрымае найлепшую адукацыю. Для ягоных навуковых эксперыментаў зладзяцца ўсе ўмовы. Ён навучыцца выкарыстоўваць на карысць прагрэсу тыя здольнасці, якія вы, доктар, у сыне чамусьці адмаўляеце.

— Нізавошта! — Баўтрамей кінуў на стол двухзубы срэбны відэлец, якім беспаспяхова калупаў запечаную ў белай падліве рыбу. Павярнуўся да Алеся і перайшоў на беларускую мову:

— Дакукарэкаўся! Я табе колькі разоў казаў — не шукай таннай славы, не здзіўляй усялякімі штукарствамі!

— Ну так, толькі табе гэта дазваляецца! — пацук, які прыгрэўся на каленях Алеся, высунуў над сталом агідную пысу і засычэў у бок таго, хто крыўдзіў ягонага ўладара. Малодшы Лёднік не на жарт усхадзіўся. — Ты нам усё забараняеш! Мне нельга размаўляць з жывёламі, пані-маці нельга лекарскай практыкай займацца, панне Праксэдзе… Панне Праксэдзе ты таксама свет засціў.

— Сабе я забараняю куды больш, сыне, — старэйшы Лёднік намагаўся трымацца спакойна. — Таму маю права патрабаваць таго ж…

— Не маеш права! Я ўвогуле народжаны ў іншай сям'і, і меў іншае прозвішча!

Алесь выкрыкнуў і сам спалохаўся… Тым больш бацька тузануўся, як ад удару. Вырвіч толькі галавой пакруціў.

— А ну, сціхніце! Што адзін, што другі! Адно слова, Лёднікі, толькі і ўмеюць, што ў ямы ўлазіць! Знайшлі калі адносіны высвятляць. Ты, смаркач… — павярнуўся да Алеся, які напяўся ад суровага тону дзядзькі Пранціша. — То Ланцэлота з сябе строіш, то парушаеш усе шляхецкія звычаі, на роднага бацьку, які цябе гадаваў і песціў, голас павышаеш! Мой пан-бацька цябе б ужо на дыванку расклаў ды бізуноў усыпаў. Ды Баўтрамей за тое, каб цябе добры пан Гервасій Агалінскі не саслаў, як бастарда, у якую вёску, сваё жыццё заклаў,

пакляўся, што дасць сябе да смерці засцябаць. Шчасце, Гервасій перадумаў… Хаця можаш зірнуць як-небудзь на бацькаву спіну.

— Вырвіч, хопіць! — паспрабаваў спыніць спавядальню за сталом Пацучынага Караля Бутрым, але Вырвіча да пячонак дастала гэтае дурное сямейнае варагаванне. Далібог, бадаюцца бацька і сын, як два падлеткі.

— Хочаш ведаць, як ты жыццё атрымаў? У вязніцы, дзе сустрэліся здратаваны раб і няшчасная жонка ўладара. Яе, тваю маці, за гэта забіў ейны ж муж. Каб не Бутрым, ты рос бы ў ганьбе. Задаволены? Цяпер усё ведаеш?

Алесь сядзеў, апусціўшы вочы, і прыгнечана маўчаў. Пацук лашчыўся да яго, нібыта ўсё разумеў і хацеў суцешыць. Старэйшы Лёднік страціў увесь запал і моўчкі панурыўся. Герцаг нават з некаторай весялосцю назіраў за спрэчкай паміж гасцямі, падрабязнасцей якой не разбіраў, бо не валодаў беларускай мовай, але асноўны сэнс, відаць, цяміў.

— Ну што, малады чалавек, наважвайцеся! Прымайце маё апякунства. Тут вас зразумеюць.

Пранціш зноў павярнуўся да хлапца.

— Вось, Аляксандр, шанец. Можаш змяніць паходжанне, паселішся ў герцагскім палацы, навучышся нацкоўваць пацукоў на месцічаў…

Бутрым не зрабіў спробу запярэчыць. Не перавёў позірк на сына. Толькі вусны сціснуў, быццам рыхтаваўся сцярпець вялікі боль.

— Бачыш, у цябе воля выбару.

Пранціш, праўда, не ведаў, што зараз прыйдзе ў галаву раззлаванаму і пакрыўджанаму недарасцю.

Алесь прыціснуў да сябе пацука, рашуча ўзняўся.

— Ваша светласць, я ўдзячны вам за такую ганаровую прапанову. Але я яе нявартны. Я… не такога высокага паходжання, каб увайсці ў дом слаўных герцагаў Рутгераў. Акрамя таго… — голас юнака набраў сілу. — Я люблю сваю радзіму і сваю сям'ю і нізавошта ад іх не адракуся. І ў мяне ёсць нявыкананы шляхецкі абавязак.

Трошкі пафасу — улюбёная сармацкая прыправа. Герцаг перастаў усміхацца.

— Я разумею, малады чалавек, што на вас уплывае прысутнасць бацькі. Але ён нічога не зможа зрабіць насуперак, паверце. Тут адзіны закон — мае слова.

Герцаг тузануў нейкі падважнічак, у сценах расчынілася мноства дзвярэй, і паміж жалезнымі слугамі паўсталі цалкам жывыя, але такія ж пагрозныя і закаваныя ў латы, з арбалетамі і палашамі.

— Я магу адорваць і караць, дарыць жыццё і забіраць. Апошні раз прашу: падумай! Пад маім кіраўніцтвам ты зробішся вялікім, увойдзеш у гісторыю!

— У маёй краіны свая гісторыя, — упэўнена ўсміхнуўся Алесь, які, відаць, канчаткова адолеў спакусу. — Краіна зараз у бядзе, мы ёй патрэбныя…

Ну, гэта заўсёды было і будзе, з краінай у бядзе, няўважна падумаў на апошняе выказванне Алеся Вырвіч і з палёгкай узняўся таксама:

— Ваша светласць, у такім разе, дазвольце нам адправіцца дадому! Было вельмі цікава…

— Я не магу вас так проста адпусціць, — герцаг зноў усміхаўся, але злавесна. — Не-не, ніякіх шыбеніц, акрутных сутарэнняў і катаванняў. Мой дом — фарпост прагрэсу. Я кладу ўсе сілы, каб спыніць распаўсюджванне цяжкай хваробы. Таму з гэтага палаца ніхто не сыдзе, не прайшоўшы выратавальнай працэдуры.

— Жалезны пацук гатовы да паслугаў шаноўных гасцей! — тут жа азваўся Гуга Рыфэншаль, які, падобна, быў вельмі ўзрадаваны, што ў гаспадара не з'явіцца падапечны, патэнцыйны спадчыннік.

— Але, ваша светласць, вакцына яшчэ недасканалая… — паспрабаваў запярэчыць Лёднік, герцаг толькі нахмурыўся:

— Яна выконвае тое, што павінна. І вы таксама выканаеце тое, што павінны. Ну, гер Лёднік, вы ж самі прагрэсіст…

Пад прыцэлам арбалетаў не спрачаюцца. Бутрым моўчкі закасаў рукаў камзола, прадэманстраваў левае перадплечча:

— Я ўжо зрабіў сабе такую аперацыю. Дзесяць год таму. Калі працаваў у Віленскай акадэміі.

На бледнай скуры перадплечча, прыкрашанай некалькімі тонкімі шнарамі, красаваўся белы круглы след ад паджыўшай язвачкі.

— Як вы прыўносілі рэчыва? — зацікаўлена ўдакладніў Пацучыны Кароль.

— Голка і вымачаная ў вакцыне нітка, — будзённа адказаў Бутрым, адкасваючы рукаў. — І пан Пранціш Вырвіч прайшоў варыяляцыю.

Маніць, відаць, каб герцага падмануць… Фон Рутгер пачаў быў выказваць сумніў, але Чорны Доктар загадаў Пранцішу:

— Пакажы левае плячо… Вось тут…

Пранціш нервова сарваў з сябе камзол, закасаў рукаў кашулі… На левай руцэ, вышэй локця, у яго праўда меўся невялікі шнар. Але хіба шляхціц баявыя адмеціны лічыць?

Між тым герцаг загадаў Пранцішу падысці, ледзь не ткнуўся вострым носам у руку.

— Сапраўды, след ад воспеннай язвы. Варыяляцыю пацвярджаю.

Вырвіч азірнуўся на доктара, які неяк падазрона адвёў позірк.

— Бутрым, адкуль у мяне гэтая штука на руцэ? А? Хто мне яе зрабіў?

Лёднік трохі з няёмкацю хмыкнуў.

— Я зрабіў.

Пранцішу на імгненне мову адняло.

— Чакай, ты што, заразіў мяне воспай? Калі? Нашто?

Бутрым ваяўніча натапырыўся:

— Не воспай заразіў, а ад воспы абараніў! Памятаеш, мы ў войску Касакоўскага пад Івацэвічамі затрымаліся? Ты ад нуды ды зухаватасці выклікаўся ехаць у маёнтак Жухавічы, дзе канфедэраты схавалі зброю. У маёнтку ўсе пахварэлі, таму схаванае ніхто не забіраў. Я прасіў генерала нікога не пасылаць. Альбо я сам, як доктар, паеду… Але Касакоўскі ўпёрся. Доктар, маўляў, патрэбны ў войску. А патрыёты воспы не баяцца! Я ўпрасіў толькі даць два тыдні, сказаў — хвароба стане менш заразнай. Злётаў у пару вёсак, знайшоў рэчыва для варыяляцыі, цябе з тваймі будучымі спадарожнікамі напаіў добранька… ну і… вам усім…

Вырвіч прыпомніў, што і праўда. Прыхварэў ён быў трохі разам з двума таварышамі перад паездкай у той кляты маёнтак. Лёднік адварамі адпойваў… Насіўся вакол, як квактуха, аж залішне з нагоды звычайнай застуды… Як Пранціш лічыў.

— Ах ты... — Вырвіч ажно за шаблю хацеў схапіцца, на шчасце, яна з іншай зброяй вісела на спецыяльнай падстаўцы ля ўвахода ў залу. — І згоды не спытаў! Мы ж маглі памерці!

— Яшчэ хутчэй вы, дурні зухаватыя, памерлі б, каб пацягліся ў тыя Жухавічы. І адтуль на ўсё войска заразу прынеслі б. А тлумачыць вам ды ўгаворваць… Вы ж не цверазелі і на хвілю.

Пранціш сярдзіта адвярнуўся. А Пацучыны Кароль зноў быў у гуморы.

— Вось бачыце, доктар, у нас адны і тыя ж метады. Я вельмі рады такому падабенству. А сына свайго вы таксама абаранілі ад воспы?

Лёднік кінуў на Алеся кароткі позірк:

— Зразумела.

Герцаг паківаў сплюснутай галавой.

— У такім выпадку, хацелася б пабачыць доказ.

Голас Бутрыма гучаў вельмі роўна:

— Я зрабіў гэта, калі мой сын быў малы, след ад варыяляцыі добра зажыў, яго практычна немагчыма разгледзець.

Герцаг выскаліўся, як прадчуваючы здабычу.

— Дазвольце не паверыць, гер Лёднік. Па-першае, не думаю што вы правялі працэдуру над сынам, не выпрабаваўшы на сабе. Значыць, быў ён не такі ўжо малы. Па-другое, я бачыў скуру тысяч людзей, якія перанеслі варыяляцыю, і магу разгледзець нават самы дробны след ад воспеннай болькі, і ніколі яго ні з чым не зблытаю. Геру Аляксандру проста няма чаго прад’явіць мне.

Па скамянелым твары Бутрыма Вырвіч зразумеў — так і ёсць.

— Калі я згаджуся прыняць укус Жалезнага Пацука, вы адпусціце нас з горада? — рашуча папытаўся Алесь.

— Як толькі высветліцца, што вы добра перанеслі аперацыю.

— Ад заражэння да ўтварэння пустул можа прайсці тры тыдні, — напружана прамовіў доктар.

— Вось вы і правядзеце гэты час у спецыяльна ўтворанай тут лякарні.

Фон Рутгер усміхаўся са змрачнаватай весялосцю, і мяркуючы па ўсім, лякарня будзе моцна нагадваць турму. І ці выпусцяць іх з яе — невядома. Калі Пацучыны Кароль зажадаў пакінуць у сябе Алеся… Эх, собіла ж таму пахваліцца агульнай мовай з пацукамі…

Дарэмна Бутрым крычаў, што сам падрыхтуе расчынне для аперацыі і правядзе яе. Пацучыны Кароль толькі раззлаваўся: гер Лёднік не давярае ягонаму майстэрству? Ландскнехты трымалі арбалеты напагатове, і нават раз’ятраны Чорны Доктар разумеў, што атрымаць стралу ў грудзі — не лепшае выйсце. А каб наравісты медыкус гэта лацвей усвядоміў, яго ветліва атачылі жаўнеры.

Працэдуру варыяляцыі герцагператварыў у таямнічы рытуал. Можна ўявіць, як уражваліся простыя месцічы. Зацягнутае чорным аксамітам памяшканне, свечы ў высокіх кандэлябрах, срэбныя загадкавыя знакі на сценах… На пастаменце — велізарны металёвы пацук, у пашчу якога належала сунуць аголеную па локаць руку.

Што Алесь, не вагаючыся, і зрабіў.

Збялелы Бутрым вырваўся нарэшце з кола жаўнераў, падбег, схіліўся над рукой сына… На перадплеччы чырванелі дзве кроплі крыві. Як ад укусу.

— Ды не перажывай, тата, ты ж сам падобнае перанёс… І дзядзька Вырвіч… І многія ў горадзе.

У Бутрыма трэсліся рукі. Ён выпрастаўся і зірнуў у вочы герцагу.

— Калі мой сын памрэ, я вас разам з вашымі пацукамі ў пекла выпраўлю.

Герцаг і Рыфэншталь шчыра весяліліся. Інжынер нават дазволіў сабе выказацца:

— Вось і высветлілася ваша сапраўдная адданасць навуцы, гер доктар. Вы, аказваецца, забабонны і баязлівы тыпус…

А на Алеся фон Рутгер цяпер паглядаў бадай што замілавана:

— Віншую, хлопчык, ты цяпер далучыўся да нас. Упэўнены, што табе ўдасца годна перанесці выпрабаванне.

Аляксандр, на рукі якога зноў ускараскаўся пацук, пакланіўся:

— Дзякую за давер, ваша светласць. Адзіная просьба: ці нельга па дарозе да нашай лякарні зноў пабачыць вашых цудоўных звяркоў? Мяне гэта вельмі падтрымала б.

Пацучыны Кароль нават узрадваўся:

— Вось бачыш, хлопчык, цябе ўжо цягне да тваіх будучых падданых!

Ім нават зброю вярнулі… Быццам былі ўжо сваімі, і ніколі не выберуцца з клятага гарадка.

Пранціш без асаблівага задавальнення зноў апынуўся ў пацучарні. Смурод, віскат, чырвоныя вочы… Алесь, на чыім плячы паважна сядзеў пацук, як у якогась вандроўнага факіра — папугай, вельмі ўпэўнена ішоў між бясконцымі шэрагамі клетак і пра нешта ціха перагаворваўся з паскуднымі стварэннямі. Пацукі вілялі голымі, як абваранымі, хвастамі, не раўнуючы сабакі перад гаспадаром, і гэтак жа аддана спрабавалі бегчы за хлопцам, наколькі дазвалялі клеткі. А тыя клеткі рабіліся ўсё даўжэйшымі, у іх унутры з’яўляліся нейкія збудаванні, быццам ад сціплых хацін сялянаў перайшлі да дамоў мешчукоў, а тады да шляхецкіх сядзібаў…

— Тата, дзядзька Пранціш, не дайце ім мне перашкодзіць… — раптам ціха прагаварыў Алесь і рэзка выбіў клямку на апошняй з клетак, самай вялікай, у якой былі нагрувашчаныя драўляныя загародкі. Лёднік і Вырвіч, як спрактыкаваныя воі, не пачалі задаваць пытанняў і вагацца, а проста агалілі шаблі. Герцаг, які са свайго крэсла здалёк сачыў за перасоўваннямі магчымага вучня, крычаў нешта запытальна-сярдзітае…

І тут Аляксандр вылез з клеткі. З некаторай цяжкасцю.

Таму што на руках у яго сядзела…

Пранціш не мог падабраць вызначэнняў для гэтай пачвары.

Велічынёй з парсюка.

Кароткая сівая поўсць, з-пад якой прасвечваецца ружовая скура.

Цела ўсё ў складках тлушчу.

Пыса… Больш пляскатая, чым пацучыная, нібыта хтось даў у доўгі нос, і ён задраўся, сабраўся складкамі…

Вочы… Таксама большыя, чым у пацука, і не чырвоныя, а нейкія малочна-блакітныя, мутныя.

— Прыгажуня мая… Ты проста цуд… Ніколі такога хараства не бачыў…

Алесь прыгаворваў гэта на вушка пачвары, якая выглядала цалкам задаволенай, і кончык яе носу час ад часу варушыўся, бы ў састарэлай паненкі, што нюхае падораную кавалерам нібыта парыжскую парфуму.

Калі княскія прыслугачы пабачылі на руках госця пачвару, знямелі, збялелі і пачалі чамусь адступаць. І пацукі замёрлі…

— Што… што гэта? — не вытрымаў Вырвіч.

— Гэта пацучыная каралева, — спакойна, але трохі задыхліва патлумачыў малодшы Лёднік, трохі расстаўляючы ногі, каб не ляснуцца са сваёй прыгажуняй. — У пацукоў, як у пчолаў, ёсць каралева… Я так і думаў, што яе трымаюць дзесь тут. А цяпер… адчыняйце ўсе клеткі. Хутчэй!

Клямкі адна за адной зляталі… Пацукі выбягалі і затаплялі калідор. І ландскнехты, і прыслуга адступалі перад гэтай арміяй, бо нават непасвечанаму было ясна: у яе новы кароль. Той, хто трымае на руках каралеву. Хоць бы яе ў начных жахах не бачыць, барані, Госпадзе…

Герцаг нешта заверашчаў, падобна, падзываючы сваіх здрадлівых гадаванцаў. І тыя закруціліся, замітусіліся, разгублена пазіраючы то на новага гаспадара, то на старога. Алесь перарывіста прамовіў:

— Герцаг перашкаджае… Я не ведаю, як імі ўсімі кіраваць… Я ніколі такога не рабіў…

Цяжка апусцілася на ягонае плячо рука бацькі, і цяжка прамаўляліся словы:

— Засяродзься, сын… Уяві, што паміж тваіх броваў распаленая кропка…

Пранціш зразумеў: Бутрым перадае тыя, таемныя, веды… Ад якіх адрокся… Якія ненавідзеў. Але не было калі за гэтым назіраць. Вырвіч перахрысціўся і адгарадзіўся шабляй ад Рыфэншталя. У адрозненне ад іншай прыслугі, пацукі таго пужалі не болей, чым хатнія куры. А вось палаш у жалезнай руцэ інжынера — гэта было трывожна. Удар… Скачок… Яшчэ ўдар… Шчасце, ніхто не страляў — відаць, герцаг баяўся забіць сваіх хвастатых гадаванцаў. Але жалезная рука адбівае лязо лепей за шчыт. Палаш зрэзаў русявыя пасмы былога менскага суддзі ля самага твару. Яшчэ трохі — і без носу мог слаўны ліцвінскі шляхціц застацца. А вось такі прыёмчык, пераняты ў Чорнага Доктара, ведаеш? Пранціш праехаўся каленьмі па засмечанай падлозе. Паранены ў бок Рыфэншталь зваліўся на пустую клетку… Па ім тут жа прабеглі пацукі, якія цяпер чулі голас толькі аднаго караля.

Алесь пёр раскормленую пацучыху-парсючыху, за ім насцярожана рушылі старэйшы Лёднік і Вырвіч, іх ахоўвала пацучынае войска… Шэрыя хвалі віравалі вакол і гатовыя былі змесці, згрысці ўсё, што перашкодзіць шляху іхняй каралевы. Людзей герцага бы пацучыным хвастом змяло. Фон Рутгер, які, відаць, усвядоміў, што ягоныя гадаванцы яго больш не слухаюцца, ад’ехаў у крэсле да дзвярэй.

— Я не памыліўся ў вас, гер Аляксандр. Яна нават мне не дазваляла ўзяць сябе на рукі. Шкада, што давядзецца вас пакараць…

Герцаг пацягнуўся да металёвага шчыта збоку ад дзвярэй, утырканага маленькімі падважнікамі… Пранціш і Бутрым не паспелі падбегчы — уладар Норнберга тузануў адзін з іх:

— Шкада, такі чалавечы матэрыял знікне!

Нешта заскрыгатала, шэрыя воі замітусіліся, але чамусь не наважваліся кінуцца наперад… Паміж герцагам і стайняй пацукоў проста з падлогі выраслі вострыя дзіды густой рашоткі, а падлога пад нагамі падазрона задрыжэла… Па задаволеным сплюснутым абліччы фон Рутгера было зразумела: бунтаўнікоў зараз чакае смерць. Пакутлівая і непрадказальная.

Але да рашоткі, расштурхаўшы нагамі пацукоў, кінуўся Лёднік. Бутрым нічога не рабіў. Ён проста стаяў і глядзеў на герцага праз краты, трохі схіліўшы галаву і напружыўшы плечы. Раптам сплюснуты твар герцага перакрывіўся, нібыта ад страшэннай напругі. Фон Рутгер неяк дзіўна тузаўся, нібыта не ў змозе адарваць руку ад падважніка. З тонкіх бледных вуснаў вырывалася падобнае да пацучынага віскату:

— Не! Не! Не! Вы не зможаце! Я мацней за вас!

Лёднік стаяў і глядзеў, па ягонай скроні качілася кропля поту… А рука герцага, нібыта супраць волі гаспадара, павярнула бліскучы стрыжань. Вострыя дзіды схаваліся, падлога перастала дрыжэць.

— Рушылі! — прахрыпеў Бутрым.

Фон Рутгер штосьці верашчаў услед, разгойдваючыся ў адчаі ў сваім крэсле. Вырвічу нават шкада беднага калеку зрабілася. Пацукі здрадзілі… Пры-

слуга разбеглася… А металёвыя балваны — што з іх толку? Толькі здзіўляць ды палохаць.

З Норнберга выехалі, як вершнікі Апакаліпсісу. Усё жывое пахавалася. Брукаванку ўсцілаў тонкі бялюткі покрыў першага сняжку, кволага і даверлівага. А калі азірнуцца назад — толькі чорныя мокрыя камяні. Шэрае войска не пакідала за сабой і лапіку белі.

Толькі калі з вачэй зніклі вострыя дахі і муры праклятага горада, Алесь спешыўся, акуратна апусціў на зямлю сваю спадарожніцу. Пранціш адвярнуўся, каб не бачыць агіднай сцэны развітання: былы менскі суддзя нат за тысячу дукатаў не згадзіўся б гладзіць і абдымаць такую каралеву. Тая, здаецца, нават слязу пусціла з мутна-блакітнага вока.

Калі Вырвіч азірнуўся, мімаволі сплюнуў. І да канца жыцця будзе намагацца забыцца на відовішча: пацукі ўзвалілі на спіны сваю каралеву і паімчалі...

— Куды яны?

Алесь выцер рукавом лоб.

— Не ведаю дакладна… Гэта ж як пошасць… Хацеў кудысь адправіць — не прыдумаў. Відаць, вернуцца да герцага. Там ежа, там іхнія хаткі… Вось толькі слухацца яго, як раней, яны наўрад ці будуць.

Так, у зграі законы жорсткія: правадыр, якога перамаглі, назаўжды страчвае ўладу.

Між тым Бутрым кінуўся да Алеся, памацаў даланёй лоб:

— Як сябе адчуваеш? Ліхаманка ёсць? Прасвятая Барагодзіца, заступіся… Пакажы руку…

Доктар мазаў нечым смярдзючым і жоўтым руку сына і ціха шаптаў малітву святому Панцеляймону — дзякуй богу, і валізку, і іншыя рэчы знайшлі там жа, дзе і сваіх коней, рудога, гнядога ды варанога, а менавіта ў стайні герцагскага палаца. Ніхто, зразумела, не перашкаджаў, на чале пацучынага войска можна было хоць увесь палац вынесці.

Пранціш асабліва радаваўся, што ацалелі падарункі ў кайстры пры сядле: венецыянская сукенка для Дамінікі і Арлекін з парцалянавай галавой для Яначкі. Арлекін быў трохі падобны да старэйшага Лёдніка. Прынамсі, носам.

Алесь цярпліва зносіў маніпуляцыі, нясмела ўсміхнуўся:

— І ты не будзеш мяне лаяць за тое, што я ўжыў… асаблівыя ўменні?

Чорны Доктар прытуліў да сябе сына:

— Мы — тыя, хто мы ёсць, што ж за гэта лаяць… Ты нас усіх выратаваў. — Бутрым цяжка ўздыхнуў. — Проста і табе давядзецца ўсё жыццё змагацца з цёмным бокам сваёй існасці. Будзем маліцца Госпаду і старацца выбіраць шляхі не тыя, што лягчэй, а тыя, што вядуць да ратунку душы.

Падумаў і дадаў удавана весела:

— Вось ужо не ведаў, што мой сын зробіцца Пацучыным Каралём.

Алесь незадаволена скрывіўся. А доктар павярнуўся да Пранціша і хутка прагаварыў:

— Трэба будзе адшукаць якое адасобленае жытло.

Сапраўды, воспа… Невядома чым абернецца ўкус Жалезнага Пацука. Нездарма Чорны Доктар ледзь хавае жах.

Вырвіч удыхнуў марознае паветра, у якім адкульсьці з’явіўся ледзь заўважны горкі прысмак дыму. Зусім як на роднай Беларусі. Да якой яшчэ ехаць і ехаць…

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

## Як Вырвіч з Лёднікамі ў Татрах гасцявалі

На гары Брокен часам можна пабачыць вялізную цёмную постаць з вясёлкай вакол галавы. Гару лічаць прытулкам ведзьмакоў.

Праўда, насамрэч падарожнікі бачылі той д'ябльскі прывід толькі з пэўнага месца ў гарах, і было гэта ўсяго толькі іх уласным ценем, адкінутым на аблокі.

Прынамсі, так Баўтрамей Лёднік тлумачыў, калі яны пачулі расповед спалоханага аўстрыяка ў нейкай прыдарожнай карчомцы. Вусы апавядальніка колеру саломы, з расінкамі піва варушыліся амаль як пацучыныя, і падслепаватыя вочы былі чырвоныя.

Добра, што сюды, па засыпанай снегам горнай сцяжынцы, заціснутай між сосnaў, быццам белую нітку вецер заблытаў у сухім быльнягу, пацукі дакладна не дабяруцца. Хіба што ўпарты чалавек можа дапяць у гэтую хатку, за якую ледзь аблокі не чапляюцца. Не дарэмна Бутрым прыспешваў — ад'ехацца ад Норнберга як мага далей, пакуль Алеся не зваліла хвароба. Пранціш дык ужо думаў — абышлося, не захварэе… За два тыдні, што хлапец пратрымаўся, дабраліся ажно ў Каралеўства Венгерскае, да Славакіі, у Татры. Мянялі коней, наймалі экіпажы за радзівілаўскае золата. Дзякуй богу, снег лёг — а на санях самая лепшая дарога. У Чэхію совацца нельга, кажуць, там яшчэ сяляне не скончылі бунтавацца, вайна суцэльная, не адны, дык другія прыб'юць. А ў славакаў — амаль як дома, нават мова да беларускай падобная, і твары — як у Дзярэчыне альбо Валожыне. І кумпякі ў карчомцы гэткія ж на смак.

Праўда, адукаваныя людцы, зусім як у Беларусі, каб паказаць, што не з мужыкоў, намагаюцца на іншай мове гаварыць — па-чэшску ці нямецку. А мужыкі гэтак жа гаруюць, як беларускія, і кумпякі бачаць на сваім стале рэдка.

Застацца ў карчомцы ці здымным доме, калі малодшаму Лёдніку ўсё-ткі зблажэла, пабаяліся — даведаюцца, што ў аднаго з чужынцаў воспа, мірам не скончыцца. Добра, калі проста выганяць разам з хворым… А могуць і забіць як-небудзь акрутна, з рытуалам, каб пошасць не пачалася.

Вось Пранціш і парупіўся, знайшоў хацінку ў гарах, дзе ўлетку, мабыць, пастухі жывуць, а ў халады якія кантрабандысты. Бярвенні ў сценах здаровыя, печка спраўная… Дроваў — да анёльскіх сурмаў хопіць, і на двары, і ў сенцах складзеныя.

Вырвіч так высока, у гарах дык не жыў ні разу. Хоць куды бліжэй да падножжа, чым да вяршынь — вунь яны, далёка-далёка ўверсе, беллю слепяць. Але ўсё роўна напачатку аж трохі вусцішна было. Здавалася, цябе абступілі пракаветныя волаты, і вось-вось скінуць, як парушынку, наліплую на рукаў. Прыпасы сюды адмысловыя людзі дастаўляюць, носічы называюцца. Вось адзін з іх, Юрай, цягнецца зараз па белай сцежцы, падобны здалёк да мураша. Узімку, калі пастухі спускаюцца з гор, носічам працы мала. Таму і наняўся той мужык ахвотна да падазроных пастаяльцаў валакацца, нават па снезе і ветры. Застаецца спадзявацца, што не шпег.

Бутрым стаяў побач, ля акна, і праз слюдзяное цьмянае шкельца пільна ўглядаўся ў чорную кропку, якая ўпарта рухалася ўверх, у іхні прытулак. Вырвіч скасавурыўся на былога слугу. А той змяніўся да крыўднага мала за ўсе гэтыя гады. Драпежны нос, чорныя патлы звісаюць, хіба пад вачыма цёмныя кругі… Ну так, гэтыя дні, як Алесь зваліўся, Пранціш бачыў доктара ці за прыгатаваннем лекаў, ці ля ложка сына, за малітвай. Ці спаў ён калі ўвогуле?

Дый не спрыяў настрою той халодны ветрык, што прабег між старымі сябрамі. Пранціш дасюль не мог вырашыць, як ставіцца да ўчынку Бутрыма. Здаецца, і з лепшых меркаванняў той былому гаспадару саслабленую заразу ў кроў кінуў… Ад пакутлівай смерці засцярог. Але — вось так, не спытаўшы, не прызнаўшыся… Чаму ж сына свайго гэтак жа не прышчапіў ад воспы?

— Я збіраўся і Алесю зрабіць варыяляцыю… Калі-небудзь... — ціха прагаварыў Бутрым, нібы пачуў думкі Пранціша. — Не мог наважыцца. З табою вось… Змог.

Чорны Доктар пазбягаў глядзець на Вырвіча.

— Я разумею тваё абурэнне…

Трэба ж, амаль што просьба аб прабачэнні ад Лёдніка.

— Тады, у войску, я не вагаўся. Як не вагаюся падчас любых аперацый. Трэба — адпілоўваеш нагу. Трэба — трахеатамію робіш… Гэта ж неабходнасць, а не эксперыменты дзеля цікавасці. Памятаеш, у Францыі я адмовіўся рабіць аперацыі на мозгу?

Пранціш хмыкнуў… Яшчэ б не памятаць. Тады доктара завабіла Таварыства прагрэсіўнай медыцыны, дзе ў сутарэннях прабівалі галовы жывым людзям, каб у мазгах пакорпацца…

— Але дзе мяжа паміж калечаннем — і прымусовым лячэннем? — Лёднік правёў доўгімі пальцамі па шурпатай шэрай сцяне. — Ведаеш, пасля таго, як пабываў у горадзе Пацучынага Караля… Я задумаўся. Ён жа, фон Рутгер гэты няшчасны, меў рацыю. Мы з ім сапраўды робім адну справу. Я марыў, каб усіх людзей прышчапляць ад страшных хваробаў. Хочуць не хочуць… Яшчэ б мыцца ўсіх прымушаць рэгулярна, насуперак забабонам. Пакоі праветрываць. Здаралася, я ў Вільні са злосці ў дамах пацыентаў шыбы разбіваў — такую задуху ўтваралі, абы холаду не напусціць, дровы зберагчы, што аж млелі з дзецьмі разам. А каб лягчэй дыхалася — пахучыя зёлкі паляць. І штось тлумачыць бескарысна. Так, у фон Рутгера рэчыва для варыяляцыі недасканалае, згубнае. А калі б удасканаліць? Каб паміралі не палова пацыентаў, а адзін са ста, ці тысячы? Той адзін, што памрэ, будзе на сумленні доктара, таму што той прышчапіў яму хваробу гвалтам?

— Зразумела… — амаль злосна буркатнуў Пранціш. Бутрым уздыхнуў.

— А калі ўсё рабіць паводле згоды пацыентаў, і палова з іх ці болей пачне адмаўляцца ад прышчэпак… І гэтыя, непрышчэпленыя, памруць… Яны — на чыім сумленні, пан суддзя менскі? Зноў — таго ж доктара? Які не прымусіў, не настаяў на сваім?

Ну зноў філасофію развёў… Вырвіч раздражнёна шукаў разумных слоў. Але Лёднік сам з’ясаваў:

— Няма адзіна правільнага адказу, Вырвіч. Гэта табе наш сябар Саламон Маймон добра патлумачыў бы… Пра непаўнату свядомасці і мяжы спазнання, да якой можна набліжацца вечна, і ніколі не наблізіцца.

За спінай пачуўся стогн, і Лёднік кінуўся да ложка, накрытага аўчынамі.

— Ты як, сынок?

Алесь, аднак, не адказаў, а знайшоў вачыма Пранціша:

— Пан Вырвіч, тут ёсць люстэрка?

Пранціш не стаў сыпаць жарцікамі. Ён разумеў, чаму Аляксандр, перадольваючы няёмкасць, звярнуўся да яго з такой, здавалася б, дзіўнай і «нямужнай» просьбай. Колькі разоў даводзілася бачыць, што воспа можа зрабіць з аблíччам чалавека. Не твар, бывае — а ўзаранае поле. А хлапцу яшчэ жыць… За каханне змагацца…

Люстэрка ў дамку мелася — нейкім дзівам. У жоўтай масянжовай апраўе, з доўгай ручкай, упрыгожанай выгравіраванымі кветкамі ўюнка. Можа,

пакінула дзяўчына, што прыбягала на рамантычнае спатканне з пастухом — ці кантрабандыстам. За востры край аправы зачапіўся доўгі белы волас, які Вырвіч паспешліва вышмаргнуў.

Алесь паварочваў шкельца то так, то гэтак, нарэшце выдыхнуў з палёгкай… Можа, дзякуючы майстэрству старэйшага Лёдніка, можа, таму, што ўсё-ткі гэта была саслабленая зараза — воспіны ўтварыліся толькі ля левай скроні. Ужо і корачкі прысохлі. Адваляцца — не прыкмеціш.

— Можна смела ехаць за акіян да нявесты, — падбадзёрыў Вырвіч.

Абодва Лёднікі нахмурыліся. Матрыманіяльныя планы малой Агалінскай Алесь успрымаў ледзь не з жахам, а ягоны бацька — з прыкрасцю. Досыць Агалінскія ды Багінскія з іхняй сям'і паздзекаваліся.

Хаця рудую князёўну, няхай услых і не прызнаваліся, успаміналі з сумам… Як сонейка. Шкадлівае такое, пякучае сонейка, але ж святлей ад яго было! У цяжкую хвілю свісне над вухам, ды ўсміхнецца шчарбата…

Між тым у дзверы пастукалі. Дабраўся носіч Юрай…

Ударлявы славак у аб'ёмістым кажуху, са светлымі шляхецкімі вусамі і чыстымі блакітнымі вачыма ў сетцы дробных зморшчынак на загарэлым абветраным твары няспешна выкладаў на стол у сенцах прыпасы. Носіча раней яны ў хату не пушчалі: і каб не заразіўся, і каб не пабачыў, што на ложку — хворы. Але мог і здагадацца: вось і зараз дастае з вялізнай заплечнай скуранoй сумкі на драўляных распорках замоўленыя Бутрымам сухія зёлкі ды аптэкарскія рэчывы.

— Як там у вас унізе, спадар Юрай? — весела ўсміхнуўся Вырвіч. — Ці ўсё ціха, ці не замяло паселішча?

Пранціш размаўляў з носічам на беларускай мове — той амаль усё разумеў, як і Вырвіч лаканічныя славацкія фразы.

Вельмі лаканічныя.

Каб Юрай жыў у антычнасці, неадменна быў бы са спартанцаў.

— Глядалі дэзерціра.

Ага, значыць, шукаюць дэзерціраў.

— Хто?

— Ваяцы.

Юрай беражліва разгортваў анучу, у якой бялеў сыр — «ашцепкі», з авечага малака. Смакоцце…

— Ваяцы? Жаўнеры, значыць… Чые? Што робяць? Схапілі каго?

Блакітныя вочы носіча гляделі ўсё гэтак жа адсланёна. У тых вачах былі неба, горы, лес, смерць на кожнай крутой сцежцы, снег, камяні… Што ім — да людскіх звадаў?

— Кралёўскія. Задржаніе. Два завесілі.

Каб яму за словы і па цэхіну плацілі, не разбагацеў бы. Карціна вымалёўвалася страшная. Каралеўскія жаўнеры арыштоўваюць усіх, а двух небарак павесілі.

Пранціш трывожна зыркнуў на збялелага Бутрыма. Трэба было яшчэ далей ад'ехацца… Гэтыя землі зусім нядаўна належалі Польшчы — Венгрыя за нявыплату крэдытаў на вайну яшчэ тры стагоддзі таму аддала іх палякам. Але як Польшу падзялілі, дык і Татры славацкія адышлі Венгрыі, то бок — сталіся часткай Аўстра-Венгерскай імперыі. А там зараз самая вайна, навабранцаў трэба, гарматнае мяса. А вярбоўшчыкі ніколі не саромяцца. Вунь колькі год таму ў Вялікім Княстве Літоўскім быў працэс супраць полацкага шляхцюка Жабы, які расейскіх уцекачоў прадаваў у прускае войска…

— Сюды дабяруцца?

Носіч няспешна закінуў апусцелую сумку за плечы, надзеў вастраверхую лямцавую шапку. З-пад вората кажуха паказваўся вышыты яркімі кветкамі каўнер кашулі. Значыць, ёсць каму вышываць і чакаць гэтага дзівака з-пад аблокаў.

— Могуць.

Перахрысціўся, прыслухаўся.

— Не пайдзе ваяцы. Лавіна.

— Што яшчэ за лавіна?

Носіч шматзначна тыцнуў пальцам уверх, дзе над хацінкай навісалі вершаліны гор, кінуў сваё «З Богам!» і пайшоў роўнай упэўненай хадой туды, дзе, як на далані, маленькія акуратныя дамкі. Аж хочацца паперастаўляць іх, далікатна беручы пальцамі за чырвоныя чарапічныя дахі… Хіба можна паверыць, што там зараз кагосьці забіваюць, а хтось крычыць-заходзіцца плачам?

— Што значыць «лавіна», Бутрым? — трывожна перапытаў Пранціш.

— Лепш бы нам ніколі таго не даведацца, Вырвіч…

Лёднік акуратна раскладаў па збаночках зёлкі, але тонкія фанабэрыстыя вусны ягоныя былі трывожна падціснуты.

Потым абодва выйшлі на двор. Доўга ўглядаліся ў неба, такое сіняе, быццам хтось валошкамі яго забрукаваў. Белыя вершаліны гор зіхацелі над хвоямі, як дзівосныя палацы. Ціха… Ад цішыні здаецца, што марознае паветра пазвоньвае. Пахне дымам, што выцягнуўся над дахам іхняга прытулку — быццам вялізная белая лісіца спрабавала залезці праз трубу, ды засела, толькі доўгі хвост угары матляецца.

— Дом вытрывае, калі што, — прасіпеў сабе пад нос Лёднік. — Не першы раз, думаю… Дый не сталі б будаваць у небяспечным месцы.

Пранціш яшчэ раз агледзеў такое спакойнае наваколле. Гэтак непрыемна шчыміла пад лыжачкай перад тым, як іх атрад пад Слонімам нечакана атакаваў раз’езд казакаў. Лёднік перахрысціўся:

— Пайшлі… Маліцца будзем.

Вырвіч пастараўся выкінуць невядомую небяспеку з галавы. Тым больш Алесь ачуньваў, можна было за кубкам гарачай яблычна-хваёвай гарбаты абмеркаваць планы.

Бутрым штосьці падлічваў, крэмзаючы ў кішэнным каляндарыку.

— Мы едзем праз Кракаў. У Ягелонскім універсітэце мяне павінна чакаць пасланне. А калі пашанцуе, і выберамся адсюль хаця б праз тыдзень — дык і з Жанам перастрэнемся.

Вырвіч нахмурыўся: што за навіны? Аказваецца, у Чорнага Доктара была дамоўленасць з сябрам і паплечнікам па гарадзенскай медычнай акадэміі Жанам Жыліберам — паспеў з ім спісацца да ад’езду ў Італію — каб падтрымліваць сувязь з Саламеяй. Француз збіраўся з канца кастрычніка да Калядаў быць у Кракаўскім універсітэце — там медычная кафедра, толькі зусім нядошлая, з адным прафесарам. Яго вялікасць Станіслаў Панятоўскі выказаў жаданне, каб і ў знакамітым Ягелонскім універсітэце медычнае навучанне падняць, так што Жыліберу загадана адправіцца на кансультацыю.

— Трэба пастарацца сустрэцца. Жан — чалавек суровы, але сумленны, справядлівасць любіць, — разважаў Баўтрамей, нервова ходзячы па пакоі.

— Яна жывая, праўда? — голас Алеся гучаў ціха і хрыпла.

— Гасподзь абароніць яе, сынок.

Абодвум не трэба было называць імя той, пра каго перажывалі. Лёднік пацінуў пляча сына і здушыў уздых. Вось жа далася вучоная панна ў знакі ім усім… Пранціш аніяк не мог даўмецца, чаму абодва да той штыкеціны пры-

сохлі? Ну, Лёдніка, застаецца спадзявацца, адметныя разумовыя здольнасці панны цікавяць. А Алесю — нашто старэйшая ды вышэйшая?

Хаця вунь, паненка Ізабэла Флемінг з Чартарыйскіх, дык увогуле воспай у пятнаццаць гадоў перахварэла. Твар у ямінах, адно вока выцекла. На шкляное замянілі, ды яшчэ і кульгавая. А шустрая, як матавіла! І першай прыгажуняй пры каралеўскім двары лічыцца. Мужу маладому з Панятоўскім здраджвае, да былога расейскага пасла Рапніна ў ложак залезла і тым усіх Чартарыйскіх ад няміласці, а то і высылкі ў Сібір ўратавала. Аднавокая Афрадыта!

Раптам увушшу пачало закладаць. Нібыта паветра згусцілася. І падлога пад нагамі — не загайдалася, затрымцела, бы нацягнутая струна.

Увогуле, здаецца, усё затрымцела.

Пранціш пракаўтнуў сліну, каб адклала вушы, і запытальна глянуў на Чорнага Доктара: ці ён што заўважыў?

Заўважыў. Хуценька збегаў да дзвярэй, праверыў, ці добра зачыненыя, вярнуўся, укленчыў ля ложка сына, вусны заварушыліся ў словах малітвы. Алесь прыўзняўся:

— Тата, што адбываецца?

І тут трымценне перарасло ў шум… Цяпер Вырвіч мог уявіць пакуты цеста, якое раскатваюць на тонкі блінец. Гэтак жа накрыла нечым цяжкім і бязлітасным людзей у дамку на схіле чужой гары. Пранціш мог параўнаць тое, што адбывалася, хіба са штормам, у які яны трапілі шмат гадоў таму на шхуне «Святая Брыгіта» па дарозе ў Англельшчыну. Казюркі ў віры…

Напачатку асобныя цяжкія ўдары па даху, быццам волаты забаўляліся, шпурляючы каменне. Затым — трэск за акном… Потым увогуле нельга было нічога разабраць, бо стала цёмна, а ўвесь іхні прытулак скалануўся.

Шум паступова сціхаў, вось і зусім знік. І ад цішы зазвінела ўвушшу.

— Гэта і была лавіна? — аблізнуў перасохлыя вусны Вырвіч, які сам не заўважыў, як апынуўся на падлозе.

— Яна… — хрыпла адказаў доктар. — Цяпер трэба праверыць, наколькі ўсё кепска.

Таму што ў хаце па-ранейшаму і ўласны палец не разгледзіш. Акно нібыта знікла. Толькі тонкі чырвоны пасак — шчыліна ў дзверцы печкі, не дае ўявіць сябе ў пекле… А можа, якраз наадварот.

Снег… Іх пахавала пад снегам! Пранціш ледзь здушыў паніку. Урэшце, ён у падземным возеры пад Туравам пабываў у жалезным зміі, падводным караблі. Толькі адна здрадлівая думка — не ўдасца пабачыць Дамініку ў венецыянскай карункавай сукенцы, што ляжыць непадалёк у куфры…

— Мы памром… Гэта ўсё з-за мяне… — здушана прамовіў Алесь.

— Не кажы глупства, сын, ты ў сваёй хваробе не вінаваты.

Бутрым, мяркуючы па гуках, мацаў шыбу.

— Пан-бацька, ты мусіш уведаць, перад тым, як мы загінем. Той пярсцёнак з надпісам «Ад Лёдніка»… Гэта не падробка. Гэта я падарыў панне Брастоўскай.

Голас малодшага Лёдніка ў цемры гучаў зусім глуха.

— Цішком падкінуў у дзень яе анёла, як быў на вакацыях. А яна падумала, гэта ад цябе. Таму берагла ды на цябе пазірала. Я не прызнаваўся. І Брастоўскаму не прызнаўся. Я ўзненавідзеў цябе. Хацеў, каб цябе пакаралі… А цяпер мы памром — і на мне гэтая віна…

Вось табе на! А Вырвіч, шчыра кажучы, увесь час меркаваў, што доктар зрабіў прэзент улюбёнай асістэнтцы. Падумаеш — срэбнае ўпрыгожванне, «mea pulchra domina». Ва ўсіх свае слабасці.

— Ціха, ціха, сыне… — голас доктар трохі дрыжэў. — Я даўно здагадаўся. Але на краі, у цемры можна шмат нагаварыць, пра што будзеш пасля шкадаваць, калі выберамся.

Няўжо выберуцца? Хаця цемра за акном, здаецца, не была беспрасветнай… Так, абрысы прадметаў можна распазнаць. Пранціш схамянуўся, адагнаў нявартую шляхціца разгубленасць, і далучыўся да Бутрыма, які абследаваў дом. Дзверы не адчыняліся, як ні пхалі ўдвох.

— Заваліла… — прабуркатаў Чорны Доктар.

Найбольш цешыла, што агонь у печцы не згас, і дым не пайшоў у хату.

Парадавала іншае акенца, у сенцах, якое знаходзілася на процілеглым баку дома. Праз снег прабівалася святло, асабліва ўверсе, нібыта пад канец лавіны нацярушылася залатых сняжынак. Пакуль Лёднік думаў ды вылічваў, Пранціш з усяе шляхецкай моцы тузануў раму… У дом насыпаўся сумёт, але паказалася неба! Няхай шызаватае, у аблоках, быццам у брудных павязках — Вырвіч нічога больш прыўкраснага ў жыцці не бачыў!

Бутрым з палёгкай патлумачыў, што лавіна відавочна прайшла бокам. Праз акенца паўзверх снегу можна было разгледзець цёмныя камлі соснаў, суровых вояў, якія ў чарговы раз выстаялі, вытрывалі сцюдзёнае нашэсце.

Але вылезці аніяк не выпадала: акенца было не больш, чым у дзве далані, дый засыпанае амаль даверху. Застаецца чакаць… І далечваць Алеся. Які так і пнуўся ўстаць на ногі. І нават, гледзячы ў падлогу, папрасіў бацьку навучыць адмысловай гімнастыцы, якая спрыяе аздараўленню. У вочы Бутрыму ён цяпер намагаўся не глядзець.

Але аднойчы — давялося.

— З днём народзінаў, сыне...

Доктар працягваў Алесю нейкую кніжку.

І праўда — хлапцу ўжо сямнаццаць гадоў! Вырвіч мімаволі пачуўся такім… старым.

Алесь разгарнуў падарунак.

— «Малая падарожная кніжыца»… З друкарні Францішка Скарыны… Пан-бацька, гэта ж і ёсць таксама… шафар?

— Так, Алесь, голас Божы… Знайшоў у Венецыі, у кніжнай крамцы. Нашага палачаніна друк. Хай хоць гэта табе — на памяць… Вельмі прашу — хай гэтая кніга заўсёды з табой будзе. Абяцаеш? Там радзівілаўскія бразготкі ў куфры, выберы сабе пярсцёнак які ці ланцуг, я ў гэтым не кемлю. Аграніць камень магу, змусіць змяніць колер — магу, насалоды ад знізаных пярсцёнкамі пальцаў — зразумець не магу.

— Дзякуй, пан-бацька.

Алесь пагладзіў патрэсканую скуру томіка ін-кварта, старонкі якога пакарабаціліся так, быццам іх гвалтам спынілі ў час уцёкаў з-пад вокладкі. Твар хлапца ў водсвеце агню, які сярдзіта варушыўся ў печцы, здаваўся старэйшым, і таму быў надзвычай падобны да бацькавага. Ну хіба нос трохі менш дзюбаты, а вочы не такія суворыя.

— Ты дастаткова падарыў мне…

Алесь уздыхнуў перарывіста, быццам страшэнна хваляваўся.

— Кажуць, малое дзіця нічога не памятае. А я вось… Памятаю, як нехта носіць мяне на плячах, вакол — бліскучыя трубы… У самую вялікую мне даюць паглядзець. У чарнаце ззяюць кропкі… Нехта кажа — гэта зоры. А я пытаюся, ці нельга іх дастаць. Потым памятаю, як — тану. Халодная вада, смярдзючая, цяжкая, заліваецца ў рот, у вушы… І страшна крычыць нехта побач — не чалавек… Коні… І мне так шкада — не сябе, а гэтых коней...

Потым памятаю — мяне нясе на руках жанчына ў белым каптуры, адпускае, і я бягу да высокага чорнага чалавека, аголенага па пояс. Ён хапае мяне на рукі, прыціскае да сябе. Мне так добра… Спакойна… У мужчыны на плячах кроў. А ён гаворыць — «Называй мяне тата».

Трэба ж... Так і было. Лёднік, прафесар Віленскай акадэміі, таемна бачыўся з малым сынам, насіў яго на астранамічную вежу. Потым Алесь ледзь не патануў у карэце, якая трапіла ў дрыгву, яго выратаваў дзядзька, пан Агалінскі… І вырашыў разам з жонкай — абвесціць, што дзіця загінула, і аддаць сапраўднаму бацьку. Праўда, перад гэтым Лёднік за свой грэх атрымаў ад пана Агалінскага пугай па спіне. Што ж, па законе яго маглі і смерцю пакараць.

— Ты многа мне даў... — паўтарыў Алесь. Чорны Доктар уздыхнуў.

— Толькі шчаслівага кахання я падарыць табе не магу, сыне. Прабач. За яго кожны плаціць сам. Часам занадта дорага. А часам і дарэмна.

Вырвіч адчуў, што трэба ўмяшацца ў сентыментальную размову.

— Аднойчы я рыхтаваўся аддаць жыццё за тое, каб мая каханая была шчаслівая. Не са мною. З іншым, каго выбрала. Горкі мёд гэта, Алесь. Але бедны той, хто яго не прыгубіў.

Малодшы Лёднік, зразумеўшы намёк, панурыўся.

А Вырвіч з сумнай усмешкай успамінаў пачутую ў карчме мясцовую казку… Пра ведзьму, якую адважны славацкі каваль перакаваў на жалезную свінню, а тады абляцеў на ёй цэлы свет. У Пранціша пад бокам, на пагляд аўтараў такіх казак, дакладна меліся ажно два ведзьмакі, стары і малады, якія маглі на адлегласці жалезныя прадметы рухаць і пацукамі кіраваць. Вось толькі перанесці ні сябе, ні паплечніка нікуды з замеценай снегам хаты не маглі…

Шорг… Шорг… Стук…

За дзвярыма нехта важдаўся. Мядзведзь? Вупыр? Каралеўскія жаўнеры?

На крыкі адказам было маўчанне і размеранае шорганне.

Калі ў дзверы нарэшце выразна пагрукалі, Пранціш па знаку Бутрыма вызваліў клямку.

Адчыняецца! У госця ўтаропіліся чорныя зрэнкі трох пісталетаў.

Праўда, адразу ж рулі апусціліся. Носіч Юрай, узброены рыдлёўкай, пазіраў з парога ўсё гэтак жа празрыста-адсланёна, толькі расчырванеўся больш, чым звычайна, ды снежныя камякі павіслі на светлых вусах і поўсці кажуха.

— Добры дэн! Агой!

За спінай Юрая бачыліся іншыя постаці ў кажухах і шапках, з фізіяноміямі не самымі прыветнымі… Ну так, адзін носіч за якую гадзіну не раскідаў бы такую гурбу…

А хутка высветлілася і падстава дабрачыннасці. Унізе лютавалі аўстрыйска-венгерскія войскі. Некалькім месцічам спатрэбілася тэрмінова схавацца — а дзе лепей, чым у гарах? Гэтак жа праўдзівы беларус як што, бяжыць у пушчу ці шукае выспу на балоце.

Што ж, хоць Алесь яшчэ слабы — трэба выпраўляцца ў Кракаў, вызваляць хованку для законных уладальнікаў.

На развітанне носіч Юрай пакруціў пальцам перад носам малодшага Лёдніка:

— Бацьку свайго слухай! Дзевак шмат, а бацька — адзін!

Алесь насупіўся. З чаго б такія павучанні?

Шчасце, што гасцям прадалі павозку пад скураным навесам, на палазах, і вярнулі іх коней, удала прыхаваных месцічамі ад вайскоўцаў. Вайна — як саранча, забірае не толькі людзей.

А яшчэ ў кішэнях Пранціша прыемна булькатала біклажка, напоўненая самай лепшай баравічкай, настойкай ядлоўцавай.

У Кракаве тая біклажка была ўжо абуральна пустой. А напоўніць не выпадала: Лёднік гнаў сваю банду, мінаючы ўсе карчомкі, да камяніцы ля самых Лазенак, дзе кватараваў вучоны прафесар Жан Жылібер. Надта баяўся размінуцца. Дый дзень зрабіўся кароткі, як заечы хвост.

Вырвіч пакорліва цярпеў Бутрымавы загады, бо цудоўна памятаў сваё няслаўе, спазнанае ў Кракаве, калі прайграў сябра ў карты. Таму намагаўся не прыліпаць тужлівым поглядам да карчомак, якіх тут было ледзь не ў кожным доме. Не хапала яшчэ нарвацца на Міхаську Міцкевіча, ён жа кляты граф Лудус. З паскудніка станецца забойцаў падаслаць ці яшчэ якую гадасць утварыць.

У небе разліваўся атрамант. Сняжынкі, машката забыцця, драпежна кружлялі, прымерваючыся, чый след сцерці, зацярушыць. Быццам бы не ўсе сляды і без іх старанняў сцяруцца і зацярушацца рана ці позна… Да двухпавярховай камяніцы, што тулілася падазрона наводдаль людных вуліц і пляцаў, і кволай сцяжынкі па снезе не праклалі. Толькі таполі па-жабрацку цягнулі да вокнаў худое голле. Але ці там жыве прафесар Жылібер, можна было не пытацца. Яшчэ здаля падарожныя пабачылі слуп чорнага дыму, які не бывае ад звычайных дроваў, і пачулі жаласны звон пабітага шкла.

Дзіва, але ніхто ў наваколлі не праяўляў цікавасці да шуму-дыму, толькі самотны сабака нервова і тонка брахаў, нібыта не злуючыся, а жалячыся: «Ну колькі можна, панове?» Нейкі мужык у шапцы-аблавушцы як ішоў сабе замеценай вулкай, так і ішоў, нат не азірнуўся на злавесны будынак, у якім амаль не заставалася цэлых вокнаў. Пабітыя былі застаўленыя знутры дошкамі, ад чаго дом нагадваў шляхцюка, што прайграў у карты сваю багатую вопратку, прадмет за прадметам, тут жа няўважна замяняючы іх чужымі лахманамі.

Дым струменіў з акна на першым паверсе, нібы зняволены стыхійны дух імкнуўся вызваліцца.

Высокі хударлявы прыслужнік з абліччам ваяра моўчкі правёў гасцей. У зале бязладзіца: абадраныя тканыя залацістыя шпалеры, рэшткі дыхтоўнай мэблі і адзенне, развешанае проста на цвіках, убітых у сцяну. І кнігі, што грувасціліся папяровымі гарамі.

— Вечар добры, Жан. Доследамі з салетрай забаўляешся?

Лёднік прывітаўся без асаблівых цырымоній, якія рэспубліканец Жылібер не любіў.

Француз, усё такі ж рухавы і ўпарты, ніжэй за Лёдніка на галаву, спакойна кіўнуў, нібы доктар толькі ўчора вечарам з ім каву піў. Рукавы кашулі, калісьці белай, а цяпер у пісягах сажы, падкасаныя, і самі рукі ў сажы.

— Мінераламі заняўся… У зямлі тут багаццяў незлічона, а як іх выкарыстоўваць — ніхто не падазрае.

Алесь выпадкова закрануў нагой адзін з кніжных стосаў і ўтварыў шаргатлівую лавіну. Томік у пацёртай вокладцы даверліва расхінуў жоўтыя старонкі, падобна вялізнаму матылю. Дзівосныя кветкі пераплята224ліся на паперы. Літары, вострыя, як дахі гатычных храмаў, утваралі незразумелыя кароткія словы: «гра», «гро», «тра», «тро»… Нагадвала таемную замову, уцямную толькі пасвечаным.

Алесь зірнуў на вокладку: «Буквар».

— У Еўі, пад Вільняй, друкавана, праваслаўнымі нашымі братчыкамі, — ацаніў знаходку сына Баўтрамей Лёднік. — Да гэтай кніжыцы ў свеце нават слова «буквар» не існавала. Я па такой чытаць вучыўся… Адкуль яна ў цябе, Жан?

— Ад агню ўратаваў, разам з іншымі цікавосткамі, — Жылібер агледзеў парушаныя шэрагі сваёй бібліятэкі, як вайскаводца ацалелых жаўнераў. — Ледзь пераканаў пільных калегаў, што гэта не блюзнерскія выданні.

Што ж, у любую эпоху заўсёды знойдзецца той, хто друкуе кнігі, той, хто іх паліць, і той, хто іх ратуе.

Дзівосныя кветкі на старонках старога буквара квітнелі ад паважлівых позіркаў чытачоў.

— І як цябе яшчэ не выселілі пасля такой кананады? — Бутрым прыстроіў капялюх на адзін з цвікоў, убітых у сцяну з рэшткамі шпалераў.

— Удалося для доследаў выгодны дом зняць, — прабурчэў Жан, выціраючы спаласнутыя ў мядзянай місе рукі простым ільняным рушніком. — Былыя жыхары памерлі ад воспы, цяперашнія ўладальнікі рады, што хоць хтось пагадзіўся жыць. Якраз добра ты прыехаў, Барталам'ю. Трэба пракансультавацца.

Сябры-паплечнікі нарэшце абняліся, і Жылібер дазволіў сабе выказаць радасць з нагоды прыезду калегі, на што ўжо страціў надзею.

— Пра цябе, Бартлам'ю, чуткі ходзяць проста неверагодныя, — гэта ўжо гутарылі за сціплай вячэрай — сыр, хлеб, салёныя гуркі, гарбата ў кубках ад розных сервізаў. — Большасць лічыць, што цябе павесілі за акрутнае забойства. Той-сёй сцвярджае, што ты збег за акіян, атруціўшы ахову. Ад адной мадам пры двары асабіста чуў версію, што ты — бессмяротны чорны маг, які харчуецца крывёй самых лепшых прыгажунь. Таму паўстаў з магілы і цяпер цэлішся на чарговую ахвяру. Мадам з усяе моцы намякала, што гэтая ахвяра — яна.

Пранціш хмыкнуў, хаця было зусім не весела. Бутрым па-ранейшаму — асуджаны злачынца.

Жылібер трывожна пакруціў галавою.

— Умудраешся ж ты ворагаў нажываць… Мне мае браты па ложы паведамлялі: ажно трое ўплывовых асобаў гатовыя табе горла перарэзаць, толькі аб'явішся ў іхніх уладаннях.

— А што Панятоўскі? — улез з пытаннем Пранціш. Жылібер нахмурыўся:

— Кароль сказаў толькі — «Ад такіх, як доктар Лёднік, стамляешся, быццам ад хады па балоце». Прыдворныя ільсціва пасмяяліся досціпу манарха. А што ён хацеў сказаць — ніхто не дапяў. Разумей, як хочаш. А я ўвогуле не разумею гэтага чалавека… Ягоную дзяржаву распалавінілі, вось — вось трон адбяруць. А ён то ў меланхолію ўпадае, замкнецца і чытае Шэкспіра ды Шэрыдана, то ў гульбу кідаецца — фаварыткі, феерверкі, балет… Тэрэза Радзівіл з пані Сапегай з Любамірскіх дыаднавокай Ізабэлай Флемінг наперабой за ўвагу манарха змагаюцца, з ягонага ложка іх хоць вытрасай, як клапоў. Баляванне падчас чумы. І ніякай спробы супраціву!

Жан заправіў за вуха цёмную пасму, што выбілася з хваста — француз парыкоў і пудры не прызнаваў, ламаў сябе толькі дзеля з'яўлення пры двары.

— Ад мадам Саламеі Лёднік тры лісты — адзін яна мне асабіста перадала, два прыслала ўжо ў Кракаў. І твой ліст ёй пераслаў адсюль…

Бутрым ускінуўся, нават не хаваючы хвалявання.

— Зараз прынясу яе пасланні…

Батанік выйшаў у іншы пакой, там нешта загрукала. Вярнуўся з невялікім куфэркам з залацістай драўніны.

— Давай так, прачытай гэтыя цыдулкі, я распавяду, што ведаю, зладзім кансіліум. Сядайце на банкеткі, кнігі можаце прыбраць з іх на падлогу.

Чорны Доктар, перш чым распакаваць першы канверт, запячатаны зялёным воскам, прыклаў яго да твару… Лёгкая мройнасць слізнула па суворых рысах…

Пранціш змушаны быў прызнаць, што пачуцці да Саламеі, не гледзячы ні на што, у доктара не пажоўклі.

А навіны былі — сарока не настракоча. Адзінае, што супакойвала — пра знікненне нявесты малога Штакельберга ні шоргату, ні віску. Падобна, Штакельбергі і не ведаюць пра гарбуз ад амерыканачкі.

Саламея высветліла, куды хадзіла Праксэда апошнія свае дні… На Бернардынскую, дзе новы палац Радзівілаў. Якраз тады там спынялася пані Тэрэза Радзівіл са Ржавускіх, ейная хросная маці.

Смурод патроху саступаў месца сцюдзёнаму вятрыску, які прасочваўся скрозь пабітыя шыбы.

— Пра ўдзел жонкі нясвіжскага ардыната ў знікненні маёй асістэнткі можна было б меркаваць, калі б Праксэду не аб'явілі мёртвай, — адарваўшыся ад ліста, прамовіў Бутрым.

— Ну так, Ржавускай жа трэба выдаць яе за брата старосты менскага, Якуба, каб таго прызналі дзеяздольным, — пагадзіўся Пранціш.

— Камарады, — нахмурыўся Жылібер, — малодшы брат Юзафа Радзівіла нядаўна абвянчаўся. Нявеста — са Ржавускіх, зусім юная, наколькі я ведаю. Нейкая пабочная лінія роду. Я чуў, як пан Антоній з каралём сердавалі, што кароне цяпер давядзецца вярнуць маладажону частку спадчынных земляў, дзе пан Антоній развярнуў нарыхтоўку лесу.

Па ўсім відаць, пані Тэрэза адшукала замену наравістай хросніцы.

— Хацеў бы я зірнуць на тое вяселле… — прабуркатаў былы суддзя менскі. — Той Якуб, кажуць, слоў не разумее, страшны, як рапуха…

— Вянчання не бачыў, яго ў Нясвіжы, у палацавай капліцы, зладзілі. Але ніякіх асаблівых чутак пра калецтва жаніха не было, — паціснуў плячыма Жылібер. — Людзі любяць перабольшваць чужыя недахопы.

Ну так, таго ж Юзафа Радзівіла, гарбатага старосту, ледзь не ў юрады запісвала менская шляхта… А потым пад цвёрдай рукой пана толькі пакрэхтвала: вочы не зацярусіш гарбуну, кемны. Мусіць, і брата ягонага абылгалі, лічачы неразумным вар'ятам.

Але ў другім лісце Саламеі прыводзіліся нечаканыя факты.

Да вышукаў далучыўся Давыд Ляйбовіч, які, падобна, ачуняў ад раны, а прыгодаў яму не хапіла. У абодвух вызнавальнікаў мелася дастаткова гаваркіх пацыентаў, каб сабраць звесткі. Па ўсім выходзіла, што панна Праксэда сваю апошнюю ноч у Гародні начавала ў доме хроснай. Нават праявіла сваё лекарскае майстэрства — ахмістрыні скулу на шчацэ лячыла. І з'ехала разам з Радзівіліхай. Чаму быў сведкам конюх, у жонкі якога Саламея неяк прымала роды. З'ехала паненка па сваёй волі. Можа, пані пашкадавала падапечную, якая не хацела выходзіць замуж за вар'ята, але не магла і заставацца ў чужой сям'і, дзе сэрца рвалася ад забароненага пачуцця? Вось і схавала дзеўку ў якім кляштары… А можа, проста не захацела дзяліцца з Міхалам Брастоўскім?

Бутрым нецярпліва разадраў трэці канверт.

І ледзь не выпусціў з рук, пачытаўшы.

Увішны Давыд такі напаў на след панны пасля Гародні. Тэрэза Радзівіл кіравалася адтуль у свой замак у Белым Камні, што каля Львова. У статусе сталіцы Каралеўства Галіцыі і Ладамерыі, новай Аўстрыйскай правінцыі, Львоў ператварыўся ў своеасаблівы Вавілон… І Ляйбовіч праехаўся разам са знаёмымі купцамі ў тыя краі… На шчасце, адна акалічнасць спрыяла вышу-

кам — доўгі рост панны Брастоўскай. Дзеўку вышынёй з літоўскую вярсту прыкмячалі ў прыдарожных корчмах, хай бы яна была і захутаная ў радно.

Дабраўшыся да гарадка Белы Камень, Давыд падлабуніўся са сваймі адмысловымі сродкамі для прыгажосці — мазямі, прыціраннямі, бялілами ды чырванілами — да адной панечкі, прыслугі пані Тэрэзы. Лішняга нават тая балбатлівая панечка пра сваю ўладарыню не прамовіла. Пані Тэрэза магла загадаць язык адрэзаць ды соллю рот засыпаць любой пакаёўцы. Нат шляхцянцы перапала б пасядзець у яме альбо пакаштаваць бізуноў. Сцвярджаюць, што і забойствы здараліся ў сутарэннях Белакамскага замка. Так што пра высокую вучоную дзеўку, якую пані Радзівілава з Літвы прывезла, панечка гаварыць адмовілася. Але сваім спалохам як бы пацвердзіла.

А вось што змусіла Баўтрамея ледзь не ўпусціць ліст і вылаяцца паслядоўна на лаціне, грэцкай, нямецкай, а можа, і на янохскай мовах… Саламея паведамляла, што больш не можа проста сядзець і чакаць. Нацярпелася ўжо, начакалася, не без стараннеяў сужонца. Удаве акрутнага забойцы і перaлюбніка зычлівыя суседзі зладзілі пекла. Вокны б'юць, браму дзёгцем мажуць. Чуткі самыя паскудныя ходзяць — пра тое, што пакуль муж з прыслугай спаў, ягоная жонка тую прыслугу са свету зжывала. У медычнай акадэміі, на аддзяленні павітух, дзе Саламея выкладала, пачаліся непрыемнасці. Рэнічаўна не распісвала, што менавіта ейная начальніца-француженка і студэнткі пачалі ёй учыняць, але можна было здагадацца — і ў акадэміі жонка доктара-забойцы не самая паважаная персона. Вярнуцца ў Полацак — трапіць у закладніцы да старосты Адама Брастоўскага, які чакае Чорнага Доктара з рогам святога Георгія. Таму Саламея адправіла малую Сафійку разам са слугой Хвелькам у Капанічы, да Пранцішавай сям'і. А сама рушыла з Давыдам у Львоў, дзе ў Ляйбовіча сваяк-аптэкар. Спадзявалася на цуд — што муж і сын атрымаюць гэты ліст… І паведамляла адрас, дзе будзе іх чакаць. Зразумела, расшукваючы Праксэду. Бо толькі жывая паненка Брастоўская можа апраўдаць іх сям'ю перад светам.

— Я не дапускаў, каб у акадэміі крыўдзілі тваю жонку, павер, Барталам'ю… — пацёр лоб з раннімі зморшчынамі Жылібер. — Вярнуся — разбяруся…

— Позна… — Лёднік змяў ліст у кулаку і хадзіў туды-сюды, як драпежны звер, чорны і худы. — Цяпер неадкладна трэба ў Львоў. Спадзяюся, з Саламеяй за гэты час нічога не здарылася кепскага… Іначай…

Іначай ён не даруе сабе — правільна дадумаў за Лёдніка Пранціш.

— У Лемберку ў нас ёсць браты… Ложа «Трох багінь», адгалінаванне нашай варшаўскай… — Жылібер кінуў востры позірк на гасцей. — Падрабязна распавесці не магу… Паколькі ты, Барталам'ю, увайсці ў наша брацтва чамусь баішся. Але ведаю, ёсць чалавек, які дакладна вам дапаможа, бо служыць у замку пані Тэрэзы Радзівіл. Яе дэспатызм даўно непакоіць адукаваных людзей Галіччыны. Людзі яе ўжо ўспрымаюць як нячыстую сілу ці пакаранне нябёснае. Ходзяць упартыя чуткі, што апантаная.

— Барані божа, ад пані Тэркі, казачага кажуха, саламянага капелюха, вярбовых дроваў… — прамармытаў Пранціш любімае прыслоўе капаніцкага машталера, дзецюка родам з Падолля.

— Таму нашы браты пастараліся, каб і ў яе атачэнні з'явіліся тыя, хто паспрабуе скіроўваць княгіню да спраў дабра… Ці хаця б папярэджваць пра яе планы, — у голасе Жылібера не ставала аптымізму. — Я дам табе, Барталам'ю, ліст да месье Шэнацэра, радніка львоўскага, магістра ложы… Ён непасрэдна мне падпарадкоўваецца. Папрашу дапамагчы ва ўсім. Хай адновіцца справядлівасць.

Пад канец прамовы Жылібер падпусціў пафасу, але сутнасць была ясная: да жонкі самага ўплывовага чалавека княства і фаварыткі караля шпегаў не падаслаць не маглі.

Рэшта дня, а, магчыма, і частка ночы для вучоных паноў і месье ў гэтым доме прайшла ў лабараторыі. Вырвіч папрасіўся ў самую дальнюю спачывальню на другім паверсе, падалей ад смуроду, і з цэлымі шыбамі, і да самай раніцы бачыў у сне, як успаўзае на заснежаную гару. А бачыць у сне горы, як вядома, да жыццёвага поспеху.

А што ў тым сне менскаму суддзі трошкі прымроўся грукат лавіны — дык у той момант, мусіць, апантаныя Лёднікі з Жыліберам зноў штосьці у лабараторыі падарвалі, у імя навукі, натуральна.

І зусім прызнавацца нікому не выпадае, што ў сне тая лавіна неяк ператварылася ў кола рулеткі… Шарык пагрукваў, коцячыся, і трапляў увесь час менавіта на тую лічбу, якую выбраў Пранціш.

Шкада, ён так і не запомніў тую шчаслівую лічбу. А раптам сон прарочы быў?

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

## Клетка Белакамскага замка

А хіба ёсць розніца, якога колеру быў камень, у цябе шпурнуты?

Вось які-небудзь старажытны афінянін, што марыў прайсці ў магістрат, кожны белы каменьчык з вазы для галасавання сустракаў шчырай радасцю, бо той азначаў чыюсь падтрымку кандыдату. У адрозненне ад каменьчыка чорнага.

Гэты белы камень, які разлёгся пасярод пляскатай, як стол, раўніны, быў самым важкім пацверджаннем чыёйсьці абранасці.

Магутныя сцены, чатыры кутнія вежы, высокія валы і возера, з якога выпаўзалі цёмныя змеі каналаў і абвівалі ўладанне князёў Ржавускіх. Замак Белы Камень…

— Можа, усё-ткі заедзем, як купцы? — нервова перапытаў Пранціш. — Якія з нас малявальшчыкі фрэсак? Раптам змусяць штось рабіць…

Вырвіч выдатна памятаў, як яны з Лёднікам патрапілі ў пастку, калі ў Капанічах выдалі сябе за вандроўных мастакоў, і сённяшні цесць Пранціша змушаў іх маляваць партрэт дачкі і ейнага тадышняга жанішка князя Гагарына.

— Запэўніваю, што вам нічога не пагражае. Я — капітан Белакамскага гарнізона, камандую аховай. Усім вядома, што пасля пажару трэба аднавіць роспісы ў левым крыле, вам не здзівяцца. Як яшчэ я змагу правесці чужых людзей у дальнія пакоі, дзе трымаюць панну?

Пранціш падазрона скасавурыўся на высокага чалавека з запалымі шэрымі вачыма і трохі пляскатым носам. Чырвоны, падбіты футрам кунтуш на плячах ляжаў, як антычная тога вайскаводцы. І аблічча яго, здавалася б, непрыкметнае, чамусь выклікала трывогу і жаданне абысці спадара за паўвярсты. Бо ўсадзіць нож у спіну і ў твары не зменіцца.

— Небяспека за гэтымі спадарамі ходзіць, як навязаная, пан Грос, — засмучана прамовіла жанчына, не юная, але такая гожая, што змушала ўспомніць антычных багінь. — Упэўненымі ні ў чым, вашамосць, быць нельга, калі тычыцца шаноўнага доктара.

Над мястэчкам, што цямнела непадалёк ад замка,ківалі задзёртымі хвастамі белыя лісы — дымы. Лёднік вінавата ўсміхнуўся і прытуліў да сябе жонку, захутаную ў бабровае футра, абшытае лазуркавай тафтой. У колер яе вачэй. Гэтае футра Бутрым набыў каханай у Львове на падораныя Радзівілам «цацкі» ў першы ж дзень спаткання. Парываўся яшчэ закупіць падарункаў — але як жа... Навошта траціцца, даражэнькі? Пані Саламея ўважала спакой, любасць і розум адзіна важнымі ў свеце, а рэчы… Сёння ёсць, заўтра збуцвелі, на той свет не забярэш. А спакою сужонец ёй якраз падарыць і не мог.

А Пранціш між тым гадаў: што былы езуіт робіць у масонаў? Калі львоўскі пан радца Шэнацэр скіраваў іх да надзейнага чалавека, яны з Лёднікам ніяк не чакалі сустрэчы са старым знаёмцам. Пан Зыгмунд Грос быў колькі год таму прыстаўлены да іх езуітамі, калі Бутрыму і Пранцішу даручылі вывезці за мяжу скарб, здабыты ў менскіх сутарэннях. І апошні раз бачылі суровага Гроса, калі таго арыштоўвалі жаўнеры. Пан Зыгмунд тады не выдаў сваіх спадарожнікаў. І калі праз нейкі час Лёдніка таксама арыштавалі, на спатканні ў вязніцы абодва адзін аднаго не здалі. З другога боку, Зыгмунд спакойна, хоць і з належнай скрухай ледзь не забіў свайго настаўніка, старога Шрэдэра, калі палічыў, што так трэба для найлепшага выканання іх місіі. Грос здаваўся Вырвічу дасканалай зброяй, пазбаўленай літасці і спачування, да канца адданай сваёй справе…

Але што гэта сёння была за справа? Ордэн езуітаў вось ужо тры гады як забаранілі па ўсёй Еўропе, сам Папа Рымскі гэта абвесціў. Так што «воіны Ісуса», як яны сябе называлі, прыстасоўваліся, як маглі.

Падобна, Грос прыстроіўся да масонаў.

Хаця масонаў езуіты не зносілі.

Здаецца…

А можа, увогуле гэта адна кантора?

Ат, з гэтымі таемнымі таварыствамі нічаму верыць не варта. Асабліва таму, што выстаўляюць напаказ. Сёння Зыгмунд Грос — брат ложы Трох багіняў і шпегуе ў замку Тэрэзы Радзівіл, дзе займае пасаду капітана аховы. А можа, ён у масонаў для езуітаў шпегуе? А можа, і для тых, і для другіх стараецца?

— Што, калі пана Лёдніка ў замку пазнаюць? — засумняваўся Давыд. Грос скасавурыўся на аптэкара з ледзь прыхаванай непрыязню.

— Мы пойдзем, калі ўжо сцямнее. Дый не стануць разглядаць тых, каго я прывёў. Хіба што пан Богуш, але яго ў замку быць не павінна.

Невыразны твар Гроса скрывіўся. Былы езуіт даклаў змоўшчыкам, прычым некалькі разоў, і з рознай ступенню пераканаўчасці, што амарат пані Тэрэзы, былы канфідэнт ейнага мужа пан Ігнацый Богуш ёсць галоўным зладзеем Белага Каменя. Зладзіў выгадную справу з новымі, аўстрыйскімі, уладамі: перапраўляе праз уладанні пані Тэрэзы Радзівіл сотнямі маладых украінскіх сялян для папаўнення аўстрыйскай арміі. Гэтак жа прадаў ладную партыю казакаў, што патрапілі ў палон, калі ўзбунтаваліся супраць зруйнавання Новай Запарожскай Сечы — Кацярына Другая перадала іх землі сербскім пасяленцам… Той-сёй з простых ды бунтоўных сербаў, дарэчы, таксама патрапіў у якасці жывога тавару ў лапы Богуша… І ўцекачы з Расіі былі добрай здабычай. Ды кожны, хто не змог заплаціць падаткі пані, меў шанец патрапіць у жаўнерскія боты. А пані Тэрэзе абы даход.

Наколькі Вырвіч зразумеў, зладзюга Богуш спрабуе зрабіць замкавым капітанам свайго чалавека. Вось Грос і ятрыцца.

— З вашымі ўменнямі з аховай вы справіцеся. Панну пераапранем у мужчынскае, і я выведу вас усіх з замка.

Трэба ж, як лёгка… Голас Гроса гучаў упэўнена, нават будзённа.

А як ён сам, пасля ўцёкаў падапечнай пані Тэрэзы, спадзяецца пазбегнуць падазрэнняў?

— Усё ў волі Божай.

Капітан Белакамскага замка няўважна перахрысціўся, быццам перад сняданкам.

Пранціш Вырвіч зноў утаропіўся ў злавесную цытадэлю… Шчыра кажучы, сярод снягоў яна здавалася хутчэй шэрай і бруднай, чым белай. Па-добраму, для эпічнасці трэба было б сузіраць яе з узвышша.

Але ўзвышша не мелася, эпічнасці не ставала, і чумакі, што везлі на санях прыпасы да княскага стала, ледзь не сагналі нахабных разявакаў з дарогі проста ў сумёты. Але, згледзеўшы зблізу чырвоны кунтуш Гроса, ды шаблі за паясамі ў мужчын, нервова затузалі лейцы, каб аб'ехаць паноў як далей, хоць з рызыкай перакуліцца.

— Яна жывая! — мармытаў Алесь, тужліва і мройна гледзячы на замак. — Астатняе не мае значэння!

— Жывая… — ціха пагадзіўся Бутрым. — У адрозненне ад той няшчаснай цяжарнай жанчыны, чыё цела выдавалі за цела Праксэды… Што? — пералавіў недаўменны позірк сына. — Ты ж ні разу не ўпомніў пра тую кабету… А я не забываю і на хвілю. Дзве бязвінныя душы згінулі. І гэта ўжо не выправіць. І нічым не выкупіць… Ну што ж, пайшлі рыхтавацца да авантуры.

Саламея прыкусіла губу… Але разумела — Бутрыма не адгаворыць. Палачане ішлі моўчкі, плячо да пляча, пальцы рук пераплеценыя, і сняжынкі асцярожліва сядалі на чорныя валасы мужчыны, нібыта каб дадаць ім сівізны.

Пачуцці Пранціша проста крычалі аб небяспецы, і нават трохі біліся ў істэрыцы. Страшэнна не хацелася ісці ў замак, хай бы ён быў складзены і з белых гаючых гаручых Алатыр-камянёў, пупоў зямлі.

Але ён быў складзены з простага светлага ўкраінскага пясчаніка, на якім так добра будзе бачна пралітую кроў.

Надпіс над брамай сведчыў, што замак калісьці пабудаваны князем Георгіем Вішнявецкім і ягонай пачцівай жонкай Тэадорай Чапліцоўнай.

Напэўна, іх вяльможныя мосці Вішнявецкі ды Чапліцоўна не падазравалі, што ў гэтых мурах, акрамя літараў на камянях, ніхто іх не ўспомніць.

Абодва Лёднікі і Пранціш, захутаныя ў ваўняныя грубыя плашчы з капюшонамі і нагружаныя клункамі з інструментамі, ішлі за Гросам. Замак пры маладой гаспадыні зачаста скаланалі шумныя балі, калі госці таўкліся, як камары над лужынай, брыньгала музыка, і за кожнай калонай можна было натрапіць на галантную парачку. Але якраз гэты тыдзень пані Тэрэза з нагоды посту ахвяравала самоце. Як вярнулася ад львоўскага біскупа, так і дэкляравала — відаць, атрымаўшы ад духоўнага айца прачуханца. Таму ў шэрых сценах было нязвыкла ціха. Цёмны калідор асвятляўся толькі кволым агеньчыкам у ліхтары, што трымаў давераны слуга капітана, жаўнер, такі каржакаваты і няўклюдны, нібыта ім калісьці выбівалі дзверы варожага замка. Там-сям стаялі рыцарскія даспехі, і Пранцішу мімаволі здавалася, што яны зараз ажывуць, як аўтаматы Норнбергскага замка.

— Сюды, — адрывіста скамандаваў Грос, і кампанія паслухмяна звярнула за ім на бакавую лесвіцу, засланую дываном. Падобна, яны пераходзілі з памяшканняў для прыслугі ў панскія пакоі... Між тым Саламея згадвала, што Праксэду трымаюць у не самых выгодных пакоях.

— Прашу, вашыямосці!

Святло апякло вочы. У вялікім пакоі з разной драўлянай столлю і такімі ж разьблёнымі калонамі ўздоўж сцен, з галовамі дзікоў, ваўкоў ды мядзведзяў, што лупіліся бліскучымі шклянымі позіркамі з усіх кутоў, і сотнямі свечак у пазалочаных кандэлябрах панны Праксэды неназіралася.

Затое гайдукоў, як штыкецін у добрым плоце. А за доўгім сталом, у крэсле з высокай спінкай, на якой быў выразаны герб Ржавускіх «Крыўда» — падкова і крыж, сядзела нябрыдкая пані. Хіба павекі цёмных пукатых вачэй трохі цяжкія, быццам набрынялыя, ніжняя губа трохі выдаецца наперад, і падбароддзе цяжкаватае…

— Ну вось, доктар, вам усё-ткі давядзецца прыняць маё запрашэнне на абед.

Пані Тэрэза, дачка вялікага гетмана кароннага Вацлава Ржавускага, у смарагдавай пералівістай сукенцы з неверагодным дэкальтэ, у высокім напудраным парыку, упрыгожаным зялёнымі стужкамі, паглядала на гасцей з пераможнай усмешкай. Пранцішу падалося, што на верхняй губе пані прабіваецца цёмны пушок.

Ах ты, здраднік езуіцкі… Грос з усмешкай на бледных вуснах адвесіў паклон.

— Усё паводле жадання вашай княскае мосці.

Так па-дурному патрапіцца! Самі прыбеглі проста ў пастку! Як баранчыкі-балванчыкі! Бутрым заазіраўся, шукаючы шлях да ратунку…

— Бескарысна, доктар, — шапнуў Грос. — Дазвольце ўсяму ісці, як ідзе.

— Вось бачыш, Ігнацы, пан Зыгмунд заўсёды выконвае, што гаворыць, і ахоўнік найлепшы.

Пані звярталася да багата апранутага шляхцюка, які сядзеў па левую руку ад яе за сталом. Тонкія чорныя вусікі, пранізлівы погляд вузкіх зялёных вачэй… Пан Ігнацы Дамінік Богуш, які калісьці ўламіўся ў Лёднікаў дом у Вільні, спрабуючы адабраць ляльку-аўтамат па імені Пандора з усімі ейнымі таямніцамі. Яшчэ адзін інтрыган і здрайца.

— Але навошта пан Зыгмунд прывёў гэтых злачынцаў проста сюды, дзе яны могуць пагражаць жыццю княгіні? — скрозь зубы прагаварыў Богуш. — Я б не давяраў яму на вашым месцы, мая пані.

— Ты не на маім месцы, васпан, — пукатыя цёмныя вочы Радзівіліхі бліснулі, як паверхня самай глыбокай багны. Пранціш адчуў, як людзей у зале перасмыкнула ад незадаволенасці ўладаркі, нават сталыя воі трохі, здаецца, затрымцелі. — Грос застанецца маім капітанам. А ты, даражэнькі Ігнацы, лепей прасачы за сваім машталерам, якога мне рэкамендаваў. Такі ўжо ён знаўца, а мой аргамак пачаў кульгаць. Той самы, белы, у пару да твайго. Я загадала пасадзіць няўмеху ў рагатку, карміць селядцом і не паіць. Не ведаю, ці жывы.

Белы аргамак, вядома, рэдкасць нечуваная… Але вось так акрутна замучыць з-за яго чалавека? Праўда, пан Богуш не абурыўся. Наадварот — стрымаў сярдзітыя словы, што ірваліся з вуснаў. Твар расплыўся ва ўсмешцы, няхай яна была такой жа няшчырай, як срэбныя манеты вялікага гетмана Людвіка Пацея, якія называлі «людскім плачам». Пацалаваў ручку пані, нешта пяшчотнае прашаптаў, не зважаючы на хмурасць уладаркі…

Погляд, які ён кінуў перад адыходам на Зыгмунда Гроса, можна было выкарыстоўваць заміж цвіка.

— Ну што ж, сядайце за стол, госцейкі, — пані Тэрэза кіўнула, і Пранціш сам не заўважыў, як з дапамогай дзясятка моцных рук апынуўся ў крэсле, прысунутым да цяжкога дубовага стала. Насупраць гэта жа апынуліся Лёднік і Алесь.

— Не пагрэбуйце хоць цяпер сціплым пачастункам, як ужо грэбавалі.

Няўжо Радзівіліха так пакрыўдзілася, што Лёднік у Гародні праігнараваў яе запрашэнне?

Адзінае добра — Саламея і Давыд у бяспецы, яны павінны чакаць з коньмі, пра што Гросу невядома.

Быццам чарадзейным чынам, на стале разасдаліся шаўковыя бялюткія сурвэткі, вышыхтаваліся срэбныя супніцы і вазы, зблiснулі талеркі з месенскай парцаляны і крышталёвыя кубкі са срэбнымі вензелямі. Калі не ведаць, што зараз пост, дык не здагадаешся. Хіба смажаніны ды каўбасаў няма, заміж іх вараныя ракі, запечаныя шчупакі ды белыя грыбочкі ў поснай падліве. Дворныя імкліва луналі, як ветрыкі. Каб прыслуга гэтак баялася пана, Пранціш бачыў хіба ў Слуцкім замку пры Гераніме Радзівіле па мянушцы Жорсткі.

— Не буду пытацца, што вам трэба ў маім замку, пра ўсё мне дакладалі мае людзі. Яшчэ калі твая жонка, Лёднік, з сябруком-юдэем тут нешта вынюхвалі…

Вусны Бутрыма на імгненне сціснуліся, але голас застаўся роўнаветлівы.

— Ваша княская мосць, мы нічога кепскага датычна вас не задумвалі…

— Гэта ўжо не мае значэння, — лена прамовіла пані Тэрэза. — Ты, доктар, умудрыўся столькі раз перашкодзіць мне, што цябе мала дзесяць разоў запар павесіць. Я амаль паверыла чуткам пра тваю магічную моц. Ну вось як табе ўдалося дамовіцца з панам Міхалам Брастоўскім? Міхал — чалавек гарачы, павінен быў даўно тваю скуру на барабан нацягнуць. А потым — у Венецыі ты раптам перашкаджаеш маім людзям! — твар пані пачаў набываць чырвонае адценне, цёмныя вочы вырачыліся, быццам у якогась слізкага гадаванца малодшага Лёдніка. — З маім мужаньком клятым балюеш! Дамаўляешся, як яго назад вярнуць! Сюды прывалокся, людзей бунтуеш!

Пані Тэрэза ў раздражненні кульнула келіх віна ледзь не ў кварту. Аддыхалася. Супакоілася.

— Ну, цяпер адкажаш за ўсё. І за маю хросніцу таксама.

— Дазвольце нам з ёй пабачыцца, — раптам ускінуўся Бутрым, падаўшыся наперад і ўтаропіўшыся пранізлівым позіркам у княгіню. На яго плечы зараз жа абрынуліся кулакі прыслугі:

— Не чараваць тут! На яе вяльможную мосць не лупіцца!

Папярэджаныя пра здольнасці Чорнага Доктара. Але пані Тэрэза толькі зарагатала:

— На мяне чарадзейства не дзейнічае. Нават махляр Каліёстра так і не змусіў мяне паверыць, што я хачу аддаць яму дзеля павелічэння камянёў мае каралі. Так што не старайся, доктар.

Баўтрамей тым не менш меў дзёрзкасць працягнуць размову, толькі вочы не паднімаў:

— Вашамосць, ну нашто вам мучыць няшчасную дзяўчыну? Адпусціце яе з намі. Напярэдадні светлага Раства Хрыстова — праявіце літасць. Запэўніваю, Праксэда ніколі не патурбуе вас. Не назавецца сваім імем. Будзе працаваць у шпіталі, займацца справамі міласэрнасці.

— Мая хросніца памерла, — пані Тэрэза адправіла ў рот наколаты на срэбны відэлец грыбочак. Пранціш шчыра пажадаў, каб гэта аказаўся мухамор. — Кожны сам выбірае свой лёс. Выбрала і яна — цябе, доктар. Такператмалася з-за свайго нешчаслівага пачуцця… Плакалася мне штодзень, дзесяць сукенак маіх слязьмі вымачыла.

Алесь гнеўна зыркнуў на бацьку. Той пачаў, што ў яго з асістэнткай нічога не было, але атрымаў загад маўчаць і есці. Бо так смачна яны, госці няклікаными, але чаканыя, ніколі больш не паядуць.

Вырвіч моўчкі тыцнуў пальцам у талерку з грыбнымі вушкамі, прыслужнік зараз жа наваліў яму цэлы духмяны сумёт. Чым бліжэй небяспека, тым лепей трэба падсілкавацца. Галодны ваяр — слабы ваяр.

Між тым размова за сталом цурчэла, як празрысты ручай над каменным саркафагам, што хавае страшныя таямніцы. Апошнія навіны навукі, мастацтва, свецкага жыцця… Сеансы Месмера, на якіх вылечваюцца з дапамогай жывёльнага магнетызму… Вайна ў амерыканскіх калоніях… У Лондане, кажуць, прыдумалі павозку, якая коціцца па жалезных палосах, ад чаго рухаецца нашмат хутчэй і лягчэй. Доктар быў галантны і ўраўнаважаны, як належыць свецкаму чалавеку. Пранціш падтрымліваў размову згодна этыкету — у яго язык заўсёды падвешаны быў добра… Толькі Алесь, менш спрактыкаваны ў фальшы прыдворнага жыцця, маўчаў, відаць, успамінаючы, як гэтак жа сядзеў за сталом з ашмянскім катам і Пацучыным Каралём. Была і там, і там у спакойнай ветлівай бяседзе невымоўная жудасць.

— Вы, напэўна, чулі пра мяне шмат усялякай лухты, — мімаходзь паведаміла пані, падносячы да вуснаў келіх чырвонага віна. — Быццам бы я камусь галаву адсекла ў сваіх сутарэннях…

— Ну хто ж слухае такую лухту, вашамосць, — ахвотна падхапіў Вырвіч.

— Альбо вось яшчэ чутка... Быццам бы я сваіх ворагаў саджаю ў клетку і трымаю ў сваёй спачывальні, — пані адпіла віна, на яркіх вуснах засталася бліскучая кропля.

Пранціш пачаў быў працягваць галантнае абурэнне ілжывымі плёткамі…

— А між тым гэта чысцюткая праўда, панове! — мройна ўсміхнулася пані Тэрэза. — Пра клетку. Вы наступны, хто там апынецца, пан доктар. Проста гэтай ноччу.

Пранціш заперхаўся, бо кавалак у горле перасеў. Алесь упусціў відэлец. Доктар спакойна пражаваў кавалак шчупака, запіў ліманадам.

— Гэта не самая лепшая ідэя, ваша княская мосць. Немалады мужчына… З усёй непрывабнай фізіялогіяй… У спачывальні высакароднай дамы… Не камільфо.

— Шаноўны пан Лёднік, мне такое задавальненне прыносіць увесьчаснае сузіранне маёй маленькай помсты, што я гатовая сцярпець некаторыя нязручнасці. Я разумею, што раз вы пагрэбавалі маёй кампаніяй у бальнай залі, у больш сціплых умовах вам яна яшчэ больш брыдка... — твар пані на апошніх словах зноў пачаў наліваццца чырванню, і задышка з’явілася, нібыта толькі што ўзбегла па лесвіцы. — Але цяпер вы будзеце шчасліўць мяне сваёй прысутнасцю столькі, колькі я захачу.

У голасе дачкі гетмана чуўся прысвіст, як у раззлаванай змяюкі, а зрэнкі, здавалася, мігцелі, то звужаліся, то пашыраліся. Чорны Доктар пакорліва нахіліў галаву.

— Я зразумеў сваю памылку, вашамосць — неабачліва не адгукнуўся на ваша запрашэнне ў Гародні, не ацаніў высокі гонар, які мне быў аказаны. Але мае спадарожнікі… Яны нічым не абразілі вашумосць. Магчыма, вы міласэрна дазволіце ім з’ехаць? Іх з’яўленне тут — цалкам мая віна і прымус.

Алесь ускінуў галаву відавочна ў жаданні запярэчыць… Але пані нядобра ўсміхнулася:

— У маім замку хопіць пакояў для ўсіх гасцей. А ў бліжэйшыя дні… Магчыма, месяцы… А можа, і гады — хто ведае, наколькі вы акажацеся забаўным хатнім звярком, пан чорны маг? — вы павінны клапаціцца толькі пра свой лёс. А ён будзе залежаць выключна ад майго настрою.

І ўся гэтая брыда гаварылася так спакойненька, пад смакаванне бляманжу — мігдалавага студня, пастукванне срэбных лыжачак, пад няшчырыя, але цалкам свецкія ўсмешкі.

Пані кінула на стол сурвэтку і ўзнялася. Птушачкі на яе парыку, здавалася, заклапочана шчабятнулі. Цяпер было відно, што гетманаўна даволі куртатая, доктару Лёдніку, мусіць, па грудзі… На што паквапіўся Панятоўскі? На шалёны тэмперамент, відаць — млявы Цялок усё жыццё вёўся на гарачых уладных кабетаў.

— Пан Зыгмунд, даражэнькі, вы зразумелі маю волю…

Кляты здраднік ускочыў з-за стала, за якім так і прасядзеў маўклівым слупам, раскланяўся.

— Усё будзе зроблена, вашамосць.

Лёдніка зараз жа павялі ўслед за пані. Пранціша і Алеся ўзяўся суправаджаць сам Грос. Яны пад аховай трох гайдукоў ішлі па доўгіх цёмных калідорах, і Пранціш пакутліва вычэкваў момант, калі можна будзе расправіцца са зладзеем і збегчы. Гэх, зброі ніякай… А можа, Алесь як-небудзь пакліча пацукоў гэтага замка, ды зладзіць яшчэ адно паганае чырванавокае войска? Мусяць жа тут быць пацукі…

Але Грос зноў штурхнуў гасцей на бакавую лесвіцу, што хавалася за калонай.

— Хочаце выбрацца? Маўчыце і ідзіце за мной…

Гайдукі абмяняліся з капітанам знакамі і засталіся ў калідоры… Здаецца, Грос не збіраецца весці палоннікаў у казематы? Тыцнуў Алесю запалены алейны ліхтар з жалезнымі дзверкамі, якія маглі закрываць агонь з любога боку, што зручна падчас вайны альбо шпегавання.

— Гэта што, здзяйсняецца нейкі перамудраны план, у які нас не пасвяцілі? — гнеўным шэптам азваўся Вырвіч, калі яны пачалі ўздымацца па закручанай ракавінай лесвіцы, якая вяла невядома куды.

— План быў. Але з вашым шаноўным доктарам ніякія планы не спрацоўваюць, — гэткім жа гнеўным шэптам адказаў пан Зыгмунд, прыпыніўшыся. — Я ніяк не мог прадугледзець, што ён настолькі зачапіў княгіню, што тая захоча пасадзіць яго ў клетку. Апошні раз пані скарыстала яе год таму, на пасланцы ад мужа, які ўздумаў абвінавачваць яе ў распусце. Небараку дасталі праз месяц… Калі ўжо і гаварыць не мог. Вось жа… Гэтай ноччу вас павінны былі ўсіх разам з паннай Праксэдай вызваліць, так, што ўсе сведчанні паказвалі б на ўдзел пана Богуша.

Езуіт-масон ад злосці сплюнуў, нібыта атрутай, і рушыў наперад, не перастаючы ціха буркатаць:

— Мы столькі рыхтаваліся! Ад тае пары, калі шпегі даклалі: жанчына пасялілася ў доме габрэйскага аптэкара ў Львове і распытвае пра замак Белы Камень. Я пераканаў пані Тэрэзу, што тая жанчына з ейным памагатым юдэем — бясшкодныя выведнікі. Трэба дачакацца, пакуль да іх з’явіцца нехта сапраўды небяспечны, і тады я схаплю ўсіх. Амаль змог давесці, што пан Ігнацы па-ранейшаму слугуе Пане Каханку, вядзе падвойную гульню. Сёння кляты Богуш быў бы канчаткова выкрыты як здрайца, і гетманаўна апынулася б зусім пад нашым уплывам. Падпісала б нарэшце пэўныя прывілеі… Каб не ваш доктар…

Між тым лесвіца скончылася невялікай пляцоўкай — падобна, яны знаходзіліся ў адной з кутніх вежаў, калісьці суровай, як стары вой, а зараз прыкрашанай пад гламурныя патрэбы часу. Пан Зыгмунт не адчыніў вузкія дзверы, а абмацаў раму карціны з выявай дзічыны, што ўпрыгожвала левую сцяну. Карціна паслухмяна ссунулася ўбок разам з намаляванымі забітымі зайцам і качкамі. За ёй пачынаўся калідор. Цёмны, як будучыня гасцей Белага Камня, і зусім вузкі, два чалавекі ледзь разыдуцца.

— Цяпер — ні слова. Што б ні пабачылі, не пачулі. Без майго загаду не рабіць нічога. Іначай — усім канец хуткі і бясслаўны. Паны прысягаюць?

Пранціш і Алесь кіўнулі. Што ж заставалася?

Праз колькі хвіль пракрадання на дыбачках па шляхах для дамавікоў ды пацукоў пабачылі святло. Грос жэстам загадаў Алесю прычыніць накрыўкі ліхтара.

Святло ішло з вузенькай гарызантальнай шчыліны даўжынёй у локаць, якраз на вышыні вачэй. Грос асцярожненька дастаў з пазоў жалязяку, якой была прыкрытая шчыліна, і яна зрабілася шырынёй у палец. З таго боку навісалі нейкія зубчыкі, відаць, частка архітэктурнага дэкору. Пранціш хуценька прыстроіўся вокам да дзіркі… Гарыць агонь у каміне з зялёнага рэдкага мармуру, бялее цюлевы балдахін над ложкам, мітусіцца пакаёўка са срэбным збанам у руках… Гэта ж спачывальня пані Тэрэзы са Ржавускіх! Нічогенькі сакрэт! Значыць, усё, што адбывалася ў пакоях уладароў Белага Каменя, стагоддзямі нехта назіраў проста са сцяны… Пранціш падумаў, што цяпер ён ужо не так зайздросціць магнатам ды каралям. Бо напэўна ж сцены ўсіх палацаў свету нагадваюць сыры з дзіркамі альбо паточаныя шашалем бярвенні. Вырвіч ведаў, што першая шлюбная ноч ва ўладароў павінна па звычаі адбывацца пры сведках — каб пацвердзілі кансумацыю. Але гэтак — усё жыццё?

Побач ля шчыліны прыстроіўся Грос, далей, так-сяк, адным вокам, Алесь…

Пакаёўкі, іх было ў памяшканні некалькі, нізка прыселі ў рэверансе. З'явілася пані Тэрэза. Вакол яе адразу ўтварыўся вэрхал. Пад рукі ўсадзілі на казетку, нехта дапамагаў зняць парык, хтосьці расшнуроўваў гарсэт, хтось здымаў чаравікі… На стаўбурку выстраілася цэлая рота бутэлечак і слоічкаў з разнастайнай парфумай, Пранціш пазнаў некалькі ўзораў вытворчасці Давыда Ляйбовіча. Час ад часу гетманаўна пакрыквала і раздавала поўхі. Пранціш з няёмкасцю адвярнуўся, Алесь зрабіў тое самае — непрыстойна ж падглядаць за такім, пакрыёмым.

Не меіць ім з дактаровічам кар'еры ў палацах. Там грэблівым і сарамлівым, што згідзяцца трымаць начную вазу манарха і свечку над ложам ягоных любошчаў, не месца.

Грос, натуральна, не зварухнуўся… Але зараз жа і Вырвічу з Алесем давялося вярнуцца да пільнага сузірання: грукат, тупат, лязгат… У спачывальню завалаклі Лёдніка. Ён быў ужо ў адной кашулі і нагавіцах, са звязанымі рукамі. Пані Тэрэза не звярнула ніякай увагі на ягонае з'яўленне ў суправаджэнні гайдукоў, усё роўна што прывялі якога дранага мопса.

А вось і клетку прысунулі…

Па-праўдзе, Пранціш да апошняга верыў, што гэта страхотлівая гісторыйка, пужаць легкаверных.

Але клетка была цалкам рэальная, з тоўстых жалезных палос, у рост чалавека, але вузкая — не сядзеш у ёй. Наверсе важкае кальцо з прапушчаным ланцугом, відаць, каб падымаць вязніцу ў паветра.

Дзверы клеткі адчынілі, увапхнулі туды Чорнага Доктара, папярэдне раздраўшы на грудзях і на спіне кашулю, не хацелася думаць, для чаго. Трывожна збліснулі нагрудны срэбны праваслаўны крыж і медальён, у якім Чорны Доктар захоўваў тры цёмныя пасмачкі валасоў — жонкі, дачкі і сына. Бутрым ледзь макаўкай не ўпіраўся ў верх вязніцы. Вырвіч пачаў прыкідваць, што доктар замкі адчыняе лёгка, выберацца… Але на папярочыне клеткі аказаліся адмысловыя бранзалеты, куды і прыкавалі рукі Лёдніка. Ягоныя «Вашамосць, адумайцеся… Я не лепшая прыкраса пакою пекнай дамы» прывабілі ўвагу не болей, чым шоргат снегу за акном.

Пранціш асцярожна выцер халодны пот з ілба. Вось гэтак пратрымаць вязня хоць суткі — не прысесці таму, рукі не падняць — пакута якая… А пані Тэрэза гаварыла пра дні і месяцы… А каб справіць патрэбу, паесці-папіць — павінны ж выпусціць хоць на хвілю… Ці не?

Ды лепш згінуць у няроўнай бойцы, чым пакінуць Бутрыма вось так!

Між тым гайдукі зніклі. Тое не значыла, быццам яны не з'явяцца па першым загадзе. Увогуле, княгіні дастаткова было працягнуць руку, каб хтосьці выскачыў з цёмнага кута і падаў ёй кубак. Зірне ў бок каміна — хтось ужо бяжыць з другога цёмнага кута падкінуць дровы.

Клетка з Лёднікам стаяла так, каб вязня добра асвятляла полымя каміна, і пані, не ўстаючы з ложка, магла бачыць усе падрабязнасці сваёй помсты.

Пакуль што няверная жонка Пане Каханку на новую забаўку па-ранейшаму не зважала. Дзве пакаёўкі расчэсвалі яе цёмныя бліскучыя валасы, каб схаваць пад начны каптур, які пачціва трымала трэцяя дзеўка, падлетак — яе тонкія рукі ў шнарах ад розгі дробна дрыжэлі. Таўсманная карліца гучна чытала з малітоўніка вечаровыя малітвы.

Вось як падобныя Тэрэзе Радзівіл могуць спалучаць цвёрдую ўпэўненасць у тым, што яны ў Бога сярод першых праведнікаў, і звярыную жорсткасць у дачыненні да «звычайных» людцаў?

Між тым малітвы былі дачытаныя, пані перахрысцілася і апусцілася ў пышныя сумёты падушак так, што амаль сядзела — відаць, верыла, як і многія, што спаць лежачы — рызыка адпусціць душу. Прыслуга знікла, стаілася. Вырвіч заўважыў, што княгіня павярнулася, каб зручней сузіраць клетку, у якой, апусціўшы галаву, нерухома стаяў вязень. У прыадплюшчаных вачах фаварыткі караля люстраваўся цёмны агонь. Праз нейкі час дыханне пані зрабілася частым і сіплым, нібыта яна бегла, вочы адкрыліся шырэй.

— Ваша княская мосць, вы самі сябе губіце такімі ўчынкамі, — раптам змрочна прагаварыў Лёднік. — Я адчуваю праявы хваробы ў арганізме вашай мосці. Тая прыемнасць, якую прыносіць вам чужы боль, насамрэч парушае баланс вашай энергіі і выклікана паталогіяй. Гэта я вам як спрактыкаваны доктар кажу. Я сустракаў падобныя выпадкі… Вы адчуваеце, як зараз гарыць ваш твар? Ёсць цяжкасці з дыханнем? Лёгкія сутаргі?

Пані Тэрэза моўчкі прыўзнялася і выцягнула руку. Зараз жа немаведама адкуль выскачыла карліца, выхапіла з каміна доўгую жалезную прыладу і падала пані… Не, не качаргу — нейкі ражон, на адным канцы драўляная ручка, другі канец, нагрэты агнём, свеціцца чырвоным. Княгіня пасунулася да клеткі і тыцнула распаленым прутом у грудзі Лёдніка.

— Ты, быдла, гаварыць можаш, толькі калі я дазволю!

Грос ухапіў Пранціша і Алеся за плечы, сціснуў, папярэджваючы без слоў: не выдаваць сваёй прысутнасці!

Лёднік маўчаў, толькі галаву закінуў, з сілай прыціснуўся патыліцай да жалезных прутоў клеткі, ды ягонае дыханне пачасцілася. У паветры агідна запахла паленым.

Пачуўся страшны хрып. Пранціш адразу вырашыў, што гэта Лёднік ад болю. Аж не — пані Тэрэза. Прэнт з грукатам упаў на падлогу з італійскай тэракотавай плінфы, яго адразу прыбрала прыслуга. Пані пастаяла, трохі пагойдваючыся і неяк прагна ўглядаючыся ў свежы апёк на грудзях доктара. Нават падалося, зараз памацае. Прахрыпела:

— Не будзеш слухацца — буду караць.

І вярнулася ў ложак. Чамусьці асабліва агідным выглядала, што пані часта аблізвала вусны.

Бутрым страсянуў адрослымі за час вандроўкі валасамі.

— Вашамосць, я вас папярэджваў. Вы толькі пагаршаеце свой стан. Дойдзеце да таго ж, што іх мосці Геранім і Марцін Радзівілы. Да жывёльнага стану, фактычна. Я мог бы прызначыць вам адпаведнае лячэнне. Травы, водныя працэдуры, адмысловы масаж… Фізічныя практыкаванні. Хутчэй за ўсё ваш стан адмоўна ўплывае на здольнасць мець дзяцей.

Пані як на спружыне падкінула з пярын… Доктар што, звар’яцеў сам, што цвеліць гэтую вар’ятку?

Пані Тэрэзу заўважна калаціла.

— Лайно! Робак! Адкуль ты ведаеш пра дзяцей! Як смееш!

У яе руках зноў апынуўся прэнт з распаленым канцом…

А Лёднік усё працягваў гаварыць сваім глыбокім нізкім голасам… Мякка і пераканаўча… Пранціш гатовы быў ламаць сцяну, але распаленае жалеза не паспела дакрануцца да доктара. Княгіня ўпусціла прэнт і павалілася на падлогу, яе цела выгіналася, як лук, з вуснаў вырываліся хрып і пена.

Зараз жа падбеглі слугі, падхапілі гаспадыню замка, каб укласці на ложак. Але яна выпіналася, мяркуючы па ўсім, з нечалавечай моцай, і нават замыкала… Слугі з пераляканымі фізіяноміямі хрысціліся і відавочна лічылі пані апантанай. Падушкі разляцеліся сумётамі па пакоі.

— Выпусціце мяне неадкладна! Я — доктар, я дапамагу! Вы што, хочаце, каб яемосць памерла? — надрываўся Лёднік.

— Прайдзісвет… — прасіпеў над вухам Пранціша Грос, зразумела, на адрас Баўтрамея, і ірвануў з іхняга сховішча, даўшы знак паплечнікам заставацца на месцы. Хутка езуіт ужо распараджаўся ў спачывальні.

— Пусціце доктара да княгіні!

Вызвалены Лёднік выбег з клеткі і схіліўся над хворай, якая курчылася, быццам вусень на патэльні, прыціснуў яе рукі да ложка.

— Святла дайце больш! Халоднай вады… Драўляную лыжку нясіце… Яе трэба змясціць між зубоў. Як часта такія прыступы бываюць?

— З вясны не было, вашамосць... — прамармытаў лёкай са збанам у руках, намагаючыся не глядзець на апантаную. Вада ў збане ажно плёхалася.

Чорны Доктар дзейнічаў рашуча і ўладна, так, што ўсе забыліся — ён толькі бяспраўны вязень, асуджаны на пакуты, і не насмельваліся ўмешвацца ў працэс лячэння. Урэшце сутаргі прыпыніліся. Лёднік навісаў над пані, моцна трымаючы яе рукі.

— Глядзіце мне ў вочы, вашамосць. Не бойцеся. Усё будзе добра.

Жанчыну перастала курчыць. Яна заціхла і не адрываючыся глядзела ў вочы сваёй нядаўняй ахвяры. Бутрым працягваў нешта гаварыць, ужо ціха, як з пераляканым дзіцем. Урэшце з яе твару сышла густая чырвань, дыханне выраўнялася… Яна ўсхліпнула па-дзіцячы.

— Вады! — працягнуў руку Лёднік, і зараз жа яму падалі шклянку. Бутрым падхапіў сваю турэмшчыцу пад спіну, дапамог прыўзняцца і адпіць…

— Усе пайшлі прэч! Яемосці трэба спакой!

Цікава, але палонніка ў парванай на лахманы кашулі паслухаліся і плітанулі ў дзверы. Можа, проста ад жудасці заставацца побач з нячысцікамі, што мучылі акрутную кабету? Нават Грос задумліва азірнуўся і выйшаў… Ці, хутчэй, стаіўся ў яшчэ адным таемніку.

— Адкуль... вы ведаеце пра дзяцей? — перарывіста прашаптала пані.

— Я доктар. Магу ставіць гіпатэтычны дыягназ.

— Гэта… у мяне… можна вылечыць? — пані Тэрэза ўчапілася ў паўаголенага вязня, быццам танула. — Каб я магла нарадзіць ад яго каралеўскай мосці…

— Усё ў волі Божай… Я магу толькі паспрабаваць, — супакойваюча прагаварыў доктар, і жорсткая кручаная баба ўткнулася ў ягоныя грудзі, побач з утвораным ёй жа апёкам, і разраўлася.

— Вы помніце, калі ўпершыню з вамі такое сталася, вашамосць?

— Пасля першай шлюбнай ночы… — прамармытала пані Тэрэза, не адхінаючыся ад сына полацкага гарбара. — Мне было шаснаццаць… Гэты… бугай быў п’яны і вясёлы. Ад яго смярдзела… Я хачу забыцца на тое, што ён утварыў тады. І як усе сведкі смяяліся… Смяяліся… Калі мне было балюча…

Сужонку Пане Каханку зноў пачало калаціць, але Чорны Доктар акуратна памасіраваў ёй скроні, патыліцу, плечы, націскаючы на нейкія кропкі… Пранціш пазнаў адмысловы метад масажу, які Лёднік пераняў у знаёмага кітайца. Знайшоў на каго траціць сілы і ўменне…

Княгіня абмякла, супакоілася. Доктар асцярожна ўклаў яе на падушкі.

— Загадаеце мне вярнуцца ў клетку, вашамосць? Папярэджваю, могуць быць яшчэ рэцыдывы прыступу…

Гетманаўна працягнула руку, кранула апёк на грудзях доктара, змусіўшы Бутрыма тузануцца ад болю.

— Ты маеш рацыю… Я грэшная… Усё ад грахоў маіх… Таму Гасподзь і дзяцей не дае. Я зараз у пекле была… Мяне акуналі ў гарачую смалу, пакуль ты мяне не выцягнуў… Калі я аддам табе дзеўку, гэта будзе табе платай за выратаванне майго жыцця і выкупленнем маіх грахоў? А?

У голасе княгіні ўсё больш чуліся нервовыя ноткі…. Падобна, прага мучыць змянілася прагай пакаяння, але гэткай жа хваравітай.

— Калі вы адпусціце вашу хросніцу, вам залічыцца добрая справа. Якая многае выкупіць… — асцярожна, нібы баючыся спужаць пакаянны настрой уладаркі, прагаварыў доктар.

— Грос! Прывядзі паненку!

Езуіт зараз жа аб’явіўся, паслухмяна схіліўся.

— І спадарожнікаў маіх, сына і сябра, хай прывядуць, — хуценька прагаварыў Бутрым. — Мы будзем вечна маліцца за вас, ваша княская міласць… Гасподзь бачыць вашы цвёрдыя намеры перамагчы згубны гнеў. Спадзяюся, яны не саслабеюць і не згаснуць…

— Прысягаю перад Госпадам, душой сваёй бессмяротнай клянуся — адпушчу ўсіх! Прасвятая Багародзіца мне сведка!

Княгіня перахрысцілася. Падобна, яна цяпер знаходзілася ў такім расчуленым настроі, што магла пагадзіцца і ўвесь замак з прыслугай аддаць. Шаптала малітвы, слёзы беглі на пульхных шчоках… Усе разумелі, пытанне толькі ў тым, як доўга працягнецца гэты настрой.

Таму Пранціш і Алесь усяго праз якія хвілі, што спатрэбіліся, каб выбрацца з іх сховішча па знаёмай лесвіцы і ўдаць з’яўленне з вязніцы, былі каля Бутрыма.

Алесь кусаў вусны, каб стрымаць хваляванне… Зараз жа пабачыць сваю Чароўную Даму. Доктар спакойна, нібыта стаяў не паўголы з апечанымі грудзямі, а ў строгім камзоле і капелюшы, даваў рэкамендацыі па далейшым лячэнні княгіні, якія тут жа пачціва занатоўвалі. Прысеўшы на край ложка, мацаў пульс на руках пані, якія яна занадта ахвотна працягвала эскулапу...

На калідоры зноў пачуліся крокі. Алесь увесь падаўся наперад, доктар узняўся…

У пакой, трохі пахістваючыся, увайшла высокая худая паненка ў беднай шэрай сукенцы, якая вісела на ёй, як на калаціне. Валасы схаваныя пад белы просты каптур, твар збялелы, змучаны, вакол вачэй цёмныя цені, і вочы тыя пазіраюць у нікуды, у нейкую кропку сусвету, дзе няма хцівых людзей, жорсткасці і болю.

Але вось гэтыя вочы, няўважна прамінаючы ўсіх прысутных, спыніліся на доктары… Недавер… нясмелая надзея… шчасце… Ого, якое шчасце! І ўсё — за пару секундаў.

Танклявая шэравокая дзяўчына з усяе моцы абшчаперыла мужчыну ў падранай кашулі і плакала, уткнуўшыся яму ў шыю…

Лёдніка за адну ноч ажно дзве жанкі слязьмі вымачылі.

Але хто мог асудзіць Чорнага Доктара, які абдымаў сваю гаротную асістэнтку, нешта супакойваючае шаптаў і лёгка-лёгка кранаў вуснамі лоб? Хто мог асудзіць асістэнтку ў гэты момант? Не Пранціш, дакладна… І нават не Аляксандр. Бо радасці ад таго, што паненка жывая, было куды больш, чым нявартага рыцара болю, што паненка на яго не зважыла.

Нарэшце Лёднік адхінуў ад сябе дзяўчыну і павярнуўся да пані Тэрэзы, якая сузірала кранальную сцэну спаткання і пачынала змрачнець. Вой, каб зноў уладарка Белага Каменя не ўсхадзілася…

— Вам трэба адпачыць, ваша княская мосць, — пакланіўся Чорны Доктар. А гаворыць жа, як кот Варгун, не хочаш — паверыш. — Выспіцеся, як след… Вам мусілі прыгатаваць супакойваючы напой па маім рэцэпце. Мы не наважваемся далей назаляць сваёй дабрадзейцы. А я заўсёды гатовы даць кансультацыі пані.

Гэх, цяпер бы на калені па звычаі бухнуцца, ручкі-ножкі той дабрадзейцы расцалаваць… Як зрабіў бы кожны нармальны шляхцюк.

Пранціш скасавурыўся на ганарыстае змрочнае аблічча Лёдніка, засяроджаны твар дактаровіча, заплаканую Праксэду, якая, аднак, трымала спіну надзвычай роўна...

Не, сармацкія звычаі не для гэтых.

На вялікае шчасце, пані Тэрэза яшчэ не дарэшты ачомалася ад прыступу. Таму толькі вяла махнула рукой і ўпала на падушкі.

Грос уласнаручна выштурхаў гасцей са спачывальні.

Цяпер паспець бы пакінуць замак з белага, шэрага і крывавага каменя…

***Заканчэнне ў наступным нумары.***





**Ганад ЧАРКАЗЯН**

# ДОБРАМУ ЗАЎСЁДЫ ЦЯЖКА ЙДЗЕЦЦА...

* * *

Сумным вее дружбы спасціжэнне:
Што ні возьмеш — тое прадаецца.
Чалавек залежыць ад кішэні,
Ад таго, які ў ёй грош вядзецца.

* * *

Сябра ў пушчы, ціхі і старанны,
Збег ад мітусні й хвалы, але
Бездарам хвалу пяюць экраны.
Бездар, ён і бачны па хвале.

* * *

З самых розных нацый і народаў
Бог стварыў вясёлкавую згоду.
А бажкам зямным вясёлкі колер
Не лагодзіць, толькі вочы коле.

---

*__Чарказян Ганад Бадрыевіч__ нарадзіўся 18 кастрычніка 1946 года ў Арменіі. Вучыўся ў тэхнічным вучылішчы № 1 горада Ерэвана, у прафесійна-тэхнічным вучылішчы № 27 горада Эчміадзін, працаваў на суднарамонтным заводзе імя Ф. Дзяржынскага ў горадзе Туапсе Краснадарскага краю, служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ерэванскі індустрыяльна-педагагічны тэхнікум (1976) і будаўніча-педагагічны факультэт Беларускага політэхнічнага інстытута (1982). Працаваў у будаўнічых арганізацыях Мінска, у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — дырэктар фірмы ТСТ.*

*Піша на курдскай, армянскай і рускай мовах. Выдаў у перакладзе на беларускую і рускую мовы зборнікі вершаў «Прочность» (1980), «Цвет доброты» (1986), «Пространство и время» (1990), «Плач» (1994), «Караваны гор» (1996), «Чаргаві» (2001), «Дом дождя» (2001), «Тоска по дому» (2003), «Зорная глыбіня» (2005), «Мелодия разлуки» (2006), кнігі прозы «Шамдзін» (1998), «Камни печали» (1999), «Белая вежа» (2010), раман «Опередить смерть» (2005) і інш.; кнігі для дзяцей.*

* * *

Крэсляць аркуш новага світання
Смутак, адзінота, здрада, зло.
А душа стамілася ў чаканні:
Дзе ж любоў, і вернасць, і цяпло?

* * *

Заўжды трымае хцівасць востра вуха,
Каб тое прыхапіць, што патлусцей.
Дзе сеюць зло — заўжды расце разруха,
І забыцця трава яшчэ расце.

* * *

Прыдбаў пасаду, а ці стаў дабрэй?
Падказвае мне ісціна старая:
Бярэ і той, хто не сваё бярэ,
Ён нават горш таго, што забірае.

* * *

Гісторыі зігзагі і зігзагі лёсу
Не церпяць чалавечай праматы.
Нічога дзіўнага, што ўсе дзівосы
На месцы нараджаюцца пустым.

* * *

Усё я растраціў няўзнак і дарма.
Шкада, што й паплакаць часіны не маю.
Я згодны: падпоркамі дом не ўтрымаць,
Калі сам падмурак яго не трымае.

* * *

Жорсткі я — твае мне кажуць кпіны.
І калі ўжо строга разважаць,
Чалавек жа створаны не з гліны…
Калі б знаць, дзе гібкасці мяжа…

* * *

Не кладзі чужы медаль на вагі,
Золатам сваім сябе не цеш.
Часам там бывае больш павагі,
Дзе самога бляску значна менш.

* * *

У моры часу плывеш, як рыба:
Не бачыш хваляў, не чуеш дна.
Прыліў схавае ўсе нашы хібы,
Адліў пакажа іх зноў спаўна.

* * *

Ёсць пра жанчыну думка цвёрдая —
Яна цнатлівая і гордая.
Яшчэ дадайце цяжар вечны,
Што час ёй узваліў на плечы.

* * *

Мой сябра жыў, гуляў са смакам.
Што меў, праз горла ўсё сплыло.
Працверазеў — дык горка плакаў,
Ды плакаць позна ўжо было.

* * *

Неўладкаваны гэты свет усё ж:
Як ні кружы — з бядой не размінуцца.
Адным карціць прайсціся басанож,
А некаму няма за што абуцца.

* * *

О, як хацеў бы ведаць кожны з нас,
Што пасля нас урэшце застанецца.
Адно бясспрэчна, прыйдзе мудры час,
А прыйдзе, дык ва ўсім і разбярэцца.

* * *

Ты спявай, але не крыўдзі салаўя,
Калі пад яго сваё спяваеш.
Песня сёння ў кожнага свая,
А душы не ў кожнае хапае.

* * *

Называўся сябрам, а душа чужая,
Раскусіў я позна ворага свайго.
Мы ў адным акопе з ворагам ляжалі.
Сам я вінаваты. Сам стварыў яго.

* * *

Падаткі на машыну, на дарогу,
На хлеб, на песню, што я ў свет нясу.
Няма яшчэ падаткаў, дзякуй богу,
На мару, думку і маю слязу.

* * *

Пчала на кветцы ранні мёд збірае,
За працу я спяваю ёй хвалу.
А труцень, што нічога не стварае,
Глядзіць звысоку на мяне й пчалу.

* * *

Сапраўдны творца творыць і ў каморцы.
Пасрэдны, ён інакш на ўсё глядзіць.
Згаджаецца, што Бог найпершы творца,
А пасля Бога — толькі ён адзін.

* * *

Ціха жыў і ціха адышоў,
Але голас не згубіўся ў часе.
Трэба жыць з душой, спяваць душой,
Каб з народам песня засталася.

* * *

Гэтым выцер слёзы суцяшальна,
Іншым нахлусіў, наабяцаў.
Дрэнна, калі хлуса узвышаюць
І з нікчэмца робяць мудраца.

* * *

Гіне свет, бо гінуць дзесьці дзеці,
І жаданай згоды ўсё няма.
Праўда непрыкметных не прыкмеціць,
Адшукае іх хлусня сама…

* * *

Маленькі гурт — як узурпацыя улады.
Там, дзе рабы, часовы ёсць бажок.
Час церпіць крыўды, жахі і загады
І растае, як восеньскі сняжок.

* * *

Генію не проста жыць усё-ткі,
Ці разцом ён творыць ці пяром.
Збудаваў ён замак найзіхоткі,
Хлус у ім цяпер гаспадаром.

* * *

Круг чарці — і ў ім жыві адзіна,
З думаю пра вечнасць і прагрэс.
Хоць здаецца, што жыццё — маліна,
А яно — ядловец колкі спрэс.

* * *

Зло за дабрынёй услед пляцецца,
Хоць яна яму і не радня.
Добраму заўсёды цяжка йдзецца,
Калі не прытворства — дабрыня.

***З курдскай.***
***Пераклад Казіміра КАМЕЙШЫ.***





Мікола ЧАРНЯЎСКІ

# НЯВЫДУМАНЫЯ АПАВЯДАННІ

## Саквояж

Часам гляджу па тэлевізары, як выступае кандыдат гістарычных навук, вядомы архівіст Вячаслаў С., і заўсёды згадваецца яго вартая ўсмешкі гісторыя...

З партфелем хадзіць — элегантна падавалася, а з тым жа замежным ці айчынным саквяжам — болей зручна было, не толькі прэстыжна: тут знаходзілася месцейка і ўсялякага роду паперам і кнігам, і харчоваму прыпасу, калі ты выбіраўся ў камандзіроўку, і неабходная колькасць таго прыдатнага прадукту, які можна было прыдбаць у краме ў звыклым паўлітровым эквіваленце. Ад празмернага перабору ім распірала бакі, яны круглелі, як тыя бычкі на адкорме, але трывалі, не паддаваліся гвалту з боку свайго ўладальніка-гаспадара.

Здаралася, разыходзіліся замочкі, адляталі дужкі ручак-почапак, але гэта не лічылася такой ужо сур'ёзнай шкодай, у майстэрні ім заўсёды знаходзілася належная замена. Можа, не такая адэкватная, прыгожая і трывалая, але знаходзілася. Нездарма, відаць, гэтыя самыя саквяжы надта ж адразу ўпадабалі розныя там навукоўцы, хто прычыняўся да мноства патрэбнай ім літаратуры ды рэфератаў, і людзі болей звыклага занятку — начальства розных гандлёвых кропак, установаў, загадчыкі прадуктовых баз і складоў, а таксама спецыялісты бадай не самага высокага рангу — аўтарамонтнікі, слесары-сантэхнікі, якіх часцей за ўсё люд паспаліты водаправодчыкамі велічае. Іх рыштунак, што павінен у любую хвіліну быць пад рукою, звычайная сумка наўрад ці змесціць увесь, а тым болей — вытрымае, не раз'едзецца па швах ад металічнага цяжару. Ці не таму прыдбаць людскі саквяж было тады справай турботнай, якая межавала з удачай, і не менш.

---

*__Чарняўскі Мікалай Мікалаевіч__ нарадзіўся 16 студзеня 1943 года ў вёсцы Буда-Люшаўская Буда-Кашалёўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1966). Працаваў у рэдакцыі газеты «Піянер Беларусі», на Беларускім радыё, у часопісах «Бярозка» і «Вясёлка».*

*Піша для дзяцей і дарослых. Аўтар зборнікаў лірыкі, сатыры і гумару: «Чалавечнасць» (1971), «Трывога» (1988), «Лёкса ў люксе» (1993), «У трох соснах» (1996), «Сонечны кошык» (2009) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра (1995), прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (2001), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010).*

Праўда, не лішне заўважыць, што, як і ў людзей, у саквояжаў меўся свой у нейкім сэнсе сацыяльны статус, ці, як сёння кажуць, імідж: былі саквояжы — гранды, скураныя, дыхтоўныя, нават пазначаныя біркаю вытворцы, і былі болей шараговыя, меней кідкія, але аднолькава змяшчальныя, ёмістыя. З якім саквояжам хадзіў сціплы архіўны супрацоўнік, няхай сабе і патэнцыяльны кандыдат навук, здагадацца няцяжка...

У той дзень дамовіўся Вячаслаў «расслабіцца»: з сябрам, такім жа гісторыкам-архівістам Міхасём Ш., схадзіць у кіно. Часу хапала, таму вырашыў, пакуль той пачатак сеанса, зазірнуць у Цэнтральную кнігарню: можа, нешта патрэбнае там з'явілася? А ў кнігарні парадак быў: заходзіш — пакінь свой партфель ці саквояж на стале пры ўваходзе, а сам ідзі да паліц з кнігамі, глядзі, выбірай.

Зайшоў Вячаслаў, паставіў саквояж на столік, агледзеўся, каб пераканацца, што нехта будзе прыглядаць за ім, і да кніг падаўся. Патаптаўся, пагледзеў сёе-тое з іх, вярнуўся назад, адшукаў вачамі свой саквояж, у руку — ды з кнігарні.

Сустрэўся з сябрам у двары кінатэатра. Селі на лаўцы, Вячаслаў саквояж бліжэй падсунуў, замочкам шчоўкнуў:

— Пакажу табе, Міша, што я напісаў, колькі сваёй кандыдацкай агораў.

Расчыніў саквояж і холад працяў яго: саквояж поўны нейкага пакулля, шрубак, галовак кранаў!.. Нейкі тросік ляжыць, пласкагубцы, вялізны ключ...

Сябрук таксама недаўменна вочы вытарашчыў:

— Адкуль усё гэта ў цябе? Якая ж тут кандыдацкая?

Кінуўся з усіх ног Вячаслаў назад у кнігарню. Балазе яна блізка, амаль побач знаходзілася. Прымчаўся, задыханы, а там нейкі дзяцюк у спяцоўцы на ўсю кнігарню лямантуе:

— Хто мне саквояж з маім інструментам падмяніў? Хто мне падсунуў свой, напханы паперамі? Я ж водаправодчык, мне ж без майго струманту, як без рук! Дзе цяпер шукаць гэтага гада?

Падскочыў Вячаслаў да яго, пхае яму ў рукі ягоны саквояж, прабачэння пачаў прасіць. А той ніяк не можа супакоіцца, ледзь не за грудкі хапае. Ніяк не хоча зразумець, што ўсё памылкова выйшла: абодва ж саквояжы аднаго колеру, карычневыя.

Давялося нават адшкадаваць траячку на віно, каб гэты водаправодчык, прызвычаены да «чаявых» пры выкліках на кватэры, крыху супакоіўся, астыў.

А кандыдацкую Вячаслаў С., як бачым, абараніў. Ды цяпер трэба клапаціцца, каб яна не згубілася, але ўжо — у неабсяжным архіўным моры.

## Кукіш у... канверце

Чаго толькі не пачуеш ад вясковых людзей. Цяперашніх гісторый поўны караб сабраць можна, хоць вёскі не такія ўжо людныя сталі. А даўнейшых — яшчэ болей. Асабліва сямейных, жыццёвых. Ці як часцей кажуць — бытавых. Праўда, ад нядаўніх больш страхоццямі ды крыміналам патыхае, тыя ж, даўнейшыя, калі пачуеш якую, чамусьці ў большасці сваёй усміхнуцца вымагаюць, а то і пасмяяцца ад душы. Хаця і тады ў жыцці вяскоўцаў вясёлага мала пракідвалася, аднак жа... А чаму да вяскоўцаў «прычапіўся», нібыта ў гарадскіх нічога трагічнага і камічнага не здараецца, ды таму, што гэтую, якую расказаць хачу, якраз у вёсцы пачуў, і не ў сваёй, а калісь на летняй пабыўцы ў цешчы.

Сядзім неяк у садзе, частуемся, час ад часу кідаючы позірк на дарогу, па якой у бок літоўскай мяжы то аўто якое праскочыць, узняўшы за сабою доўгі хвост пылу, то хто на ровары праедзе, ці нехта пехатою пратэпае. Тады яшчэ мяжа гэта проста ўмоўнаю была, пра нейкія там заслоны нікому і ў сне ў галаву не праходзіла, пра цяперашнія ж мытныя парадкі — тым болей. Куды захацеў — туды пайшоў. Віза часцей адна была, па-суседску адкрытая ў любую пару года, у любы час дня і ночы — пляшка-дзве «дарпэвэны» (у літоўцаў — «яшчэ па адной»), ці такой жа мясцовай жытнёўкі, з духмяным ванзэлкам вяндліны або паляндвіцы ў тэчцы. Калі бракавала такой прыкускі, выкладваўся адтуль не менш далікатэсны брус хатняга сала і колькі агуркоў...

Сядзім, значыць, гамонім, цесць у кілішкі падлівае, цешча сёе-тое з прыгатаванага на талеркі падкладвае. Бачу, на дарозе нейкая кабета паказалася, мелькам азірнулася і ў бок нашага двара і даволі бойка пакіравала праз поле да сяліб, што віднеліся ўдалечыні, якраз на тым самым памежжы.

— Мусіць, Альжбэта ў дачкі, у сваёй Уладзі, гасцявалася, — гледзячы ўслед ёй, выказала здагадку цешча. — Кажуць, унучка Дана з Вільні прыехала, дык і яе заадно праведала. Да нас нешта не зайшла. Пэўне, спяшаецца да хаты, каб жывёл з пашы пераняць. Яна ж, як надумае да касцёла ў Начу, дык тады да насаначкі прыходзіць. Адсюль, здаецца ёй, бліжэй. Тады ўжо наранку бацька запрагае каня, і разам едзем да Начы. Не можа ўжо далёка хадзіць, як раней. Ногі не тыя. — Потым з нейкай вясёлай ноткай у голасе звярнулася да мяне: — Ты, можа, усякія гісторыі збіраеш, дык бацька няхай раскажа табе, як Альжбэта зяцю свайму адпомсціла, як той Уладзьку яе кінуў. Раскажы, Юзюк, няхай твой зяць пасмяецца.

Ведаючы, які з цесця гаварун, я ўсё ж такую нагоду згадзіўся перакласці на цешчын язык, бо за яго ніколі не трэба было цягнуць, каб вывудзіць якое лішняе слоўка: пры любой гаворцы ён да іх быў болей ахвочы, чым у каго, мог сыпаць бесперастанку, як гарохам тым. Толькі ўпраўляйся лавіць іх і, калі ўдасца, запомніць.

Цешча пачала здалёк.

— Гэта ж, калі мы з бацькам пабраліся пасля вайны, дык нас не ўзяліся распісваць у сельсавеце. Я яшчэ гадамі не выйшаўшы была, мне толькі сямнаццаць рачочкаў набегла, пад закон не падпадала. Павянчаліся ў касцёле ў Начы, узялі там шлюб — і ўсё. І Альжбэта сваю Уладзьку так жа замуж выдала. Шлюб маладыя ў касцёле бралі...

Што было далей, я ўжо сам раскажу, бо пераказваць тую гісторыю на мове мясцовых «паліглотаў», беларуска-польска-літоўскаю гаворкай, што там бытавала, наўрад ці змагу: маёй сучаснай філалагічнай адукацыі яўна недастаткова для гэтага. Дыктафона пад рукою не меў, а «загрузіць» памяць, як той камп’ютар ці мабільнік цяпер, не ўдалося. Таму слухайце.

Вяселле адгулялі, як і вялося ў тых мясцінах. З музыкантамі, з падстаўной нявестай, з граннем «на дзень добры», з «цыганамі» і, вядома ж, з падарункамі. На асаблівае багацце іх ніхто не разлічваў, але ж маладым для разжытку нішто не было лішнім.

Раз’ехаліся, разышліся госці з хаты, пакінулі маладых у спакоі: няхай жывуць у ласцы ды згодзе, нараджаюць ды гадуюць дзетак у добрым здароўі і радасці. Наказвалі вясельныя госці па традыцыі, па звыклай завядзёнцы, а маладыя, Казімір і Уладзя, ужо ведалі, што чакаць такога шчасця доўга не давядзецца. Аднак жа пра гэта не ведалі ў ваенкамаце. Жаніцьба жаніцьбай, а ёсць абавязак перад айчынай — хлопцу адслужыць трэба ў арміі. Тым болей,

тады, каб неяк адкупіцца, выкруціцца, ці, як цяпер кажуць, «адкасіць» ад службы ў войску, у галаву, напэўна, мала каму прыходзіла. Забралі Казіміра ў армію, пакінуў ён Уладзю з дачкою чакаць яго вяртання ў матчынай хаце.

Пачаліся доўгія, пакутныя дні і месяцы чакання. І заклапочаная Уладзя, і сама Альжбэта з нецярпеннем высочвалі кожнае з'яўленне вясковай паштаркі каля хаты: можа, ёсць пісьмо ад Казіка? Пісьмы прыходзілі, але чым далей, то чамусьці ўсё радзей і радзей. А той ліст, як лёскатам перуна аглушыў: «Мяне не чакайце. Я тут ажаніўся. У мяне ёсць законная жонка. Я распісаўся з ёю». Дзесьці такога кшталту. А каб Уладзя з маткаю перакаваліся, што ўсё адбылося так, як ён піша, прыслаў ім копію пасведчання аб шлюбе, завераную казённай пячаткай.

Што было пасля гэтага — няцяжка ўявіць: разгубленая Уладзіслава ў слёзы, да маці ў роспачы кінулася: «Што рабіць будзем, мама? Гэта ж не жартачкі ў яго, паглядзі!» Толькі сама Альжбэта, прыгарнуўшы дачку да грудзей, вытрымаўшы ўсе яе ўсхліпы, здавалася, спакойна ўсё ўспрыняла, быццам загадзя ведала, што так яе замуства павернецца.

— А што ўжо зробіш, дачушка? Будзем неяк адны выкручвацца. Не бойся, выгадуем тваё дзіцятка. А можа, яшчэ лепшы хлопец табе знойдзецца, не паглядзіць, што з дзіцяткам, палюбіць, прыхінецца. Ты ж не нагуляла яго, пад шлюбам была ў касцёле. — І ўжо на вёсцы, прылюдна, не магла стрымаць свайго гнеўнага запалу: — Гэта ж трэба да такога дадумацца — кінуць маю Уладзьку! Ад дочачкі ўмэнт адхрысціўся, унучачкі маёй залатой! Думае, у арміі той ніхто яго не дастане, не трасяне як трэба!.. Ага, думай, думай, кот шкадлівы! Думаеш, злізаў смятанку і сыты да канца дзён сваіх будзеш!..

І падказаў ёй кемлівы бабскі розум, як дапячы здрадліваму зяцьку, адпомсціць за горкія слёзы і ганьбу. Нічога не сказаўшы ні свайму «нягегламу» Стэфану, ні дачцэ, выбралася Альжбэта аднае раніцы ў райцэнтр, у Радунь. Аўтобус тады ў тую Радунь не хадзіў, а калі трэба было чаго, дабіраліся туды, хто як мог: канём, спадарожнай машынай, а часцей — сваім ходам. Са спадзевам, што, можа, нехта дарогай падбярэ, падвязе вёрстку-другую, пашыбавала яна за дваццаць кіламетраў у райцэнтр. Там, ведала Альжбэта, працуе камбінат, які прымае ад людзей самыя розныя заказы, нават фотакарткі робіць. А ёй якраз патрэбна фатаграфія. Хоць растраціцца нечаканага, лішнія рублі выкіне, а былому зяцьку, таму кату шкадліваму, сюрпрыз паднясе. Няхай не думае, што ён адзін такі разумны: прыстаў, мусіць, да нейкай дурніцы ў прымы, каб у калгас не вярнуцца такім чынам, у гарадскія выбіцца, а дзіцятка роднае сіроткаю пусціць у свет! Бога не пабаяўся, адрокся, забыў, як у касцёле на крыжы прысягаў... Ды што ўжо казаць, калі пайшоў на такую здраду перад Богам і людзьмі сваімі!..

Перад тым, як адправіць гэты здымак «здрайцу» Казіміру ў тую часць, дзе ён служыў, Альжбэта той здымак у вёсцы ўсім-усім паказала. Адны, зірнуўшы на яго, недаўменна паціскалі плячыма, гмыкалі з ухмылкаю, другія, дзівячыся з такога Альжбэцінага выкрунтаса, можа, нават дурноцця, — заходзіліся ад смеху: «Ну, ты, Альжбэтка, і дадумалася! Каму б такое ў галаву магло прыйсці? Цікава, ці пакажа каму Казік такую картачку з дому? Во смеху будзе, як убачаць!»

А падзівіцца было з чаго: на фатаграфіі, якую Альжбэта прынесла з райцэнтраўскага камбіната бытавых паслуг, ва ўсёй сваёй пекнаце і непаўторнай выразнасці быў на ўсю велічыню сфатаграфаваны Альжбэцін... кукіш! Калі ж улічыць, што кулак у яе з дзявоцтва, ад прыроды нейкай бабскай далікатнасцю не вызначаўся, само сабой зразумела, і «дуля» на здымку выйшла падкрэсле-

на «апетытнай» і «сакавітай»... Людзі жартавалі, уведаўшы пра яе задуму, не хавалі свайго падвышанага настрою, і штосьці такое рабілася ў тыя хвіліны і ў Альжбэцінай душы: яна святкавала перамогу, хоць не дужа пераканаўчую, невядома яшчэ якую, але ж — перамогу. Так ёй тады здавалася...

Як пачувалася Казіміру пасля такога «падарунка» былой цешчы, ніхто сказаць не можа. Мабыць, не дужа радавалася яго душа, бо не магло тое пісьмо ў салдацкай сябрыне тайнаю застацца. А значыць, і сапраўды — смеху было на ўсю часць!..

Як і напісаў тады, у родную вёску, да сваёй Уладзі, ён не вярнуўся. Застаўся ў чужых краях, у тым горадзе, які прыняў яго, даў яму прытулак, а, магчыма, і сямейнае шчасце. А як жа склалася жыццё ў пакінутай ім Уладзі, у дачкі? З вёскі нікуды не з'ехала, замуж у другі раз не выйшла, адна выгадавала дачку Данусю. Не без матчынай помачы, канешне. Старэйшыя браты Вацлук і Чэська дапамаглі ёй хату паставіць, займець свой куток. Не дужа панскі, ды — свой. Жыла ў ім ні бедна, ні багата. Трымала жыўнасць, як і ўсе вясковыя кабеты, гарбацілася ў полі, на ферме, а ў вольную часіну падмацоўвала сямейны прыробак шыццём, сачыла, каб дачка добра вучылася. Дачка ж, адвучыўшыся ў школе, не засталася з ёю, з матчынай згоды з'ехала на вучобу ў Вільню, нейкі інстытут там скончыла. У Літве і працаваць засталася. Туды ж, як выйшла замуж, трохі абжыўшыся, і маці забрала. А ў пустую хату перабраўся адзін з Уладзіных братоў. Сама ж Альжбэта звекавала ў той хаце на памежжы, дзе нарадзіла і выгадавала дзяцей...

Гэта ўжо было пасля, да майго забягання наперад. А тады, у той летні дзень, гледзячы ўслед Альжбэцінай постаці, якая ўжо амаль схавалася ўдалечыні, там, каля лесу, дзе туліўся і яе хутар, трохі падагрэты цесцевым пачастункам, чамусьці шчыра пашкадаваў, што самому, як некалі яе аднавяскоўцам, не давялося палюбавацца на той дасціпны «партрэт» — такі арыгінальны і непаўторны твор фотамастацтва, якіх у гісторыі сусветнай фатаграфіі, напэўна, дагэтуль не было.

Цяпер ужо ведайце: такі твор ёсць. Толькі пашукаць трэба. Хто гатовы?..

## Даруйце мне, пчолкі…

Навіна, якую дзеду Юзіку і бабе Уладзі паведамілі зяць з дачкою, іх і ўзрушыла, і занепакоіла адначасова. Перабрацца на старасці гадоў у сталіцу, паспытаць гарадскога жыцця, не такога хапатлівага і бяссоннага, як у вёсцы, дый чысцейшага і спакойнага, пазбаўленага вечнага клопату пра сена для жывёлы і дровы на зіму, хіба не мара любога вясковага пенсіянера? Але ж, як з гаспадаркаю быць, з тым, да чаго, можна сказаць, прыраслі за свой век? З гэтым куточкам, зямелькай, раднёю, суседзямі?

Найбольш не спалася, ад усялякіх думак-перадумак пухла галава ў дзеда Юзіка. І адкуль было ўзяцца таму спакою, суцешліваму ладу думак? Купцоў на хату няма, дый перад кім шапку здымеш, калі такіх, яшчэ файных сабою, але апусцелых, хат у вёсцы — не на адну сям'ю набярэцца, хто б захацеў раптам тут на свой куток узбіцца. Праўда, на каня купец ужо напытаўся, а ў чые рукі пчолак аддаць? Гэта ж не гатовенькі мёд, на які ахвотнікаў шукаць не трэба, а пчолкі. За імі ж глядзець трэба ўмець, з любоўю і пачцівасцю падыходзіць. Не паглядаць раз за разам, а рупіцца і вясною, і ўлетку, і з восені вуллі ўцяпляць, каб ім там шкоды мароз не нарабіў. Не мароз, дык… Ці ж мала зайздроснікаў ды ворагаў у шчырых крылатых працаўніц? Звялі-

ся ў вёсцы пчаляры, няма гаспадароў, хто б хацеў увязацца ў такі салодкі і неспакойна-руплівы клопат.

Да таго ж, у гэты год не дужа пашанцавала з пчолкамі: убіўся ў іх уладанні паганы клешч, нарабіў злыдзень шкоды, загінулі аж тры пчаліныя сям'і. Але ж дзве сямейкі засталося, уцалелі. Жывыя-здаровыя, і не слабыя. А там, глядзіш, зноў рой знекуль прыляціць. Для такога «госця», як і ўсе разы, у запаслівага дзеда Юзіка пусты вулей падрыхтаваны, ужо даўно чакае гудлівых навасёлаў. На іх дзеду Юзіку амаль штолета шанцавала, іх нібы магнітам прыцягвала да ліп і вішань, што галінаста высіліся вакол саду, дзе знаходзілася яго пчаліная гаспадарка. Здаралася, пчолы прыбіваліся да каго з суседзяў, тады зноў жа хтосьці з іх спуджана мчаўся да дзеда Юзіка, бо ведалі — ён умеў вельмі асцярожна і вынаходліва, па-свойму прафесійна «ўгаманіць» раз'ятраны рой, да апошняй пчолкі згрэбці з голля ў торбу, каб потым, як трохі супакояцца там, «запрасіць на ўваходзіны» ў іх новую дамоўку. Нават не заўсёды карыстаўся пчалярскім каптуром, здымаючы такія пчаліныя «падарункі». Можа, ён, як той чараўнік, умеў загаворваць пчол, а тыя адчувалі, што трапяць у клапатлівыя рукі і ў падрыхтаванай ім дамоўцы на дзедавай пасецы зажывецца лепш і ўтульней, чым у той, адкуль уцяклі, дзе было ўжо цесна гуртаваць новую сям'ю?..

Як ні бедаваў дзед Юзік, а восенню давялося са слязою ў вачах і з болем у сэрцы пакінуць дзве скрынкі з пчолкамі сірацець у садзе, чакаць блізкіх халадоў. З сабой жа ў горад іх не забярэш, не прытуліш на балконе, хоць, як сказалі дзеці, будуць жыць яны ў кватэры з двайным балконам, а новы мікраараён — самы ўскраінны, яшчэ густа не забудаваны, нават поле зусім блізенька, дзе чмялям і пчолкам улетку меданоснага зелля, мусіць, уволю хапае. Думалася, можа, нехта ўсё ж падахвоціцца, паглядзіць, што дармавыя, ды забярэ пчол да свайго двара. А ніхто не паквапіцца на кінутае багацце, дык няхай будзе як будзе. Такая ўжо воля Боская. А каб гэтым сіроткам не галадна зімою было, не аслаблі, выжылі да вясны, да першых вылетаў, не пашкадаваў ім дзед Юзік перад зыходам з пчальніка цукровага частунку падсыпаць, каб «сталоўка» іх выглядала яшчэ багацейшай, чым раней. А за вясну ды лета, выбраўшыся з вулля, можа, самі дзе нагледзяць новы прытулак, сямейкай прыб'юцца да якога спагадлівага гаспадара? Не можа ж быць, каб свет ды зрабіўся раптам без добрых людзей!

…Таго дня ўзбуджаную гаману каля пад'езда з вышыні свайго трэцяга паверха першай пачула баба Уладзя. Звычна выглянула з кухоннага акна і ўбачыла: стоўпіліся зводдаль лаўкі, на якую выходзяць яны кожны дзень пасядзець ды пагаманіць з суседзямі, купка людзей, знаёмых і незнаёмых ім кабет ды дзядзькоў, нешта ажыўлена абмяркоўваюць, раз-пораз тыцкаючы рукамі ў бок адцвіўшага куста абляпіхі, пад якім стаяла лаўка, нечага азіраюцца туды-сюды, быццам іх нехта раптам напалохаў.

— Юзік, — гукнула яна мужа, —– чаго б там людзі маглі сабрацца? Можа, здарылася што?

— Мала чаго сабраліся, — буркнуў не кідкі на размовы дзед Юзік, падышоўшы да акна. — Можа, «хуткую» выклікалі ды чакаюць. Тут жа такіх, як мы з табой, унь колькі абжылося. Здароўе ўжо ў такіх не жалезнае.

— А я спушчуся ўніз, пагляджу. Можа, сходку якую аб'явілі, а нам не сказалі, — падахвоцілася змоладу няўседлівая ды вёрткая баба Уладзя, прыхапіла кіёк і, накульгваючы на аблюбаваную артрытам нагу, рушыла да дзвярэй.

Чамусьці яна доўга не затрымалася на вуліцы. Можа, каго са знаёмых ці суседзяў там убачыла, ці хацелася хутчэй данесці мужу пачутае і ўбачанае.

— Юзік, — прыкметна ўсхваляваная нечым, яшчэ з парога загаварыла баба Уладзя, вярнуўшыся з нечаканай разведкі. — Там пчолы прыляцелі, цэлы рой да абляпіхі прыстаў. Людзі баяцца, каб яны не раз’ятрыліся ды не пачалі на іх кідацца, у вокны залятаць. Бяда ж тады будзе. Загрызуць яшчэ каго, чаго добрага! Чула, што некуды пазванілі ўжо, каб прыехалі ды абабралі гэтую «пчаліную бараду» з галля. І як яны апынуліся тут, адкуль прыляцелі? — Потым нібы паджартавала: — Няйначай, гарадскімі стаць захацелі…

Што жонка распавядала далей, дзед Юзік ужо не слухаў.

— Знайдзі мне скарэй навалачку якую ды вехаць з чаго там звяжы, а я ў чысцейшае прыбяруся, — заспяшаўся дзед Юзік, адчуўшы раптам той паўзабыты ўжо азарт і ахвочасць, з якімі браў раі ў сваіх родных Бялюнцах. Хоць не верылася ў цуд, але ж цюкнула, але ж падумалася ў той міг: «А што, калі гэта яны, мае пчолкі? Адкуль тут чужым узяцца?»

— Ты здурнеў? — ледзь не ўзмалілася баба Уладзя, убачыўшы, як рухава затупаў па кватэры гаспадар. — А калі пакусаюць? Ды ці аднаго цябе? — Але паспяшалася выконваць мужаў загад. Праўда, як вялося спакон, парупілася папярэдзіць, каб пасцярогся, не сарваўся ды скабы не пабіў, як ужо здаралася ў вёсцы.

Прыхапіўшы торбу, каструльку з вадой і вехаць з рыззя, што похапкам звязала яму баба Уладзя, дзед Юзік з’ехаў ліфтам уніз. Людзі не разыходзіліся, як і раней, ажыўленаю купкаю тоўпіліся зводдаль пад’езда. Убачыўшы дзеда Юзіка, загаманілі наперабой:

— Не падыходзьце блізка. Мы ўжо выклікалі МНС. Павінны хутка прыехаць. Сказалі, каб мы самі не чапалі пчол, загадзя не растрывожылі іх. Тады ніхто з пад’езда на вуліцу выйсці не зможа.

Не зважаючы на перасцярогу ўстурбаванай людской сходкі, дзед Юзік бліжэй падступіўся да куста абляпіхі, узняў вочы на гудлівую «пчаліную бараду», што звісала з галіны вышэй чым на ўскід рукі, ледзь не запрычытаў, змахнуўшы слязіны з вачэй:

— А пчолкі вы мае мілыя! Гэта ж вы мяне тут знайшлі! Як я вінаваты перад вамі, што кінуў вас там адных, як сіротак гаротных! Даруйце, даруйце мне, старому! Вінаваты, вінаваты я перад вамі моцна!..

Людзі слухалі гэтае прычытанне, недаўменна пераглядаліся: што раптам стала з дзедам Юзікам? З чаго б гэта ён пачаў спавядацца перад пчоламі, прасіць у іх даравання? За якую правіну? Адкуль ім было ведаць, за які свой «грэх» прасіў даравання ў залётнага роя, у гэтых пчол спрацаваны вясковы шчырун, а нядаўні гараджанін і іх сусед па пад’ездзе дзед Юзаф Вікенцьевіч?

А дзед Юзік стаў на сярэдзіну лаўкі, над якой блізка схілялася калючае голле абляпіхі, абмакнуў вехцік у каструльку з вадой і, размахваючы ім дробненька туды-сюды, пачаў апрыскваць вадою чорную жывую «бараду», якая пагрозліва гула і варушылася, звіснуўшы з гнуткай галіны, і абыходліва не шуфлікам, як гэта часцей рабіў у вёсцы, а звычайнаю лыжкай, якую прыхапіў на кухні, стаў зграбаць прыціхлую ад нечаканага «дожджыку» ройную «кашу» ў торбу-навалачку. Згробшы рой да апошняй пчолкі, завязаў торбу на вузел, апусціў на лаўку і, зірнуўшы сабе пад ногі, ступіў з яе на дол. Перад гэтым нейкая з жанчын падскочыла да яго, працягнула руку, каб падтрымаць дзеда за рукаў, ды ён рашуча адхіліў яе: маўляў, яшчэ сам не такі ўжо няўклюдны і нямоглы атопак, хоць усе восемдзесят пяць не запаволілі падабрацца, што выклікала толькі прыязную ўсмешку ў астатніх, хто стаў сведкаю такой нязгоды старога чалавека.

У эмэнэсаўцаў, якія падкацілі да пад’езда, яшчэ не ведаючы, што іх выручка ўжо не спатрэбіцца, запытаў:

— Куды вы з імі зараз? — потым патлумачыў: — Толькі вось так, у завязанай торбе надоўга іх не пакідайце, а то, чаго добрага, задыхнуцца могуць ці матку слухацца перастануць і вайну між сабою развяжуць, крылле адна адной падрэжуць.

— Нешта прыдумаем, — прыняўшы з дзедавых рук торбу, кінуў адзін з іх, відаць, старэйшы па званні, кіруючыся да аўто.

Эмэнэсаўцы паехалі. Паступова разышліся па кватэрах суседзі і выпадковыя разявакі, адно дзед Юзік не спяшаўся да ліфта, а стаяў і ўзіраўся на голле чэзлай абляпіхі, з нейкай шкадобай ды скрухай у голасе вымаўляючы раз за разам: «Ай-яй-яй! Ай-яй-яй!» Што за сэнс ды пачуццё былі ўкладзены ў гэтыя словы, пэўна, тонка, як ніхто, адчуваў і разумеў толькі ён адзін. Ды яшчэ, можа, яго Уладка, якая, высунуўшыся з расчыненага акна, зазыўна падавала голас, каб вяртаўся ўжо дадому.

Але ж ён не спяшаўся. Убачыў пчалу, якая нейкім чынам апынулася на шорсткім голым асфальце, паўзла па ім, мусіць, не маючы сілы ўзляцець: пабывала пад дзедавым «душам», а крылы яшчэ не паспелі абсохнуць як след, развінуцца для ўзлёту.

— Што ж ты так неабачліва прызямлілася? — Ні то жартам, ні то ўсур’ёз прамовіў дзед Юзік. — Тут жа ўмэнт растаптаць цябе могуць. Хто ж цябе такую пад нагамі ўбачыць можа? Каб лётала, жужукала, дык можа б… А так…

Нагнуўся, двума пальцамі ўзяў пчалу за крылы, выпрастаўся, агледзеўся:

— Куды б гэта цябе ўладкаваць, каб абсохла ды зазумкала весялей? — Убачыўшы за лаўкаю з другога боку нейкія кветкі, высаджаныя вясною пад вокнамі кімсьці з жыльцоў дома, выгледзеў самае пышнае суквецце і пасадзіў на яго сцішаную да пары да часу пчалу. — Адпачні. Сваіх ужо не дагоніш і не знойдзеш, а некага з тутэйшых каляжанак напаткаеш ды падружышся. А то надумала — на асфальце, пад нагамі ратунку шукаць…

Яшчэ пастаяўшы з хвіліну-другую, не па гадах лёгка дзед Юзік узышоў на прыступкі бетоннага ганка, прывычна шаргануў колькі разоў нагамі па рабрыстай рашотцы перад дзвярыма пад’езда, адчыніў іх шырэй, як, бывала, у сенцах сваёй хаты, каб у пад’езд хлынула больш святла: за тры гады гарадскога жыцця вочы ніяк не маглі звыкнуцца з халаднаватым паўзмрокам гэтага бетоннага сутарэння, працятага незразумелай дагэтуль насцярожанай цішынёю і спудным ляскатам ліфтавых створак.





Васіль КУЗЬМІЧ

# У ДАЛОНЯХ ГАЙДАЦЬ АБЛАЧЫНЫ

## МОЙ ДЗЕНЬ

Ноч улетку зарывам свеціцца,
Не стуляе на сон вачэй,
Разам з зоркамі, разам з месяцам
Дня наступнага вобраз тчэ.

Таямніча з самага вечара,
Бы нябачны які мастак,
Палатно небасхілу расквечвае
Зыркай фарбаю наўскасяк.

І на ўсходзе зара галерэю
Адкрывае з дзівосных карцін.
…Адчуваю, як дзень мой мудрэе
І глядзіць сонцам з-за аблачын…

* * *

Зашэпчацца ўстрывожана лістота
На дрэвах, калі вецер набяжыць.
У плыні часу гэта знак істотны,
Што лета на апошнім рубяжы.

Няўлоўна жнівень лёгкія аблокі
Падняў сваёю макаўкаю ўвысь
Да зорак схаладнелых і далёкіх,
Дзе восені азначыўся абрыс.

---

*__Кузьміч Васіль Пятровіч__ нарадзіўся 20 студзеня 1949 года ў вёсцы Пагост Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў Гродзенскі дзяржаўны педінстытут імя Янкі Купалы (1977) і Мінскую ВПШ (1987). Працаваў у рэгіянальным друку. Рэдагаваў навагрудскую раённую газету «Новае жыццё» (1987—2013).*

*Вершы друкаваліся ў рэспубліканскіх і рэгіянальных СМІ.*

Мой сад прымоўк, яго ужо не поўніць
Уранку птушак галасісты спеў.
Тут уначы павісне нізка поўня
Вялізным яблыкам, які зусім паспеў.

Зашэпчацца лістота у трывозе —
Адчуе асцярожны ўздых зімы.
Нячутна хмара досвіткам вывозіць
За небакрай сцішэлыя грамы.

І здасца свет абноўленым і дзіўным,
Дзе быццам толькі пачынаеш жыць.
Бывае гэтак на зыходзе жніўня,
Дзе лета на апошнім рубяжы.

## АСЕННЯЕ

Клён махнуў мне лістом-даланёй
Ля шашы на узгорку высокім,
Вершалінай барвовай сваёй
Ён узяў у абдымкі аблокі.

Быццам восені ён пасланец,
Бы дазорца яе далячыняў.
Сонца з хмары усмешку пашле —
Як у лета акно прыадчыніць,

Расхіне небасхілы наўсцяж…
Вецер пругкі, нябёсы гушкай!
Хай шчасліва і лёгка ляцяць
У далёкія выраі птушкі,

Хай з сабою яны пранясуць
Праз дарогі-шляхі у расстанні
Мары-мроі свае пра вясну
І у родныя гнёзды вяртанне.

З дрэў лістота зусім ападзе,
Бель сувоі рассцеле паволі.
Згасне разам з зарою дзень
У азяблым кляновым голлі.

## ДУБ

Здаецца, імклівым рыўком адным
Узняўся на прыпяцкі бераг,
Каб пільным паглядам сваім
Абшар навакольны мераць.

Узняўся і раптам нібы здранцвеў,
Тутэйшай красой паланёны.
Ды так і спыніўся ў высокай траве,
У казцы яе зялёнай.

І голаў лістоты ў бяздонне падняў,
Куды і сягнуць немагчыма,
Каб лёгка і вольна да скону дня
Ў далонях гайдаць аблачыны.

Як толькі з пясчаных надпрыпяцкіх круч
Грамы загудуць у званіцы,
Ён зноўку гатовы цугляць аберуч
У небе агню бліскавіцы.

## НАША ЛОДКА

Кола дзён, на жаль, не спыняецца.
Нам былога ніяк не вярнуць,
Хоць яно быццам светлая раніца,
Што адкрыла для нас вясну.

Салавей спяваў за Сцвігаю.
Наша лодка лёгка плыла.
Хваля песню нашэптвала ціхую,
Нас вяла за ўзмахам вясла.

Сэрца білася горача-соладка,
Нібы злоўлены вольны птах.
Ах, як марыцца, калі молада,
Калі вабіць нязнаны шлях.

Не збыліся спадзевы юначыя,
Толькі водгулле іх звініць.
Як шкада, што жыццё іх зыначыла,
І няма тут нашай віны.

Памяць часу заслону рассунула,
Салавей за Сцвігай ізноў.
Наша лодка радасна-сумная
Праплывае на хвалях гадоў.

Кола дзён усё паскараецца.
Як былое часамі гукну —
Сэрца ўзрушвае мроя-раніца,
Што дарыла ў юнацтве вясну.



**Васіль ТКАЧОЎ**

# СВЯТЛА ВАМ, ЛЮДЗІ!..

*Жыццёвінкі*

* * *

Перабіраем з жонкай грыбы. Яна ў мяне з-пад Іжэўска, і таму гамонка больш пра тамтэйшыя грыбныя мясціны. Яшчэ б не! Бываў, бываў у лесе, ведаю: ёсць чым пахваліцца Валянціне — сапраўды, грыбоў там больш, бо і лясоў жа больш. А грыбнікоў, мусіць жа, столькі. Таму ўсё зразумела.

Каб не гэтыя грыбы, то і не пагаманілі б. Калі б яшчэ мы селі насупраць адно аднаго ды сталі ўспамінаць-прыгадваць? Няма ж часу! То тэлевізар, то камп'ютар, то кухня, то паход у краму… А тут грыбы прывязалі да стала. Дзякуй грыбам!

Жонка расказвае — у які ўжо раз! — пра свой род, пра дзяцінства, пра школу. Дарэчы, каля той школы, дзе яна вучылася, я праходзіў неяк і звярнуў увагу на шыльду, з якой даведаўся, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны там працаваў вядомы педагог-наватар з Кіраваградчыны Васіль Сухамлінскі.

Грыбы перабралі. А я не спяшаюся з-за стала. Гляджу на жонку і злёгку ўсміхаюся: стаяла, аказваецца, і ты ў куце. Прыгадаў і я кут у класе, у якім стаяў. Было. Толькі, у адрозненне ад жончынага, я не бачыў краем вока праз шыбіну, як бурылі царкву. Проста ў нас кут быў цёмны, ды і не было ў вёсцы царквы. Валі ж пашанцавала: ніхто з аднакласнікаў не бачыў, а яна — бачыла. Яна сфатаграфавала ў памяці той момант на ўсё жыццё.

А за што, пытаецеся, паставілі ў кут? Не магла вымавіць літару «р», а настаўніцу звалі «Праскоў'я Хрыстафораўна». Тая нічога не прыдумала лепшага, як пакараць: «Пакуль не звернешся да мяне як трэба, стой у куце!»

Іншы раз з кута, аказваецца, далёка бачыцца… і на ўсё жыццё.

---

*__Ткачоў Васіль Юр'евіч__ нарадзіўся 1 студзеня 1948 года ў вёсцы Гута Рагачоўскага раёна. Скончыў факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча (1973). Працаваў журналістам, быў старшынёй Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў.*

*Аўтар кніг прозы для дзяцей і дарослых «Хітры Данік» (1975), «Дзень у горадзе» (1985), «Пахвалі пражыты дзень» (1988), «Мой рай зямны» (1997), «Непаразуменні» (1997), «Тратнік» (2002), «Нехта ходзіць за акном» (2002), «Незвычайны дыктант» (2004), «Снукер» (2009), «Булачка» (2011), «Варона» (2013), «Жыла-была Ёлачка» (2013), «Высокі страх» (2014), «Характары» (2016) і многіх іншых. Вядомы як і драматург.*

*Лаўрэат Нацыянальнай літаратурнай прэміі, прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, а таксама прэмій імя Васіля Віткі, літаратурнай прэміі Кірылы Тураўскага.*

* * *

Кожны раз, калі Ягор Аўдзееў наведваў вясковыя могілкі, дзе пахаваны ягоныя бацькі і дзяды, ён не праходзіў міма каля грудка зямлі, на якім сутуліўся долу чорны крыж, а на шыльдачцы — такога ж колеру — белай фарбай і няроўнымі літатарамі напісана: Павел Гаўрылавіч Шабельскі. І ўсё, ні слова больш. Ад гэтага шчымела асабліва сэрца: Павел, ці проста Паўлік, быў ягоным равеснікам і сябруком дзяцінства. Прайшло, мусіць, год дзесяць, як пахавалі яго побач з дачкой (яна, кажуць, скончыла жыццё самагубствам і бацька прывёз яе з Поўначы, дзе Шабельскія жылі); тут жа брат Коля, яго забілі ў Маскве, куды вазіў дзяцей на спаборніцтвы яшчэ ў савецкі час. Забралі грошы, што былі выдаткаваны на ўсю каманду, збілі на горкі яблык і ён сканаў проста на вуліцы. Кажуць, ніхто нават не выклікаў «хуткую». А мо і няпраўда. Тут жа бацька, Гаўрыла, маці Маруся. На кожнай магіле акуратныя помнікі з выявамі нябожчыкаў. Толькі ў Паўла нязграбнымі літарамі… белай фарбай… і ні слова…

Той раз, калі вяртаўся ў горад, Ягор разважаў: «Дачцэ помнік паставіў Паўлік, я ведаю, Колю — бацькі, Гаўрылу — Марыя, Марыі — зноў жа, канешне, Паўлік. І кола замкнулася. А хто ж па-людску, як гэта робіцца сёння, увекавечыць больш прыстойна памяць пра яго? Жонка? Наўрад. Яна там і засталася жыць, на Поўначы. Ды і што там за кабета — хто скажа? Можа, у яе ўжо другі муж, дзеці пайшлі ад яго. Ці ж да Паўла?»

Дома, павячэраўшы, Ягор падняў вочы на жонку, уважліва паглядзеў на яе, выдыхнуў:

— Ты, маці, як хочаш, а я ўсё ж помнік Паўлу пастаўлю. Ты ведаеш, пра што я кажу. Больш няма каму. Усё ж раслі разам, ды і чалавек ён добры быў. А пахаваны, як бяздомны які… Ды яшчэ і пры дарозе пахаваны — навідавоку, кожны, хто ідзе, бачыць гэтую несправядлівасць.

— Ці ж я буду супраць? Вазьмі, колькі трэба, грошай, — на дзіва лёгка пагадзілася жонка. — Зрабі, зрабі, Ягорка, помнічак. Хто ж і сапраўды, калі не ты…

— Калі не мы, — паправіў яе муж.

Потым Ягор дастаў сямейны альбом, узяў картку Паўла, дасланую яму з арміі, ацаніў: тут ён — як жывы. Падыходзіць. Самы раз будзе. Год нараджэння і смерці ведаў. Пра месяц і чысло, калі нарадзіўся і памёр, спытаць няма ў каго. «Добра хоць так. Не пакрыўдзіцца…»

Назаўтра Ягор Аўдзееў пайшоў заказваць помнік.

* * *

Атрымалася так, што ў Грышачкіна забралі вадзіцельскае пасведчанне. Міліцыянер ДАІ паднёс да яго рота трубачку-алкатэст, загадаў дыхнуць. Грышачкін і сам адчуваў, што пасля ўчарашняй п’янкі вынік будзе станоўчы. Спрачацца не стаў — дыхнуў. Гэта каб у яго была не фура, а легкавік, на якім ездзіць можна хіба што на рыбалку і па грыбы, ён бы і не бедаваў асабліва. Але ж яму трэба карміць сям’ю. Нічога іншага, як круціць «абаранку», рабіць не ўмее. Перад яго вачыма ў той час, калі стаяў твар у твар з міліцыянерам ДАІ, паплылі кругі, і ён нават пахіснуўся. Адразу ж убачыў раз’юшаны твар жонкі, якая, дарэчы, учора ў кампаніі — хто прыдумаў гэты дзень нараджэння адзначаць у нядзелю, перад працай, папытаць бы! — перасцерагала яго: «Міця, хопіць! Заўтра ж табе за руль!..»

Не паслухаўся, аднак. Што ж і сапраўды цяпер рабіць, як шукаць выйсце з гэтай складанай сітуацыі? Жонка пакрычала-павыхоўвала мужа, але ж і сцяміла, што адным крыкам справу не вырашыш, і яны селі за стол і доўга меркавалі: да каго б звярнуцца, каб паспрыяў вярнуць пасведчанне? Перабралі ўсіх сваякоў і знаёмых — няма такіх. Аднак потым жонка ўспомніла, што некалі вучылася ў адным класе з хлопцам, які зараз займае высокую пасаду. Хіба да яго падысці? Усё ж — аднакласнік, зямляк. Ды і Міця павінен яго ведаць — у вёсцы ж сустракаліся, і не раз. Таму настрой у мужа і жонкі адразу падняўся, і яны сабраліся да свайго выратавальніка. І той увайшоў у становішча, паспрыяў, каб пасведчанне кіроўцы Грышачкіну вярнулі.

Атрымаўшы дакументы, шчаслівы Грышачкін павёз неўзабаве груз у Маскву. Там яго сустрэў прадстаўнік фірмы, для якой прызначаўся груз, і прапанаваў спярша паснедаць (была раніца), а тады і заняцца справамі. Паабедалі паблізу ў кавярні, а калі вярнуліся, грузу ў фуры не аказалася. Больш цяжкай хвіліны ў жыцці шафёра не было. Знік груз на дваццаць тысяч даляраў! Кінуліся туды-сюды — нічога не дапамагло. Так ні з чым і вярнуўся ў свой горад Грышачкін. Але дамоў не паехаў. Паехаў да жончынага земляка, увайшоў у кабінет, не зважаючы на пярэчанні сакратаркі, і з парога накінуўся на яго:

— Што ж ты нарабіў, землячок?! Навошта ты вярнуў мне правы? Навошта, я ў цябе пытаю, а?!

І, няўпэўнена ступаючы, Грышачкін пакінуў кабінет, нічога больш не сказаўшы чалавеку, які некалі выручыў яго з бяды. Але ж хто думаў, што да другой бяды, яшчэ больш жорсткай, цяжкай, так блізка, усяго адзін крок?..

* * *

Я добра ведаю гэтую жанчыну. Мы разам атрымалі некалі кватэры ў адным доме, і было гэта даўно — амаль трыццаць год таму. Так атрымалася, што заўсёды віталіся пры сустрэчы, хаця не прыгадаю, каб хоць раз спыніліся і аб нечым загаманілі. Хаця б, здавалася, суседзям і можна было: ці ж мала мелася ў нас агульнага, хоць тыя ж праблемы з рамонтам пад’ездаў, на які зноўку работнікі жыллёва-камунальнай гаспадаркі збіраюцца сабраць грошы з нас, жыхароў, хаця самі ж толкам не адкажуць, куды ідуць тыя, якія рэгулярна, штомесяц, на такія паслугі вылічваюць з нас. Ды ці мала і іншых хвалюючых суседзяў надзённых пытанняў!

Жыве, наколькі ведаю, гэтая даволі прывабная жанчына адна, а дачка выйшла замуж, вяселле яе запомнілася, і больш яна неяк не траплялася на вочы. Мусіць, з’ехала тады да мужа альбо знялі асобнае жыллё. Яно і зразумела — цяпер мала хто хоча жыць з бацькамі, прынамсі, як і тыя з дзецьмі, калі ў іх з’яўляюцца сем’і.

Звалі гэтую жанчыну Веркай, ласкава, як бачым, і пяшчотна. Іншы раз жонка абмаўлялася: «Верка, ну тая, з пятага паверха, працавала ў аптэцы правізарам, а цяпер, кажуць, бухгалтарам у нейкай загадкавай канторы… Хіба гэта адно і тое ж — правізар і бухгалтар?» І на тым бадай што наша гаворка пра Верку-суседку заканчвалася.

Але ж мне прыгадалася сёння яна вось з якой нагоды. Разоў колькі я выпадкова падслухаў, як Верка, стоячы ў чарзе ў краме, а потым і ў банку, у размове з субяседніцай падкрэслівала: «Як кажа мой муж…» Ну, і далей ішло тое, пра што гаварыў яе муж. Безумоўна, мяне здзіўляла пачутае. Які муж? Дзе ён? Я ніколі не бачыў яго, нават не ведаў, калі той быў у жанчыны і куды падзеўся… Але ж мяне зацікавіла іншае — з якой гордасцю і замілаваннем

яна вымаўляла: «Як кажа мой муж…» Прынамсі, нічога дзіўнага тут няма, відаць — не кожная жанчына хоча прызнацца, што яна адзінокая, бязмужняя, што — быццам горшая за іншых. Так, мабыць? Чаму ж іншы раз не паказаць, што ў яе таксама ёсць муж, якога на самай справе — няма?

Не, няхай усё ж прабачыць мяне суседка, што я выпадкова падслухаў яе, але, узважыўшы ўсё і ацаніўшы, я пачаў Верку больш паважаць… І недзе крышачку нават шкадаваць…

* * *

Гэтаму можна верыць, а можна і не. Толькі які сэнс майму субяседніку было хлусіць? З ім мы ляжалі ў адной бальнічнай палаце. Вясковец. З-пад Гомеля. Па ўсім было відаць, што чалавек прыстойны. А калі яшчэ сказаў, што яго ў свой час прэміравалі на ВДНГ — як перадавіка калгаснай вытворчасці — аўтамабілем «Масквіч», то я з яшчэ большой павагай пачаў адносіцца да яго і называў адным словам: Сямёнавіч. А пра свой «Масквіч» успомніў ён пасля таго, як разгаварыліся мы пра машыны, якія запаланілі сёння ўсе двары, цесна ад іх і на гарадскіх вуліцах, асабліва — на вулках. Ды і на ноч пакідаюць свае легкавікі іх гаспадары дзе папала. Дзіўна, нікому яны не патрэбны. Раней, праўда, знаходзіліся аматары пажывіцца радыёпрыемнікам ці яшчэ чым-небудзь, што блізка ляжала, а пазней ці тое па руках далі такім крымінальным заўзятарам, ці ў іх саміх прапаў інтарэс. Ну куды ты яго, скажыце, дзенеш той прыёмнік, калі іх вунь колькі прадаецца! Толькі па шапцы можна атрымаць. Супакоіліся. І добра.

Дык вось, Сямёнавіч — як цяпер бачу — круціў галавой, усміхаўся і шчыраваў, паглядаючы то на мяне, то на хлопцаў-суседзяў: нас чацвёра было ў палаце.

— Не паверыце, хлопцы, — казаў ён. — Як прыгнаў на двор легкавік, на ноч баяўся пакінуць яго — а раптам увядуць? Браў драбавік, ён у мяне ад бацькі застаўся, і спаў з ім у абдымку ў салоне. Сёння смешна і дзіўна, але такое было. А цяпер жа гэтых машын, ды няроўня майму «Масквічу», — як гарбузоў увосень у мяне на агародзе: адзін перад адным.

Асабіста я паверыў Сямёнавічу.

* * *

Баба Маруся дажывала век адна. Муж яе Дзёма памёр даўно, вельмі нават: з вайны вярнуўся нямоглым пасля цяжкага ранення, доўга кволіўся, а потым і згас. Зусім мала парадаваўся чалавек перамозе, якую здабываў з першага да апошняга дня разам з усім савецкім народам. Не ажыццявіў сваіх, пэўна ж, шмат якіх жыццёвых планаў і задум. Шкада. Мне ж ён больш запомніўся тым, што рабіў на вуліцы цагліны з глею і саломы, і я, малеча, набіўся да яго ў памочнікі — таптаў сваімі босымі і, мусіць быць, парэпанымі нагамі тую клейкую сумесь, якая была ў шырокім карытцы. Потым Дзёма ўпэўніваўся, што раствор гатовы і раскладваў яго ў драўляныя формачкі і падстаўляў пад сонца — каб сохлі, гартаваліся. Дзе ён выкарыстоўваў тыя цагліны, не памятаю. Потым суседа Дзёму аднеслі на могілкі, а баба Маруся засталася з двума сынамі — старэйшым Андрэем і траха малодшым Васілём. Першы неўзабаве пайшоў служыць у войска, а Васіль ленаваўся хадзіць у школу, хаваўся ад урокаў на гарышчы сваёй хаты, і я аднойчы бачыў, як мая мама, настаўніца, па просьбе бабы Марусі стаяла на агародзе, і, задраўшы галаву на

адчыненыя дзверцы франтона, упрошвала яго, каб не дурыў, а ішоў у школу. А Баба Маруся падказвала маці: «Бо вырасцеш — скажы яму, Вольга, — дурнем».

Васіль дурнем не стаў, скончыў сямігодку, вывучыўся на шафёра і калі служыў у войску, то вазіў камандзіра часці ў Арле, як сам хваліўся. Пасля дэмабілізацыі атабарыўся ў горадзе. Андрэй жа застаўся ў вёсцы, жыў асобна, таксама шафёрыў. З арміі, і гэта мне асабліва запомнілася, ён прывёз поўны чамадан падарункаў, якімі шчодра адорваў не толькі радню, але і суседзяў. Служыў Андрэй у Кітаі, таму і расстараўся там нейкім чынам на прыгожыя квятастыя абрусы і дыванкі. У сярэдзіне пяцідзясятых гадоў для вёскі гэта была ўга якая падзея!

Неяк баба Маруся выбралася ў горад — праведаць свайго малодшага сына, нявестку і іх дзяцей. Калі вярнулася, то суседзі прыйшлі, як гэта і вядзецца сярод вяскоўцаў, каб пацікавіцца, як там жыве яе Васіль са сваім сямействам у тым горадзе.

— А як жыве? — свяціўся твар у старой. — Добра жыве. У іх там кожны дзень свята…

* * *

У канцы мінулага года давялося амаль тыдзень жыць у Бабруйску. Мне падабаецца гэты горад, там у драматычным тэатры ставяцца спектаклі па маіх п’есах, два і сёння ў рэпертуары, і калі мяне запрасілі госцем на фестываль беларускай драматургіі, а праводзіцца ён традыцыйна ў горадзе на Бярэзіне, я, вядома ж, ахвотна пагадзіся. Уражанняў ад фестывалю засталося шмат. Меў магчымаць бліжэй пазнаёміцца з тэатральным жыццём краіны. З акцёрамі, рэжысёрамі, драматургамі.

Учора быў апошні дзень фестывалю, закрыццё адбылося позна, таму давялося яшчэ адну ноч правесці ў гасцініцы «Турыст», а назаўтра раніцай дабірацца на вакзал на гарадскім транспарце. Мне параілі сесці на маршрутку, паказалі, дзе яна спыняецца. Так і зрабіў. І ўжо па дарозе звярнуў увагу, што ў куточку перад першымі сядзеннямі стаіць навенькі венік. Звычайны, якім мы карыстаемся і які вырошчваюць і робяць — я гэта бачыў на свае вочы — ва Узбекістане. Падумалася: бач ты, як гаспадар маршруткі сочыць за чысцінёй у салоне, нават венік возіць. Малайчына. А потым я, як кажуць, забраў свае словы назад. І вось чаму. Вадзіцель працягнуў рэшту новай пасажырцы, тая не ўтрымала яе ў руцэ, і капейкі рассыпаліся. Паспрабуй збяры цяпер іх. Але толькі не ў Бабруйску! Пасажырка хуценька ўзяла венік і вымела капейкі з-пад сядзення на вольнае месца, дзе і падабрала, а затым паставіла венік на ранейшае месца і моўчкі села.

Як так і было!

* * *

Пісьменнік Іван Мікалаевіч Пташнікаў застанецца ў маёй памяці, канешне ж, на ўсё жыццё. І не толькі таму, што ён быў выдатным творцам і пакінуў нам і будучым нашчадкам багатую літаратурную спадчыну: раманы, аповесці, апавяданні… Быў ён чалавекам і рэдкай прынцыповасці. Калі, да прыкладу, працаваў загадчыкам аддзела прозы ў часопісе «Полымя», то прасачыцца на старонкі гэтага выдання слабенькім творам — няхай нават і прызнаных аўтараў — не ўдавалася. Дружба дружбай, як кажуць, а служба службай.

Асабіста я з Іванам Мікалаевічам трымаўся доўгі час на адлегласці, а гэта ў прымым і пераносным сэнсе, бо жыву не ў Мінску, а ў Гомелі, але калі зрэдку заходзіў у рэдакцыю часопіса, то за руку не трымаліся, абыходзіліся кароткім кіўком галавы: прывітанне — прывітанне. А ўсё, што тычылася маіх твораў, мне перадавалі супрацоўнікі аддзела прозы — спярша Уладзіслаў Рубанаў, пазней — Адольф Варановіч. Таму меў за гонар «прайсці» Пташнікава і ўбачыць свае апавяданні на старонках паважанага часопіса. «Гэтага хлопца трэба падтрымаць», — прачытаўшы маё першае апвяданне «Дзень у горадзе», сказаў Іван Мікалаевіч: так перадаў мне ягоныя словы Уладзіслаў. Я быў, безумоўна, самі разумееце, на якім небе.

Пазней на старонках часопіса з'явіліся і мае дзве п'есы — чарнобыльская «Блакада ў Круглiцы» і «Стары і дарога». Што цікава, дзякуючы «Полымю» і, канешне ж, падтрымцы Івана Мікалаевіча, гэтыя дзве публікацыі заўважылі на рэспубліканскім радыё: па іх зрабілі пазней спектаклі рэжысёры Алег Вінярскі і Ігар Лапцінскі. Яны папоўнілі фанатэку радыёспектакляў, нярэдка паўтараюцца. Праўда, спектакль пра Чарнобыль атрымаў іншую назву — «Ігнатаў рубеж». Але гэта ўжо дробязі. Больш таго скажу: спярша песа «Стары і дарога» была аднаактоўкай, і на закрытым рэспубліканскім конкурсе ў далёкім ужо цяпер 1985 годзе заняла першае месца. Не здагадваецеся, хто паспрыяў гэтаму? Так, Іван Пташнікаў, ён быў у журы. Пра гэта мне сказалі дасведчаныя людзі.

Вядома ж, у той дзень, калі павінны былі ўпершыню гучаць спектаклі ў эфіры, я нагадваў пра гэта Івану Мікалаевічу. Ён коратка адказваў: «Дзякуй. Паслухаю абавязкова».

Няма ўжо Івана Пташнікава, ён пайшоў у іншы свет. А я згадваю словы яго дачкі Таццяны: «Калі тата заканчваў новы твор, то ён уключаў ва ўсіх пакоях святло». Як здорава! Ставіў, такім чынам, кропку: твор закончаны! Бярыце, людзі, карыстайцеся! Гэтае святло — вам! Я запаліў яго для вас!

Такое прыдумаць мог толькі сапраўды геніяльны чалавек.

* * *

Быў звычайны будны дзень, і Ён, злёгку паснедаўшы, выходзіў з кватэры, на ганку азіраўся па баках, нібы каго хацеў убачыць, затым папраўляў старэнькі капялюш на галаве і шоргаў па алейцы ў бок гандлёвага цэнтра ОМА. Што азначалі гэтыя літары, Ён не ведаў, яму гэта, праўду кажучы, і не трэба было: важна зусім іншае — важна тое, што там вочы разбягаюцца ад усяго ўбачанага. Ёсць, ёсць што паглядзець. Музей, дый годзе. Як толькі пабыў Ён тут першы раз напрыканцы мінулага года, так і захварэў: не можа пражыць і колькі дзён, як зноў яго цягне сюды, бы магнітам. Няважна, што ў гэты загадкавы і багаты на самыя разнастайныя рэчы гандлёвы цэнтр амаль усе падрульваюць на легкавіках, яму і так было добра. Кожнаму, развважаў, сваё. Дзе ж на той легкавік было ўзяць грошай, калі працаваў сумленна ўвесь час, не браў ніколі чужога? А як можна было на заработную плату абзавесціся аўтамашынай, Ён не ведаў. Калі, хіба, не есці, хадзіць у адной камізэльцы? Ды і што тады гэта будзе за жыццё, галоднага і абадранага? Не, някепска яму будзе і без легкавіка, і, дзякаваць богу, ногі пакуль слухаюцца, не падводзяць, хоць і ўзрост мае паважаны — пад семдзесят.

Ён уваходзіў у памяшканне гандлёвага цэнтра так, як раней мінаў прахадную завода, а там — і яго другі механазборачны цэх, дзе рабіў да апошняга працоўнага дня фрэзероўшчыкам. Ківаў галавой хлопцам, што сачылі за ўва-

ходам-выхадам, тыяківалі яму — відаць, як старому знаёмаму, бо, не сакрэт, прымільгаўся Ён тут. Магчыма, хтосьці з тых хлопцаў і западозрыў нешта, бо яно ж і сапраўды: ці не кожны дзень з'яўляецца тут гэты сівы і гнуткі, бы лазовы пруцік, мужчына, але з чым заходзіць, з тым і выходзіць — з пустымі рукамі. За ім, не сакрэт, пачыналі цікаваць... Ён жа, у сваю чаргу, падоўгу таптаўся каля ўзораў пакрыццяў для падлогі і столі, іншы раз не вытрымліваў, браў тыя, круціў перад вачыма і так і гэтак: шыкоўная рэч, нічога не скажаш!..

Іншы раз Ён падыходзіў да людзей, што рабілі пакупкі, зайздросціў ім, а каб паказаць, што і ён тут ходзіць не проста так, а з пэўным пакупніцкім інтарэсам, пачынаў гаворку:

— І колькі, калі не сакрэт, трэба гэтай кафлі для маёй кухні?..

Альбо:

— Хіба і мне набыць такі ліманад? — Ён ненаўмысна вымаўляў «ліманад» замест «ламінат», таму што апошняе слова яму і сапраўды не давалася. — Ці, можа, заўтра што-небудзь яшчэ, лепшае, прыдумаюць? А? Пачакаць хіба?..

Яму звычайна нічога не адказвалі, і Ён ішоў далей па радах, дзе на стэлажах чаго толькі не ляжала-стаяла, прыглядаўся да людзей, што рабілі пакупкі. Людзі як людзі, а бач ты, якія шчаслівыя!..

А потым, насыціўшыся, Ён той жа дарогай, шукаючы капелюшом ветрык перад тварам, вяртаўся дадому...

* * *

Захварэў брыгадзір паляводчай брыгады, і замест яго часова быў прызначаны Ён.

— Павіншуй мяне, жонка! — пахваліўся дома. — Я — брыгадзір! Нічога, што і на кароткі тэрмін, але прызначыў сам старшыня не каго-небудзь, а мяне. Разумееш? Думаць трэба!..

Жонка зразумела, павіншавала. Яна ганарылася сваім мужам, і сама таго, пэўна ж, не падазраючы, з таго моманту, як даведалася пра мужава павышэнне, напускала на сябе залішнюю строгасць, і ёй рабілася не інакш як сорамна за сваю непрычыннасць да ўсяго, што было вакол, раней.

Назаўтра Ён з нагоды павышэння на калгаснай службе апрануў адпрасаваны, хоць і старэнькі, але чысты і прывабны пінжачок, нацягнуў джынсы, якія сталі малыя ягонаму гарадскому сыну, а да сарочкі ў зялёную палосачку выбраў аднатонны чырвоны гальштук.

— Ну, як?

Жонка паказала вялікі палец.

Ён здзівіў усіх на праўленні калгаса. На яго глядзелі так, нібы ўпершыню ўбачылі. Нават сам старшыня, якога, трэба прызнацца, ніколі ніхто пры гальштуку не бачыў, разявіў рот... Падзівіцеся, што робіцца! Дзень пры пасадзе чалавек, а як адразу перамяніўся. Не пазнаць. А мо гэта зусім і не Ён? Дык не ж... Ён! Гляньце толькі, з якім ліхаманкавым бляскам вочы ў чалавека!..

І так атрымалася, што пакуль Ён замяняў брыгадзіра, першым прысобіў да сваёй тонкай шыі гальштук старшыня, а потым непрыкметна і той-сёй яшчэ. Павесялела ў памяшканні канторы, святлей стала. Ад гальштукаў, ад белых кашуль.

...Ён вяртаўся дадому стомлены, з брудным ад пылу і поту тварам, калі перад ім пратарахцеў на калёсах вясковец, а потым «тырпнуў» каню, і той перастаў плёхаць капытамі. Вясковец пачакаў, пакуль да яго падыдзе Ён.

— Паслухай, што я табе скажу, — затрымаў вясковец на выконваючага абавязкі брыгадзіра зачэпісты позірк. — А скажу, калі знаць хочаш, табе

наступнае... Дык вось... уціхамір сваю бабу. Угамані. Прыструнь. Няхай ты часова брыгадзір, а яна — хто? Хто яна, каб папытаць? Адстаўной казы барабаншчык? Так?

— Не зразумеў, што ты хочаш, Пятро?

— Камандзіраў, гляджу, развялося, аднак. Ну, еду сабе... як і кожны раз... Пратарахцеў каля тваёй хаты, значыць... А Маруся на ўсю вуліцу крычыць мне наўздагон:

— Як ты едзеш, паразіт? Калёсы паламаеш!..

Ён засмяяўся, паляпаў па плячы вяскоўца, паабяцаў:

— Едзь далей, не бяры ў голаў. А з жонкай, сваёй брыгадзіршай, я абавязкова разбяруся. Не хвалюйся. Я ёй пакажу, як твае асабістыя калёсы шкадаваць.

— Дык у тым жа і справа! Былі б хоць калгасныя!..

Вярнуўшыся ж дахаты, Ён нічога жонцы не сказаў, а смачна павячэраў і лёг спаць. Засынаючы, шкадаваў, што заўтра Ён ужо не брыгадзір, а жонка — не брыгадзірша.

* * *

Ён жыў адзін у двухпакаёвай кватэры, на трэцім паверсе ў нашым пад'ездзе. Асабіста мне не даводзілася сустракаць палкоўніка ў адстаўцы, няхай і адзінокага, у менш габарытным жыллі. Ён жыў сціпла, з суседзямі трымаўся на адлегласці, сам першы ніколі не вітаўся, а калі хто даваў яму «добрага дня», лянiва ківаў галавой ці адказваў коратка і ціха.

Я вось думаю зрэдчас: а ці бачыў хто калі яго ў вайсковай форме? Я — не. Адкуль жа тады ведаю, што Ён палкоўнік? Пра гэта мне апавёў зямляк, які таксама жыве ў нашым горадзе і неяк сутыкнуўся з тым твар у твар.

— Я служыў з ім у Сярэдняй Азіі, Ён быў маім начальнікам, — слухаў я земляка. — Я — карэспандэнт дывізіённай газеты, Ён — начальнік палітычнага аддзела, малады палкоўнік, вялікі аматар мастацкай літаратуры. Чытаў нават на вучэннях, калі выдавалася вольная хвіліна, а больш — у сваім рабочым кабінеце. І рабіў, заўваж, гэта вельмі хітра. Кніга заўсёды ляжала ў шуфлядцы стала, і калі хто з падначаленых заглядваў да яго, Ён цягнуў руку насустрач, а жыватом тым часам зачыняў шуфлядку. Шыта-крыта. Але нічога не застаецца незаўважаным. Раскусілі і начпа. Раскусіць раскусілі, а што ты яму зробіш?.. Толькі не пра чытанне мне ўспомнілася, гэта ўсё дробязі, чытанне кніг у рабочы час. Неяк выклікае ён мяне і загадвае: «Едзем праз паўгадзіны ў Тэджэн, збірайся і бяры з сабой фотакарэспандэнта». Тэджэн, дзе стаяў вучэбны танкавы полк, быў далекавата нават па мерках бязлюднай пустыні — недзе дзвесце кіламетраў. Ну, едзем дык едзем. Я хуценька сабраўся, на месцы быў і фотакарэспандэнт радавы Раджэпаў, туркмен па нацыянальнасці, вельмі вясёлы і таварыскі хлапчына. Прыехалі на ўазіку ў танкавы полк, начпа пакінуў нас адных (самі ведаеце, што рабіць, не першы дзень у газеце), і загадаў чакаць яго каля штаба ў сямнаццаць нуль-нуль. Мы так і зрабілі: набралі матэрыялу, чакаем каля штаба палка. Гадзіну, другую чакаем. А потым я не вытрымліваю, цікаўлюся ў дзяжурнага: а дзе ж наш начальнік, дзе палкоўнік? Дзяжурны хітра ўсміхаецца: маўляў, дзівакі вы ці што? Ён даўно паехаў... Я здзівіўся: як гэта — паехаў? Аднак дзіўнага тут аказалася мала. І я, наіўны на той час лейтэнант, не мог адразу сцяміць, што навошта яму мы, спадарожнікі, сведкі, калі ўвесь багажнік быў нашпігаваны дынямі і кавунамі, вінаградам і рыбай, якой тут, у Каракумскім канале, процьма! Але ж, прабачце,

я і Раджэпаў не выпісвалі камандзіровак, таму мне давялося купіць білет за свае грошы і салдату. Ён жа зрабіў на наступны дзень выгляд, што нічога не адбылося. Вядома ж, не да месца яму было пытацца і пра тое, ці запасліся мы матэрыяламі для дывізіёнкі...

Чаму сёння Ён жыве адзін і як аказаўся ў нашым горадзе, зямляк не ведаў.

* * *

Ён — паэт, піша ў асноўным гумарыстычныя і сатырычныя вершы. Мае некалькі невялічкіх кніжачак і мае папулярнасць. А за вядомасць іншы раз і плаціць трэба. Сустракае на вуліцы прахожы, руку цягне: «Каго я бачу?! Прывітанне, паэт! Ну дык што, за сустрэчу?» За сустрэчу. А потым таму незнаёмцу, але вялікаму аматару паэтычнай творчасці, карціць даведацца, як жыве паэт, і ён нахабна набіваецца ў госці. І вось яны тэпаюць да дома, у якім жыве паэт, падымаюцца на ліфце, Ён націскае на кнопку званка. Адчыняе, спярша паглядзеўшы ў «вочка», жонка, і як толькі бачыць побач з мужам яшчэ і невядомага ёй чалавека, тузае мужа за рукаў, каб хутчэй заходзіў, і тут жа похапкам зачыняе дзверы. Прыхінаецца спінай да сцяны, дзьме на лоб, уздыхае:

— Калі гэта скончыцца? Апошні раз пытаю!

— Напішу, так і быць, на цябе сатыру! Ты… ты не чалавек, калі маіх сяброў ігнаруеш! Зразумела? Чытай наступны нумар «Вожыка»! Там будзе пра цябе твор!...

Яны моўчкі пілі чай.

— Дурніца, — сказала яна. — Думаеш, я супраць тваіх сяброў? Ды прыводзь хоць кожны дзень. Толькі спярша зрабі рамонт у кватэры. Сорамна ж паказваць людзям, як мы жывём. Яны ж думаюць, што паэты — багачы, у іх там шык-бляск… Хаця паэты, пасланнікі Бога на зямлі, такімі, мусіць, і павінны быць… багатымі.

* * *

Я часта згадваю вядомага беларускага паэта, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Аляксея Васільевіча Пысіна. Як цяпер помню ягоныя радкі: «Пярэдні край, чужы, неразгаданы, пярэдні край, як полюс мерзлаты... На бледны снег ляглі мерыдыяны — армейскія прамыя правады».

Яшчэ ў 1965 годзе я, на той час дзесяцікласнік, асмеліўся зайсці ў рэдакцыю абласной газеты «Магілёўская праўда» і папрасіць у яго аўтограф. Кнігу «Мае мерыдыяны» я набыў папярэдне ў кнігарні, яна каштавала некалькі капеек. На першым паверсе ў Доме Саветаў, дзе месцілася тады рэдакцыя, я адразу пазнаў Аляксея Пысіна і Васіля Матэвушава. Яны якраз выйшлі перакурыць. Аўтограф атрымаў без лішніх слоў, пахваліўся, што чытаю іх творы на старонках не толькі абласной газеты і што сам мару стаць пісьменнікам. Ёсць і сціплыя публікацыі. Мусіць, паэты палічылі мяне дзіваком, але пра гэта я думаю толькі сёння.

Даўно няма паэта Аляксея Пысіна. Засталася яго паэзія, высока адзначаная ўладай і ўхваленая чытачамі. Застаўся і трапны жарт, які экспромтам, відаць, нарадзіўся ў яго на нейкай бяседзе. Пра аднаго з паэтаў Аляксей Васільевіч сказаў: «Пішаш, як пачатковец, а п’еш — як класік!»

Талент ёсць талент!

* * *

Універсам. Ён у невялікім раённым гарадку, пра які, звычайна, гавораць: на адным вуглу слова скажаш — на другім пачуюць. Час вячэрні, за вокнамі шэрань, імжыць дождж. Што мяне, новага чалавека ў гарадку здзівіла, дык тое, што каля адной касы людзей багата, хоць у вузел завязвай, а каля другой — нікога. Пытаюся ў жанчыны, чаму так?

— Тая, расфуфыраная, ні за што цябе абразіць можа. І прычэпіцца да рознай дробязі. Таму ўсе ў гэтую касу ідуць. Ніхто не хоча настрой сабе псаваць. Гаварылі, і не раз, загадчыцы, толькі, дзіўна, — сядзіць, як сядзела… Бы манекен… Цяпер хоць і ўсміхацца пачне, а да яе не стану… Лепш у чарзе пастаю. Вунь, вунь — зноў спрачаецца з пакупніком. Не наш ён, камандзіровачны, я сваіх тут усіх ведаю…

* * *

У Петрыкаве, у гарадскім скверы, стаіць помнік славутаму земляку, легендарнаму партызану Васілю Ісакавічу Талашу. На гэты раз па дарозе да помніка прыгадалася, як Талаш ці то жартам, ці то сур'ёзна гаварыў, што гэта не Якуб Колас праславіў яго, зрабіўшы героем хрэстаматыйнай аповесці «Дрыгва», а ён праславіў пісьменніка... маўляў, каб не напісаў Колас пра мяне, то яго б ніхто і не ведаў. Але такое выказванне, пагадзіцеся, падкрэслівае дасціпнасць старога, чым ён, па сведчанні сучаснікаў, і вылучаўся. Помнік, зроблены Заірам Азгурам, падабаецца людзям. Быццам і сёння аглядае мудры селянін-паляшук родныя абшары — лясы, луг, роўнядзь Прыпяці... і задаволена жмурыць вочы: усё добра на маёй радзіме, усё выдатна, браткі-палешукі! Толькі вось нейкі блазнюк — і дацягнуўся ж! — уставіў дзеду у рот акурак... Няўдалы жарт. Не курыў дзед. Таму і пражыў, мабыць, 102 гады. Таму і блукаў ён па лясных сцежках так доўга...

* * *

Раней які транспарт быў у лясгасе? У дырэктара і то матацыкл. У Мазыры параілі мне наведаць Мялешкавіцкае лясніцтва. Узначальваў яго Рэм Данілавіч Талкачоў. Чуў, чуў пра яго… Меўся ў Рэма Данілавіча аўтамабіль-легкавік «Газ-67». Рэдкасць па тым часе неверагодная. Калі неяк пад'ехалі кіраўнікі лясгаса, то Талкачоў якраз і корпаўся ў легкавіку — нешта не ладзілася. Зрабілі яму заўвагу, маўляў, займаешся ты, Данілавіч, не тым, чым трэба. А ляснічы нічога не адказаў, толькі выцер рукі, паглядзеў на леснікоў, што стаялі побач з рыдлёўкамі, загадаў тым залазіць у легкавік. Так-сяк тыя ўціснуліся. «Паехалі!» Доўга яны ехалі ці не, але ў лесе матор заглох, Талкачоў першы вылез з кабіны, паглядзеў на леснікоў, якія таксама выбраліся, загадаў: «Капайце!» Тыя і выбухалі яму, ды яшчэ якую! А потым Рэм Данілавіч упёрся плячом у свой транспартны сродак, леснікам нічога не заставалася, як дапамагчы яму. Калі легкавік закапалі, Талкачоў зноў выцер рукі, паглядзеў на дырэктара лясгаса, усміхнуўся:

— Цяпер буду займацца толькі карыснай справай. А пра тое, што тут закапаны мой тарантас, прашу, таварышы леснікі, нікому ні слова. Развязаў нарэшце рукі. Хоць і шкада — машына добрая была. Капрызная, праўда, як баба…

* * *

Еду ў тралейбусе. Уладкаваўся ўдала: сяджу. Назіраю, што робіцца за акном. А што там робіцца? Хлопцы ў спецвопратцы мяняюць на суседняй вуліцы трубы ацяплення, узадралі асфальт, горы зямлі… Не паспелі за лета, прыхапілі восень. І ўсюды легкавікі, легкавікі. Налеплены каля офісаў і цягнуцца ўзбоч, спераду і ззаду. Нехта за спінай кажа: «Усе вуліцы ў горадзе, дзе толькі можна было, пашырылі, а ўсё роўна цесна. Хутка ў Гомелі нашым на працу будзеш дабірацца, як у той Маскве… Столькі машын! А ў гаражах жа колькі іх стаіць!»

Ну, і так далей. Едзем, адным словам. Нічым бы не запомнілася і гэтая чарговая мая паездка ў цэнтр горада, каб не разыграўся маленькі спектакль. Мужчына, які падсеў да мяне, працягнуў дзяўчыне, што стаяла бліжэй да кампосцера, талончык: прабі, родненькая. Дзяўчына зрабіла выгляд, што не чуе, тады ён тармаснуў яе за рукаў: ці чуеш ты? Нуль увагі. Талончык прабілі іншыя людзі. А дзяўчына хоць бы што — моўчкі трымалася за поручань. Потым ёй талончык працягнула бабулька. Тая ж рэакцыя. Мо недачувае? Дык не ж, тузаюць за рукаў. Ды і на твар паглядзіце яе — усё яна чуе і бачыць, проста прыкідваецца тралейбуснай прынцэсай: я вам хто? Ну дык вось! Свае праблемы самі і вырашайце — устаньце, не палянуйцеся і пракампасціруйце талончык. Лакеяў няма.

Той мужчына, што падсеў да мяне, не вытрымаў нарэшце і стаў выхоўваць дзяўчыну:

— І як табе не сорамна?!

Дзяўчына, злосна глянуўшы на мужчыну, папракнула яго:

— Не «табе», а «вам»!

А паколькі на тым прыпынку, дзе зайшла ў тралейбус дзяўчына, знаходзіцца інтэрнат медінстытута, то і мужчына прыняў яе за студэнтку:

— І вось такія людзі будуць нас лячыць! І як можна даверыць ім сваё жыццё, хто адкажа мне? Ай-яй-яй! Куды ідзём? Куды коцімся?

Вы б толькі бачылі, як прыемна запунсавеўся тварык у дзяўчыны, на яго ўсплыла лагода: яе прынялі за студэнтку, за будучага ўрача! Дык што вам тады трэба? Ведайце, з кім маеце справу, аднак!..

І яна горда трымала галаву, не зводзячы вачэй з кампосцера, які быў перад самым носам. Ну, цяжка табе закампасціраваць талончык — адыдзі, калі ласка, убок, іншыя гэта зробяць. Не — стаіць, як прыкіпела, на адным месцы.

…Праз тыдзень недзе я пазнаў у тым жа тралейбусе мужчыну, які абураўся паводзінамі дзяўчыны. Павіталіся, як старыя знаёмыя. Разгаварыліся. Прыгадалі і выпадак з кампасціраваннем талончыка.

— У той гісторыі ёсць працяг, — хітравата-загадкава паглядзеў на мяне мужчына. — Калі цікава, то раскажу. Не паверыце, але так было. Кіно дый толькі! Учора мой сын прыводзіць тую самую дзяўчыну дадому і заяўляе: мама, тата, пазнаёмцеся — Аксана, мы вырашылі пабрацца шлюбам. У мяне, адчуў, адразу падскочыў ціск, а дзяўчына — ну ці не нахабніца? — зрабіла выгляд, што ўпершыню мяне бачыць. Я нічога не адказаў сыну, моўчкі выйшаў з пакоя… Памыліўся я тады, ніякая яна не студэнтка, робіць на пошце аператарам… Вось так, братка… А з сынам я яшчэ добранька пагавару… Выберу час і пагавару… Трэба ратаваць хлопца… Хаця ж ці слухаюцца яны нас, маладыя?..



Слабадан ВУКАНАВІЧ

# СОНЦА ДЛЯ ЎСІХ

## ХТО НЕ СЛУХАЕ ЗАЛАТАВУСТАЎ, ПАСЛУХАЕ ГРОМ

***Малітва за Беларусь***

Сонца для ўсіх беларусаў —
Каб дрэва жыцця пладаносіла
І давалі ўраджай бязмежныя нівы,
Узнятыя сілай мужчын і працай жанчын.

Сонца для тых,
Хто спявае і грае,
Хто харство і дабро стварае,
Хто ўзводзіць будынкі слова,
Хто раялем і скрыпкаю прамаўляе,
Хто гаворыць жывапісу мовай.

Сонца для залатавустага Францыска Скарыны
З шэрагу першых творцаў пісьменства беларускага,
У славу Барыса Ўсяслававіча,
Славу вольнасці Полацка і Віцебска,
Гомеля, Брэста, Гродна, Магілёва і Мінска...
Дзеля згоды між людзьмі,
Дзеля тысяч азёр,
Нераставання рыб,
Гуртавання буслоў...

Сонца для радасці беларусаў,
Іхніх усмешак і добрых надзей,
Квецені й простага шчасця людзей,
Якім патрэбны дажджы на пасевы,

А таксама і ясныя дні
Для бяспекі самалётаў і цягнікоў.
Выпусцім усіх птушак з клетак,
Усіх рыб з акварыумаў,
Каб усім вольна спявалася

І рэвалюцыі праслаўляліся
Песнямі замест кулямётаў.

Дзеля яснага для беларусаў дня,
Дзеля зорамі аздобленага неба,
Дзеля колішніх і будучых залатавустаў —
Хто зведаў пакуты,
Вылечваецца воляй.

Мая малітва — маё жаданне ўсяго
Дзеля згоды між людзьмі,
Дзеля тысяч азёр
Нераставання рыб,
Гуртавання буслоў...

Хто не слухае залатавустаў,
Той паслухае гром,
Перажыве засухі і паводкі.

Слухайце тых, хто ўмее
І гаварыць,
І слухаць,
І руку падаваць,
Вітаючыся: «Дзень добры» і «Добры вечар».

Сонца для радасці беларусаў,
Іхніх усмешак і добрых надзей,
Квецені й простага шчасця людзей,
Якім патрэбны дажджы на пасевы.

Маё пажаданне для залатавустаў:
Няхай беражэ іх Бог, калі чуе,
Няхай беражэ іх жыццё, а яно існуе.
Пачуй маю малітву... пачуй
Ты, які слухаеш і гаворыш,
Які хварэў і пакутаваў,
А вылечыўся воляй.

## НІЯК НЕ ЗАПАМЯТАЮ САПРАЎДНУЮ СКУРУ

Сплю як сава
Працую як вяпрук
Лётаю як воран
Мыслю як воўк
Уцякаю як вуж

Днём уцякаю ў ноч
Ноччу хаваюся ад сябе
Падманваць не ўдаецца
Баюся калі не сплю
Цяжка вытрываць рэальнасць

Ўва мне заапарк
Мяняю скуры і масці
Ніяк не запамятаю
Свае сапраўдныя
Масць і голас-рык-піск
Крычу-рычу-пішчу

Сплю ў заапарку
Прачынаюся ў доме
Ніяк не запамятаю
Сапраўдную скуру

## МЕЛІ АКІЯН, ЦЯПЕР ШУКАЮЦЬ КРОПЛЮ

Чым яны дужэйшыя
Тым для іх дом меншы
Ім бы на ніву нябесных сланечнікаў
На луг шырэйшы за неба
І глыбейшы за мора

Усё пажалі
Засталіся без статку

Мелі акіян
Цяпер шукаюць кроплю
Магутнікі трохгорбыя вярблюды
Сярод бяскрайняй пустыні

## ХАТЫ — ГАДЗІННІКІ ДЗЯЦІНСТВА

Хаты — гадзіннікі дзяцінства
Паказваюць часы беднасці,
Жалю, радасці, надзеі...
Хаты ахоўваюць час.
У іх — знакі на сценах,
На столі і на падлозе.

Калі заходзяць былыя насельнікі,
Чытаюць, уздыхаючы, тыя знакі .
І многае ўспамінаюць.

Вяртанне ўздымае завесу
І пачынаецца прадстаўленне згадак:
«Добрыя гэта былі часы», —
Так пачынаецца летапіс архіву дзяцінства
Дзяцінства ж — ускраіна жыцця,
Пакуль перасялішся ў цэнтр.
Ды на месца першага плачу вяртаюцца
І вялікія, і малыя,
І пераможцы,
І пераможаныя.

Рукі іх, калі наведвальні
Імі размахваюць і адвітваюцца,
Зноў кіруючы ў іншы свет,
Нібы стрэлкі — паказваюць час.

А знакі на сценах,
Калі не вернуцца насельнікі,
Застануцца непрачытанымі.

Хаты — гадзіннікі дзяцінства.

## ДОЛЯ–2

Я згубіў ключ
А знайшоў трохгаловы дом
І ў доме трое змяіных дзяцей
Якія не могуць выбрацца адтуль

— Хіба ж няма для вас ратунку? — пытаю спагадліва.
— Ёсць. Ты наш ратунак, — адказваюць.
І праглынаюць мяне.

## ЭПІТАФІЯ

Сны для мяне як арэлі
Ява ж як пасечаны корань
Палова твару майго чорная
Палова белая
Вочы мае яшчэ палымнеюць
Ды сам я глыба ледзяная

Згадкі сталі гадзіннікам
Успаміны ў ядры масліны
Канчаецца мой каляндар
Завеса лёсу апускаецца

***Пераклад Івана ЧАРОТЫ.***

# МАЛІТВА, УЗНЕСЕНАЯ ДА СІНЕЧЫ

*Калі прыняць за існае, што паэзія — найбольш любасная легенда людства, дык самым выбітным яе носьбітам на карэнна-крамяністых скрыжалях Грузіі паўстане Ніколаз Бараташвілі. Самотнік, вырваны з лёхаў нябыту і ўзнесены на святую гару чалавечага духу Мтацмінду, а значыць, і на вяршыню сусветнай лірыкі. Ён назаўсёды застаўся бліскучым вершнікам Каўказа, а яго нястрымны і апантаны Мерані, як роўня незамуштукаванаму гвалтам Пегасу — паслухмяны свайму — і толькі! — валадару:*

*Імчыць і ляціць без дарог мой Мерані.*
*Злавесны груган вокам шлях замярае.*
*Нясіся наперад, Мерані, — няма рубяжоў,*
*Мы змрочную душу вятрам зберажом!*

*«Пасля Шата Руставелі — на працягу амаль шасціста гадоў ніхто не ўздымаў грузінскую паэзію да гэткай высокай нацыянальнай і агульначалавечай значнасці, да якой узвёў яе Ніколаз Бараташвілі», — словы выспелі на пяры аднаго з бараташвілізнаўцаў напярэдадні стапяцідзесяцігоддзя аўтара «Лёсу Грузіі», яшчэ ў даўніх аналах мінулага стагоддзя. І тое сказана пра паэта, які, хутчэй за ўсё з боскай нялаcorrect, не ўбачыў пры жыцці надрукаваным ніводнага ўласнага паэтычнага радка!*

*Ніколаз Бараташвілі нарадзіўся ў 1817 годзе ў Тбілісі, паходзіў з сям'і радавітага грузінскага князя, а па матчынай лініі быў нашчадкам славутага цара Іраклія Другога і тым часам пляменнікам вядомага паэта-рамантыка Грыгола Арбеліяні. Аднак жыццё ішло насупор задумам і жаданням юнака. Яго бацька прамантачыў набытак і збяднеў, а з таго шлях Бараташвілі, выпускніку гімназіі, для працягвання вучобы ва ўніверсітэце ў Расіі, аб чым ён марыў, стаў недасяжным. З-за паламанай у дзяцінстве нагі не выпала памкнуцца да вайсковай кар'еры. І таму, каб матэрыяльна падтрымаць сям'ю, будучы апостал высокай паэзіі вымушаны быў служыць чыноўнікам у так званай «Экспедыцыі суда і расправы», што аніяк не спрыяла яго маладым, яшчэ не змардаваным памкненням.*

*Бязлітасны след пакінула ў душы паэта нясправджанае каханне да княжны Кацярыны Чаўчавадзе, якой ён прысвяціў і падараваў цэлы сшытак вершаў. Аднак, застаўшыся ў бліскучых радках і пакутах Бараташвілі, каханая абрала мегрэльскага князя.*

*У 1844 годзе Бараташвілі быў прызначаны памочнікам начальніка Нахічэванскага павета, а ў наступным — пераведзены ў горад Ганджа (Азербайджан) на такую ж пасаду па службе. Там ён і памёр ад малярыі на дваццаць восьмым годзе жыцця… І як устрымацца, каб не ўспомніць нашага Максіма Багдановіча: два геніі, два бліскавічныя лёсы…*

*Спадчына Ніколаза Бараташвілі вызначана колькасна, але не мае памераў у вызначэнні глыбіні ўласнага духоўнага кшталту. У ёй каля чатырох дзясяткаў вершаў, адна невялікая, ужо згаданая папярэдне, паэма «Лёс Грузіі» і менш як дваццаць асабістых лістоў. У адным з іх да сваёй сваячкі зацкаваны мітрэнгамі паэт пісаў: «Жыццё абрыдла мне ад такой цяжкай адзіноты. Уяві сабе, Маіко, горыч стану чалавека, у якога ёсць і бацька, і маці, і сястра, шмат сваякоў, і ўсё ж ён цураецца ўсіх і асірацелы ў гэтым поўным і вялізным свеце. Тыя, хто здаваліся мне ўзвышанымі — бяздушныя; хто здаваўся надзеленым звышталентам — нават не мае розуму; слёзы, што здаваліся слязьмі спагады, выявай цудоўнай душы — паток крывадушнасці, кроплі страшнай атруты! Дзе прытуліць адзінокую душу, куды прыхінуць галаву?»*

*Але побач з адчайным зняверам у ліставанні ёсць у паэта сярод усіх — анталагічны верш, які зорыцца, калі хочаце, яго родавай нябесна-вызначальнай пячаткай, адкуль і ўзнік гэты перакладчыцкі пачатак неўміручых радкоў. Верш той — пра «сіні колер — неба звон…», пра «высокі свет», куды кліча мара: «Там няма ў каханні дна! І сінечы глыб відна…» Гэтаму твору вялікага рамантыка, як і ўсёй яго лірыцы, не будзе зносу, бо вызначыў калісьці ён, празорца:*

*Хоць сціскае грудзі лёд,*
*Kроў змаглася ад нягод,*
*Сіні фарбам і гадам*
*У ахвяру не аддам.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

*На магіле не на зман*
*Сам пасцелецца туман.*
*І памкнецца сіні дым*
*Па-над іменем маім.*

**Ніколаз БАРАТАШВІЛІ**

## САЛАВЕЙ НАД РУЖАЙ

Пяяў для ружы салавей.
Калі на лісце ўпалі росы,
Казаў ёй: «Сум ты мой развей —
Жадаю твой пабачыць росквіт».

Ён нанач пеў. А ноччу гай
Гайдала зорная калыска.
Замоўк салоўка. Поўні ўскрай
Паплыў бутонаў водар чысты.

Пяюн у стоме задрамаў,
Ды сны адпрэчыла дзянніца,
І ён жахнуўся нездарма:
Пялёсткі долу ўпалі ніцма.

У жальбе слёз стрымаць не мог,
Кружляў, нібы над месцам лобным.

Красу гаротны не збярог,
Ён клікаў птушак на жалобу.

«Я ружу песціў дзень і ноч,
Ахвяраваў жыццём і песняй.
А квет зышоў раптоўна з воч,
І больш не здолее ўваскрэснуць».

## КЕТЭВАНА

Ракочуць хвалі бурнай Ксані,
Гаі гамоняць зверху з намі,
Каб рэха гулу берагі
На кручах ноччу бераглі.

Сядзіць жанчына пад замглёнай поўняй,
Чангуры струны прагнуць чуйных рук.
Касу ёй з жалем распусціла поўнач,
І спеў ірвецца з неадольных мук.

«Спакой душы не вы схавалі,
Спыніце пошум, злыя хвалі.
Чаму любові вы зайздросны,
Яна чысцей за промень росны».

Каханы мой, навошта нагавору
Паверыў ты і так змяніцца змог,
Каханне наша выменяў на гора
І кінуў да яго злавесных ног?

Няўжо мяне ты не прымаў, а словы:
«Я твой навекі!» — паспяшыў забыць.
Чаму ты юнь маю рабіў вясновай,
А сам цішком хацеў яе забіць?

Чаму ты сэрца паланіў і разам
Раструшчыў летуценні крохкіх крыл?
Чаму ты квет завялы бразнуў плазам,
Хоць ён яшчэ бутона не раскрыў?

* * *

Адное толькі цешыць, мой каханы,
Што побач з нашым светам іншы ёсць:
Адумайся — адкуль мне мець заганы? —
Прыйдзі туды, і будзеш мой — не госць!»

Празрыстай стала Кетэвана,
Красой уласнаю абрана.
Яе пазнаў, калі замоўкла,
І стала вусцішна навокал.

Бяссільны ірвануцца напярэймы,
Абмыў слязьмі тады я скрушны твар.
Дзяўчыну падхапіла Ксані стрэмя,
І ў цемру неслі хвалі імя: Алімбар.

## ЗМЯРКАННЕ НА МТАЦМІНДЗЕ[1]

Мтацмінда, святая мясціна — гара,
Узносіш самотніка думы высока.
Дзівосная ты, калі змеркнеш для вока,
І ў росах нябесных, што зранку гараць.

Загорнута ў цішу ваколіц смуга.
Вяршыню вітаюць здалёк краявіды.
Заслана даліна наўсцяж як мага
Абрусам духмяным, як выдых.

Зажураны, помню, стаяў пад скалой,
Даніну маркоце ў тумане адлічваў.
І сцішаны вечар з самотным аблiччам,
Як сябра зычлівы, быў поруч са мной.

Пяшчота ў лістоце спрыяла гнязду,
Над сэрцам гукала ў палёце сінеча.
Як толькі да неба зноў думкі звяду,
Дык гаснуць нябогі адразу, як свечкі.

Гаруназіраю. Прытулку няма
Парывам сардэчным без гэтай апоры.
Шпурляеш ахвяру жыццёваму мору,
А зверху чакаеш спагады дарма.

Стаяў на вяршыні ля блізкіх аблок.
Зыходзілі прыцемкі мая ў цясніну.
І вецер паклаўся на сон аддалёк,
А мне спачувалі адгор'і, як сыну.

## ЧАНГУРЫ

Твае галашэнні — паломнікі суму —
За горла хапаюць няўцешную думу
І ў бездань былога шпурляюць.

[1] Мтацмінда — у перакладзе: «святая гара», на схілах якой пачынаецца Тбілісі.

Чангуры, скажы, ці змагу калі-небудзь
Пачуць тваю ўцеху пад полагам неба
І сэрца ад болю адвесці.

Ці ўсмешку тваю зноў дарэмна шукаю,
Дзе б радасць твая шалясцела шаўкамі!
Ды скаргі ад струнаў — не знак дабравесця.

## ЗАВУШНІЦА

Відзён на ландышы здалёк:
Гайдае кветку матылёк.
Вось так з настроем завушніца,
Ах, завушніца, нездарма
Не прагне вырвацца з ярма —
З уласным ценем наравіцца.

Той шчасным стане з маладых,
Каму ў тым ценю зойме дых.
Тваім жа ценем завалодаць
Пад ветрыку скразны павеў,
Каб сам таго і не хацеў,
А дакранешся сэрцам лёду.

О, завушніца, з неба чар
Хвалюеш, як пчалу нектар.
Хто вусны пад табой спатоліць,
Каб стацца хмельным назнарок,
Ісці з бяссмерцем крок у крок
І выдыхнуць з душы — даволі?

## ДЗІЦЁНАК

Як даспадобы мне дзіцёнка лепятанне.
Люблю паслухаць гук той, як літанне,
Калі вільготны цмокне язычок,
А грудзі маці знойдуцца знарок.

І ён, пяшчотай матчынаю шчасны,
Палічыць ласку ўласнай адначасна.
І забярэ сабе агулам свет,
А сам адважна пазірае ўслед.

А свет той побач, Божа барані,
Нібыта вершнік грозны на кані.
І для бацькоў жаданая калыска
Люляе ўладара ад сонца блізка.

Дык цмокай язычком, бездапаможны,
І ў радасці купайся, як вяльможа.
Пакуль агеньчык вольны — ён гарыць,
Хоць свет стаіць нагамі дагары.

## МАЯ МАЛІТВА

О Божа, як бацька, звярніся да грэшнага сына
І пал яго, злом падбухтораны, сам супыні.
Няўжо так бацькоўскае сэрца без жалю застыне,
Калі небяспека на сына імчыць на шалёным кані?

Заступнік, няўжо ты надзеі маёй адрачыся прымусіш:
Аднойчы нявінны Адам запавет занядбаў
І раю вабноты аддаў у ахвяру спакусе
Ды зведаў з таго незвычайную з райскіх забаў.

О сэрца прадвеснік, ягоных глыбіняў
Сягаеш за думку маю ты раней і глыбей.
І што я шаптаць табе болей павінен?
Прымі і маўчанне маё за малітву табе.

***Уступ і пераклад з грузінскай Юркі ГОЛУБА.***



Любоў ЛЯЎШУН

# «ЖЫЦІЕ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ» ПРА ХАРАКТАР ЗАСНАВАНАГА ПРАПАДОБНАЙ МАНАСТЫРА Ў СЕЛЬЦЫ

## *да пытання аб методыцы інтэрпрэтацыі жыційных твораў*

Васіль Восіпавіч Ключэўскі, даследаваўшы, ці могуць старажытнарускія жыційныя аповеды разглядацца як гістарычная крыніца, прыйшоў да высновы: паколькі агіябіёграф «не ставіў аднаўленне факта галоўнай задачай сваёй працы і шукаў самай надзейнай апоры для свайго апавядальнага аўтарытэту не ва ўласцівасці фактычных крыніц», то, «як бы ні было жыціе багата жывымі падрабязнасцямі, яно не задаволіць гісторыка... Жыціе і гістарычнае апавяданне розна ставяцца да прадмета і другое не можа браць з'яву ў тым выглядзе, у якім дае іх першае» [6, с. 337, 339, 355].

Разам тым, думаецца, ставячыся да свайго прадмета выяўлення не так, як да гістарычнага апавядання, жыціе, тым не менш, выразна і адэкватна фіксуе ўсе значныя для духоўнага ператварэння свайго героя падзеі гістарычнай рэчаіснасці (тое ж назіраецца і ў іконе «з жыціем») і ў адлюстраванні гэтых падзей ніколі не пагаршае, хоць і апісвае іх не «в рабьем зраке» (Філ. 2: 6—7), гэта значыць не ў іх гістарычнай «кажимости», а эйдэтычна — у іх пракавечнай сутнасці. Праўда, адбываецца гэта пры адной істотнай умове — калі жыціе створана згодна з прынцыпамі хрысціянскага мастацкага канона [гл. 10, с. 175—183; 9, с. 101—116]. Усякае адступленне ад асноў святаайцоўскай іканалогіі прыводзіць да скажэння вобраза рэальнасці (як гістарычнай, так і метафізічнай).

Найстаражытнае «Жыціе Еўфрасінні Полацкай» належала, хутчэй за ўсё, да тыпу пролагавых (сінаксарных) жыццяпісаў[1] і ўваходзіла ў склад царкоўнай службы, ад якой захавалася толькі сціхіра[2]. Абсалютная большасць вядомых цяпер тэкстаў «Жыція» прападобнай уяўляюць сабой пазнейшыя — XVI—XVIII стст. — перапрацоўкі, дзе «Жыціе» паўстае ўжо як поўны біас[3], пад якім месцамі досыць выразна выяўляецца старажытны сінаксарны тэкст [2, с. 34]. Магчыма, разам з пролагавым аповедам яшчэ ў канцы XII ст. быў створаны таксама і біас, аднак і ён не захаваўся ў першапачатковым выглядзе, а падпаў пазнейшым

[1] Пролагавае жыціе (сінакса́рый) падобнае да славеснай іконы; яно апавядае толькі пра тыя эпізоды з жыцця святога, якія з'яўляюцца значнымі для яго духоўнага праабражэння.

[2] «Придете, любомоудрънии, песнеми богокрасьныими въспоимъ къ достохвальнеи и съмеренеи Еуфросине вьсечьстенеи…» // РНБ. Саф. № 96. Сціхірар канца XII — пачатку XIII ст. Арк. 129 б — 130.

[3] Біас — тып жыція, у якім аповед пра святога ўключае ўсё яго жыццё ад нараджэння да цудаў пасля скону.

***Ляўшун Любоў Віктараўна,*** *прафесар кафедры англійскай стылістыкі МДЛУ, доктар філалагічных навук.*

рэдактурам. Этапы гэтых рэдактур, як бачыцца, суадносяцца з кніжна-рэдакцыйнай дзейнасцю спачатку мітрапаліта Кіпрыяна (XIV ст.), потым — Варсанофія, духаўніка наўгародскага архіепіскапа Іоны [5, с. 11] (XV ст.), затым — мітрапаліта Макарыя (XVI ст.) і, нарэшце, свяціцеля Дзімітрыя Растоўскага (XVII ст.). У выніку гэтых рэдактур Жыціе, створанае першапачаткова як слоўны абраз Прападобнай з мэтай паказаць асноўныя этапы духоўнага перамянення святой ігуменні, ператварылася ў яе біяграфію, мэта якой — праўдзівае апісанне гістарычных фактаў, гэта значыць, фактаў зямной, часовай рэчаіснасці. Без уліку гэтага прынцыповага адрознення між тыпамі мастацкіх рэфлексій стваральніка «Жыція», з аднаго боку, і яго рэдактараў, з другога, узнікае «аберацыя адэкватнасці» першавобраза яго адлюстраванню: «метафізічная схема» атаясамліваецца з гістарычнай падзеяй, што, натуральна, прыводзіць да сур'ёзных хібаў у інтэрпрэтацыі як гістарычнай, так і духоўнай рэальнасцей.

Як заўважыў В. В. Ключэўскі, ужо да XV ст. многія агіябіёграфы адступілі ад агіяграфічнага канона і пры напісанні і/або рэдагаванні жыцій святых пачалі ставіць «чыста гістарыяграфічную мэту», што паспрыяла «пераходу ад жыція да простай біяграфіі» [6, с. 300]. Рэдактары жыція полацкай ігуменні відавочна належалі да гэтых апошніх: узяўшы не захаваны да нас пролагавы аповед Прападобнай («метафізічную схему» яе зямнога быцця), яны пастараліся максімальна напоўніць яго гістарычнымі і біяграфічнымі падрабязнасцямі, часам дадумваючы іх па аналогіі, альбо пры дапамозе «біяграфічных гіпотэз» (тэрмін В. В. Ключэўскага) ці «сітуатыўных топасаў» (тэрмін А. В. Творагава), і тым самым сказілі як гістарычную, так і метафізічную рэальнасці. Аднак гэтыя апошнія ўсё ж бачныя скрозь познюю рэдактуру старажытнага сінаксарыя, хоць даследчыкі «Жыція» па незразумелых прычынах, як правіла, ігнаравалі яго «падказкі».

Нават і сам Васіль Восіпавіч паказаў у сваім бліскучым даследаванні, як адэкватная навуковая інтэрпрэтацыя можа аднавіць ісціну кананічнага жыція, зняўшы з яго пакровы пазнейшых рэдактарскіх правак, і што гэта ісціна па сутнасці не супярэчыць гістарычнаму факту, як не супярэчыць зямному «рабьему зраку» падзвіжніка яго выяўленне на іконе. Абапіраючыся на гэта метадалагічнае адкрыццё вучонага, мы паспрабавалі інтэрпрэтаваць адлюстраваныя ў «Жыціі прап. Еўфрасінні Полацкай» факты [гл. 8, с. 217—236; 11, с. 252—266.], у прыватнасці, праясніць пытанне аб характары, або тыпе, заснаванага Прападобнай манастыра.

Паводле сюжэта Жыція, калі Спасаў манастыр быў «украшен и всего блага испольнен» (216, 235 и др.)[1], Еўфрасіння «умысли создати вторую церковь камену Святей Богородици» (тамсама). Такім чынам, царква гэта, па-першае, была задумана, найверагодна, адразу як царква манастырская. Па-другое, ідэя будаваць другую царкву прыйшла Прападобнай неўзабаве пасля роспісу («упрыгожання») Спасава храма, гэта значыць, можна думаць, адразу пасля таго, як на полацкім прастоле апынуўся родны брат Еўфрасінні — Васілька Святаславіч. І значыць, будаўніцтва гэтай царквы можна датаваць пачаткам 30-х гадоў XII стагоддзя.

Аднак далей у «Жыціі» чытаецца цікавае паведамленне: «И ту свершивши, и иконами украси, и освятивъши, предаст ю мнихом (мабыць, у памяць аб подзвігу сваёй нябеснай заступніцы Еўфрасінні Александрыйскай, якая падзвізалася ў мужчынскім манастыры. — *Л. Л.*). И бысть монастырь велий» (216, 235 і інш.). Апошні выраз інтэрпрэтуюць звычайна ў тым сэнсе, што мужчынскі манастыр, створаны пры Багародзічнай царкве, быў вялікім (у адрозненне ад дзявочага Спасава?). Аднак форма аорыста *бысть* мае значэнне закончанага трыван-

[1] Пры аналізе «Жыція» мы карыстаемся спісамі, якія прадстаўляюць усе вядомыя яго рэдакцыі, у выданні: 13, с. 210—307. Тут і далей адсылкі да гэтага выдання падаюцца ў тэксце ў дужках.

ня — *стаў, зрабіўся*, што можна сказаць толькі пра манастыр, які да гэтага быў маленькім і толькі потым стаўся вялікім. Але сюжэт «Жыція» не дае нам падстаў так лічыць — мужчынскі манастыр (калі б гаворка тут ішла ўласна і толькі пра мужчынскі манастыр) быў менавіта *створаны* (ці ўзноўлены) прап. Еўфрасінняй, а не пашыраны.

Акрамя таго, у цэлым шэрагу спісаў «Жыція», прычым такіх, якія адносяцца не толькі да рэдакцыі Зборнікаў — першапачатковай, як даказалі тэксталагічныя даследаванні [13, с. 174—175], у загалоўку гэтага твора Еўфрасіння называецца «преподобная игуменья *монастыря Святаго Спаса и Пречистыя Его Матери*, иже в Полотьсце граде» (210, 221, 270). Гэта значыць, гаворка ідзе пра *адзін* манастыр, які меў двайную назву (адпаведна галоўным манастырскім храмам).

Разам з тым, у немалой колькасці спісаў «Жыція» сустракаюцца чытанні (іх, думаецца, правільна лічыць рэліктавымі — яны засталіся пасля рэдактуры ад незахаванага старажытнага тэксту), якія абвяргаюць усталяванае ў навуцы ўяўленне пра тое, што Прападобная стварыла менавіта два манастыры — дзявочы Спаскі і мужчынскі Багародзіцкі; напрыклад: «И украсивши всю землю Полотцкую *своим боголепным монастырем*», «*блажен монастырь твой*, блажени людие живущии *в монастыри Святаго Спаса и у Святой Богородици*» (РНБ, F.I.270, л. 7 б; ср.: РНБ, ГАСП F.185, л. 357: «украсивше же всю землю Полотьскую *своим манастырем боголепным*»; «*блажен и манастырь твой*, блажени и живущии *в манастыри Святаго Спаса и Святыя Богородица*» (РДБ, Ф.113 № 632, л. 225 б), «*блажен и манастырь твой*, блажени и людие, живущи *в манастыре том у Святаго Спаса и у Святыя Богородицы*» (ГАСП F.185, л. 362) і інш. Тут бачым адзіночны лік там, дзе трэба было б чакаць падвойнага, ці, па меншай меры, множнага (маючы на ўвазе, што цытуюцца спісы ў асноўным XVI ст.), калі б гаворка ішла сапраўды аб двух самастойных манастырах.

У кантэкст прыведзеных вышэй рэліктавых чытанняў цалкам упісваецца і той факт, што адпаведна спісам розных рэдакцый «Жыція», Еўфрасіння, выпраўляючыся ў Іерусалім, «даст дръжати и рядити сестре своеи Евдокеи оба манастыря» (218, 238, 255 і інш.). Аднак ці магчыма ўявіць, каб мужчынскім манастыром кіравала ігуменння?!

Усё гэта падштурхоўвае да адзіна магчымага тлумачэння: Прападобная стварыла не два манастыры, а адзін, так званы «двайны», гэта значыць з аддзяленнямі для мужчын (пры Багародзічным храме) і для жанчын (пры Спаскім).

Упершыню, наколькі магу меркаваць, пра гэта выказалася А. В. Ліхачова, прычым як пра факт, які не патрабуе доказаў: «Былі і так званыя «двайныя» — мужчынска-жаночыя манастыры; часам на чале такога манастыра стаяў ігумен, а часам ігумення, як гэта было з заснаванымі князёўнай Еўфрасінняй Полацкай двума, мужчынскім і жаночым, манастырамі, якімі яна кіравала 40 гадоў» [12, с. 9][1]. Такім чынам, для даследчыцы, якая вывучала ў другой палове XIX стагоддзя гісторыю жаночай адукацыі на Русі, магчымасць стварэння тут у XII ст. двайнога (мужчынска-жаночага) манастыра не выклікала сумневаў. Цяпер — выклікае, а таму лічу лагічным працягнуць аргументацыю.

Тое, што Еўфрасінняй быў заснаваны менавіта двайны манастыр, пацвярджаецца, на мой погляд, таксама і гісторыяй прынясення ў Полацк Эфескай Адзігітрыі: звернем увагу, што ў большасці спісаў «Жыція» Еўфрасіння хоча бачыць «Пречистую Богородицу Одигитрию в *сей* святей церкви» (216, 235, 303), или же «во церкви *моей*» (266, 279), а прывезены ёй з Эфеса цудатворны абраз яна пакладае ў Багародзічнай царкве — «внесши в церковь Святыя Богородица, постави ю, и въздевши руце, и рече: “Слава Тебе, Господи, слава Тобе”» (217, 236, 266, 279, 303).

[1] Дзякую полацкай даследчыцы Г. М. Мыслівец, якая ўказала мне гэтую крыніцу.

Такім чынам, Багародзічную царкву мужчынскага манастыра Прападобная вызначае як «сия» (гэта значыць тая, у якой Еўфрасіння знаходзіцца ў момант пршэння) і «моя» (гэта значыць такая, куды Еўфрасіння ў любы момант можа ўвайсці). І калі лічыць, што мужчынскі манастыр пры гэтай царкве быў цалкам самастойным і не меў ніякага дачынення да Спаскага, то незразумела, якім чынам жанчына магла вольна ўваходзіць у мужчынскі манастыр і распараджацца ў ім.

Далей, у «Жыціі» сказана: «Украси ю (ікону. — *Л. Л.*) златом и камением многоценным и устави по вся вторникы носити ю по святым церквам» (217, 236, 266, 279, 303), што інтэрпрэтуюць як загад Еўфрасінні насіць абраз Эфескай Адзігітрыі хросным ходам па ўсіх полацкіх цэрквах кожны аўторак. Але, па-першае, такі загад мог даць толькі полацкі епіскап, пра што, аднак, не сказана; па-другое, падобны загад наўрад ці мог быць дадзены нават і епіскапам, калі ўлічыць, што Сельца знаходзілася ў «трех поприщах» (каля 5 км) ад Полацка — для штотыднёвага хроснага ходу адлегласць занадта вялікая. Думаецца, правільней інтэрпрэтаваць гэты фрагмент як паведамленне пра тое, што Еўфрасіння, паставіўшы цудатворны абраз у Багародзічнай царкве (гэта значыць, у храме мужчынскага аддзялення манастыра), загадала (як ігуменія, вольная ўладкоўваць манаскае жыццё) кожны аўторак пераносіць ікону хрэсным ходам з Багародзічнай царквы ў Спаскую. Цалкам магчыма, што Эфеская Адзігітрыя знаходзілася па тыдні (ад аўторка да аўторка) у кожным з храмаў Еўфрасінневай «двайной» абіцелі.

Вядома, што ў Візантыі двайныя манастыры распаўсюдзіліся з IV ст. Заснавальнікам іх лічыцца Пахомій Вялікі (292—348), які стварыў і ўзначаліў не толькі мужчынскі манастыр, але і жаночы, уладкованы пры ім для сваёй сястры Марыі — першай манахіні ў жаночым аддзяленні [16, с. 354].

Першапачаткова існавалі два тыпы двайных манастыроў: абіцелі мужчын і жанчын, якія жылі ў адным будынку сумесна, і адасобленыя адзін ад аднаго мужчынскі і жаночы манастыры, што знаходзіліся ў падпарадкаванні аднаго настаяцеля або настаяцельніцы. Айцы VII Усяленскага сабору (787 г.) забаранілі пражыванне мужчын і жанчын пад адным манастырскім дахам і загадалі ствараць абавязковыя паасобныя абіцелі ў двайных манастырах [14, с. 633]. У канцы XIII — пачатку XIV стагоддзяў у Візантыі намецілася нават некаторае адраджэнне такога роду абіцелей. Апошняя ж згадка двайных манастыроў (другога тыпу) у Візантыі адносіцца да 1383 г., калі Канстанцінопальскі патрыярх Ніл (1379—1388) выдаў акт, які забараніў падобную практыку [7, с. 221]. На ўсходнеславянскіх землях гэта адбылося значна пазней: у Маскоўскай Русі двайныя манастыры забараняліся мітрапалітам Фоціем (1416), саборамі 1503 і 1551 гг., але працягвалі існаваць аж да XVIII ст. [4, с. 382—383], як і ў Вялікім Княстве Літоўскім: вядома, да прыкладу, што віленскі Свята-Духаў манастыр (з 1597 г.) быў арганізаваны яго стваральнікам і першым архімандрытам прап. Лявонціем Віленскім (Карповічам) «па чыне Васілія Вялікага» менавіта як «двайны».

Часцей за ўсё такога тыпу абіцелі ўзнікалі ў тых выпадках, калі ў манастыр выдаляліся людзі, блізкія паміж сабою, напрыклад, брат і сястра, муж і жонка, якія жадалі часам бачыць адно аднаго. А ў «Жыціі» якраз згадваецца нехта «брат Давід», з якім, як і з «сястрой Еўпраксіяй», Еўфрасіння адправілася ў Іерусалім. Цалкам магчыма, што гэта быў малодшы са Святаславічаў, выхаваны сястрой, які пажадаў застацца слугой Богу; менавіта для яго і магла заснаваць Прападобная мужчынскае аддзяленне ў сваім манастыры.

Пацверджаннем нашай здагадкі пра тып заснаванага прап. Еўфрасінняй манастыра з'яўляюцца і развагі В. А. Вароніна, які выказаў меркаванне, што заснаваныя полацкай ігуменняй манастыры «з часам фактычна ператварыліся ў адзін» [1, с. 159]. Выснова, зразумела, памылковая (бо падобных прэцэдэнтаў у гісторыі Царквы мы не знойдзем), але прыведзеныя даследчыкам дадзеныя крыніц сведчаць пра тое, што і ў XVI стагоддзі манастыр Святога Спаса і Прачыстай Яго Маці заставаўся двайным. У прыватнасці, В. А. Варонін адзначае: у XVI стагоддзі

«Спаскі манастыр быў самым багатым полацкім манастыром. Што тычыцца Багародзіцкага манастыра (гэта значыць, уласна «мужчынскага аддзялення» гэтага двайнога манастыра. — *Л. Л.*), то ён згадваецца ў крыніцах вельмі рэдка... Прычым у гэтых рэдкіх дакументах мы не сустракаем згадак пра яго настаяцеляў» [1, с. 158]. У прыватнасці, В. А. Варонін прыводзіць вытрымку з дакумента 1534 г., дзе гаворка ідзе пра «церковь Святого Спаса и Пречистое Богоматери», а таксама Акружное пасланне караля Жыгімонта Старога ад 29 красавіка 1539 г., у якім ігуменні Ульяне надаецца «игуменъства полоцъкого *манастыра Святого Спаса и Пречыстое Богоматеры*». Да таго ж, заўважае даследчык, «у досыць падрабязных і поўных апісаннях уладанняў полацкіх праваслаўных манастыроў мы не сустракаем апісання зямель Багародзіцкага манастыра — і гэта нягледзячы на тое, што манастыр дакладна меў зямельныя ўладанні» [1, с. 158—159].

Каштоўным для высвятлення тыпу Еўфрасіневага манастыра, а таксама для лакалізацыі ўласна мужчынскага — Багародзіцкага — яго аддзялення (чыё дакладнае месцазнаходжанне на падставе наяўных сёння археалагічных матэрыялаў не вызначана) з’яўляецца прыведзеная В. А. Вароніным па дакуменце 1497 г. згадка аб нейкім двары, які знаходзіўся «подле церкви Пречистое Богоматери въ Полоцку близ двора игуменина» [1, с. 159], з чаго вынікае, што «двор игуменьи» Святога Спаса знаходзіўся ў непасрэднай блізкасці ад Багародзіцкай царквы, што было б наўрад ці магчыма, калі б мужчынская Багародзіцкая абіцель не была ў падначаленні Спаскай ігуменні.

Такім чынам, выраз «и бысть монастырь велий» правільна разумець не ў тым сэнсе, што мужчынскі Багародзіцкі манастыр у Сельцы быў вялікім у адрозненне ад невялікага жаночага Спаскага, а ў тым, што калі да жаночага аддзялення дадалося мужчынскае, то адзіны «двайны» манастыр Святога Спаса і Яго Прачыстай Маці стаў вялікім. Ігуменняй гэтага вялікага манастыра была Прападобная, а яе намеснікам у мужчынскім аддзяленні, магчыма, «слуга Міхаіл», не раз згаданы ў «Жыціі». Такім чынам, нават адрэдагаваны тэкст «Жыція прап. Еўфрасінні Полацкай» пры правільным метадалагічным падыходзе да яго аналізу дае магчымасць цалкам адэкватна аднавіць гістарычную рэчаіснасць і канстатаваць: надзеі полацкага епіскапа Іллі на тое, што Еўфрасіння «возградит» святое месца, спраўдзіліся і згарэлая пры ім епіскапская пахавальня ў Сельцы [гл. 3, с. 284] сапраўды была «возграждена» прап. Еўфрасінняй, і мужчынская абіцель, якая, напэўна, існавала пры гэтай усыпальніцы, таксама была адноўлена і ўвайшла ў склад двайнога — «*Святаго Спаса и Пречистыя Его Матери*, иже в Полотьсце граде» — манастыра пад адзіным кіраваннем Прападобнай ігуменні.

## Спіс літаратуры:

1. Варонін, В. А. Праваслаўныя цэрквы і манастыры горада Полацка (да 1582 г.) / В. А. Варонін // Studia Historica Europae Orientalis = Исследования по истории Восточной Европы: науч. сб. — Вып. 2. — Мн.: РИВШ, 2009. — С. 152—174.

2. Древние памятники русского письма и языка (X—XIV веков). Общее повременное обозрение с палеографическими указаниями и выписками из подлинников и из древних списков / труд И. Срезневского. — СПб., 1863. — 1299 с.; VIII с., 42 л. ил. — В прил. снимки с памятников / труд И. Срезневского. — (СПб., 1866).

3. Загорульский, Э. М. Белая Русь с середины I тысячелетия до середины XIII века] / Э. М. Загорульский. — Минск: Четыре четверти, 2013. — 528 с.

4. История Русской Церкви. Приложение. Смолич, И. К. Русское Монашество: Возникновение. Развитие. Сущность (988—1917) / И. К. Смолич. — М.: Церковно-научный центр «Православная Энциклопедия», 1997 / [электронный

ресурс] Седмица.RU. — 2018. — Режим доступа: http://www.sedmitza.ru/lib/text/436570. — Дата доступа: 11.03.2018.

5. Клосс Б. М. Житие Евфросинии Полоцкой: проблемы изучения и издания / Б. М. Клосс // Асветніцтва і гуманістычныя каштоўнасці Беларусі ў рэтраспектыве часу: да 900-годдзя з дня нараджэння Еўфрасінні Полацкай: Матэрыялы міжнар. навук. канф., 30—31 мая 2002 г., г. Наваполацк. — Мінск: Дэполіс, 2002. — с. 9—13.

6. Ключевский, В. О. Древнерусские жития святых как исторический источник / В. О. Ключевский. — Москва: Изд-во Астрель, 2003. — 395 [5] с.

7. Лебедев, А. П. Исторические очерки состояния Византийско-восточной церкви от конца XI до середины XV века: от начала Крестовых походов до падения Константинополя в 1453 г. / А. П. Лебедев. — СПб: «Алетейя», 1998. — 383 с.

8. Левшун, Л. В. «Житие преподобной Евфросинии Полоцкой» о создании монастыря Святого Спаса: факт, образ, интерпретация / Л. В. Левшун // Обретение образа: православная белорусская культура в славянском мире. — Минск: Белорусская Православная Церковь, 2009. — С. 217—236.

9. Левшун, Л. В. Категория жанра в средневековой восточнославянской книжности: жанр и канон / Л. В. Левшун // Древняя Русь: вопросы медиевистики. — № 4 (26) — Москва, 2006. — С. 101—116.

10. Левшун, Л. В. Категория художественного канона в информационно-образовательном пространстве церковной культуры / Л. В. Левшун // Материалы X Международных Кирилло-Мефодиевских чтений, посвященных Дням славянской письменности и культуры: в 2 ч. / Ин-т теологии им. свв. Мефодия и Кирилла, Бел. гос. ун-т культуры и искусств; отв. ред. и сост. А. Ю. Бендин. Минск, 2005. — Ч. 2. — С. 175 — 183.

11. Левшун, Л. В. «Житие преп. Евфросинии Полоцкой» как исторический источник: факты, образы, интерпретации / Л. В. Левшун // Studia Historica Europae Orientalis = Исследования по истории Восточной Европы: науч. сб. — Вып. 1. — Минск: Издат. центр БГУ, 2010. — 252—266.

12. Лихачева, Е. О. Материалы для истории женского образования в России. В 4 т. — Т. 1: Материалы для истории женского образования в России (1086—1796). — СПб.: Тип. М. М. Стасюлевича, 1890—1901. — V, [3], 296 с.

13. Мельнікаў, А. А. Еўфрасіння Полацкая / А. А. Мельнікаў // З неапублікаванай спадчыны / А. А. Мельнікаў. — Мінск: Четыре четверти, 2005. — С. 14—315.

14. Правила Православной Церкви с толкованиями Никодима, епископа Далматинско-Истрийского. В 2-х томах. — Т. 2. — М.: Отчий дом, 1996. — 1276 с.

15. Русские православные монастыри // Русская Православная Церковь. Монастыри: Энциклопедический справочник / Под общ. ред. архиепископа Бронницкого Тихона. Сост. А. В. Никольский. — М.: Республика, 2001. — 464 с.

16. Смирнов, Е. И. История христианской церкви: репринтное издание / Е. И. Смирнов. — М.: Свято-Троицкая Сергиева Лавра, 1997. — 462 с.

## Скарачэнні:

РНБ — Расійская нацыянальная бібліятэка, СПб.
РДБ — Расійская дзяржаўная бібліятэка, Масква.
ГАСП — Грамадства аматараў старажытнай пісьменнасці.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 13 сакавіка 2018 года.

**Любоў ЛЯЎШУН**

## «Жыціе Еўфрасінні Полацкай» пра характар заснаванага Прападобнай манастыра ў Сельцы (да пытання аб методыцы інтэрпрэтацыі жыційных твораў)

УДК 82.02/.091 + 930.2

Аўтар прапануе і апрабуе методыку адэкватнай навуковай інтэрпрэтацыі жыційнага аповеду, якая дазваляе скасаваць хібы пазнейшых рэдактарскіх правак. На падстве аналізу «Жыція прап. Еўфрасінні Полацкай» у артыкуле высвятляецца, што полацкая ігумення заснавала ў Сельцы не два манастыры, дзявочы і мужчынскі, як прынята меркаваць, але адзін, які адносіўся да тыпу двайных.

**Ключавыя словы**: Полацк, жыццяпіс, «Жыціе прап. Еўфрасінні Полацкай», двайны манастыр, біяграфічная гіпотэза, Спаскі манастыр, царква Святой Багародзіцы, XII стагоддзе, Беларусь.

**Lyubov LEVSHUN**

## «The Life of Euphrosyne of Polotsk» about the type of the monastery based in Seltse (to the question about methods of interpreting the hagiographic texts)

The author proposes and approves the method of adequate scientific interpretation of hagiographic narratives, allowing to eliminate mistakes of late editorial corrections. On the basis of the analysis of the «Life of St. Euphrosyne of Polotsk», the article reveals that Euphrosyne of Polotsk hasn't founded two monasteries in Selce, feminine and masculine, as is commonly believed, but one that was the double type.

**Keywords**: Polotsk, hagiography, «Life of pr. Euphrosyne of Polotsk», a double monastery, a biographical hypothesis, мonastery of Holy Savior, the Church of the Holy Mother of God, XIIth century, Belarus.



Святлана ВОЦІНАВА

# САЛАМЕЯ. ПАСЛЯ 1760 ГОДА

*Пададзеная свету як водгук на рэха перыпетый вандровак і авантур жыцця версія таго, што з ласкі Божай магло адбывацца з Саламеяй Рэгінай дэ Пільштыновай, лекаркай і акулісткай, і яе мемуарамі пасля названай даты*

Пісьменнік Леанід Андрэеў, крытыкуючы юбілейную справу (якая яшчэ ў яго час была пастаўлена вельмі шырока), прадказваў «прырошчванне юбілеяў»: лёгка, маўляў, чакаюцца і дзесяцігоддзе ўводу штрыпак і скасавання высокіх абцасаў, і гадавіна адначасовага прамакання пад дажджом, і хутка ўсе, хто судзіўся тройчы і болей, будуць уганароўвацца як ускосныя праваднікі начаткаў правасуддзя і справядлівасці. Спадар Андрэеў уволю папрактыкаваўся ў дасціпнасці, дапісаўшыся ў сваім фельетоне да таго, што назваў юбілеі святамі, якія пустапарожняя хлусня ўсталявала сама для сябе.

## Календары і пулярк

Тут, калі папраўдзе, вінаваты календары. За нейкай патрэбай яны насыцілі сябе юбілеямі так, як добрая гаспадыня насычае тлушчам скуру пад пер’ем пуляркі. Усё было б мо не так ужо страшна (перажылі б мы і большую канцэнтрацыю святаў на адзінку каляндаравай плошчы), калі б лёс пулярчынай скуры хоць некага ды цікавіў. Але, як той казаў, дзе ж ты бачыў…

І вось юбілеі. Яны сыплюцца на нас як снег. Больш за ўсё гэтага снегу выпадае на галовы тых, каму ў адпаведнасці з прафесійнай дзейнасцю трэба нічога не прапусціць — і гэтую дату адзначыць, і на тую як след адгукнуцца, і яшчэ на вунь тую звярнуць увагу. Юбілей — гэта, што ні кажы, справа прафесійнага гонару. А заадно і выклік чалавечай памяці (ну, і дасведчанасці таксама). Вы дарэмна ўсміхаецеся, у гэтым месцы лепш прасякнуцца піетэтам.

А зараз яшчэ больш сур’ёзна. Парупіцца адзначыць 300-годдзе Саламеі Пільштыновай з Русецкіх абавязаны сёлета кожны сумленны рэдактар, чыё выданне мае хоць нейкае дачыненне: а) да нашай культурнай спадчыны; б) да гісторыі; в) да медыцыны; г) да travel-журналістыкі. Калі гэта не прадпісанне зверху, а распараджэнне, якое ідзе, так бы мовіць, з нетраў уласнай душы, то табе, далібог, адкрыюцца back-гарызонты.

Іншымі словамі кажучы, аўтарка гэтых радкоў настойвае на прырошчванні юбілеяў, у асветніцкай і адкрывальніцкай місіі якіх пераканалася ўжо неаднойчы. Прынамсі, калі б не 300-годдзе Саламеі Русецкай, то не прыйшла б у галаву адна думка, якой хочацца падзяліцца.

## Як вядома

Саламея пісала свае «Авантуры…» (у арыгінальнай версіі назвы — «Echo na świat podane pvocederu podróży i życia mego awantur…») у 1760-м, на што сама ж у тэксце некалькі разоў указвала. Вядома, што яна збіралася іх выдаць,



*Стамбул у час жыцця Саламеі.*

прычым, за ўласны кошт («грошы, якія цяжка дасталіся... я з ласкі Божае выдаткавала на друкаванне гэтае кніжкі») і што не толькі не выдала, але нават і не дапісала — пра гэта сведчаць не так пустыя старонкі паміж 311-й і 367-й, з якой пачынаецца «Песня майго сачынення», як словы, якімі завяршаецца (абрываецца) рукапіс, — яны (хаця ж не процi ночы чытайце) распавядаюць пра крывасмокаў-вампіраў, пра якіх «у Польшчы кажуць, што гэта бабы, якія забіраюць дзяцей і кожнае дзясятае д'яблу аддаюць». Ведаем яшчэ, што лекарка, вырашыўшы «ўжо ніколі не быць у Польшчы», а жыць у Турцыі, «у гэтай пустэльні, у спакоі, у ласцы Божай», збіралася спачатку «паехаць морам у Егіпет, каб адпачыць і паглядзець свету», а «вярнуўшыся з Егіпта, мела намер з дапамогаю Пана Бога быць у Ерусаліме».

## Загадка

Усе магчымыя крыніцы падаюць гады яе жыцця як 1718 — пасля 1760 (недзе сустрэнецца 1763-і, але гэта без абгрунтавання). Колькі адводзіцца на «пасля» — невядома. Але пра тое, *што* адбывалася ў гэтым «пасля», нам, прынамсі, паспрабаваў данесці сам рукапіс — на ім пад тытулам ёсць пазнака: «З бібліятэкі Іаана дэ Вітэ, палкоўніка артылерыі». Пагадзіцеся, гэтая спроба данясення абстаўлена таямніча. Відаць, без вышэйшай наўмыснасці не абышлося. Паколькі рукапіс мала што не згінуў у тое ж стагоддзе, калі пісаўся, а быў знойдзены і праз дзвесце гадоў перакладзены і выдадзены-перавыдадзены пабеларуску, то, трэба думаць, самой Пані Гісторыі вельмі важна было абысціся з ім такім «кручаным» чынам — спачатку «згубіць», а потым «знайсці». А каб не было нам так лёгка (бо, пагадзіцеся, гэта не вельмі цікава), Пані Гісторыя пакінула спецыяльна для нас нежартоўную галаваломку.

Спрабуйма яе разгадаць.



*Лекарка-авантурыстка Рэгіна Саламея Пільштынова з Русецкіх. Літаграфія XIX стагоддзя.*

## Ключавая фігура

Пад палкоўнікам дэ Вітэ, хутчэй за ўсё, хаваецца аднайменны генерал — граф Іван Восіпавіч дэ Віт, «ключавая фігура рускай разведкі ў 1812 годзе». На гэтую персону ўказвае і Валянцін Грыцкевіч у каментарыі сваёй кнігі «Адысея наваградскай лекаркі», дзякуючы якой большасці з нас, чытачоў, якраз і можа быць вядома існаванне згаданай пазнакі. Ды чамусьці толькі адзінкі здатныя зладзіць з атрыманай інфармацыі квест. Мы з вамі зараз такія адзінкі, калі вы, канечне, не супраць.

Указанне на палкоўніка дае нам ведаць, у які дакладна прамежак часу дэ Вітэ пакінуў пазнаку на рукапісе: гэта магло адбыцца не раней чым у 1801-м (тады ён якраз стаў палкоўнікам) і не пазней 18 кастрычніка 1812-га (у гэты дзень яго ўзвялі ў генерал-маёры). Поле пошуку працягласцю ў адзінаццаць гадоў хацелася б неяк звузіць, але на гэтым жа полі (ці трохі шырэйшым па часе) нас яшчэ больш цікавіць пытанне: як рукапіс Саламеі Пільштыновай мог апынуцца ў бібліятэцы рускага вайскоўца, які нарадзіўся праз дваццаць адзін год пасля апошняй згадкі яе пра саму сябе?

І вось якія на гэтым полі адшукаліся «ягады».

## Ключавы год

У тым самым 1760-м (у студзені, калі больш дакладна) нарадзілася ў Бурсе дзяўчынка Сафія, па адной з версій — праўнучка грэчаскага магната Чэлічэ, па другой — дачка грэчаскага гандляра жывёлай Канстанціна Гляванэ. Гэтая Сафія, падросшы, была авантурысткай паболей, чым наша Саламея: пра яе шмат напісана як пра жанчыну небывалай прыгажосці, супраць якой ніводзін мужчына не мог устрымацца, спакуслівую, хітрую, бессаромную і пазбаўленую якога б там ні было сумлення. Усё гэта нам не так цікава, як тое, што Сафія, акрамя таго што нарадзілася ў ключавым для нас 1760-м, паводле адной з легенд была наложніцай турэцкага султана. Ну, і я не напісала яшчэ, што яна — будучая маці Іаана дэ Вітэ.

З гарэмам султана, як мы ведаем, мела справы, і паспяховыя, наша Саламея — яе «ўзялі з ласкі Пана Бога ў вялікі гарэм султана Мустафы за прыдворную лекарку ў ягоны фраўцымер», і добра ёй там жылося — «без усялякіх «але». У Канстанцінопалі, дзе яна гэтыя радкі напісала ў 1760-м, дзяўчынка Сафія апынулася ў 1772-м, у дванаццацігадовым узросце. Логіка меркаванняў падказвае, што рукапіс Саламеі трапіў нейкім чынам у сям'ю Сафіі. Але адназначна не тады, калі сям'я пераехала ў Канстанцінопаль, а ў тым самым 1760-м, прычым, трапіў так, што для самой Саламеі знік, інакш яна працягвала б весці запісы або, прынамсі, яны былі б завершаны такімі словамі, якія адназначна давалі б ведаць: «гэтую кепскую кніжачку» час ужо «падаць да друку».

## Ключавое месца

Вось што малююць нам тая самая логіка меркаванняў і сякая-такая інтуіцыя адначасова.

Саламея ў той год (або вельмі нязначна пазней) магла быць лекаркай у доме бацькоў Сафіі. Яна нават магла дапамагаць ёй з’яўляцца на свет, хоць і не апісала такую акалічнасць у сваіх мемуарах (як абсалютна шараговую, нязначную), або лячыць саму дзяўчынку ці некага іншага з сямейнікаў. Яна, як піша, часцяком пасялялася ў дамах сваіх пацыентаў на пэўны час — да завяршэння лячэння, маючы там «значную пенсію, прадукты і пакой». Так магло стацца і гэтым разам. А тое, што пацыент або пацыентка жылі не ў Канстанцінопалі, а ў Бурсе, не


Echo
Na Swiat podane
Procederu podroży y Życia mego
Awantur.
Na Cześć y Chwałę P. Bogu w Swię-
tey Trucy Jedynemu y Naswięszey
Matce Chrystusa Pana mego y Wszystkim
Swiętym.
Przezemnie Samę Wydana ta książka
Salomei Reginy de Pilsztynowey
Medycyny Doktorki y Okulistki
W Roku 1760
w Stambule

Ex Cathalogo Librorum Joan de Witte Collonelli Art. Reg.



*Рукапіс «Echo na świat podane procederu podróży i życia mego awantur przez Salomeę Reginę de Pilsztynową. W Stambule 1760», 22,5x18,5 cm, nr inw BCz-rkps-1482 II са збораў Нацыянальнага музея ў Кракаве / Музея князёў Чартарыйскіх. Фота прафесара Ягелонскага ўніверсітэта Якуба Недзьведзя.*

стварае гэтай версіі ніякіх праблем. Канстанцінопаль ад Бурсы аддзяляе шматок вады, якую можна пераплыць або аб’ехаць. Якраз жа туды, як памятаеце, быў уцёк першы муж Саламеі Якуб Гальпір, калі ад лекаў, што зрабілі ў Стамбуле ў адной аптэцы паводле яго рэцэпта, памёр чаўш. Памятаеце, «там быў пры гэтым адзін габрай, лекар Фансека, і ён з зайздрасці ўкінуў у ступку, дзе гатаваліся лекі, атруты»? А памятаеце, як Саламея апісвае водны шлях? «Калі хто мора баіцца, дык гэты дзіцячы страх смеху варты. Я, белая галава, ужо колькі разоў на моры была, але са мной нічога з ласкі Найвышэйшага Бога не сталася».

## Што было далей

І вось у доме, дзе гадуецца маленькая Сафія, наша Саламея нейкім чынам губляе свой сшытак.

Мо проста забылася і не мела магчымасці па яго вярнуцца, мо згубіла яго там і не магла знайсці, а мо з ёй нешта здарылася якраз у той час — нешта такое, што не дазволіла мець пры сабе далей гэты рукапіс. Магла і ў Святую зямлю ці Егіпет падацца, як намервалася. У такім выпадку ніхто не можа ведаць, колькі яна яшчэ пражыла і якія мела новыя авантуры, але адно зразумела дакладна: сшытка свайго больш у рукі не брала і ў вочы не бачыла. Магла даўгавата павандраваць, а па вяртанні ўжо не знайсці сям’ю, у якой сваё «Рэха…» пакінула. Магла і памерці ў любы час, пачынаючы ад таго самага 1760-га. У любым выпадку, яна пакінула ў доме дзяўчынкі Сафіі сваё «Рэха…» — і яно адгукнулася праз гады ў бібліятэцы сына Сафіі, Іаана дэ Вітэ.

## Самае цікавае

Самым цікавым падаецца тое, што гэты сшытак нікуды не знік, нікім не быў выкінуты. Такое адчуванне, што яго захоўвалі і бралі паўсюль з сабою, як вельмі патрэбную або дарагую рэч. У 1770-я, калі Сафія з маці і сястрой (бацька памёр, пасля быў айчым-армянін, але і той хутка памёр) жылі ў Канстанцінопалі, іх тамтэйшы дом згарэў. Сшытак Саламеі, як бачым, уцалеў. І пазней падрослая панна, а потым і пані Сафія, не згубіла яго, хоць вяла далёка не аселае жыццё. З бацькам Іаана дэ Вітэ яна пазнаёмілася ў Камянецкай крэпасці ў 1779-м, там жа і тады ж яны павянчаліся, потым паехалі ў Варшаву, дзе Сафія была прадстаўлена Станіславу Аўгусту, потым падаліся ў Берлін, дзе яе пазнаёмілі з каралём Прусіі Фрыдрыхам II, потым трапілі на курорт Спа, дзе адбылося знаёмства з аўстрыйскім імператарам Іосіфам II, пасля гэтага — у Малы Трыянон да Марыі-Антуанеты, потым — у Парыж, дзе ў лістападзе 1781-га і нарадзіўся хлопчык Іаан…

Да таго як стаць яму палкоўнікам артылерыі, заставалася яшчэ дваццаць гадоў. І ўсё гэта не перашкодзіла рукапісу нейкай нікому тады не вядомай Саламеі захоўвацца ў межах гэтай сям’і. Фантастыка. Хоць, канечне, усё магло быць зусім не так, і мемуары Саламеі маглі трапіць да палкоўніка дэ Вітэ аднекуль збоку, а не з лона яго сям’і.

Але тады дзе яны ўвесь гэты час вандравалі?

Мо шаноўны чытач, прыняўшы ад аўтаркі гэтых радкоў інфармацыю і прапанову, працягне пачаты квест?..



**Арцём ІВАНЕНКА**

# З ХАРАСТВОМ ДУХОЎНЫМ ЗАРУЧОНЫЯ

*Па традыцыі, у першую нядзелю верасня пройдзе чарговы Дзень беларускага пісьменства. У гэтым годзе — юбілейны, дваццаць пяты. Сёлетняе свята адбудзецца на Брэстчыне ў Іванаве.*

*Напярэдадні Дня беларускага пісьменства мы прапануем наладзіць завочнае падарожжа ў гэты куток нашай Бацькаўшчыны. Перагорнем некаторыя старонкі ягонай багатай гісторыі. Даведаемся пра культурнае жыццё горада і раёна сёння.*

## Сваім імем назваў

Спачатку гэта ніякае і не Іванава было. У XIV стагоддзі тут знаходзілася вёска Порхава. Іншы варыянт — Порхаў. Калі дакладна яна ўзнікла, сказаць немагчыма. Далёка і не кожны горад блізу свайго заснавання згадваецца ў летапісах. Што ў такім разе казаць пра вёску ці мястэчка. А вось дакладны факт: у 1423 годзе вялікі князь літоўскі Вітаўт падарыў Порхава Луцкаму кафедральнаму касцёлу.

Праз сорак два гады вёска гэтая стала ўжо горадам Янава. Чаму горадам — здагадацца няцяжка. Паселішча паступова пашыралася. А такую назву яму даў епіскап луцкі Ян Ласковіч. Быў перакананы, калі сам не ўвекавечыш аб сабе памяць, невядома яшчэ, ці паклапоцяцца аб гэтым нашчадкі. Доўга не гадаў, як гэта зрабіць. Сам Ян, то і горад хай будзе Янавам. Сваю цяперашнюю назву — Іванава — Янава атрымаў толькі ў XX стагодзі. А чыгуначная станцыя, якая знаходзіцца непадалёку, па-ранейшаму нагадвае, што калісь гэта было Янава, ці, як часам казалі Янаў. Яна называецца Янаў-Палескі.

Луцкія епіскапы зрабілі Янава сваёй другой рэзідэнцыяй. Асаблівую вядомасць Янава набыло пасля таго, як у 1497 годзе вялікі князь літоўскі Аляксандр Ягелончык дазволіў праводзіць у ім кірмашы. Штогод — па тры. Наведваліся ў Янава купцы з блізкіх і далёкіх зямель.

Толькі, як вядома, ніхто надта не знае, што яго ў будучым чакае. Тычыцца гэта не адных людскіх лёсаў. Гарадоў, іншых паселішчаў — таксама. Падсцерагла Янава бяда. У 1525 годзе там адбыўся вялікі пажар. Агонь так лютаваў, што цалкам вынішчыў горад. Тыя жыхары, што ўратаваліся, перасяліліся ў навакольныя вёскі.

Янава адбудоўвалася паступова. Дый хоць знаходзілася далёка ад вялікіх цэнтраў, падзеі, што адбываліся ў розны час, краналіся і яго. Мяняліся і ўладальнікі, як самога горада, так і навакольных зямель. Янава належала і каралям польскім, і Шуйскім, Ажэшкам, Дмахоўскім, Кружэцкім.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай увайшло ў склад Расійскай імперыі. Спачатку знаходзілася ў Слонімскай губерні, потым у Літоўскай. Нарэшце — у Гродзенскай. Зноў не абыходзілі яго бокам вялікія і малыя падзеі. Сярод іх і такія, як Айчынная вайна 1812 года. Не мінула Янаўшчыну і паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Нумары «Мужыцкай праўды» траплялі і ў Янава, і ў Моталь. Рэвалюцыі, Грамадзянская вайна, Вялікая Айчынная — таксама частка янаўскай гісторыі.

## Прыехаў у Янава… лабар

Для многіх і многіх гэты куток і па-сённяшні дзень не Іванаўшчына, а Янаўшчына. Адметнага ж у ім шмат.

Хоць бы таму, што больш нідзе на Беларусі не напаткаеш лабараў.

Кажуць, жыла некалі памешчыца. Звалі яе Лабарыня. Ад гэтага імені і ўтварылася слова «лабар». Хоць больш праўдападобна, што паходзіць яно ўсё ж ад лацінскага labor. На беларускую мову перакладаецца, як «праца».

Спачатку лабарамі называлі тых, хто збіраў ахвяраванні на карысць касцёла. Гэта была іх праца, яны з'яўляліся працаўнікамі. Але ж працаўнікамі можна называць усіх, хто жыве ад сваёй працы. Лабар жа — ні на кога іншага не падобны.

Першы тамашні лабар быў не мясцовым. Яго гаспадар мясцовага маёнтка прывёз з Камянец-Падольскай губерні. Бліжэй да тых мясцін, якія межавалі з Малдовай. Там лабараў было шмат. Увогуле, яны жылі на вялікай тэрыторыі. Ад Украіны да Прыбалтыкі, ад Малдовы да Цэнтральнай Расіі. На новай для яго зямлі прыезджы лабар прыжыўся. Стаў займацца промыслам, які засвоіў у сябе на радзіме. Іншых таксама да яго заахвоціў. Ды яшчэ паведаў пра адметную лабарскую гаворку. З'явілася яна і ў Янаве. Не паляшуцкая гаворка, на якой тут размаўляюць многія, а як бы мова прафесійная. Дарэчы, нешта падобнаеназіралася і ў некаторых іншых мясцінах. Прынамсі, у вёсцы Семежава цяперашняга Капыльскага раёна. Там сваю мову мелі мясцовыя жабракі. Яе таксама прыдумалі для таго, каб у неабходных выпадках хаваць ад іншых свае сакрэты.

Сваю мову лабары перадавалі з пакалення ў пакаленне. Усіх хлопчыкаў (жанчыны ахвяраванні не збіралі) навучалі ёй, пачынаючы з сямі-васьмі гадоў.

Называлі сваю мову «ліберскай гаврідняй». Яна на дзіва арыгінальная. У гэтым лёгка ўпэўніцца, пазнаёміўшыся з «Дыялектычным слоўнікам лабарскай гаворкі». Яго склалі супрацоўнікі Іванаўскай раённай бібліятэкі імя Фёдара Панфёрава. У гэтым слоўніку 299 слоў. Сярод іх сустракаліся вельмі нечаканыя. Пісьмо палабарску — рэпсэнына. Школа — шуля. Ежа — тройня. У нядзелі было нават два значэнні — міруля і кенруля. Займеннік жа «я» перакладаўся як… манько.

Ад жыхароў суседніх вёсак лабары адрозніваліся не толькі сваёй гаворкай, а і вопраткай. Калі сяляне, дый жыхары мястэчка на галаву надзявалі традыцыйныя магеркі, яны — шапкі з брылём. Лапцей не насілі. Замест іх карысталіся ботамі з высокімі халявамі. У халоднае надвор'е апраналі расшытыя паўкажушкі.

Збіраючы ахвяраванні, бралі не толькі грошы. Не адмаўляліся і ад палатна, пянькі, лёну, воўны — усяго таго, што было не лішнім для царкоўных і каталіцкіх прыходаў. Грошы ішлі і на рэстаўрацыю некаторых храмаў. Сёй-той з даследчыкаў перакананы, што акурат дзякуючы ахвяраванням, сабраным лабарамі, былі адноўлены дзве драўляныя царквы XVIII стагоддзя — Мікалаеўская ў вёсцы Дружылавічы і Петрапаўлаўская ў Махро.

Мова лабараў выйшла з ужытку пасля 1939 года, калі Заходняя Беларусь адышла да БССР. Храмы закрываліся. Тым больш, не будаваліся новыя. Таму адпала і неабходнасць у ахвяраваннях. Аднак лабары ў Іванаве ўсё ж засталіся. Імі ўспрымаюць сябе продкі тых лабараў, якія некалі жылі ў Янаве.

## У Дастоева, да Фёдара Дастаеўскага

Вёска Дастоева цяпер вядома далёка за межамі Беларусі. Нават той, хто далёкі ад літаратуры, здагадваецца, што вядомасць гэтая вынікае з назвы гэтага населенага пункта. Кажучы словамі народнага пісьменіка Беларусі Івана Мележа, «яго карэньчыкі ў [...] Палессі». Іван Паўлавіч, канешне ж, меў на ўвазе Фёдара Дастаеўскага. Сапраўды, вытокі роду, які даў жыццё сусветна вядомаму пісьменніку, на палескай, а калі дакладней, то янаўскай зямлі. Гэта дакументальна засведчана.

Баярын пінскага князя Даніла Рцішчавіч атрымаў грамату. Часам ён згадваецца і як Ірцішчавіч, а то і Арцішчавіч. Аднак гэта сутнасці не мяняе. Сутнасць жа ў тым, што князь і княгіня давалі яму «імёны Полковічы: дворышча Ходарава Скаратіч, а брата яго Гаўрыіла дворышча, а Масева дворышча за Стругай […] а ў Дастоева Олісееўскае дворышча». Відаць, Рцішчавічы з'яўляліся карэннымі палешукамі. Яны перайшлі на службу да Яраславічаў. Тыя ж з Масковіі ўцяклі ў Вялікае Княства Літоўскае.

Назва аднаго з маёнткаў Рцішчавічаў у далейшым стала прозвішчам патомкаў Данілы. Хоць яны пакуль называліся па-рознаму: то Рцішчавічы, то Дастаеўскія. Але ўжо ўнукі Данілы Рцішчавіча канчаткова сталі Дастаеўскімі. Праўда, лёс Дастаеўскіх складваўся няпроста. З сярэдзіны XVIII стагоддзя ён пачынае занепадаць. Прычына — ягонае выміранне, бо многія прадстаўнікі яго не мелі дзяцей. Калі ж і нараджаліся, дык часцей дзяўчынкі.

Фёдар Міхайлавіч ганарыўся родам, да якога належаў. Цікавіўся продкамі, падкрэсліваў сваё «літоўскае паходжанне». У гонар заснавальніка роду Дастаеўскіх нават хацеў назваць малодшага сына Пятром. Цікавіўся мінулым беларускага народа. Гаворачы аб тым, як шмат значыла яго вера ў сябе і свае сілы, зазначаў: «Без гэтай веры ў сябе не ўстаяў бы, напрыклад, на працягу вякоў беларускі народ і не выратаваў бы сябе ніколі».

Думкамі пра тое, як шмат значыць для яго веданне сваіх вытокаў, дзяліўся з жонкай Ганнай Рыгораўнай. Пасля смерці мужа яна ў 1897 годзе паслала ліст дастоеўскаму святару А. Кульчыцкаму. У ім, прынамсі, пісала: «Мой пакойны муж Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі шмат разоў гаварыў мне, што яго род вядзе пачатак з Літвы, ад Пінскага маршалка Дастаеўскага, выбранага ў сейм у 1598 г. Пётр Дастаеўскі і яго патомкі жылі ў Дастоеве». Але на гэты час А. Кульчыцкі памёр ужо. На ліст жонкі Дастаеўскага ніхто не адказаў.

Зацікавіўся радзімай продкаў Фёдара Міхайлавіча і ягоны ўнук ленінградскі інжынер Андрэй Дастаеўскі. У канцы 60-х і ў пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя ён перапісваўся з іванаўскімі ўладамі, звяртаўся ў Дастоеўскую сярэднюю школу. Акурат у той час у Савецкім Саюзе вялася падрыхтоўка да 150-годдзя з дня нараджэння Ф. Дастаеўскага. Яго планавалася шырока адзначыць у 1971 годзе. Адно з маскоўскіх выдавецтваў планавала выпусціць альбом «Ф. М. Дастаеўскі ў партрэтах, дакументах, ілюстрацыях». Меркавалася ў гэтым выданні змясціць і карту-схему для турыстаў, якія захочуць пабываць на радзіме продкаў выдатнага пісьменніка. Андрэй Фёдаравіч узяўся дапамагчы аўтарам альбома. Цікавіўся тым, што ўяўляе Дастоева цяпер, як лепей трапіць у гэтую вёску, якім транспартам карыстацца. І, канешне ж, хацеў ведаць, як ушаноўваецца памяць знакамітага роду.

Наконт апошняга, на жаль, было мала суцешнага. Не захаваўся летапіс Дастоева. Дакументы, што тычыліся мясцовай царквы — таксама. Яны згарэлі, калі атэісты-цемрашалы спалілі гэты храм. Аднак падрыхтоўка да юбілею Дастаеўскага актывізавала пошукава-краязнаўчую работу. Матэрыялаў знайшлі столькі, што змаглі адкрыць музей. Яму было прысвоена імя Ф. М. Дастаеўскага. У двары школы з'явіўся помнік сусветнавядомаму рускаму пісьменніку.

Шкада толькі, што Андрэй Дастаеўскі ўсяго гэтага не пабачыў. Дый так і не змог наведацца ў Дастоева. Хоць і вельмі хацелася яму пабываць на радзіме сваіх продкаў. У адным з лістоў прызнаваўся: «Давно рвусь на Брестчину. Рассчитываю приблизительно через год осуществить эту поездку, чтобы на местах поработать…» Цікавіўся, якой парой лепш прыехаць. Калі зімой — як лепш дабрацца да Дастоева. Аднак паездка гэтая так і не адбылася. 18 верасня 1968 года Андрэй Фёдаравіч памёр.

Пакуль у Дастоева літаратары наведваюцца не так і часта. Прынамсі, як таго хацелася. Тым не менш, да вытокаў Ф. Дастаеўскага ўжо далучыліся многія. Пад уражаннем судакранання з імі нарадзіліся і творы. Народны пісьменнік Беларусі

Іван Мележ напісаў апавяданне і эсэ «Дастоева», Аляксей Зарыцкі, Васіль Макарэвіч, Яўгенія Янішчыц — вершы. Адпаведна «Рэпартаж з Дастоева», «Дастоева», «Па дарозе ў Дастоева».

## З сапраўдных людзей

З Дастоева родам і шматгадовы старшыня сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва «Астрамечава» Брэсцкага раёна, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Аляксей Скакун. Да ўсяго і член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Уладзімір Сцяпанавіч — аўтар кніг «Арыенцір — новыя вышыні», «Дарога ў заўтра», «Права на жыццё» і іншых. Уладзімір Сітуха нават паведаў пра яго і гэткіх жа руплiцаў на беларускай ніве ў паэтычнай трылогіі «Скакуны». Аднак асабліва праўдзіва і глыбока пра гэтага выдатнага арганізатара селькагаспадарчай вытворчасці расказаў у дакументальна-мастацкай аповесці «Мужык» Уладзімір Ліпскі. Гэты твор стаў і асновай кнігі «Аляксей Скакун: жыццё і працоўны подзвіг», складзенай Уладзімірам Сцяпанавічам і выпушчанай выдавецтвам «Адукацыя і выхаванне» ў серыі «Асобы».

Уладзімір Ліпскі на дзіва дакладна прасачыў жыццёвы шлях А. Скакуна. Згадаем словы Аляксея Сцяпанавіча: «Разумееце, прыехаў з радаводнай радзімы Дастаеўскага на землі, дзе нарадзіўся, набіраўся моцы і адкуль пайшоў у вечнасць мужны наш асветнік Казімір Лышчынскі. Паміж іх геаграфічнымі кропкамі Беларусі пралегла і маё жыццё».

Хіба мог у такім разе аўтар «Мужыка» абысці гэтыя дзве каларытныя постаці: Фёдар Дастаеўскі і Казімір Лышчынскі?! Асабліва шмат увагі ў аповесці надаецца знакамітаму рускаму пісьменніку. Нават у якасці эпіграфаў да кожнага «палетка», а так назваў У. Ліпскі, асобныя раздзелы свайго твора, выдзяляючы пэўныя абсягі дзейнасці А. Скакуна, узята якое-небудзь ёмкае выказванне Фёдара Міхайлавіча, што зместам сваім удала стасуецца да таго, чым жыве галоўны герой аповесці. Адбываецца як бы паяднанне ў часе двух землякоў: Дастоева ж, «больш дакладна — пасёлак Бэрвы дастоеўскага паселішча — радзіма А. Скакуна».

## Па кім звоніць звон

Моладава непадалёку ад Дастоева. Вёска таксама вельмі цікавая.

Маёнтак Моладава ў XVI—XVII стагоддзях належаў роду Войнаў. Мялецій Сматрыцкі ў сваім «Фрынасе» згадвае іх поруч з такімі старажытнымі родамі, як Хадкевічы, Сапегі, Кішкі, Дарагастайскія. Роду Войнаў быў прысвечаны звон канца XVI стагоддзя. Яго навукоўцы Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі адшукалі ў Моладаве.

Гэты царкоўны звон знаходзіўся на званіцы драўлянай царквы Узнясення. Яна была пабудавана ў XIX стагоддзі. Але на тым месцы, на якім дагэтуль стаяў храм XVII стагоддзя. Са старой царквы звон і «перайшоў» у новую.

Звон вялікага памеру. Вышыня яго да правушын складае 62 см. Таўшчыня ліцця — каля 7 см, найбольшы дыяметр — 70 см. На звоне размешчаны рэльефны раслінны арнамент. На паверхні выступаюць і кругі. Ёсць таксама высечаныя надпісы, што складаюцца з шасці тэкстаў.

Гэта адзін з першых вядомых выпадкаў, калі лацінка выкарыстана ў старабеларускіх тэкстах. У асноўным яны тычацца двух Войнаў: бацькі Мацея і яго сына Сямёна. Надпіс, прысвечаны першаму з іх, — арыгінальны твор эпіграфічнай літаратуры таго часу. Згадваюцца ганаровыя тытулы, пасады Мацея Войны. Ён характарызуецца, як чалавек дзяржаўны. Аднак расказваецца пра яго, як і пра сем’яніна. Называецца дата смерці: 15 мая 1582 года.

Пра Сямёна Война звесткі больш сціплыя. Але іх дастаткова, каб упэўніцца, што гэта быў годны чалавек, варты роду свайго. Ухваленне Войнаў гучыць і на апошнім кальцавым тэксце: «Звон доброгласным голосем звоне… отдавай всегда створытелю хвалу в зацным Войновом дому, знісмірну славу, побуждай всіх до церкві Господней, до молітвы Богу…»

Жыхары Моладава свой звон вельмі шанавалі. Адліты ён быў, як відаць з тэксту, у 1583 годзе Марцінам Гофманам. У Вялікую Айчынную вайну, даведаўшыся, што гілераўцы збіраюцца вывезці яго ў Германію, моладаўцы звон ноччу знялі і закапалі ў зямлю. А пасля вызвалення ён заняў сваё ранейшае месца. Пасля закрыцця царквы трапіў у Мінск. Аднак моладаўцы не страчвалі надзеі, што калі-небудзь вернецца назад. Спадзяванняў пабольшала, калі ў 1990 годзе царква ў Моладаве была адрэстаўрыравана.

Але супрацоўнікі акадэмічнага інстытута не спяшаліся развітвацца з ім. Прапаноўвалі замест гэтага звона іншы. У дадатак нават абяцалі каштоўныя царкоўныя рэчы. Ды вяскоўцы не спакусіліся. Звон у рэшце рэшт вярнуўся на сваю радзіму.

На гэтым, аднак, ягоныя выпрабаванні не скончыліся. У 1997 годзе над Іванаўшчынай пранёсся ўраган. Магутны паток паветра сарваў звон разам са званіцай і кінуў на зямлю. Але не разбіў. Над Моладавам па-ранейшаму гучыць ягоны звон.

Пасля Войнаў Моладава стала ўласнасцю Агінскіх. У 1692 годзе дачка апошняга з Войнаў Элеанора выйшла замуж за ваяводу мінскага Казіміра Дамініка Агінскага. Але справы пайшлі не так добра, як пры Войнах. Сын Элеаноры і Казіміра мусіў аддаць Моладава сваймy родзічу Міхалу Клеафасу Агінскаму. Пры ўмове, што ён выплаціць даўгі. Толькі з гэтага нічога не атрымалася. У 1792 годзе Агінскі прадаў маёнтак Сымону Скірмунту.

Праз тры гады Скірмунт пабудаваў аднапавярховы палац. Яшчэ праз тры ўзвёў новы, значна большых памераў. Сам будынак, а потым капліца, парк вылучаліся прыгажосцю сярод звыклага палескага пейзажу. Уражвала і ўнутранае ўбранства палаца. Маёнтак праіснаваў да 1943 года, пакуль яго не спалілі. Здзічэў парк. Захавалася толькі капліца.

## З роду Скірмунтаў

Апошнім уладальнікам маёнтка Моладава быў Генрых Скірмунт. На жаль, на Беларусі яго амаль не ведаюць. Між тым, Скірмунт заявіў пра сябе як кампазітар і паэт. У 1898 годзе, дваццацігадовым, надрукаваў цыкл «З вершаў і песень Генрыха Скірмунта». На музыку паклаў, як уласныя творы, так і вершы Марыі Канапацкай, Соф'і Мразавецкай, Люцыяна Рыдлы і іншых. Некаторыя з гэтых песень карысталіся вялікай папулярнасцю, гучалі ў выкананні вядомых у той час спявачак Яніны Каралевіч-Вайдовай і Саламеі Крузельніцкай.

Праз год узяўся за напісанне лібрэта оперы «Пан Валадыеўскі». Прэм'ера адбылася 21 сакавіка 1902 года ў Львове і прайшла паспяхова. У друку з'явілася шэраг рэцэнзій, аўтары якіх далі высокую ацэнку і гэтай оперы, і ўвогуле творчасці Скірмунта. Гэта натхніла маладога кампазітара на напісанне лібрэта яшчэ адной оперы — «Вяртанне байкі». Але надрукавана яно было толькі ў 1913 годзе. Вялікі тэатр у Варшаве адразу ўзяўся за яе пастаноўку, крыху памяняўшы назву. «Вяртанне байкі» стала «Адвечнай байкай». Але прэм'еры перашкодзіла Першая сусветная вайна.

На гэты час Г. Скірмунт выдаў і два зборнікі вершаў з аднолькавай назвай «Паэзія». Першы выйшаў у 1903 годзе, другі — у 1912-м. Пазнаёміўся з Элізай Ажэшкай. У 1905 годзе наведваў яе ў Гродне. Сустракаліся таксама і ў Моладаве. Шмат перапісваліся. Гэтае ліставанне працягвалася да 18 мая 1910 года, калі вядомай пісьменніцы не стала.

Што такое «акаянныя дні» Г. Скірмунт адчуў ужо ў 1919 годзе, калі Янаўшчына на кароткі час была занята часцямі Чырвонай Арміі. «Будаўнікі новага свету» ягоны палац разграбілі. Знішчылі бібліятэку, у якой знаходзілася шмат рэдкіх і каштоўных кніг. Самога ўладальніка Моладава прыгаварылі да расстрэлу. На шчасце, уцёк.

Потым вярнуўся ў Моладава, без якога не ўяўляў сабе жыцця. Напісаў драму «Жыццё артыста», займаўся публіцыстыкай. Наведаўся ў Вялікабрытанію, дзе ягоны старэйшы брат Канстанцін ўзначальваў польскае пасольства ў Лондане. Пад уражаннем гэта паездкі напісаў вершаваны цыкл «Англія».

Дачакаўся вераснёўскіх падзей 1939 года. Для адных гэта было вызваленне, для Скірмунтаў — працяг «акаянных дзён». Генрых і яго 67-гадовая сястра Марыя былі прылюдна расстраляны пад сценамі палаца. Целы закапалі ў лесе.

Канстанціна Скірмунта гэтыя цяжкія дні мінулі. Паспеў уцячы з Моладава з польскім войскам. Напісаў мемуары «Мае ўспаміны». Для захавання рукапіс аддаў у Нацыянальную бібліятэку ў Варшаве. Але ў час Варшаўскага паўстання ў 1944 годзе ён згарэў. Нягледзячы на тое, што ўжо меў 79 гадоў, праз год К. Скірмунт зноў узяўся за ўспаміны. Штосьці ўзнаўляў па памяці, нешта пісаў нанова. Кніга «Мае ўспаміны, 1866 — 1945» пабачыла свет толькі ў 1998 годзе. Памёр жа яе аўтар у 1949-м, пражыўшы 83 гады.

Век Ядвігі Скірмунт быў і таго большы — 94 гады. Памерла ў 1968 годзе, а кніга яе «Пані на Грушавай (25 гадоў успамінаў аб Марыі Радзевіч») была выдадзена ў Варшаве толькі ў 1994-м. Гэта згадкі пра польскую раманістку і навелістку, адну з самых вядомых пісьменнікаў міжваеннага перыяду. Яна — таксама ўраджэнка Беларусі. Нарадзілася ў маёнтку Пянюга Ваўкавыскага павета, цяпер Зэльвенскі раён (а маці — у янаўскай вёсцы Замошша).

Калі дзяўчынцы споўнілася ўсяго адзін год, яе аддалі на выхаванне бабулі і дзеда. Не ад добрага жыцця зрабілі так. Бацька Марыі Радзевіч прымаў удзел у паўстанні 1863—1864 гадоў. Пакаранне адбываў у Сібіры. Ядвіга Скірмунт сябравала з Марыяй Радзевіч. Свае мемуары яна невыпадкова назвала «Пані на Грушавай…» З 1881 года Радзевіч жыла ў маёнтку Грушава Кобрынскага павета (цяпер аднайменны раён). Жыццё простых палешукоў, а гэта, зразумела, найперш былі сяляне, апісала ў сваіх раманах «Лета лясных людзей», «Каштоўны камень», «Былі і будуць», «Чагары», «Пажары і папялішчы». Знайшлося ім месца і ў апавяданнях «З глушы», «Чорны хлеб» і іншых. З замілаваннем апявала Марыя Радзевіч блізкую ёй палескую прыроду.

## Клуню разабралі — Вялікдзень адсвяткавалі

Нават сёння далёка не кожная вёска можа пахваліцца тым, што ёй прысвечана асобная кніга. А тут тры кнігі. Такое прыемнае выключэнне — вёска Моталь. Першая з гэтых кніг «Сяляне мястэчка Моталь і іх песні» з’явілася яшчэ ў 1888 годзе. Яе напісала член Расійскага геаграфічнага таварыства тутэйшая ўраджэнка Марыя Саковіч. У колішнім мястэчку, а цяпер аграгарадку Моталь нарадзіўся і журналіст Павел Стасевіч. Ён аўтар кнігі «Вёска над Ясельдай», выдадзенай у 1991 годзе. Пра гэтую вёску расказаў і пісьменнік, журналіст Васіль Шырко — «Зямлі бацькоўскай прыцягненне» (1982). Чым жа заслужыў Моталь да сябе такую ўвагу і павагу?

Моталь — паселішча даўняе, з багатай гісторыяй. Увогуле, людзі ў тамашніх мясцінах з’явіліся яшчэ ў каменным веку. Значна бліжэй да нашых дзён на месцы цяперашняга Моталя была вёска Прохаў. Яна была спалена ў час набегу татараў. Моталь жа ўпершыню згадваецца пад 1422 годам у актах Літоўскай метрыкі.

Аб паходжанні назвы Моталь існуе некалькі версій. Па адной з іх, першага чалавека, які пасяліўся на месцы былой вёскі, звалі Матыль. Па другой, тут вадзі-

лася надта шмат матылёў. Ёсць і такое меркаванне: паселішча, якое знаходзілася непадалёку і яго жыхароў знішчылі заваёўнікі. Выжыў толькі стары Мотла. Ён перабраўся бліжэй да ракі Ясельды. Ад імені Мотла і ўзнік Моталь. Больш праўдзівай гісторыкі лічаць першую версію.

Моталь хутка развіваўся. Ужо ў сярэдзіне XVII стагоддзя ён быў вялікім мястэчкам. Меў больш зямель, чым павятовы горад Пінск. Ён, між іншым, магдэбурскае права атрымаў толькі ў 1581 годзе. На трыццаць гадоў пазней за Моталь. Падтрымліваў цесныя сувязі з многімі гарадамі. Гэта відаць і з назваў вуліц: Берасцейская, Нова-Берасцейская, Мінская, Пінская і іншыя. Усяго ў Моталі было сем вуліц, гандлёвая плошча.

Мотальцы мелі каралеўскую грамату. Паводле яе, усе землі ў мястэчку з’яўляліся іх уласнасцю. Жыхары былі падданымі караля польскага, а не прыгоннымі. Калі манарх паміраў, яго пераемнік пацвярджаў прывілеі новай граматай. Мотальскія сяляне да царавання імператрыцы Кацярыны II карысталіся правамі мяшчан. Упершыню атрымалі іх пры каралеве польскай Боне Сфорцы.

Кніга М. Саковіч «Сяляне мястэчка Моталь і іх песні», цікавая і тым, што ў ёй прыводзяцца паданні, звязаныя з гэтым кутком Янаўшчыны. Яны — розныя па сваім змесце, але аднолькавыя тым, што мотальцы паўстаюць у іх людзьмі, якія заўсёды ведалі сабе цану. З любых сітуацый знаходзілі годнае выйсце. Калі трэба было, маглі пастаяць за сябе. Так адбылося і тады, калі чарговы раз адстойвалі сваю незалежнасць.

За пацвярджэннем сваіх прывілеяў да караля польскага накіравалі мешчаніна Панядзільца. Жаданую грамату ён атрымаў лёгка, таму радасны сабраўся дамоў. Але тут да манарха звярнуўся заслужаны польскі воін Лукашык. Папрасіў падараваць яму які-небудзь маёнтак. Падумаў кароль, а чаму не аддаць яму Моталь? Толькі як быць з граматай, выдадзенай Панядзільцу? Думаў-думаў і знайшоў выйсце. Сказаў Лукашыку: «Дагані Панядзільца і забяры ў яго падпісаную грамату».

Толькі адзін са слуг папярэдзіў Панядзільца аб гэтым. Каб яго не дагналі, ён да Моталя дабіраўся патаемнымі сцежкамі. Дома ж загадаў жонцы хутчэй схаваць грамату. Лукашык з памагатымі ўсю хату абшарылі. Аднак грамату так і не знайшлі. А гаспадар і кажа Лукашыку: «Табе есці кашу з маслам, а не са мною дужацца». У злосці праследвальнікі забілі яго.

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай мотальцы чамусьці не паехалі да Кацярыны II для пацвярджэння сваіх прывілеяў. Таму сталі дзяржаўнымі сялянамі. Мусілі плаціць падаткі. Як ні прасілі пасля вызваліць ад іх, гэта нічога не дало. Толькі па-ранейшаму ведалі сабе цану. Пра гэта таксама расказваецца ў кнізе М. Саковіч. Чарговая гісторыя падаецца як паданне, ды, як вядома, паданні, легенды часта не на пустым месцы ўзнікаюць.

Кінулі вока на мотальскія землі ўладальнікі маёнтка Заазер’е. Не ў апошнюю чаргу і на само мястэчка. Нават паспелі пабудаваць у цэнтры яго клуню. Спадзяваліся ў далейшым і іншыя пабудовы перанесці ў Моталь. Але сяляне клуню разабралі, а бярвенні скінулі ў мясцовае возера. Толькі не ўсе. Частку пакінулі на… Вялікдзень. Для святочнага вогнішча выкарысталі. Касцёр яшчэ той атрымаўся! Радасна, весела было ім, што знайшлі ўправу на таго, хто засумняваўся ў іх незалежнасці.

## Мотальцы — людзі знакамітыя

У 1874 годзе ў Моталі нарадзіўся першы прэзідэнт Ізраіля Хаім Вейцман. Ён быў трэцім дзіцем у сям’і сплаўшчыка лесу Озера і хатняй гаспадыні Рахел-Леа, у дзявоцтве Чмярынскай. Усяго ў іх нарадзілася ажно 15 дзяцей. Прыкладна праз дваццаць гадоў Вейцманы пераехалі ў Пінск. Хаім ужо быў дарослым чалавекам.

Скончыўшы рэальнае вучылішча, паехаў у Германію атрымліваць вышэйшую адукацыю. Быў выкладчыкам у Жэнеўскім універсітэце, потым у Манчэсцерскім. Пэўны час узначальваў хімічную лабараторыю ў Брытанскім адміралцействе.

Заснаваў Яўрэйскі ўніверсітэт ва Іерусаліме, навукова-даследчы інстытут па тэарэтычных і прыкладных прыродазнаўчых навуках у горадзе Рэхават. Важкія і ягоныя асабістыя навуковыя дасягненні. Яму было выдана 100 патэнтаў у галіне прамысловага прымянення многіх хімічных працэсаў. Узначальваў сусветную Сіяніцкую арганізацыю. А першым прэзідэнтам Ізраіля стаў у 1948 годзе.

У 1993—2000 гадах прэзідэнтам гэтай краіны быў і ягоны пляменнік Эзер Вейцман. Хаім Вейцман за тры гады да сваёй смерці, у 1952-м у Англіі выдаў аўтабіяграфію «Выпрабаванні і памылкі». Безумоўна, яна так і «просіцца» быць перакладзенай на беларускую мову.

Родам з Моталя і Лейзер Шмуль Чыж. За мяжой ён вядомы, як Леанард Чэс. Менавіта так яго імя і прозвішча запоўніў чыноўнік, які па прыездзе афармляў дакументы. Чэс быў заснавальнікам і ўладальнікам фірмы гуказапісу «Chess Records». Моталь пакінуў у 1928 годзе з бацькамі, маючы за плячыма адзінаццаць гадоў. У ЗША адкрыў і ўласнае музычнае выдавецтва.

У Моталі нарадзіўся і жыве мастак Янка Рамановіч. Працуе ў розных галінах жывапісу, графікі. Пераважна ў жанры партрэта, нацюрморта, пейзажа. У родную вёску вярнуўся пасля заканчэння Рэспубліканскага каледжа мастацтваў імя Івана Ахрэмыка і Беларускай акадэміі мастацтваў. Анатоль Крэйдзіч прысвяціў яму дакументальна-мастацкую аповесць «Атлантыда Янкі Рамановіча».

Пісьменнік Анатоль Крэйдзіч нарадзіўся 27 чэрвеня 1965 года ў вёсцы Заверша Драгічынскага раёна. У 1979 годзе з маці пераехаў у Іванаўскі раён, у вёску Рудск. Скончыў Ржэўскі саўгас-тэхнікум, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Працаваў журналістам, узначальваў брэсцкую раённую газету «Заря над Бугом» і іванаўскую «Чырвоная звязда» (сённяшні «Янаўскі край»), быў старшынёй Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, намеснікам старшыні СП Беларусі. Цяпер жыве ў вёсцы Сасноўка Лунінецкага раёна. Аўтар некалькіх кніг прозы.

Пра Я. Рамановіча ён піша з захапленнем, знаходзячы і такія шчырыя, усхваляваныя радкі: «Я ў сталіцы… Сталіцы беларускага жывапісу… Яна тут, у майстэрні Янкі Рамановіча ў вёсцы Моталь па вуліцы 17 верасня. На сцяне хаты — шыльда, даўняя-прадаўняя, драўляная, на якой накрэслена па-польску: ul. Wieleszkut, 21. Так і не памянялі яе былыя гаспадары. І Янка не мяняе. А сама хата збудавана ажно ў 1880 годзе. Яе сцены мудрыя, як свет».

Мне таксама давялося пабываць у гэтай хаце-майстэрні. Як і А. Крэйдзіч, захапляўся тым, што напісана ўжо і што пішацца яшчэ Я. Рамановічам. Падумалася, што цудоўны ён не толькі сваёй творчасцю. Цудоўны і тым, што, не проста з замілаваннем, як некаторыя, гавораць, пра вясковае жыццё, а сам жыве ў вёсцы. З’яўляецца сапраўдным народным інтэлігентам. Удзельнічае ў рэспубліканскіх і замежных выстаўках. Яго работы ёсць у карцінай галерэі музейнага комплексу Напалеона Орды ў Варацэвічах.

Шмат якія пісьменнікі наведваліся ў Моталь. Бываў некалі ў ім і Максім Танк. Прыязджаў з Уладзімірам Калеснікам, каб сустрэцца з выбаршчыкамі. Пра гэтую паездку Уладзімір Андрэевіч падрабязна расказаў у нарысе «Будзённым днём з Максімам Танкам». Ён змешчаны ў ягонай кнізе «Зорны спеў» (1975).

## Паэт, вучоны, перакладчык

Янаўская зямля дала жыццё і паэту, вучонаму, перакладчыку канца XVI — пачатку XVII стагоддзя Яну Пратасовічу. Даводзіцца абмяжоўвацца такім сведчаннем, бо ні ягоны год нараджэння, ні калі адышоў у вечнасць, невядомыя.

Затое пэўна можна сказаць, што нарадзіўся ў вёсцы Магільна. Сёння яе, праўда, няма — злілася з раённым цэнтрам.

Бацька Яна належаў да служылай шляхты Вялікага Княства Літоўскага. Па ўсёй верагоднасці, быў чалавекам адукаваным. Паклапаціўся аб тым, каб і сыну не чужымі былі веды. Ян выгадаваўся высокаадукаваным чалавекам. Добра ведаў лацінскую, грэчаскую і асноўныя заходнееўрапейскія мовы. Свае творы пісаў па-польску.

Многімі мовамі, відаць, авалодаў у нейкім замежным універсітэце. Бадай, не без падтрымкі шчодрых дабрадзеяў. Выказваюцца меркаванні, што адбылося гэта дзякуючы камусьці з Радзівілаў. Наколькі вядома, Я. Пратасовіч ніякіх дзяржаўных пасад не займаў. Галоўным для яго заставалася творчасць. Сродкаў жа для нябеднага жыцця ставала. У жонкі ўзяў дачку берасцейскага кашталяна Рыгора Войны. Так парадніўся з вядомым у Княстве магнацкім родам.

Час бавіў за чытаннем кніг па філасофіі, геаграфіі, гісторыі. І, канешне, за напісаннем паэтычных твораў. Асабліва плённа працаваў у роднай вёсцы, у якой жыў з канца 1580-х і да сярэдзіны 1590-х гадоў. Калі ж завяршаў свой чарговы твор, спяшаўся «ў слаўнае месца Віленскае». Няцяжка здагадацца, што пры гэтым меў на ўвазе Вільню.

Працуючы ў гэтым горадзе, набыў шмат знаёмцаў сярод чыноўнікаў і служылай шляхты. Пазней, калі стаў вядомым, уступіў у гуманістычны гурток разначыннай інтэлігенцыі. Яна групавалася вакол друкара і кнігавыдаўца Яна Карцана. Ён і выдаў кнігі Я. Пратасовіча.

Выпадак унікальны для таго часу: усе шэсць кніг, напісаных ім, дайшлі да нашых дзён. Выключнасць і ў іншым: чатыры кнігі пазначаны адным і тым жа 1597 годам. Ніколі дагэтуль і пазней нічога падобнага не назіралася. Як гэта ўдалося яму, даследчыкі па-ранейшаму нічога пэўнага наконт гэтага сказаць не могуць. Што гэта? Выпадковасць ці шчодрае фінансаванне дабрадзеяў, з якімі аўтар знаходзіўся ў добрых стасунках. А можа, асаблівае стаўленне да паэта выдаўца?

Хутчэй за ўсё, праяўленне і першага, і другога, і трэцяга. Па аб'ёме творы, праўда, не такія і вялікія. У сукупнасці набіраецца каля 120 старонак. Аднак трэба гаварыць не пра колькасць, а пра якасць. І пра тое таксама, што творчасць Я. Пратасовіча пашырае наша ўяўленне пра польскамоўную беларускую літаратуру згаданага перыяду.

Дэбютаваў Я. Пратасовіч у 1595 годзе вершам-віншаваннем «Паранімфус» з нагоды шлюбу старосты браслаўскага Януша Скуміна-Тышкевіча з Барбарай Нарушэвіч. На гэтым вяселлі ён быў сватам. Па-грэчаску сват, дружка — paranumphus.

«Эпіцэдыфум» (1597) напісаны з выпадку смерці Марыі Войны — жонкі наваградскага шляхціца Яна Калантая і прысвечаны яе бацьку кашталяну брэсцкаму Рыгору Войну. Памерлая была швагеркай паэта. Гэтым жа годам пазначаны і творы «Контэрфект старога чалавека» і «Постаць пачцівай жанчыне», адрасаваныя Кацярыне Тышкевіч.

Яшчэ адзін — «Ялмужнік» прысвечаны Радзівілу Сіротку, які ў гэты час пастаянна апекаваў Я. Пратасовіча. Яшчэ адзін твор Я. Пратасовіча «Інвенторэс рэрум, або Кароткае апісанне, хто што вынайшаў і да ўжытку людзям даў» (1608) цалкам арыгінальным не назавеш. У аснову пакладзена аналагічная кніга італьянца Вергілія Палідора Урбінскага. Але Я. Пратасовіч дапоўніў яе новымі фактамі і каментарыямі ў паэтычнай форме. У алфавітным парадку пералічаны біблейскія, міфалагічныя і гістарычныя асобы. Даюцца апісанні іх вынаходніцтваў. Усяго ў кнізе 147 артыкулаў.

## Орды — з Залатой Арды

Час згадаць і яшчэ аднаго ўраджэнца гэтай шчодрай на таленты зямлі, імя якога вядома далёка за межамі Беларусі.

Гэта, канешне ж, Напалеон Орда, які нарадзіўся 11 лютага 1807 года ў маёнтку Варацэвічы. Калі больш дакладна, то ва ўрочышчы Чырвоны двор, непадалёку ад вёскі Варацэвічы. Тады гэта быў Пінскі павет Мінскай губерні.

Поўнае імя яго Напалеон Мацей Тадэвуш. Напалеонам сына назваў яго бацька Міхал, сімпатызуючы французскаму імператару. Быў Міхал Орда інжынерам-фартыфікатарам.

Жонкай узяў сабе дачку пінскага суддзі і падстаросты Матэвуша Бутрымовіча Юзэфу. Бутрымовіч таксама меў дачыненне да будаўніцтва. Узводзіў каналы, дарогі. Між іншым, у сучаснікаў карыстаўся аўтарытэтам. Нават выведзены ў рамане Элізы Ажэшкі «Меір Езафовіч». Аб папулярнасці гэтага твора сведчыць тое, што ён перакладзены на 13 моў.

Род Ордаў татарскага паходжання. На Беларусі яны з’явіліся ў канцы XIV стагоддзя. Пасля таго, як вялікі князь літоўскі Вітаўт аднаго з іх запрасіў да сябе на службу з Залатой Арды. На новых землях яму спадабалася, таму і застаўся тут жыць. Аднак прозвішча ў яго было не Орда. Магчыма, — Ордзініч. Ва ўсякім разе першы вядомы прадстаўнік гэтага роду — Васко Ордзініч. Ён быў пінскім баярынам.

Ад яго і пайшлі тыя Орды, да якіх належаў Напалеон Орда. Орды былі людзьмі багатымі. Так, бацька Напалеона меў каля 400 прыгонных сялян. Не беднай была і ягоная маці. Выходзячы замуж, яна атрымала добры пасаг.

Міхал Орда памёр, калі хлопчыку споўнілася ўсяго два гады. Аб яго хатняй адукацыі шмат паклапацілася маці. Юзэфа, цяпер ужо Орда, была таленавітай жанчынай. Яна цудоўна іграла на клавікордзе. Калі Напалеон падрос, таксама палюбіў гэты занятак. Праявіў цікаўнасць і да малявання. Маці запрасіла спецыяльнага выкладчыка. Наняла для Напалеона і настаўнікаў па іншых прадметах.

Пасля атрымання хатняй адукацыі ён паступіў у Свіслацкую гімназію. Скончыўшы яе, у 1823 годзе падаў дакументы ў Віленскі ўніверсітэт. Выбраў фізіка-матэматычны факультэт. Пакуль перад музыкай, маляваннем перавагу аддаваў дакладным навукам. Магчыма, і дасягнуў бы ў іх немалога поспеху. Але да ўсяго быў патрыётам свайго краю. Аднак пакуль нічым не выказваў гэтых сваіх пачуццяў. Іншая справа — па прыездзе ў Вільню.

Уступіў у падпольную суполку «Заране». Ды ў 1827 годзе «заранаў» напаткаў гэткі ж лёс, як і дагэтуль філаматаў. Яны таксама апынуліся за кратамі. Год і тры месяцы Орда знаходзіўся пад следствам. Маці, як магла, старалася вызваліць сына. Выйшла нават на цэсарэвіча Канстанціна Паўлавіча. Паабяцала ўзяць сына на парукі. Улады пайшлі ёй насустрач.

Аднак нядоўга знаходзіўся ў Варацэвічах. Паступіў на службу ў конную гвардыю Літоўскага корпуса расійскай арміі. Як на першы погляд, рашэнне нечаканае. Гатовы змагацца з царызам, а сам ідзе да яго на вайсковую службу. Але хацеў набрацца вайсковага майстэрства. Калі ў 1830 годзе пачалося чарговае паўстанне, не задумваючыся, уступіў у шэрагі барацьбітоў за волю і свабоду.

Ваяваў мужна. Пра гэта сведчыць Залаты крыж «Ваенная доблесць», а таксама тое, што яму прысвоілі вайсковае званне капітана. Належна «ацанілі» яго заслугі і царскія ўлады. Калі паўстанне было падаўлена, следчая камісія аднесла Орду да «злачынцаў 2-га разраду». Іх звычайна адпраўлялі на катаргу ў Сібір. Уратавала тое, што ў рукі ўладаў не трапіў.

Спачатку патаемна жыў у Варацэвічах. Потым перабраўся да аднаго са сваіх сяброў па ўніверсітэце. Разумеў: выпрабоўваць далей лёс нельга. Таму ў канцы 1831 года вырашыў накіравацца ў Францыю. Ехаў па пашпарце, выпісаным на Завадскага. Гэты Завадскі быў слугой яго сябра Цітуса Плонскага. Дарога заняла ажно два гады. Дабіраўся праз Аўстрыю, Швейцарыю, Германію, Італію… Нарэшце, Парыж. Сярод эмігрантаў аказалася шмат удзельнікаў нядаўняга паўс-

тання. Многіх пазнаваў. З іншымі знаёміўся. Праз іх — з людзьмі, якія хацелі і маглі аказаць яму падтрымку. Найперш дапамаглі браты Юліян і Віктар Віславухі, таксама эмігранты. Яны пазнаёмілі Орду з графам Людвікам Плятэрам. Ён знаходзіўся ў добрых стасунках з міністрам унутраных спраў Францыі і прэфектам паліцыі Парыжа.

Дзякуючы заступніцтву Плятэра, Орда атрымаў права на жыхарства. Іначай яму пагражала высылка. Да ўсяго, прызначылі штомесячную матэрыяльную дапамогу.

Дабрадзеі паспрыялі і ў іншым. Яны разумелі, што ў Парыжы яму давядзецца жыць доўга. Дарэчы, знаходжанне за мяжой працягвалася да 1856 года. Каб жа па-сапраўднаму жыць, а не проста існаваць, трэба займацца любімай справай. Нехта з новых сяброў даведаўся пра ягонае захапленне маляваннем. Ён пазнаёміў Орду з парыжскім пейзажыстам П'ерам Жырарам. Як мастак, Жырар аддаваў перавагу архітэктурным пейзажам. Часцей з выявамі старадаўніх руінаў, замкаў на першым плане.

Напалеон аказаўся таленавітым вучнем. Лёгка схопліваў прыёмы, якім вучыў яго Жырар. Хоць пакуль найбольшыя набыткі меў у музыцы. Таксама не абышлося без дабрадзееў. Хоць хутчэй за ўсё ім быў таксама той, хто звёў яго з Жырарам. Дзякуючы падтрымцы яго і адбылося знаёмства Напалеона з выдатным польскім кампазітарам Фрэдэрыкам Шапэнам. Хутка яны пасябравалі. Напалеон прысвяціў свайму настаўніку паланэз № 12. Гэта адзін з лепшых ягоных музычных твораў.

Дзякуючы Шапэну Орда пазнаёміўся і з некаторымі іншымі знакамітымі людзьмі. Так, у яго доме ўпершыню напаткаў Аўрору Дзюпэн. Гэта яна, як вядома, французскі пісьменнік Жорж Санд. Часта наведваўся да Фрэдэрыка і венгерскі кампазітар Ферэнц Ліст. Ён таксама высока ацаніў талент Орды. У Парыжы Напалеон пасябраваў і з Адамам Міцкевічам.

Напалеон Орда не толькі пісаў музычныя творы. Аказаўся не менш таленавітым педагогам, чым кампазітар. Рыхтаваў і падручнік «Граматa музыкі». Ён «вырастаў» з яго лекцый, практычных заняткаў. Кніга гэтая выйшла ў Варшаве. Праўда, толькі ў 1873 годзе. Прысвяціў яе Станіславу Манюшку. Чалавеку, грамадзяніну і кампазітару, блізкаму яму па духу.

Шмат пісаў паланэзаў, якія тады карысталіся вялікай папулярнасцю. У культурным асяродку сталі вядомы і яго мазуркі, вальсы, polкі, іншыя музычныя творы. У 1838 годзе выдаў «Альбом твораў польскіх кампазітараў». У ім змешчаны і некаторыя фартэпіянныя мініяцюры самога Орды. Несумненна, што гэта спрыяла яшчэ большай яго вядомасці. У музычнай біяграфіі яго ёсць і яшчэ адна старонка.

У Парыжы на Орду звярнулі ўвагу ў Таварыстве акцыянераў італьянскай оперы. Прапанавалі пасаду дырэктара опернага тэатра. Праўда, дырэктарам працаваў усяго адзін год. Не таму, што гэтая пасада была яму не па сіле. Пачаліся спрэчкі паміж членамі праўлення, і тэатр зачынілі.

Паўстала традыцыйнае ў такім разе пытанне: як быць далей? Заставалася вярнуцца да педагагічнай работы. Але гэта, калі дбаць аб дабрабыце сям'і. Ажаніўся на француженцы Ірэне Багле. Нарадзіўся сын, якога назвалі Вітальдам.

Быў і іншы шлях — цалкам прысвяціць сябе маляванню. Вялікіх грошай гэта, канешне, не прынясе. Аднак, безумоўна, дапаможа лепш раскрыць свой талент. Упэўненасць гэтая прыйшла да яго пасля таго, як па прапанове Жырара ў 1840 годзе яшчэ раз пабываў у Іспаніі. Не звычайным падарожнікам ездзіў, а мастаком. Вярнуўся з гэтай вандроўкі з дзясяткамі малюнкаў, выкананых алоўкам.

Цяпер такія падарожжы прадоўжыў. Аб'ездзіў Англію, Галандыю, Шатландыю. Пабываў у Алжыры, скандынаўскіх краінах.

Любімая сям'я… Любімая праца… Здавалася б, што яшчэ чалавеку трэба для шчасця. Толькі Орда па-ранейшаму не мог назваць сябе шчаслівым. Шмат што ў яго было. Не было толькі галоўнага — Радзімы. Канешне, можна было б сабрацца ў дарогу, каб пабачыць родны край. Аднак не забываў, што ён не проста эмігрант,

а інсургент-выгнаннік. Высачаць у Расіі паліцэйскія шпікі — будзе іншае падарожжа. У самую Сібір.

З палёгкай уздыхнуў, калі на прастол заступіў новы расійскі імператар Аляксандр II. Звычайна змена ўлады суправаджалася шчодрымі палітычнымі амністыямі. Спадзяванні не падвялі. У 1856 годзе Аляксандр II дараваў удзельнікам паўстання іхнія грахі. З жонкай дамовіўся, што яна пакуль застанецца з сынам у Парыжы. Прыедуць да яго, калі абжывецца на Радзіме. Думаў, што пасля амністыі, ніякіх праблем не ўзнікне. Аднак памыліўся.

Па прыездзе высветлілася, што не ўсё так проста. На месцы ніхто даравáць яму ўдзелу ў паўстанні не збіраўся. Больш-менш спакойна пажыў толькі тады, калі была яшчэ жывая маці. А пасля смерці яе маёнтак Варацэвічы перайшоў дзяржаве. Кампенсацыю за яго атрымаў мізэрную.

Тым не менш, выpашыў гэтыя грошы прымяніць з карысцю. Узяў у арэнду фермы ў вёсках Варацэвічы, Міхалін і Воень. Гаспадарыў умела. Дамогся, што даходнасць ферм павялічылася на 30 працэнтаў. Закупіў новы сельскагаспадарчы інвентар. Заняўся асушкай балотаў. На гэта патраціў у некалькі дзясяткаў разоў грошай больш, чым была кампенсацыя. Рабіў усё з размахам, каб толькі жыць на сваёй зямлі.

Толькі ўладам такі гаспадар не патрэбен быў. Калі паспрабаваў выплаціць падаткі, каб фермы з арэнднага ўтрымання перайшлі ў яго асабістае, пра гэта і гаварыць не захацелі. Не дапамог і зварот з такой прапановай да міністра дзяржаўнай маёмасці. Адказу так і не дачакаўся. Гаспадарчую дзейнасць, аднак, не кідаў. Трэба ж было яшчэ і сям'і дапамагаць.

Пазней, жонка з сынам прыязджала, але не затрымалася. Дый сын стаў ужо дарослым, пайшоў служыць у французскую армію. А тут новае паўстанне — пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. У гэтых мясцінах дзейнічаў атрад Рамуальда Траўгута.

Ці прымаў Орда ўдзел у гэтым выступленні супраць царызму, адназначна сказаць нельга. Узрост, канешне, меў не надта такі, каб брацца за зброю. Нехта Чарнецкі, праўда, данёс, што нібыта падбухторваў да паўстання. Як высветлілася, сапраўды некалькі дваровых людзей Орды пайшлі ў паўстанцкі атрад. За гэта трапіў за краты. У віну паставілі і тое, што ягоны сын служыць у французскім войску. Жонка з просьбай аб вызваленні мужа звярнулася да віленскага генерал-губернатара. Заявіла, што іх сын — грамадзянін Францыі. Расіі ён ніколі не прысягаў. Гэтым пытаннем займаўся нават пасол Францыі ў Расіі. У 1867 годзе Напалеона Орду нарэшце вызвалілі. Праўда, аднеслі да «злачынцаў чацвёртага разраду».

Пасля жыў у маёнтку Моладава. Потым пераехаў у Пінск, дзе жыла са сваёй сям'ёй яго сястра Гартэнзія Скірмунт. Хоць і са спазненнем, але ўсё ж пакаралі. Спагналі вялікі штраф і пазбавілі права арандаваць фермы.

У сям'і сястры знайшоў не толькі паразуменне. З'явілася і магчымасць займацца маляваннем, музыкай. Маляваннем — у большай ступені. Яно неўзабаве стала справай усяго яго далейшага жыцця.

Успомніў паездкі, да якіх некалі яго падштурхнуў Жырар. Прыгадаў іх і зразумеў: тое ж самае трэба рабіць і ў родных мясцінах. У родных — не толькі паблізу ад Варацэвіч, ці на Брэстчыне. Архітэктурныя пейзажы, вартыя занатоўкі, дзе заўгодна можна знайсці. Яны адлюстроўваюць не толькі дзень сённяшні памятных мясцін. Дапамогуць зазірнуць і ў мінулае іх, пабачыўшы ўсё праз палацы, іншыя збудаванні, якія засталіся сведкамі даўніны.

Сказана — зроблена. Дакладней — пачало рабіцца. З таго моманту, як старанна распрацоўваў кожны маршрут. З такім разлікам, каб дабрацца менавіта туды, дзе абавязкова трэба пабываць. Усё вывучаў загадзя.

Дапамагалі дапаможнікі па гісторыі, энцыклапедычныя даведнікі. Звяртаў увагу і на розныя краязнаўчыя выданні, якіх у Польшчы выходзіла даволі шмат. Не абмінаў публікацыі адпаведнага зместу ў газетах і часопісах.

Для паездак выбіраў такія мясціны, якія былі нечым адметныя. Славіліся знакамітымі людзьмі, якія нарадзіліся ў іх. Нейкімі падзеямі, што некалі адбываліся там. Якімі-небудзь гістарычнымі помнікамі. Пасля гэтага заставалася паездку разлічыць так, каб лацвей было перабірацца з месца на месца. Тут ўжо дапамагалі карты.

Для малюнкаў карыстаўся лістамі невялікага фармату. Даўжыня іх складала не больш як трыццаць сантыметраў. Маляваў алоўкам, наносячы штрыхі так, што яны быццам накладваліся адзін на адзін. Малюнак атрымліваўся вельмі выразным, нібы сфатаграфаваны. А завяршаў яго звычайна па вяртанні дамоў.

Восенню ці зімой ставала часу, каб усё давесці да ладу. Той ці іншы малюнак старанна расфарбоўваў. Для гэтага карыстаўся акварэллю ці сэпіяй.

Адметнасць работ Орды і ў тым, што ён амаль абыходзіўся без стафажу ці стафажы. Прасцей кажучы, без упрыгожвання малюнкаў альбо карцін фігурамі людзей ці жывёл. Выкарыстоўваў таксама выявы птушак, дрэў, кветак. Такое дапаўненне як бы ажыўляе намаляванае. Пашырае прастору яго ўспрымання.

Аднак, хоць і зрэдку, але для асноўнага адлюстравання дадаваў неабходны фон. У астатніх жа выпадках пастараўся гравёр Алаіз Місарэвіч.

З просьбай прапагандаваць свае творы Орда дамовіўся з рэдакцыямі найбольш папулярных польскамоўных выданняў. Яны рэгулярна вялі рубрыкі «З альбома Напалеона Орды», «З папкі Напалеона Орды». Часам яго малюнкі змяшчалі і асобна.

Такія публікацыі адразу знайшлі сваіх прыхільнікаў. Некаторыя чытачы рабілі выразкі з ілюстрацыямі, якія асабліва зацікавілі іх. Многія збіралі неабходныя нумары цалкам. Хацелі мець пад рукой як бы своеасаблівую мастацкую энцыклапедыю роднага краю.

Даведаўшыся пра гэта, Орда ўзяўся выдаць альбом сваіх малюнкаў. Місарэвіч пераводзіў гэтыя пейзажы на камень. Каб потым з іх атрымліваць літаграфіі.

Працаваў ён у варшаўскай майстэрні польскага мастака, літографа, фатографа Максімільяна Фаянса. У 1873 годзе, таксама ў Варшаве, «Альбом відаў гістарычных Польшчы» пабачыў свет. У яго ўвайшло 50 літаграфій. На вокладцы быў змешчаны самы дарагі Орду пейзаж. Канешне ж, гэта была выява Варацэвіч. Надпіс пад літаграфіяй сведчыў: «Уласнасць роду Ордаў на працягу 300 гадоў да 1831 г. — незабыўная і дарагая для аўтара Радзіма».

Выдаў альбом уласным коштам. Для свайго часу немалым накладам — адна тысяча асобнікаў. Для цяперашняга — таксама. Альбом меў вялікі поспех, яго хутка раскупілі. Выдаваў яго зусім не для таго, каб зарабіць на ім. Але атрыманыя грошы вельмі спатрэбіліся. Без праблем з'явіўся другі выпуск альбома, потым трэці...

Пачынаючы з пятага выпуску, назва альбома мянялася. У 1883 годзе Орда трымаў у руках восьмы выпуск. Называўся ён «Альбом відаў Польшчы, якія прадстаўляюць гістарычныя мясціны з Варшаўскай, Каліжскай, Петрыкаўскай, Келецкай, Люблінскай, Радамскай, Сувалкаўскай і Ломжынскай губерняў».

Смерць заспела яго ў час падрыхтоўкі чарговага, дзявятага выпуску. Не стала Орды 26 красавіка 1883 года ў Варшаве. Апошнім часам жыў у Пінску, але прыехаў у Варшаву на лячэнне. Свой жа вечны спачын знайшоў у Янаве ў фамільным склепе поруч са сваёй маці. Такой была яго апошняя воля.

Праз тры гады пасля смерці Орды яго пляменніца Канстанцыя Скірмунт перадала Нацыянальнаму музею ў Кракаве 971 яго работу. Усяго ж захавалася каля 1150 яго архітэктурных пейзажаў. Як ні шкада, але на Беларусі ніводнага арыгінала няма. Непасрэдна ж да нашага краю маюць дачыненне 200 яго малюнкаў, акварэляў.

Дзякуючы Орду можна пабачыць шмат з таго, што не забываецца і ніколі не павінна забыцца. Разглядаючы ягоныя малюнкі, бачыш руіны замкаў у Нава-

градку, Крэве, Лідзе, Пінску, а таксама ў іншых населеных пунктах. Лёгка зрабіць падарожжа ў родныя мясціны Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Уладзіслава Сыракомлі, Станіслава Манюшкі… Гэта тым больш важна, што ад іх былых фальваркаў, маёнткаў і следу не засталося.

Архітэктурныя пейзажы Орды з'яўляюцца як бы пячаткай даўніх дзён. Гэта — страчанае, але разам з тым і знойдзенае мінулае. З ім не толькі з задавальненнем знаёмяцца аматары даўніны. Малюнкі аказваюць добрую паслугу архітэктарам, рэстаўратарам, мастакам пры аднаўленні колішніх сядзіб некаторых знакамітых людзей.

Адзін з апошніх прыкладаў таму — Залессе, што цяпер знаходзіцца ў Смаргонскім раёне. Яно, як вядома, звязана з імем выдатнага кампазітара і грамадскага дзеяча Міхала Клеафаса Агінскага. У 2015 годзе споўнілася 250 гадоў з дня ягонага нараджэння. Да гэтай знамянальнай даты архітэктурны комплекс у Залессі быў адрэстаўрыраваны. «Дапамог» у гэтым і Орда, які некалі не абмінуў і Залессе.

Хораша пра Напалеона Орду сказаў польскі пісьменнік Адам Плуг (Антоні Пяткевіч): «Гэта быў сімпатычны чалавек, усё жыццё якога было чыстым, як сляза, хоць характар і мог бы засуровець у яговаяцкіх вандроўках. Гэта быў пісьменнік, мастак і музыкант, але перш за ўсё сумленны патрыёт, які вельмі любіў свой край». Не лішне дадаць, што гэтаму вучыць і кожнага, хто дакранаецца да ягонай творчасці.

## Блуканне па пакутах

Мала чыя пісьменніцкая біяграфія з XX стагоддзя была такой заблытанай, як паэта Змітра Віталіна. Ён жа празаік Дзмітрый Сергіевіч. Аднак віны даследчыкаў у гэтым няма. Яны пісалі толькі тое, што ведалі. Ведалі ж вельмі і вельмі мала. Дый то пра паэта Змітро Віталіна. Хоць у нямногіх публікацыях, у тым ліку ў другім томе біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» (1993), «Беларускія пісьменнікі (1917—1990)», што выйшаў у 1994 годзе, і згадвалася, што сапраўднае ягонае прозвішча Сергіевіч. Імя і імя па бацьку Дзмітрый Іванавіч.

Сцвярджалася, што нарадзіўся 15 ліпеня 1910 года ў горадзе Калінкавічы ў сям'і чыгуначніка. Прыводзіліся і асноўныя звесткі з яго біяграфіі. У тым ліку і гэтая: «10.8.1933 г. незаконна асуджаны. Знаходзіўся ў Марыінскім «Сіблагеры» каля Томска». Адносна далейшага лёсу гаварылася так: «Паводле адной версіі, быў застрэлены пры ўцёках з лагера (ці загінуў у тайзе). Паводле другой, у час Вялікай Айчыннай вайны ўдалося ўцячы на фронт, дзе ён прапаў без вестак (бацька за яго атрымліваў пенсію)».

Ніхто і не падумаць не мог, што трэба было шукаць… Дзмітрыя Сергіевіча. Тады б і высветлілася, што ён жывы. І не Дзмітрый Іванавіч, а Дзмітрый Рыгоравіч. Нарадзіўся не 15 ліпеня 1910 года, а 8 жніўня 1912-га. Не ў Калінкавічах, а ў вёсцы Сухое Пінскага павета. Сёння гэта Іванаўскі раён.

Праўда тое, што бацька яго Рыгор Паўлавіч сапраўды працаваў на чыгунцы, на станцыі Янаў-Палескі. Маці Ульяна Васільеўна была дачкой сельскага старасты Васіля Шухрая. Аднак у Сухім Змітро жыў усяго нейкія тры гады. Улетку сям'я эвакуіравалася ў глыб Расіі. Ішла ж Першая сусветная вайна. Жылі Сергіевічы ў Бранску, пасля перабраліся ў Мелекес, гэта ў Заволжжы.

Пра гады бежанства падрабязна расказваецца ў аўтабіяграфічнай аповесці Д. Сергіевіча «Даўнія гады». На Беларусь вярнуліся летам 1919 года. На чыгуначнай станцыі Калінкавічы Рыгор Паўлавіч уладкаваўся стрэлачнікам. Восенню наступнага года Д. Сергіевіч паступіў у вышэйшае пачатковае вучылішча. Яно потым было ператворана ў сямігодку, а потым стала сярэдняй школай.

Скончыўшы восем класаў яе, у 1929 годзе паехаў у Мінск. Падаў дакументы ў політэхнікум. Але не пашанцавала. «Падвяла» матэматыка. Дамоў не вяртаўся.

Працаваў на будоўлі падсобным рабочым, тынкоўшчыкам. Пасля заканчэння пяцімесячных курсаў радыёманцёраў, уладкаваўся ў майстэрню Беларускага радыёцэнтра. Цяпер — Беларускае радыё.

Творчы шлях пачаў як паэт. Дэбютаваў вершам «Новая сяўба», змешчаным у дзясятым нумары часопіса «Іскры Ільіча», падпісаным псеўданімам Змітро Віталін. У гэтым жа годзе выступіў з творамі і ў часопісе «Узвышша», газеце «Чырвоная змена», іншых выданнях. Стаў літаратурным супрацоўнікам радыё, працаваў сакратаром часопіса «Шляхі калектывізацыі». Вясной 1932 года паехаў у Крычаў, дзе быў адказным сакратаром раённай газеты. Але праз некалькі месяцаў вярнуўся ў Мінск. Паступіў на творчае аддзяленне Мінскага вышэйшага педагагічнага інстытута.

Паэтычны зборнік «Будзем жыць!» (1932) таксама выдаў пад псеўданімам. У 1933 годзе яго творчую працу перапыніў арышт. Яшчэ пашанцавала. У ссылцы знаходзіўся ўсяго два гады. Вярнуўся ў Калінкавічы, уладкаваўся на фанерную фабрыку ў Мазыры. Неўзабаве перайшоў у рэдакцыю акруговай газеты «Бальшавік Палесся». Не толькі па дакументах праходзіў як Д. Сергіевіч. Так і падпісваў і свае матэрыялы. Таму больш ніхто нічога і не чуў пра Змітра Віталіна.

У Вялікую Айчынную вайну Д. Сергіевіч быў у дзеючай арміі. З’яўляўся карэспандэнтам ваенных газет. Франтавыя дарогі прывялі яго ў Германію, Чэхаславакію. Трапіў таксама ў Венгрыю. Пасля гэтага назаўсёды звязаў свой лёс з войскам. Скончыў Вышэйшыя курсы ўдасканалення палітсаставу Савецкай Арміі. Удзельнічаў у ваенных падзеях 1956 года ў Венгрыі. У Будапешце служыў да 1961 года. Аб тым, што адбывалася тады, расказаў у рамане «Навальніца на досвітку». Звольніўся з арміі ў званні маёра.

І калі служыў у войску, і пасля звальнення вершаў амаль не пісаў. Затое плённа выступаў як празаік. Выдаў ажно 17 кніг: «Маршавая рота», «Таварышы па зброі», «Няма апошніх рубяжоў», «Ад Волхава да Вены», «Салдат — заўсёды салдат» і іншыя. Выходзілі яны ў Маскве, Кіеве, а таксама ў Адэсе, дзе жыў. Змест іх склалі раманы, аповесці, апавяданні. Аб’ядноўвае іх тое, што ва ўсіх іх расказваецца пра барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Хоць лёс і самога Змітра Віталіна — Дзмітрыя Сергіевіча, несумненна, заслугоўвае асобнай кнігі.

Ягоныя выпрабаванні з заканчэннем вайны не скончыліся. У 1978 годзе яго адзіная дачка выехала ў ЗША. За гэта быў выключаны з партыі, перасталі друкаваць. Хоць нарэшце забарону адмянілі. Калі ж у 2000 годзе памерла жонка, стаў зусім адзінокім. Не мог самастойна выйсці на вуліцу. Ды змагаўся за жыццё да апошняга.

Пайшоў у вечнасць 4 лістапада 2004 года.

## Цябе падтрымалі — сам падтрымай

У вядомага беларускага паэта Міколы Федзюковіча ёсць верш «Вёска Гутава». Ці не адзін з лепшых ва ўсёй нацыянальнай паэзіі, у якіх гучыць прызнанне ў любві да таго кутка, што даў табе жыццё, адкуль ты пайшоў у вялікі свет:

Вёску Гутава ў снег захуталі
давідна свежакі вятры.
Сутракае нас вёска Гутава
крыкам пеўняў, сталёвым грукатам…
Вёска Гутава — тры вярсты!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Блаславёная вёска Гутава,
мне з табою спяваць, і гутарыць,
і заўсёды цябе любіць.

У Гутаве М. Федзюковіч нарадзіўся 22 мая 1943 года. Гэта Драгічынскі, суседні з Іванаўскім, раён. Але Іванава таксама прапісалася ў ягонай біяграфіі.

Ужо хоць таму, што калі Іванаўскі раён быў скасаваны, яго далучылі да Драгічынскага. Але ёсць і іншая прычына. У асабістым лёсе М. Федзюковіча нават больш важная: некаторы час працаваў у рэдакцыі мясцовай раёнкі «Чырвоная звязда». Там лёс звёў яго з журналістам і пісьменнікам Аляксеем Каўко. Аляксей Трафімавіч, калі Іванаўскі раён аднавілі, 1 красавіка 1965 года ўзначаліў калектыў «Чырвонай звязды».

Аляксей Каўко — таксама не мясцовы. І не паблізу ад Іванава нарадзіўся, а ў вёсцы Міраслаўка цяперашняга Бярэзінскага раёна (28 сакавіка 1922 года). Скончыўшы Сялібскую сямігодку, вучыўся ў сярэдняй школе ў Беразіно. Школьнікам палюбіў літаратуру. Калі вучыўся ў сёмым класе, яго апавяданне «Вавёрачка» нават надрукаваў часопіс «Іскры Ільча» (цяперашняя «Бярозка»).

Натхніў яго на творчасць настаўнік Пятро Рунец, будучы вядомы дзіцячы пісьменнік. Пётр Мікалаевіч выкладаў у школе беларускую мову і літаратуру. Сам пісаў творы, друкаваўся ў тых жа «Іскрах Ільіча». Уважліва ставіўся да вучняў, якія добра пісалі сачыненні. Цікавіўся, ці не спрабуюць яны пісаць вершы, апавяданні.

Лёша Каўко прызнаўся яму, што ў яго ёсць апавяданне, якое называецца «Вавёрачка». Твор Рунцу спадабаўся. Канешне, давялося юнаму празаіку сёе-тое і паправіць, нешта дапісаць, яшчэ ў чарнавіках, даваў парады. Пасля дапрацоўкі яго А. Каўко, па парадзе свайго настаўніка, і паслаў гэтае апавяданне ў «Іскры Ільіча». У раённай жа газеце выступіў з частушкамі. Аднак хутка стала не да творчасці. Пачалася Вялікая Айчынная вайна.

Аляксей Каўко змагаўся з нямецкімі захопнікамі ў складзе 208-га партызанскага палка. Да мірнага жыцця вярнуўся пасля вызвалення Беларусі. У 1944 годзе скончыў у Мінску двухмесячныя курсы партыйна-савецкага актыву, пасля чаго звязаў свой лёс з журналістыкай. Рэдагаваў Жабчыцкую раённую газету, газету палітаддзела Лагішынскай машынна-трактарнай станцыі, Лунінецкую раёнку. Быў уласным карэспандэнтам брэсцкай абласной газеты «Заря». З гэтай пасады і перайшоў у «Чырвоную звязду». Рэдактарам яе быў да выхаду ў 1982 годзе на пенсію. Памёр 23 верасня 2012 года.

Але вернемся да літаратурнай спадчыны Аляксея Каўко. Аб тым, што быў у ёй чалавекам не выпадковым, засведчыў ягоны ўдзел у першай пасляваеннай Рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў у ліпені 1947 года. Запрасіў на яе пісьменніка-пачаткоўца Алесь Якімовіч, які тады рэдагаваў часопіс «Бярозка». На нарадзе Каўко пашчасціла пазнаёміцца з самім Янкам Маўрам, які даўно стаў для яго любімым пісьменнікам.

На ёй абмяркоўвалі і апавяданне Аляксея Трафімавіча «Піянер», перад гэтым надрукаванае ў часопісе «Бярозка». Аб мастацкіх вартасцях гэтага твора засведчыла тое, што ён быў уключаны ў хрэстаматыю для чацвёртага класа «Роднае слова». Пазней, у 1952 годзе, за апавяданне «Васіль прыехаў» А. Каўко атрымаў другую прэмію на конкурсе, што праводзіла рэдакцыя газеты «Чырвоная змена». Яно ўвайшло ў альманах «На сонечных сцежках». Выдаў кнігі «Смех не грэх», «Пад гоман вогнішча» (абедзве ў 2005 годзе), «Мая сцежка» (2011). Аповесць «На крутых паваротах» друкавала газета «Заря». Пад назвай «Неад'ёмнае» выйшла выбранае.

Будучы рэдактарам «Чырвонай звязды», Аляксей Каўко заўсёды падтрымліваў маладыя таленты. І не толькі тых, хто збіраўся шчыраваць на ніве журналістыкі. Уважліва ставіўся ён і да тых, хто спрабаваў свае сілы ў паэзіі, прозе. Дзякуючы яму неўзабаве было створана літаратурнае аб'яднанне «Ясельда». Свайго роду хросным бацькам Аляксей Трафімавіч стаў і для Міколы Федзюковіча. Удзячны вучань падпісаў свой першы паэтычны зборнік «Зямля-магніт» яму і ягонай жонцы: «З павагай і ўдзячнасцю Надзеі Паўлаўне і Аляксею Трафімавічу ад сэрца. Іванава. 1.VII.68. М. Федзюковіч». У гэтай кніжцы А. Каўко прысвечаны верш «Балада пра буслоў».

## Яшчэ колькі імёнаў

Падарожнічаючы па Берасцейшчыне, у Янава неаднойчы наведваўся польскі пісьменнік Юзаф Крашэўскі.

З драгічынскага Гутава родам і Уладзімір Сітуха. У яго біяграфіі таксама ёсць іванаўская старонка, звязаная з працай у газеце «Чырвоная звязда».

Невыпадкова Іванаўская раённая газета яшчэ з 1961 года носіць імя Фёдара Панфёрава. Вядомы рускі празаік, аўтар некалі знакамітага рамана «Брускі», што стаў у савецкай літаратуры першым шматпланавым творам пра калектывізацыю, трылогіі «Волга-матухна рака» (раманы «Удар», «Роздум», «У імя маладога») і іншых твораў, у свой час ліставаўся з яе чытачамі. Прысылаў свае кнігі з аўтографамі. У Іванава наведаўся ў 1959 годзе. Прысутнічаў на абмеркаванні рамана «Роздум». Калі 10 верасня 1960 года Фёдара Іванавіча не стала, бібліятэцы было перададзена 2 тысячы кніг з яго асабістага фонду. З 1993 года працуе музей Ф. Панфёрава.

Іванаўская зямля прапісалася і ў біяграфіі празаіка, публіцыста Алеся Крыгі. Ён жыў у раённым цэнтры з 1972 па 1976 год. Працаваў літаратурным супрацоўнікам газеты «Чырвоная звязда».

Літаратурную карту горада і раёна немагчыма ўявіць без творчасці Уладзіміра Гетманчука, Анатоля Дзенісейкі, Васіля Жушмы, Валянціны Куксы, Міхася Кулеша, Міколы Купрэева, Валерыя Кухарчука, Андрэя Мазько, Міколы Мінзера, Міколы Панасюка, Галіны Пахолкі (узяла псеўданім Гала Гара), Міколы Трафімчука і іншых.

У музеях Польшчы захоўваюцца шмат якія творы жывапісца Марыі Андрайковіч-Бутаўт. Яна нарадзілася 22 ліпеня 1852 года ў вёсцы Баландзічы. Бацька быў удзельнікам паўстання 1863—1864 гадоў. Разам з ім пэўны час знаходзілася ў высылцы ў Расіі. Сакрэтамі жывапісу авалодвала ў Мюнхене, падарожнічала па Італіі. Потым жыла ў сваім маёнтку Гарнастаевічы Ваўкавыскага павета, цяпер Свіслацкі раён, а таксама ў Варшаве.

Найбольш прываблівалі яе гістарычныя сюжэты, а таксама жанравы, рэлігійны і партрэтны жывапіс. Прымала ўдзел у выстаўках у Мюнхене, Кракаве, Варшаве. Вядомасць набылі такія карціны, як «Кардынал Ян Медзічы з Пампеніем Лаэтам на рымскіх раскопках», «Уладзіслаў Лакетак у гроце Айцова», «Міласэрнасць каралевы Ядвігі». Памерла ў 1933 годзе.

З Бродніцы родам жывапісец Францішак Бруздовіч (нарадзіўся ў 1861 годзе, памёр у 1912-м). Вучыўся ў Варшаве, а таксама ў Кракаўскай школе мастацтваў Яна Матэйкі. Працаваў у галіне манументальна-дэкаратыўнага і станковага жывапісу. Размалёўваў касцёл у Кельцах, кафедральны сабор у Полацку. У апошнім з іх працаваў як пераможца конкурсу на праект размалёўкі яго.

Калі ж аздабляў сцены у касцёлах Нясвіжа і Цімкавічах (сёння гэта Капыльскі раён) выкарыстоўваў народныя матывы ўзорыстага ткацтва, вышыўкі. І нават мастацкай размалёўкі мэблі ў вясковых хатах. Быў таксама аўтарам сямі сюжэтных кампазіцый на біблейскія тэмы. Для касцёла ў тых жа Цімкавічах і Карнкове, а таксама «Копія партрэта мужчыны», «Інтэр’ер вясковага касцёла». Усе яны зберагаюцца ў Нацыянальным музеі ў Варшаве.

* * *

Вось і падышла да свайго завяршэння гаворка пра Янаўшчыну-Іванаўшчыну, некаторыя слаўныя куткі яе і не менш слаўных людзей. Вабную сілу хараства гэтага краю, несумненна, яшчэ больш адчуюць тыя, хто прыме ўдзел у сёлетнім Дні беларускага пісьменства.

Ірына МЫШКАВЕЦ

# «ВЯНОК» МАКСІМА БАГДАНОВІЧА Ў КНІЖНЫХ ЗБОРАХ БЕЛАРУСІ І ЗАМЕЖЖА

Пры жыцці М. Багдановіча выйшаў толькі адзін зборнік вершаў — «Вянок» (Вільня, 1913) з друкарні Марціна Кухты. Першы рэцэнзент кнігі, вядомы беларускі даследчык Антон Луцкевіч так ахарактарызаваў творчасць маладога пісьменніка: «І як у летні гарачы дзень у крыстальна чыстай крынічнай вадзе асвяжаецца наша цела, так асвяжае душу паэзія Максіма Багдановіча». Актуальнасць гэтай кнігі не знікае да дня сённяшняга, яна карыстаецца ўвагай чытачоў, паводле вершаў ствараюцца мастацкія працы, музычныя творы, сцэнічныя пастаноўкі.

Арыгінальная кніга «Вянок» знаходзіцца ў цэнтры ўвагі супрацоўнікаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча ад моманту стварэння ўстановы. Першапачатковая задача, якую ставілі музейшчыкі, — пошук і выяўленне зборнікаў, перадача для захоўвання ў фондах музея, уключэнне ў пастаянную і часовыя экспазіцыі. Адпаведна, на кожны новы экзэмпляр «Вянка», які патрапляў у фонды, складаўся навуковы пашпарт, праводзілася вывучэнне кнігі па розных пазіцыях — гісторыя, уладальнікі, знакі і надпісы, аўтографы і г. д. Акрамя ўласных музейных збораў, на працягу апошніх пятнаццаці гадоў супрацоўнікі вядуць электронны ўлік паэтычных зборнікаў М. Багдановіча, якія захоўваюцца ў розных установах навукі, культуры, у прыватных асоб. Шчыльная праца навуковых супрацоўнікаў дала плённыя вынікі: першапачаткова спіс налічваў 24 асобнікі, на 1 студзеня 2018 года мы валодаем інфармацыяй пра 41 экзэмпляр. Кнігі знаходзяцца ў музеях, архівах, бібліятэках, у прыватных асоб у Беларусі, Украіне, Расіі, Латвіі, Літве, Вялікабрытаніі, Польшчы.

На сённяшні момант фонды Літаратурнага музея М. Багдановіча маюць шэсць экзэмпляраў. Першы «Вянок» паступіў 18 верасня 1981 года ад Аркадзя Якаўлевіча Бараховіча, мужа стрыечнай пляменніцы паэта. Перададзены ім зборнік мае надзвычайную каштоўнасць, бо ўтрымоўвае аўтограф паэта: «*Сестрице Нюте отъ любящаго ее автора. М. Богдановичъ. 22.03.1914 г.*». Наступны «Вянок» паступіў у фонды музея 20 красавіка 1984 года ад Ніны Барысаўны Ватацы, галоўнага бібліёграфа Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна. Яшчэ да стварэння музея паэта яна наладзіла стасункі з нашчадкамі Багдановічаў: кнігу атрымала ад Наталлі Глебаўны Кунцэвіч, пляменніцы Максіма і захавальніцы сямейных традыцый. Выданне, якое з Ніжняга Ноўгарада прыехала ў Мінск, не менш каштоўнае, яно таксама з аўтографам паэта: «*Тете Маше отъ любящаго ее автора. М. Богдановичъ. 22.03.1914 г.*». Яшчэ адзін «Вянок», атрыманы ад сваякоў паэта, Н. Б. Ватацы перадала ў музей 6 студзеня 1988 года. Фонды папоўніліся каштоўным выданнем 1913 года, павялічылася колькасць аўтографаў М. Багдановіча, якія ахоўваюцца ў музеі, таму што і на гэтай кнізе маецца подпіс аўтара: «*Тете Магдалине на память отъ автора. М. Богдановичъ. 22.03.1914 г.*».

Цікавы асобнік паступіў у фонды музея 28 мая 1992 года. Першапачаткова ён захоўваўся ва Уладзіміра Дубоўкі, вядомага беларускага паэта. На аванты-




туле кнігі ёсць яго аўтограф і надпіс «Масква, 1922». Пісьменнік быў арыштаваны, асуджаны, і толькі ў 1957 годзе рэабілітаваны. Першым да яго творчасці звярнуўся беларускі крытык Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў, аўтар кнігі «Уладзімір Дубоўка: крытыка-біяграфічны нарыс» і шэрагу артыкулаў. У знак удзячнасці ён атрымаў унікальнае выданне М. Багдановіча 1913 года, якое былы ўладальнік суправадзіў дароўным надпісам: «Сардэчна паважанаму сябру, таленавітаму нашаму крытыку Д. Я. Бугаёву на ўспамін нашага знаёмства. 2.02.1964 г. Масква. Ул. Дубоўка». У маі 1992 года, падчас мерапрыемстваў, прысвечаных 75-годдзю смерці М. Багдановіча, Д. Бугаёў перадаў кнігу ў музей паэта.

Яшчэ адзін «Вянок» перадаў на захаванне 15 мая 2008 года Іван Уладзіміравіч Саламевіч (Янка Саламевіч), вядомы беларускі літаратуразнавец, крытык, перакладчык. Ён актыўна працаваў на ніве багдановічазнаўства, сабраў псеўданімы і крыптанімы класіка літаратуры, увёў у навуковы ўжытак невядомы аўтограф паэта, прымаў удзел у падрыхтоўцы энцыклапедыі «Максім Багдановіч». 10 сакавіка 2011 года ў фонды музея паступіў «Вянок» з г. Роўна (Украіна), на тытульным лісце маюцца штампы прыватнай бібліятэкі: «XII. Bibl. / Nr. 177. / Sawicki». Пра першага ўладальніка кнігі няма ніякай інфармацыі, акрамя прозвішча — «Савіцкі», супрацоўнікі Літаратурнага музея М. Багдановіча вядуць пошукі ў гэтым кірунку.

Арыгінальны зборнік «Вянок» захоўваецца таксама ў іншых музеях Беларусі. У Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры ў 1988 годзе паступіў асобнік, які належаў Антону Рафаілавічу Янкоўскаму, збіральніку беларускага фальклору з в. Адамчукі. Кніга была падаравана Арсеню Лісу, вядомаму беларускаму даследчыку, ад яго патрапіла ў музей. Мае ўладальніцкія надпісы А. Янкоўскага, А. Ліса, дароўны надпіс.

У фондах Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы захоўваюцца два арыгінальныя экзэмпляры, у тым ліку асабісты «Вянок» Уладзіславы Францаўны Луцэвіч з яе подпісам. Другі асобнік — з бібліятэкі Фёдара Фёдаравіча Турука, беларускага гісторыка, грамадскага дзеяча, аднаго з арганізатараў у пачатку 1920-х гг. Беларускага навукова-культурнага таварыства ў Маскве. На кнізе запіс чарнілам на апошняй старонцы — «З уласнай бібліятэкі Ф. Ф. Турука. 1961 г.».

Тры кнігі знаходзяцца ў фондах Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, у тым ліку асобнік, які быў у пасляваеннай бібліятэцы класіка беларускай літаратуры. Другі асобнік належаў Францішку Грышкевічу, беларускаму літаратару, культурна-асветнаму дзеячу, дырэктару Віленскай беларускай гімназіі. Гэты асобнік на тытульным лісце мае подпіс уладальніка, адносіцца да ліку першых паступленняў у фонды. Уладальнікам яшчэ адной кнігі, якая сёння захоўваецца ў музеі Я. Коласа, быў Уладзіслаў Вікенцьевіч Чаржынскі, беларускі літаратуразнавец, перакладчык. Немалаважны факт, яго жонка — Яўгенія Яфімаўна Плаўнік, сястра пісьменніка Змітрака Бядулі і знаёмая М. Багдано-




віча, з якімі паэт пражыў побач у адной кватэры ў 1916—1917 гг., у свой апошні прыезд на Беларусь. Кніга мае аўтограф уладальніка, дароўны надпіс ад У. Чаржынскага музею Якуба Коласа і пячаткі бібліятэкі імя А. Міцкевіча.

Цікавую гісторыю маюць «Вянкі», што захоўваюцца зараз у літаратурным аддзеле Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, вядомым як Музей Максіма Багдановіча. У экспазіцыі прадстаўлены зборнік, які бацька беларускага паэта падараваў сваёй пляменніцы Ганне Кіпрыянаўне Валасовіч, пазней яна перадала каштоўны асобнік Івану Антонавічу Брылю, а пісьменнік — на захаванне ў гродзенскі музей паэта. На зборніку тры аўтографы: «*Тебе, милая Аня, от твоего брата, память о нём. А. Богданович — 14.07.23», «Дорогому Ивану Антоновичу на память от сестры Максима — А. Волосович-Гразнова. 4.08.68. Горький», «Музею Максима Богдановича — Янка Брыль. 5.04.85*». Другі экзэмпляр кнігі, якая зараз захоўваецца ў Гродне, належаў Ларысе Генію ш, вядомай беларускай паэтцы.

«Вянкі» 1913 года выяўлены ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі — гэта экзэмпляр з кнігазбору Івана Антонавіча Багдановіча (Янкі Багдановіча), беларускага пісьменніка і мемуарыста (паступленне з Вільні), а таксама ў Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь: гэта кніга не мае знакаў і надпісаў, таксама набыта ў Вільні. Адзін з арыгінальных зборнікаў М. Багдановіча зараз захоўваецца ў Музеі Райніса і Аспазіі (г. Рыга, Латвія). Першапачаткова гэты «Вянок» належаў Канстанціну Барысавічу Езавітаву, беларускаму палітычнаму і грамадскаму дзеячу, у кнізе маецца штамп з яго рыжскім адрасам. У складзе бібліятэкі Я. Райніса быў прадстаўлены ў экспазіцыі Дачы-музея Райніса і Аспазіі ў Юрмале.

Два зборнікі «Вянок» М. Багдановіча захоўваюцца ў архівах. У фонды Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР (зараз — БДАМЛіМ) кніга геніяльнага беларускага паэта паступіла ў 1963 годзе ад Ніны Ігнатаўны Бэндэ, удавы беларускага даследчыка Лукаша Бэндэ. У свой час ён прысвяціў М. Багдановічу некалькі артыкулаў, апублікаваў невядомыя аўтографы паэта. Каштоўны экзэмпляр кнігі знаходзіцца ў Расійскім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва (г. Масква, Расія). Асобнік мае дароўны надпіс: «*Николаю Сергеевичу Ашукину, чтобы не так скоро забыл. М. Богданович*». М. Ашукін — літаратуразнавец, супрацоўнік яраслаўскай газеты «Голос», прымаў удзел у падрыхтоўцы да выдання брашур М. Багдановіча «Братья-чехи», «Угорская Русь» і «Червонная Русь».

Многія бібліятэкі Беларусі і замежжа з’яўляюцца ўладальнікамі каштоўных экзэмпляраў «Вянка». Па колькасці на першым месцы Прэзідэнцкая бібліятэка

Рэспубліке Беларусь, тут захоўваецца чатыры цікавыя асобнікі. Першы паступіў у бібліятэку 17 кастрычніка 1944 года, уладальнік кнігі напісаў сваё прозвішча, на тытуле яно выцерта і амаль нечытэльна, на старонцы 17 можна прачытаць «Аляхновіч», ва ўліковых кнігах установы ёсць запіс «Книга бесплатно из фонда НКВД». Ёсць версія, што гэты экзэмпляр належаў беларускаму крытыку Мікалаю Мікалаевічу Аляхновічу. Два экзэмпляры паступілі ў гэтую біліятэку ў 1945 годзе, даты паступленняў 27 сакавіка і 28 красавіка, абедзве кнігі ва ўліковых дакументах пазначаны як чытацкі дар. Важны момант — яшчэ не скончылася Вялікая Айчынная вайна, а ў вызваленым Мінску аднаўляецца дзейнасць устаноў культуры. Гараджане прымаюць актыўны ўдзел у зборы літаратуры, збіраюць не для сваіх уласных калекцый, а для агульнага карыстання залатым фондам сусветнай літаратуры. Чацвёрты экзэмпляр «Вянка» быў перададзены ў фонд Прэзідэнцкай бібліятэкі ў 1973 годзе з запаснікоў, цікава, што на ім маюцца штампы «Літ. музей Я. Купалы. Інв. № 9».

Два арыгінальныя зборнікі знаходзяцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, адзін з іх асабліва каштоўны. Гэты «Вянок» быў падараваны М. Багдановічам сябру і аднакласніку па Яраслаўскай мужчынскай гімназіі Мікалаю Рафаілавічу Какуеву, захоўваўся ў яго сястры Ганны Рафаілаўны Какуевай у Санкт-Пецярбургу. Яе сын Мікалай Іванавіч Лілееў перадаў кнігу Н. Б. Ватацы, зараз гэты экзэмпляр знаходзіцца ў экспазіцыі Музея кнігі. Другі зборнік гэтай дзяржаўнай установы захоўваецца ў складзе асобнай калекцыі кніг з бібліятэкі Мікалая Андрэевіча Янчука, вядомага вучонага-славіста, кніга мае шматлікія паметы ў тэксце, падкрэсліванні.

У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Я. Коласа НАН Беларусі таксама захоўваюцца кнігі М. Багдановіча 1913 года. Адзін экзэмпляр паступіў у бібліятэчны фонд у 1983 годзе, ён не мае ніякіх адзнак, аўтографаў і штампаў, акрамя бібліятэчных. Другая кніга мае вельмі цікавую гісторыю: на ёй прастаўлены бібліятэчныя штампы, ёсць надпіс былога ўладальніка — «Л. Краскоўская. Дзвінск. 1922 г.». Асобнік належаў Людміле Іванаўне Краскоўскай, дачцэ Івана Ігнатавіча Краскоўскага, беларускага палітычнага дзеяча, дырэктара Дзвінскай беларускай гімназіі. Яна стала вядомым гісторыкам, першай з жанчын у Чэхаславакіі абараніла кандыдацкую дысертацыю (1961 г.), з 1931 па 1988 гг. працавала ў Славацкім краязнаўчым музеі ў Браціславе (зараз — Славацкі нацыянальны музей).

Два «Вянкі» 1913 года на сённяшні момант захоўваюцца ў Львоўскай нацыянальнай навуковай бібліятэцы Украіны імя В. Стэфаніка. Пра адзін з іх вядома, што ў асноўныя фонды бібліятэкі паступіў з рэзервовага фонду і не мае ніякіх адзнак, аўтографаў, пячатак. Асаблівую цікавасць выклікае другі экзэмпляр, якія звязаны з асобай Іларыёна Сямёнавіча Свянціцкага, вядомага ўкраінскага філолага, даследчыка літаратуры і мастацтва. У 1909 годзе выйшла брашура І. Свянціцкага «Адраджэнне беларускага пісьменства», у якой аўтар даў вялікую цытату з апавядання М. Багдановіча «Музыка», першага апублікаванага твора маладога аўтара. На вокладцы «Вянка» ёсць аўтограф украінскага вучонага і штамп «З кнігазбору І. Свянціцкага», ёсць на кнізе яшчэ адзін цікавы штамп — «Для рэцэнзіі», гэта першы выяўлены асобнік. Але ён дае падставу меркаваць, што пэўную колькасць кніг выдаўцы адправілі даследчыкам беларускай літаратуры для ацэнкі паэтычных вартасцей кнігі, напісання рэцэнзій і крытычных артыкулаў.

Арыгінальны зборнік «Вянок» захоўваецца ў бібліятэцы Вільнюскага ўніверсітэта (Літва). На ім няма пазнак, аўтографаў і штампаў, акрамя бібліятэчных, на сённяшні момант гэта адзіная кніга М. Багдановіча, выяўленая ў дзяржаўных установах суседняй краіны, дзе ў свой час у Вільні яна была надрукаваная. Не мае штампаў, аўтографаў, пазнак кніга, якая захоўваецца ў Дзяржаўнай гістарычнай бібліятэцы (г. Масква, Расія), але пра гэты экзэмпляр вядома, што ён належаў Панцеляймону Кандратавічу Панамарэнку, савецкаму партыйнаму і грамадска-

му дзеячу. Гэты «Вянок» выявіў Мікалай Валянцінавіч Трус, вядучы беларускі даследчык у галіне багдановічазнаўства.

У 2017 годзе супрацоўнікамі Літаратурнага музея М. Багдановіча былі адшуканы яшчэ некалькі каштоўных асобнікаў кнігі, у тым ліку «Вянок», які захоўваецца ў Дзяржаўнай гістарычнай бібліятэцы (гэта другая па ліку кніга, выяўленая ў Маскве). Таксама стала вядома пра асобнікі, якія дазволілі пашырыць геаграфічныя межы гарадоў і краін, месцаў захавання.

Спачатку адгукнуліся калегі з Беларускай бібліятэкі і Музея імя Францішка Скарыны ў Лондане (Вялікабрытанія). Яны паведамілі, што ў фондах гэтай навукова-асветнай установы захоўваецца арыгінальны зборнік вершаў «Вянок» і нават даслалі фотаздымкі. На жаль, на кнізе няма пазнак, якія б маглі даць падказку пра яе лёс, уладальнікаў, шляхі, таму што сістэма ўліку бібліятэчных фондаў адрозніваецца ад музейнай, дзе абавязкова фіксуецца легенда прадмета. Вядома, што аснову Беларускай бібліятэкі і Музея імя Францішка Скарыны ў Лондане ў 1971 годзе склалі кніжныя зборы трох святароў — Часлава Сіповіча, Льва Гарошкі, Аляксандра Надсана. Апошні, айцец Аляксандр, на працягу многіх дзесяцігоддзяў быў захавальнікам і папулярызатарам каштоўных збораў. На жаль, пакуль не ўдалося выявіць, каму з гэтых святароў належаў «Вянок», ёсць надзея, што гэта таямніца з цягам часу будзе раскрыта. Шчасце, што лонданскія беларусы і госці англійскай сталіцы маюць магчымасць перагарнуць старонкі арыгінальнага паэтычнага зборніка.

У кастрычніку мінулага года супрацоўнікаў Літаратурнага музея М. Багдановіча чакаў яшчэ адзін прыемны падарунак, гэтым разам ад калег з Нацыянальнай бібліятэкі (г. Варшава, Польшча). У адказ на запыт беларускага музея атрымана інфармацыя пра два арыгінальныя зборнікі. Склалася сітуацыя, падобная ўжо згаданай вышэй, — адзін з экзэмпляраў не мае ніякіх штампаў, пазнак, аўтографаў ці дароўных надпісаў, яго гісторыю ўдакладніць немагчыма. А вось другая кніга з фондаў гэтай бібліятэкі, наадварот, з’яўляецца адметнай, запаўняючы анкету, распрацаваную ў Літаратурным музеі М. Багдановіча, супрацоўнікі польскай установы ў раздзеле «Знакі, надпісы і штампы» пазначылі — «Na okładce pieczątka «для рецензии». Гэты факт — наяўнасць пячаткі «для рэцэнзіі» — пацвярджае версію музейных супрацоўнікаў аб рассылцы часткі кніг вядомым вучоным, даследчыкам беларускага літаратурнага працэсу пачатку XX стагоддзя, зараз вядзецца праца па выяўленні асобы захавальніка гэтага экзэмпляра кнігі М. Багдановіча.

У гэтым матэрыяле ўвага была звернута на «Вянкі», якія захоўваюцца ў музеях і бібліятэках, у нашай краіне і за яе межамі, тут не ўлічваліся кнігі, якія сёння знаходзяцца ў прыватных зборах. Як паказала практыка, сумесная праца музеяў і бібліятэк па выяўленні, вывучэнні і прэзентацыі прыжыццёвых зборнікаў М. Багдановіча мае вялікія перспектывы. Неабходна працягваць актыўнае супрацоўніцтва з беларускімі і замежнымі ўстановамі культуры, адукацыі, навукі, з нашчадкамі сям’і Багдановічаў і кола яго акружэння, з навукоўцамі, даследчыкамі, калекцыянерамі, іншымі прыватнымі асобамі, якія могуць валодаць інфармацыяй пра «Вянок». Арыгінальны зборнік вершаў заўсёды будзе займаць асаблівае месца, бо ён выступае як неацэнны твор духоўнай культуры беларусаў. Кніга прэзентуе вялікую эпоху, эпоху новай беларускай літаратуры і аднаго з самых яркіх яе прадстаўнікоў.

*Ілюстрацыі з фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.*

Пётр ВЯЖЭВІЧ

# ДЗЁННІК ПАСОЛЬСТВА ДА ЦАРА МІХАІЛА ФЁДАРАВІЧА АД КАРАЛЯ І ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ УЛАДЗІСЛАВА IV*

*Першы прыём у цара.*

*25 (лютага) у панядзелак.* Цар устаў з трона, але кароны з галавы не зняў. Ён спытаў пра здароўе караля яго міласці наступнымі словамі:

— Брат наш, Уладзіслаў кароль, ці здаровы?

Яго міласць пан Песачынскі адказваў:

— Божай ласкай кароль наш на Польскім каралеўстве і іншых гаспадарствах шчасліва пануе. У добрым здароўі ён адправіўся ў горад Гданьск.

Затым іх міласці паслы ўтрох надзелі назад галаўныя ўборы.

Пан Песачынскі, камянецкі кашталян, зноў пачаў гаварыць. Але ён вымавіў толькі некалькі слоў, як яго перапыніў пячатнік Іван Тарасавіч Грамацін. Ён не дазваляў гаварыць далей, пакуль іх міласці паслы не здымуць галаўных убораў.

Пан Песачынскі адказваў яму:

— Я ўмею шанаваць яго царскую вялікасць. Мы здымалі шапкі, калі пералічвалі яго тытулы. Але цяпер іх не знімем, паколькі я надзелены годнасцю нашага караля. Хоць я паважаю яго царскую вялікасць, як брата нашага караля. Але не больш і не шырэй.

Пячатнік Іван Грамацін адказаў на словы пана Песачынскага наступным чынам:

— Тым і царскую вялікасць, гаспадара нашага, і свайго гаспадара не паважаеце. Бо вы ад асобы вашага гаспадара да асобы нашага вялікага гаспадара кажаце.

Адказваў яму пан Песачынскі:

— Калі б я ад свайго імя і са сваімі патрэбамі прыехаў да яго царскай вялікасці, я б не толькі шапку зняў, але і размаўляў бы з вашым гаспадаром на адлегласці. Але, будучы вялікім паслом такога вялікага гаспадара, інакш не магу паступаць.

Пячатнік Іван Грамацін сказаў:

— Бывалі мы і іншыя нашы паслы не адзін раз у Літве. Мы ведаем, як старанна аберагаюць гонар вашага гаспадара: звяртаюцца да яго, зняўшы галаўныя ўборы. Такім жа чынам і тут трэба паступаць. Тут, у нашага вялікага гаспадара, яго царскай вялікасці, бываюць паслы цара рымскага, турэцкага, нямецкія, ангельскія, персідскія і іншых навакольных гаспадароў паслы. Яны, заўсёды зняўшы шапкі, звяртаюцца да яго царскай вялікасці. Ды і твой бацька, Казімір Львовіч, не аднойчы бываў тут паслом і перад ранейшымі царамі, светлай памяці, шапкі на галаву ніколі не клаў. Ён добра ведаў, як трэба спраўляць пасольства. І Збароўскі, і Міхайла Гарабурда, і іншыя ранейшыя паслы тут бывалі, а такой ганьбы нашым гаспадарам не чынілі.

Адказваў яму пан Сапега, віленскі ваяводзіч:

— Я не быў, але захаваліся помнікі і запісы.

---

* Заканчэнне. Пачатак у № 7 за 2018 г.

Пячатнік Іван Грамацін, аднак, пярэчыў Сапегу, а затым і наогул не дазволіў яму гаварыць. Ён нагадаў паслам:

— У мірных дагаворах, у заключных запісах, прысягай нашых і вашых вялікіх паслоў на Палянаўцы змацаваных, дзе і ты сам быў, пан камянецкі, менавіта запісана, што з двух бакоў ва ўсім варта засцерагаць гонар вашага і нашага гаспадара. А вы, вялікія паслы, парушаеце мірны дагавор, не жадаеце таго аберагаць і вялікім гаспадарам у тым ганьба ад вас робіцца.

Адказваў яму пан Песачынскі:

— Нідзе не пазначана, што паслы польскага караля, адпраўляючы пасольства, павінны здымаць шапкі. Не ўпершыню мне бываць паслом і да іншых манархаў, роўным царскай вялікасці. Нідзе мы не здымалі шапак пры адпраўленні пасольстваў, паколькі прадстаўлялі годнасць яго міласці нашага гаспадара і выконвалі яго волю.

Пячатнік Іван Грамацін не здолеў пераканаць паслоў і прымусіць іх зняць шапкі. Ён падышоў да цара, трохі з ім пашаптаўся і зноў звярнуўся да паслоў:

— Вы, вялікія паслы, не са звычаем, а да звычаяў прыехалі на дабро. Дык рабіце гэтак, як у Маскоўскай дзяржаве прынята.

Адказваў яму яго міласць пан Песачынскі:

— Мы бачым тут усіх у шапках, хто сядзіць і хто стаяць. Па ўсім відаць, і нам не варта здымаць галаўных убораў.

На яго словы пячатнік Іван Грамацін заўважыў:

— Пра паслоў я кажу. Ім належыць без шапак да царскай вялікасці прамаўляць. А мы прамовы вашыя і пасольства слухаць не будзем, калі шапак не знімеце.

Яго міласць пан Песачынскі адказваў яму:

— Паколькі вы не жадаеце выслухоўваць нашы прамовы, мы, засведчыўшы сваю пашану Богу, цару нябеснаму, а затым яго царскай вялікасці, ад’едзем у сваю Бацькаўшчыну. Не нашага караля і не наша віна будзе ў тым, што будзе разарвана добрая справа, добра і шчаслівa пачатая.

Пячатнік Іван Грамацін змоўк, пачуўшы тыя словы. Ён падышоў да цара і пашаптаўся з ім. Затым пячатнік зноў звярнуўся да паслоў і ўжо не так настойліва, але запатрабаваў зняць шапкі.

Вялікія паслы звярнуліся да прыставаў. Праз іх да думных баяраў пра тое ж гаварылі. Баяры не пярэчылі паслам, але приставы не пагаджаліся.

Іх міласці паны паслы заявілі ў прысутнасці цара.

— Наша вера больш годная, чым ваша. Не прыстала нашаму народу слухаць пустых слоў і бяссэнсіцы.

Пячатнік Іван Грамацін адказаў на тое паслам:

— Вялікія паслы валадара нашага, яго царскай вялікасці, якія паехалі да вашага гаспадара, маюць ад царскай вялікасці такі загад, каб усё рабіць паводле ўказу вашага гаспадара. Але калі вы гэтак робіце, то і мы ў наступны раз будзем паступаць падобным чынам.

Адказваў яму пан Песачынскі:

— Хіба ў шапках мы пазбаўляемся галоў, як вы мяркуеце.

Пячатнік Іван Грамацін ўбачыў, што не можа дамагчыся свайго. Ён пагадзіўся, сказаўшы:

— Кажыце.

Іх міласці паны паслы паведамілі ўсё, што жадалі. Яны не здымалі шапак, за выключэннем выпадкаў, калі згадвалі імя караля ці цара.

Вялікія паслы паспяхова адправілі пасольства.

Яго міласць пан Аляксандр Песачынскі, камянецкі кашталян, сказаў такую прамову:

— Па волі і дабраславенні Госпада Бога, у руках якога знаходзіцца мір і вайна, пасля працяглых баталій і багатага праліцця хрысціянскай крыві, вялікія паслы

з абодвух бакоў, падчас сустрэчы на рацэ Палянаўцы, змаглі дамовіцца аб міры. Настаў час вечнай дружбы паміж вамі, вялікімі гаспадарамі, і вечная згода паміж вашымі дзяржавамі. З двух бакоў вечны мір быў змацаваны хросным цалаваннем.

Наш пан, яго міласць найяснейшы кароль, мае звычку цвёрда трымаць сваё слова і захоўваць веру, за што Гасподзь Бог аберагае яго ад усялякіх непрыяцеляў. Наш кароль заўсёды памятае і клапоціцца аб тым, каб нядаўна падпісаны дагавор і ўсе яго артыкулы бездакорна выконваліся. Такога ж разумення ён хоча і ад цябе, вялікага гаспадара і цара, вялікага князя Міхаіла Фёдаравіча, усяе Русі самадзержца. Наш кароль разлічвае, што і ты будзеш моцна трымацца дамоўленасцей і выконваць прынятыя рашэнні.

Яго міласць кароль прыслаў нас сюды, сваіх вялікіх паслоў ад Польскай Кароны і Вялікага Княства Літоўскага з тым, каб мы паведамілі, па-першае, пра прыемныя жаданні і ахвоту жыць у дружбе і міры, і, па-другое, давесці да ладу добрую і вялікую справу.

Мы прыбылі ў тэрмін, прызначаны вашымі вялікімі násламі, гэта значыць, да 20 лютага, згодна з рымскім календаром. Мы гатовыя былі ў абумоўлены дзень паўстаць перад табой, вялікім гаспадаром, адправіць наша пасольства і змацаваць вынікі дамоўленасцей. Але твая царская вялікасць была занята святым постам і духоўнымі зносінамі з нябесным царом. Таму прыём нашага пасольства адклалі на больш позні тэрмін, пра што нам паведамілі баяры, думныя людзі.

Цяпер мы паўсталі перад тваёй царскім вялікасцю, каб ты пацвердзіў і пагадзіўся моцна трымацца тых артыкулаў і дамоўленасцей, якіх дасягнулі вялікія паслы і змацавалі іх хросным цалаваннем.

Няхай Гасподзь Бог дабраславіць пачатую добрую справу, злучыць вашыя сэрцы, вялікіх гаспадароў, невымернай і несмяротнай славай! Няхай Гасподзь Бог аб’яднае вас брацкім сяброўствам! Няхай Гасподзь Бог прывядзе вашы вялікія дзяржавы да згоды! Няхай Гасподзь Бог цвёрда злучыць вашыя рукі ў барацьбе з паганымі! Няхай злучыць вашыя сілы на застрашванне ўсяго астатняга свету!

Наш пан, найяснейший кароль, ад усёй душы і ўсяго сэрца жадае вечнай дружбы і міру.

Затым яго міласць пан Казімір Лявон Сапега, віленскі ваяводзіч, адправіў пасольства наступнай прамовай:

— Найяснейшы і вялікі гаспадар Уладзіслаў Чацвёрты, Божай ласкай кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, смаленскі, чарнігаўскі і іншых, дедзічны кароль шведскі і іншых. Табе вялікаму валадару і цару, вялікаму князю Міхаілу Фёдаравічу, усяе Русі самадзержцу і многіх дзяржаў гаспадару і ўладальніку загадаў сказаць.

Гасподзь Бог, у руках якога знаходзяцца сэрцываспаноў і ўся ўлада над імі, схіліў сэрца нашага гаспадара да вечнага міру. Наш кароль прагне спыніць страшнае кровапраліцце паміж вашымі дзяржавамі, хоча ўсталяваць брацкія адносіны з табой, вялікім гасударам, царом і вялікім князем.

Дзеля надзейнай згоды і дружбы, ён гатовы добраахвотна пайсці на саступкі, абмежаванні сваіх правоў і ўладанняў, якімі Гасподзь Бог узнагародзіў яго. Як праўдзівы гаспадар, ён умее трымаць сваё слова, за што атрымлівае Божае дабраславенне і падтрымку ў барацьбе з ворагамі і ў перамогах над імі.

Наш кароль хоча, каб Польскае Каралеўства і Вялікае Княства Літоўскае жылі ў вечнай дружбе і міры з Маскоўскай дзяржавай.

Наш гаспадар мяркуе, што ты, вялікі гаспадар, і твае нашчадкі, жадаеце моцна трымацца тых артыкулаў і пагадненняў, аб якіх дамовіліся вялікія паслы і змацавалі свае дамоўленасці хросным цалаваннем з абодвух бакоў.

Падчас мінулай сустрэчы каля ракі Палянаўкі вялікія паслы дамовіліся аб міры, дружбе і вечным адзінстве паміж вамі, вялікімі гаспадарамі. У заключных актах вялікія паслы запісалі, што вы, вялікія гаспадары, тыя іх рашэнні аб вечным міры сваім хросным цалаваннем узмоцніце і замацуеце.

З мэтай усталявання дружбы, братэрства і вечнага міру, вашы вялікія паслы ўзялі некаторыя артыкулы і ўмовы на даклад табе, вялікаму гаспадару і цару, да цяперашняга моманту, часу хроснага цалавання.

Найяснейшы гаспадар наш, Уладзіслаў Чацвёрты, Божай ласкай кароль польскі, вялікі князь літоўскі і іншых, наш міласэрны пан, даслаў нас, вялікіх паслоў, да цябе, каб замацаваць дасягнутыя дамоўленасці, прыйсці да канчатковай згоды і паспяхова завяршыць добрую, шчасліва распачатую справу.

Яго міласць пан Вяжэвіч сказаў такую прамову:

— Найяснейшы і вялікі гаспадар Уладзіслаў Чацвёрты, Божай ласкай кароль польскі, вялікі князь літоўскі, рускі, смаленскі, чарнігаўскі і іншых, шведскі дедзічны (спадчынны) кароль і іншых. Табе, вялікаму гаспадару, цару і вялікаму князю Міхаілу Фёдаравічу, усяе Русі самадзержцу і многіх дзяржаў гаспадару і ўладальніку, загадаў сказаць: «Вам бы, вялікаму валадару і вялікаму князю Міхаілу Фёдаравічу, усяе Русі самадзержцу, загадаць баярам сваім з панамі каралеўскай вялікасці, вялікімі пасламі, дамовіцца аб тых артыкулах, якія раней былі адкладзеныя, і далажыць вам, вялікім гаспадарам. А дамовіўшыся, загадаць бы свой гаспадарскі запіс у пасольскую заключную грамату слова ў слова запісаць. І тое, пра што цяпер сумесна дамовімся, прапісаць, пячатку прыкласці і сваім гаспадарскім хросным цалаваннем перад намі, вялікімі пасламі, замацаваць. І паводле ўсяго таго, як у канчатковых запісах напісана будзе, тое няхай будзе і выканана».

Па здзяйсненні пасольства іх міласці паны паслы ішлі да царскай рукі. Яго міласць пан Аляксандр Песачынскі, кашталян камянецкі, перш за ўсё, аддаў у рукі цара крэдэнс (грамату) ад караля. Цар у той момант трымаў у правай руцэ скіпетр. Ён пераклаў жазло ў левую руку, а правай рукой узяў крэдэнс.

Яго міласць, пан Казімір Сапега, ваяводзіч віленскі, свядома не пацалаваў царскай рукі, а толькі дакрануўся да яе чалом. Калі ён адыходзіў ад цара, той спецыяльна выцягнуў руку і доўга трымаў яе. Цар лічыў, што адбылася памылка. Ён убачыў, што Сапега не звяртае на яго ўвагі і не збіраецца цалаваць рукі. Цар паклікаў да сябе пячатніка Івана Грамаціна і ціха паведаміў яму:

— Сапега не цалаваў рукі.

Пячатнік Іван Грамацін падышоў да віленскага ваяводзіча і спытаўся ў яго:

— Львовіч, чаму не цалаваў валадару рукі, як гэта зрабіў твой таварыш, пан Песачынскі. Не паводле звычаю падыходзіш да царскай вялікасці.

Адказваў пан Сапега:

— Я дастаткова выказаў гонару яго царскай вялікасці, калі галавой аддаў яму мой паклон. Я гатовы заўсёды паважаць яго царскую вялікасць.

Ён стаў на сваё месца і не думаў аб паўторным цалаванні царскай рукі.

Пячатнік Іван Грамацін убачыў, што не дачакаецца ад Сапегі цалавання царскай рукі. Ён паклікаў, паводле напісанага рэестра, пана Вяжэвіча, а затым іншых дваран, пасольскіх слуг.

Пакуль адбывалася тая цырымонія прывітання цара, іх міласці паны паслы сядзелі на лаве, якая для іх ласкава была прынесена.

Калі ўсе пацалавалі царскую руку, пячатнік Іван Грамацін ад імя цара спытаў паслоў пра іх здароўе. Іх міласці паслы адказалі, што здаровыя. Тое ж ён пытаўся і ў дваран. І яны гэтаксама адказалі. Цар аддаў каралеўскую грамату пячатніку. Ён, не спяшаючыся, чытаў перад імі.

Затым перайшлі да падарункаў. У той час, калі адпраўлялася пасольства, частка падарункаў знаходзілася ў сенцах, а іншыя — на падворку. Пячатнік Іван Грамацін па рэестры агучваў:

— Вялікаму гаспадару, яго царскай вялікасці, ад каралеўскай вялікасці вялікі пасол Аляксандр Песачынскі чалом б’е: конь кары турэцкі з караманскай пароды; шабля, рубінамі і бірузой упрыгожаная; камень рубінавы; гадзіннік з золата і крышталю; медны таз аўстрыйскай працы з налівачкай (рукамыйніца); залацісты аўстрыйскі кубак.

Вялікаму гаспадару, яго царскай вялікасці, ад каралеўскай вялікасці вялікі пасол Казімір Львовіч Сапега чалом б’е.

Такія ж словы пячатнік прамаўляў кожны раз перад уручэннем падарункаў панамі-дваранамі. Ён пералічваў назвы падарункаў па рэестры.

Ад яго міласці пана Сапегі, ваяводзіча віленскага: карэта ў чырвоным аксаміце, уся пакрытая золатам і срэбрам; да той карэты прыкладаецца шэсць выдатных гнядых коней, сярод якіх — два турэцкія кані. Вупраж аксамітная чырвоная, з залацістым срэбрам. Камень алмазны. Вялікі гадзіннік з выявай Уваскрэсення і механізмам унутры, які сам грае. Гадзіннік з боем.

Ад яго міласці пана Вяжэвіча, мсціслаўскага стольніка: турэцкі каштанавы конь з усёй збруяй, упрыгожанай дарагімі камянямі і рубінамі, з гусарскім сядлом, з аксамітнай папонай, вышытай золатам. Шэсць глядых неапалітанскіх коней. Гадзіннік аўстрыйскай працы.

Ад яго міласці пана Мадаленскага, мсціслаўскага войскага, двараніна караля яго міласці: кары конь, неапалітанскай пароды, з усім гусарскім рыштункам.

Ад яго міласці пана Крэтоўскага, двараніна караля яго міласці: шэсць пазалочаных кубкаў.

Ад яго міласці пана Цехановіча, смаленскага падсудка і двараніна: гняды турэцкі верхавы конь; залаты ланцуг з кольцаў.

Ад яго міласці пана Масальскага, подстольнічага браслаўскага і двараніна. Пярэсты конь, упрыгожаны на казацкі манер, з усім рыштункам. Чарка з меднай падстаўкай, з залацістага срэбра.

Ад яго міласці пана Цеханавецкага, мсціслаўскага подстольнічага і двараніна. Гняды верхавы конь. Пара пісталетаў у пальмавай аправе, да іх кабура з зялёнага аксаміту, упрыгожаная золатам.

Ад пана Трэцінскага, двараніна: шэсць срэбных залацістых кубкаў.

Ад пана Галімскага, аршанскага стольніка і двараніна: белы турэцкі конь са збруяй і сядлом, апраўленымі золатам.

Ад пана Гіроўскага, двараніна: залацістая шабля, упрыгожаная каштоўнымі камянямі.

Ад пана Нерашынскага, рэчыцкага падсудка і двараніна: верхавы валашскі конь з сядлом; сядло ўпрыгожана каштоўнымі камянямі, а таксама пазалочаныя страмёны, пазалочаны палаш і серабрыстыя павады.

Ад пана Пястрэцкага, старэйшага слугі ваяводзіча віленскага: залацістая шабля, апраўленая дарагімі камянямі.

Ад яго міласці пана Банецкага, прыяцеля Песачынскага: турэцкі конь з пазалочанай збруяй.

Затым пячатнік Іван Грамацін падышоў да паслоў і сказаў ім:

— Вялікі гаспадар, цар і вялікі князь Міхаіл Фёдаравіч, усяе Русі самадзержац, выслухаў грамату ад вялікага гаспадара вашага, свайго брата. Яна спадабалася яго царскай вялікасці і нам, баярам, думным людзям. Дасць Бог, у хуткім часе адбудзецца добрая справа. Яго царская вялікасць змацуе хросным цалаваннем вечны мір.

Пан Аляксандр Песачынскі адказваў:

— Просім яго царскую вялікасць сказаць нам, ці хутка тая вялікая справа здзейсніцца. Хай яго царская вялікасць загадае дваранам дамовіцца з намі за гэты час пра некаторыя артыкулы.

Пячатнік Іван Грамацін адказваў:

— Іншым часам будзе тое вам абвешчана праз прыставаў. А цяпер едзьце да пасольскага двара. Царская вялікасць узнагароджвае вас сваім абедам і кубкам віна.

Паслы селі на сваіх коней і ў суправаджэнні прыставаў паехалі да свайго двара. Праз некаторы час да іх прыехаў князь Фёдар Сямёнавіч Куракін, стольнік. З ім прыбылі каля трохсот чалавек, якія даставілі ежу і пітво.

Стольнік Куракін накіраваўся да пана Песачынскага. Каля дзвярэй ён спыніўся. Пасол Песачынскі прапанаваў яму:

— Гавары, што хацеў сказаць.

Куракін адказваў:

— Калі прыбудзе Казімір Львовіч Сапега, тады і буду гаварыць.

Пан Песачынскі паслаў па Сапегу і звярнуўся да Куракіна:

— Зараз прыйдзе пан Сапега, тады скажаш, што павінен сказаць нам.

Калі прыйшоў пан Сапега, стольнік Куракін вымавіў сваю прамову:

— Вялікі гаспадар, цар і вялікі князь Міхаіл Фёдаравіч, усяе Русі самадзержац і многіх дзяржаў гаспадар і ўладальнік, вам, вялікім паслам вялікага гаспадара і брата свайго, пасылае свой пачастунак і кубак віна праз мяне, стольніка.

Куракін загадаў накрыць стол цяжкім абрусам. На яго паклалі тры лыжкі, але не паставілі ні адной талеркі. Стольнік выпіў спачатку гарэлкі, а затым некалькі келіхаў віна (малмазіі) за здароўе цара. Паслы Аляксандр Песачынскі і Казімір Сапега прапанавалі тосты за здароўе караля.

Стольнік Куракін вымавіў:

— З двух бакоў усё складваецца належным чынам. Паміж нашымі васпанамі ўсталёўваецца любоў і братэрскае сяброўства.

Затым стольнік прапанаваў выпіць за здароўе караля. Калі пан Песачынскі прапанаваў стольніку выпіць і за баяраў, той адмовіўся. Ён папрасіў не крыўдзіцца, паколькі паводле пратаколу яму трэба было выпіць яшчэ за царскіх дзяцей.

Пра кожную страву і напой, што падаваліся да стала, паведамляў дзяк. Ён стаяў ззаду стольніка і зачытваў іх назвы па рэестры. Калі прыбіралі адну страву, на яе месца ставілі другую. Пан Сапега распарадзіўся нічога з тых страў і напояў не браць да сябе ў двор. Але слугі пана Песачынскага, страціўшы сорам, развалакалі іх па сваіх пакоях. Маскавіты потым не маглі сабраць сталовых прылад. Многія з дробных прыбораў зусім зніклі. Пра гэта потым паведамілі пану Сапегу. Слуга пана Песачынскага прыходзіў да старэйшага слугі пана Сапегі і прасіў пасланць частку страў і напояў да двара свайго гаспадара. Старэйшы слуга, пасля ўказання пана Сапегі, перадаў для Песачынскага стравы і напоі.

Неўзабаве стольнік Куракін пакінуў паслоў. Прыставы і дваране праводзілі яго дадому.

*26 у панядзелак*. Да паслоў прыйшлі прыставы. Ад імя думных баяраў яны папрасілі, каб паслы ўчарашнія іх прамовы перадалі ім у пісьмовым выглядзе. Паколькі гэта не супярэчыла пасольскім звычаям, паслы загадалі напісаць іх прамовы па-руску і перадаць баярам.

З тымі ж прыставамі паслы дамовіліся, каб думныя баяры ў дакладзе да цара выклалі дыскусійныя артыкулы. Паслы таксама прасілі дазволіць нашым людзям свабодна хадзіць паўсюль, дзе спатрэбіцца. Акрамя таго, паслы прасілі вылучыць пристава, які б суправадзіў іх слугу да стольніка. Паслы хацелі паднесці стольніку падарункі за працу і намаганні. Прыставы абяцалі неўзабаве даставіць ім адказ ад думных баяраў.

У той жа дзень былі ўзведзены тры хаты для размяшчэння пасольства, а таксама збудаваныя стайні, або шопы, для коней. Па старым звычаі купцы таксама размясціліся з намі ў адным двары. Паслы не змаглі дамовіцца аб адмысловым двары для купцоў.

У гэты дзень усе пачалі ўсведамляць памылку пана Сапегі, які адмовіўся ўчора цалаваць царскую руку.

Пячатнік Іван Грамацін яшчэ тады адзначыў:

— Не паводле звычаю падыходзіш да царскай вялікасці.

Другі пасол адрэагаваў на словы пячатніка пытаннем:

— Ці годныя мы наогул таго, каб цалаваць руку такому вялікаму манарху!?

Пан Сапега тады не чуў слоў пана Песачынскага. Пану Сапегу аб пярэчаннях Песачынскага пазней паведамілі яго людзі, якія чулі тыя словы.

Пан Сапега перад сваімі людзьмі настойваў, што абодвум паслам не прыстала цалаваць царскай рукі, паколькі цар з'яўляўся непрыяцелем іх караля і яшчэ не прынёс прысягі на дружбу і вечны мір.

Пан Сапега хадзіў да пана Песачынскага і абвінавачваў яго ў здрадзе. Па словах Сапегі, той заслугоўваў смерці, разам з яго жонкай і дзецьмі. Пан Песачынскі апраўдваўся, казаў, што ён выканаў сумесныя дамоўленасці і таксама не цалаваў царскай рукі. Але калі б так было, то цар паказаў бы яму на гэта.

Пан Песачынскі аспрэчваў усе абвінавачванні на яго адрас у здрадзе і выказаў гатоўнасць адразу ж вярнуцца ў сваю Айчыну і даць пра ўсё справаздачу. Пан Сапега ў запале абвінавачванняў прапусціў міма вушэй усе апраўданні пана Песачынскага.

*27 у аўторак*. Прыйшлі прыставы і паведамілі адказ на ўчарашнія просьбы паслоў.

«Пристава ды стольніка не можна вам, вялікім паслам, даць. У нас так вядзецца: стольніка ўзнагароджваюць у тую пару, пакуль ён сам ад паслоў не адыдзе. А калі ён ужо вярнуўся да царскай вялікасці, нельга яму без царскага ўказання нічога ад паслоў прымаць. Таму пристава вам не будзе».

Пан Песачынскі адказваў на гэта:

— Грубыя ў вас звычаі. Не паважаеце знакамітых асоб. Заўсёды было прынята, каб паслы дарылі падарункі важным людзям, хай не адразу, але на наступную раніцу або праз некалькі дзён. Не ўзнагароджваць жа нам неадкладна людзей нізкага саслоўя, напрыклад, конюхаў! Мы хацелі б захаваць пасольскія звычаі і выказаць нашу чалавечую павагу да намаганняў стольніка, аддзячыць яму за працу. Аднак вам гэта здаецца няправільным.

Гарыхвостаў сказаў:

— Думныя баяры з вамі, вялікімі пасламі, не абмеркавалі няўзгодненых артыкулаў таму, што наступілі посныя дні. З-за гэтага ўсё адклалася.

Пан Сапега адказаў яму:

— Альбо вы нашых прамоў не перадаеце баярам, альбо яны вядуць з намі несумленную гульню, не жадаюць нас разумець і ствараюць непатрэбныя затрымкі. Нам абяцалі, што нашы людзі і купцы змогуць бесперашкодна хадзіць паўсюль, дзе пажадаюць, а вашы людзі змогуць наведваць пасольскі двор без усялякіх перашкод. Але замест гэтага, нас па-ранейшаму трымаюць пад замком. Не толькі ў вялікіх, але і ў малых рэчах кожны, хто пажадае, можа ўбачыць падступства і хітрасць вашага народа.

Гарыхвостаў адказваў:

— Пан Казімір! Ні адно ваша слова, якое вы нам кажаце, не забываецца намі. Мы ўсё даносім думным баярам. Нашы галовы для таго, каб мы запаміналі ўсё, што ад вас пачуем. Адносна таго, што вашых людзей не выпускаюць за сцены пасольскага двара, дык мы вас папярэджвалі, што будзеце бачыць толькі царскія вочы. Пра тое, каб быў царскі ўказ на бесперашкодны выхад вашых людзей і купцоў у горад, то гэты артыкул будзем абмяркоўваць з думнымі баярамі.

Пан Песачынскі дадаў:

— Неабходна, каб загадалі вывезці гной і адходы з пасольскага двара, бо паўсюль стаіць невыносны пах і цеснота.

Прыставы абяцалі неадкладна вывозіць адходы з пасольскага двара.

Паслы таксама паведамілі прыставам, што хочуць пасланць ганца да караля. Для ганца неабходна вылучыць пристава, які б бяспечна правёў яго да мяжы. Прыставы абяцалі прынесці адказ.

Пасля апоўдня прыставы прыйшлі да іх міласцяў паслоў і паведамілі, што яны данеслі баярам праблемы, якія абгаворваліся раней. Ад імя баяраў перадалі, што тыя абяцалі неўзабаве ўсё вырашыць з іх міласцямі пасламі. Праўда, дакладны час не акрэслілі.

Пра свабодны выхад з двара паведамілі, што з наступнай раніцы брама будзе адчынена і ўсе могуць вольна хадзіць і што трэба купляць або прадаваць. Але запатрабавалі, каб нашы не хадзілі вялікімі гурбамі, што можа прывесці да сутычак з мясцовымі людзьмі.

Не забаранілі даць прыстава для ганца, але толькі на той перыяд, калі ганец будзе вяртацца ад яго міласці караля. Як яны самі прызналі, ганца затрымаў вяземскі ваявода і паведаміў пра яго цару, каб валадар даў наконт ганца далейшыя ўказанні. Каб не затрымка, ганец быў бы ўжо ў Маскве на мінулым тыдні. Маскавіты і самі дзівяцца, чаму гэтак доўга ганец не вяртаецца. Спадзяёмся, аднак, што вечарам або раніцай ганец прыбудзе. Але думныя баяры паставілі пад сумненне тое, што ганца адразу праводзяць да пасольскага двара.

Пяць чацвярцей аўсу і столькі ж вазоў сена паступіла ў належным парадку. Гэтаксама паабяцалі, што ў выпадку патрэбы мець нешта дадаткова, цалкам задаволяць усе патрэбы.

Збудавалі чатыры клеці для купцоў і дзве капліччкі для набажэнства.

*28 (лютага) у сераду*. Пачалі выпускаць нашых з двара, апрача дробнай чэлядзі. За кожным з нашых хадзілі стральцы. Як мы заўважылі гэта, нам было спачатку вельмі прыкра. Але потым, калі нашы хадзілі да крамаў, то ўбачылі злодзеяў, якія там хадзілі натоўпамі. Там на іх няма аніякай управы. Яны толькі і чакаюць, каб нешта скрасці, якую вопратку ўхапіць ці нават рукаў ададраць. Менавіта стральцы, убачыўшы іх каля нашых, кіямі іх адагналі. Невядома, як яны іх распазнаюць, паводле якіх прыкметаў. Маскавіты нам патлумачылі, што ахова і нагляд за намі прыстаўлены якраз для таго, каб абараніць ад злодзеяў і розных непрыемнасцей.

Нам дазвалялася вольна выходзіць ад восьмай гадзіны да дзвюх гадзін дня. У нядзелю дазвалялася, каму трэба было, вольна выходзіць раней і вяртацца пазней.

З лістамі караля яго міласці прыехаў пасланнік з Дарагабужа Грабоўскі, за якім маскавіты накіроўвалі ганца.

Калі прыйшлі прыставы, іх міласці паны паслы размаўлялі з імі пра нявырашаныя пытанні, моцна дзівіліся з упартасці думных баяраў. Абураліся тым, што патрэбных рэчаў не толькі не скончылі, але нават і не прыступалі да іх.

Прыставы, не называючы пэўнага часу, абяцалі ад імя думных баяраў, што ў хуткім часе пачнуцца перамовы, а цар сваіх хросным цалаваннем зацвердзіць пастановы.

Прыставы гэтаксама абяцалі перадаць баярам клопаты, выказаныя пасламі.

## III

***Сакавік 1635 года.***

*1 у чацвер.* Прыйшлі прыставы да іх міласцяў паноў паслоў і папрасілі перадаць ім спіс купецкіх тавараў, які іх міласці абяцалі ім прадаставіць.

Іх міласці паны паслы абгаварылі з приставамі ўмовы вызвалення нашых вязняў з палону. Прыставы адказалі, што тых, каго затрымалі звычайным парадкам за дробныя парушэнні, хутка адпусцяць. Тых жа, каго адправілі ў вязніцы паводле загаду валадара, будуць надалей трымаць, а затым моцна іх пакараюць.

У той жа дзень персідскі пасол прыехаў да сталіцы. Загадана яму спыніцца ў Белым горадзе ў Ізмайлавым двары.

*2 у пятніцу*. Іх міласці паны паслы часта нагадвалі думным баярам пра пункты, аб якіх яшчэ не была дасягнута згода. Нарэшце, праз приставаў баяры перадалі іх міласцям панам паслам, каб у чатыры гадзіны апоўдні паводле іх часоўніка, гэта значыць, а палове дзясятай, былі ў замку.

Іх міласці гатовы былі неадкладна адпраўляцца. Прыставы запыталіся, як іх міласці хочуць ехаць.

Яго міласць пан камянецкі адказаў:

— У карэце.

Ім яго адказ быў не ў смак. Прыставы раілі ехаць вярхом паводле звычаю.

Але яго міласць пан камянецкі заўпарціўся і заявіў:

— Што пастанавілі, ад таго не адмовімся.

Прыставы з тым ад’ехалі да замка.

У іх прысутнасці яго міласці пану ваяводзічу віленскаму і яго міласці пану Вяжэвічу не выпадала пярэчыць патрабаванням яго міласці пана камянецкага. Але пасля ад’езду прыставаў настойліва раілі яму, каб ён не патрабаваў увядзення новых звычаяў, не ўносіў непатрэбных ультыматымаў, якія зацягваюць час. Угаворвалі ехаць да замка паводле ўстаноўленых звычаяў і каб ён не прыдумляў ехаць у карэце. Бо маскавіты, напэўна, таго не дазволяць. Яны заўжды трымаюцца даўніх звычаяў.

Пан камянецкі быў упэўнены, што прымусіць маскавітаў выканаць яго пажаданне. Ён адказаў іх міласцям:

— Міласцівыя панове, будзьце ўпэўненыя, што дамагуся свайго. Пакладзіцеся, ваша міласць, на мяне.

Вярнуўшыся з замка, прыставы прыйшлі да іх міласці паноў паслоў. Ад імя баяраў яны пераказалі паслам ехаць да замка не ў карэце, а вярхом на конях.

Яго міласць пан камянецкі запярэчыў:

— Ці ж мы халопы вашага цара, што вашы баяры нам намерваюцца загадваць?! Мы не з Астрахані і не з Казані прыбылі сюды. Мы вольныя людзі і прыехалі да вас ад караля яго міласці, нашага пана і вялікага гаспадара, які пануе над вольным народам. Мы не падпарадкоўваемся загадам думных баяраў і паедзем гэтак, як нам падабаецца. Па ўсім бачна, вы шукаеце розныя прычыны, каб толькі перашкодзіць падпісанню замірэння, дзеля якога мы сюды прысланыя. У такім разе, выпусціце нас, не прыдумваючы розных недарэчнасцей. І мы паедзем да караля яго міласці пана нашага.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі не паказваў перад маскавітамі ўнутраных разыходжанняў, бо ён згаджаўся ехаць вярхом на конях. Таму ён на словах падтрымліваў яго міласць пана камянецкага і ганіў маскавітаў. Ён даводзіў прыставам наступнае:

— Мы ездзілі ў карэце нават да Папы Рымскага. І не толькі ў вашага гаспадара, але і ў іншых манархаў бываем. Нам дазволена ездзіць гэтак, як нам зручна і ў адпаведнасці з нашым выбарам. А вы пярэчыце нам ва ўсім.

Прыставы адказалі:

— Вам, вялікім паслам, мы тое паведамілі, што нам загадалі думныя баяры. А вашы словы ў дакладнасці ім перададзім.

І адразу ж яны ад’ехалі ў замак.

Зноў вярнуўшыся, прыставы паведамілі іх міласці паслам:

— Яго царская вялікасць наш вялікі гаспадар і баяры, думныя людзі, загадалі сказаць вам, вялікім паслам, каб вы ўсё рабілі паводле ранейшых звычаяў, прыязджалі не ў вазках, а вярхом на конях.

Яго міласць пан камянецкі адказваў:

— Заўжды захоўваўся звычай, што паслы маглі ехаць гэтак, як яны жадалі, — вярхом на конях або ў вазку, або пешшу, або нават ляцець, чаго мы не патрабуем. І нам не цяжка ехаць вярхом або ісці пешшу да вашага гаспадара. Але, каб не саступаць вашай настырнасці і грубіянству, мы паедзем гэтак, як вам сказалі. Гэтым не будзе парушаны гонар вашага гаспадара. Мы шануем яго царскую вялікасць гэтак жа, як і караля, нашага гаспадара, пана нашага міласцівага.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі зазначыў:

— Мы, папраўдзе, да вашага цара пад’едзем не на возе. Там з яго выйдзем, дзе з коней зсядалі. І да цара пешшу пойдзем. Няхай думныя баяры не зневажаюць нас, няхай не вучаць нас розуму!

Яго міласць пан камянецкі дадаў:

— Пан Казлоўскі, я цябе люблю як добрага прыяцеля і сябра. Але не хачу табе казаць непрыстойных слоў, хоць і варта было б іх сказаць. Аднойчы, нас шэсць чалавек вярхом на конях ехалі адзін каля аднаго. З-за цеснаты штурхалі адзін аднаго. Ці ж не ты тады наслухаўся абразлівых слоў!? Вы, царскія дваране, вольныя ехаць так, як вам зручна, хоць за нашым возам, хоць перад намі, хоць вярхом, хоць у санях! Як хочаце так і рабіце, і мы рушым услед за вамі.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі падтрымаў яго міласць пана камянецкага. Ён прамовіў:

— Дагэтуль няма аніякіх заключных запісаў і грунтоўнага завяршэння распачатай справы. З-за вашай непатрэбнай настырнасці могуць быць разбураны добрыя намеры. Бог вам суддзя і ён пакарае ўсіх вас за ўчыненыя перашкоды.

Яго міласць пан камянецкі дадаў:

— Мы не адступімся ад таго, што сказалі.

Прыставы адышлі крыху ў бок і ў той жа ізбе пачалі раіцца паміж сабой. Потым, звяртаючыся да іх міласцяў, адказалі:

— А калі яго царская вялікасць па вас, вялікіх паслоў, свае сані пашле, ці пакінеце вы свае калёсы?

Яго міласць пан камянецкі адказваў:

— Мы таму не пярэчым. Прымем за вялікі гонар для сябе.

Убачылі прыставы, што іх міласці згодныя на такі варыянт, вымавілі:

— Вам, вялікім паслам, варта таксама ведаць, што з кожным паслом побач будзе ехаць царскі дваранін. Гэтак у нас прынята.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі, які зусім не дамагаўся той язды на возе, адно толькі падтрымліваў яго міласць пана камянецкага, на тыя словы прыставаў адказаў:

— Раней мне рак на гары свісне, чымся цар дакажа, што я абавязаны ехаць перад якім-небудзь яго дваранінам. Мы, абодва паслы, роўныя адзін аднаму, адзін другога нічым не пераўзыходзім і не можам ставіць сябе адзін вышэй за другога. Таму будзем сядзець на вазку побач адзін з адным.

Прыставы не мелі ад думных баяр аніякіх рэкамендацый пра тыя сані, таму ад сябе толькі паведамілі, што не могуць самастойна прыняць канчатковага рашэння і з тым адышлі. Яны селі на вазы і паехалі да замка. Там яны нядоўга забавіліся і зноў вярнуліся да іх міласцяў паноў паслоў. Прыставы паведамілі паслам волю думных баяраў:

— Нашага вялікага гаспадара яго царскай вялікасці баяры, думныя людзі, загадалі вам казаць, каб вы не на вазках, а вярхом ехалі.

Яго міласць пан камянецкі настойваў на пераглядзе іх ранейшых звычаяў. Ён казаў:

— Вы як пачалі з перагляду тэрмінаў ламаць прысягу, так і цяпер, не маючы дастатковых падстаў, толькі дзеля выдумак, яе ламаеце. У такім выпадку, дайце нам прыстава для нашага ганца, і мы ўсё аб'явім каралю яго міласці, што вы з намі паступаеце, нібы з нявольнікамі. Хочаце, каб мы рабілі так, як вам падабаецца. Сапраўды, калі б яго царская вялікасць на кані сядзеў, то нам бы не прыстала на вазку ехаць да яго. Таксама, калі б выслаў сваіх дваран вярхом на конях сустракаць нас, то мы, паважаючы гонар яго царскай вялікасці і аказваючы гонар дваранам, вярхом на конях ехалі б. Мы выконваем царскі наказ быць у яго і ўжо гатовыя ехаць, толькі загадайце вароты адчыніць, але думных баяраў слухацца не будзем. Яны не будуць нам указваць, якім чынам нам належыць ехаць. Як самі пажадаем, гэтак і паедзем.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі зазначыў:

— Мы прыехалі да вас ад вялікага гаспадара як вольныя людзі. Баяры не прымусяць нас адмовіцца ад слушных рэчаў. Той, хто адступіць ад іх — зламае прысягу і будзе сурова пакараны. Мы ў карэце ехаць хочам дзяля той прычыны,

што цяпер, як бачыце, на дварэ непагадзь, дождж л'е. Няхай думныя баяры загадваюць сібірскім, астраханскім і казанскім людзям, а мы будзем чыніць гэтак, як нам, вялікім паслам, належыць і як нам дыктуе слушнасць. Прыехалі сюды цалкам паводле волі яго міласці караля і не падлягаем тут нічыёй уладзе.

Адказалі прыставы:

— І тое вам належыць рабіць, што і ранейшыя паслы рабілі.

Паколькі словы яго міласці пана ваяводзіча віленскага з'яўляліся яго асобнай думкай, яго міласць пан камянецкі дакараў Сапегу, што той адступіў ад яго задання і без пярэчанняў пагадзіўся з прыставамі ехаць вярхом на конях.

Яго міласць пан Мадаленскі заявіў прыставам:

— Зразумейце тое самі, што вашы баяры беспадстаўна распараджаюцца. Лепей дазволіць іх міласці паслам дзейнічаць паводле іх волі, каб хутчэй дасягнуць неабходнай згоды.

Прыставы з тым ад'ехалі да замка.

А калі вярнуліся, то ўжо не наведваліся да іх міласці паслоў.

Такім парадкам, той дзень быў змарнаваны на непатрэбныя спрэчкі пра карэты.

Пазней, яго міласць пан ваяводзіч віленскі, яго міласць пан Вяжэвіч і яго міласць пан Мадаленскі і іншыя дваране са складу пасольства, убачылі, што ўзнікла небяспека зрыву перамоваў з-за таго, што пан камянецкі не жадаў слухаць парад яго міласці ваяводзіча віленскага. Яны адкрыта, у вочы выказалі пану камянецкаму, што яго настырнасць і амбіцыі — сорамныя і неспрыстойныя.

*3 у суботу*. Прыставы прыслалі чалавека даведацца, ці могуць яны прыйсці да іх міласці паслоў. Тыя ў адказ паведамілі, каб прыставы не прыходзілі да іх з такімі ж плёткамі, якімі зглумілі ўчарашні дзень.

Прыставы паведамілі, што існуе звычай, паводле якога яны мусяць наведвацца да паслоў штодня і пытацца пра іх здароўе.

Іх міласці дазволілі прыставам прыйсці да іх і з удзячнасцю паведаміць пра здароўе.

Яго міласць пан камянецкі сказаў ім:

— Калі зноў прыйшлі нас розуму вучыць, можаце адразу ісці назад і ніколі з тым сюды не прыходзіць. Мы прыехалі поўнасцю пры сваім розуме. Кароль яго міласць бачыў, каго паслаў, — зусім не прастакоў, якія не разбіраюцца ў справе і якія гатовыя жыць чужым розумам. Учарашні дзень змарнавалі на непатрэбныя пункты, якія не адносяцца да заканчэння распачатай справы. Мы прыехалі да вашага гаспадара ўскласці карону на яго галаву ад імя караля, яго міласці пана нашага. А вы паводзіце сябе з намі як з нявольнікамі, пачынаеце дамагацца ад нас, каб мы ўсё чынілі паводле волі вашых баяраў. Ніхто ніколі не абгрунтуе, што вольным людзям павінны загадваць нявольнікі.

Адказаў Гарыхвостаў:

— Вялікія паслы, мы прыйшлі да вас паводле нашага звычаю і па загадзе гаспадара запытацца пра ваша здароўе. Пра тое, што адбывалася ўчора, мы апавясцілі думных баяраў. А цяпер прыйшлі, каб толькі ўбачыцца з вамі і размаўляць аб выездзе, і ні пра што іншае не маем даручэнняў.

Прамовіў яго міласць пан ваяводзіч віленскі:

— Учора да нас некалькі разоў прыязджалі і ад імя думных баяраў гаварылі, каб мы ехалі вярхом на конях. Невыносна для нас, вольных людзей, слухацца загадаў нявольнікаў. Ад іх імя прасілі нас, каб мы не ехалі возам. Мы падпарадкоўваемся толькі каралю, яго міласці пану нашаму, і Госпаду Богу. Менш за ўсё мы збіраемся слухацца вашага гаспадара, а тым болей, думных баяраў.

Прыставы, спасылаючыся на колішнія звычаі, адказвалі:

— Не можа інакш быць, а толькі так, як перад тым бывала.

Убачыўшы гэткае супрацьдзеянне, іх міласці паны паслы сказалі прыставам:

— Спытайцеся ў думных баяраў, патрэбныя мы тут ці не? Калі патрэбныя, няхай не перашкаджаюць нам быць у вашага гаспадара і пачынаюць абмяркоўваць з намі артыкулы, аб якіх покуль няма згоды. Прыйшоў час даводзіць да лагічнага завяршэння распачатую справу. Калі ж мы непатрэбныя, адпусціце нас у нашу Айчыну. Магутны Бог бачыць нашу праўду і вашу няпраўду, кожнаму паводле заслуг заплаціць.

Пры гэтым, іх міласці паны паслы дэкляравалі:

— Калі вы разлічваеце трымаць нас у вашай зямлі больш за восем зімовых тыдняў ад уезду да выезду, то мы страцім пасольскі статус і будзем ужо не пасламі, а палоннымі. У загадзе караля яго міласці сказана і тое ў заключных запісах выразна запісана, што мы на працягу васьмі тыдняў ад уезду ў вашу зямлю і выезду ад вас валодаем пасольскімі паўнамоцтвамі.

Маскавіты, аднак, інакш тлумачылі той пункт, занесены ў заключныя запісы. Яны лічылі два месяцы ад моманту прыезду ў сталіцу і выезду з яе.

Іх міласці паны паслы запатрабавалі даць пристава да іх ганца, якога меліся накіраваць да думных баяраў. Яны хацелі данесці да іх свае патрабаванні і атрымаць адказ.

Учарашнія непатрэбная спрэчка з пріставамі, падчас якой пан камянецкі паказваў абсурднасць іх настырнасці, прывялі да таго, што ўвечары маскавіты выставілі вакол пасольскага двара варту ў колькасці тысячы стральцоў.

Яго міласць пана ваяводзіча віленскага і яго міласць пана камянецкага вартавала ўзброеная пяхота. Са стрэльбамі яны стаялі ля сеняў і ля брамы, нават распалілі вогнішча. Прыставы, якія прыехалі з замка ўначы, залілі вогнішча. Аднак праз нейкі час яго зноў распалілі.

Паны паслы не захацелі маўчаць і напомнілі прыставам, каб яны таго другі раз чыніць не наважваліся. У абарону пехацінцаў яны паабяцалі прыставам, што той, хто асмеліцца заліваць агонь, страціць руку, ці, нават, на месцы нежывым застанецца. А затым можа быць нават бойка.

Паслы гэтаксама нагадалі прыставам:

— Паколькі вы нас у гэтым двары размясцілі, мы ў ім адказваем за парадак. Вашая справа чыніць тое, што мы перадаём праз вас думным баярам і тое, што яны нам перададуць цераз вас.

Нічога на тое не адказаўшы, прыставы ад’ехалі ў замак.

Гадзіны ў дзве прыставы вярнуліся з замка. За імі ў карэце прывезлі ўсё чыста, што было перададзена цару ў якасці розных незвычайных падарункаў. Ён, аднак, пакінуў сабе некалькі падарункаў, якія яму былі паднесены ў знак удзячнасці. Існаваў такі звычай, каб і паслы падносілі ад сябе падарункі. Гэтак было ў часы першых цароў, гэтакі звычай заставаўся і цяпер. Але вернутае ў той карэце прынесла паслам клопат і прыкрасць. Паслоў надзвычай пакрыўдзіла такое абыходжанне з імі, якое яны патлумачылі ганарлівасцю маскавітаў.

Калі прыставы прыйшлі, яны прамовілі:

— Вялікі гасудар наш, яго царская вялікасць, вам, вялікім паслам, усё ваша адсылае.

Перайшлі на суровую мову, куды больш рэзкую, чымся перад тым было. Загучалі абвінавачанні ў клятваадступніцтве і невыкананні ў тэрмін заключных запісаў. Іх міласці паслы абвінавачвалі маскавітаў у няшчырасці і частай здрадзе. Крытыкавалі за тое, што не выконвалі ўзятых на сябе абавязкаў, спасылаючыся на спрадвечныя звычаі. Папракалі маскавітаў за тое, што яны, у адпаведнасці з іх натурай, чыняць падман і здраду.

Асабліва ўразілі іх міласць паноў паслоў выказванні супраць паездкі ў карэце. Пасля гэтага цяжка было паверыць у іх прыязнае стаўленне да нас. Яны часта змянялі ўласныя думкі, іх наогул цяжка было, часам, зразумець. Маскавіты гадзінамі ганьбілі паслоў, і не толькі іх, але і наогул усіх старэйшых.

У канцы, калі прыставы маўчалі, доўга нічога не адказваючы, і, нават, хацелі

пайсці ўжо, яго міласць пан камянецкі ўзняўся. Ён узяў Казлоўскага і Гарыхвостава за рукі, зняў з сябе маску суровасці, падставы для якой дарэчы сам стварыў, і пачаў з імі гаварыць мяккімі словамі. Пан камянецкі паспрабаваў лагодна ўгаворваць іх, але толькі выклікаў новы выбух ганарлівасці.

Гарыхвостаў тут жа заявіў:

— Вялікія паслы, скажыце у рэшце рэшт, ці збіраецеся вы быць у вялікага гаспадара нашага? Калі жадаеце вярнуцца ў Літву, так і кажыце, а мы думным баярам паведамім. Царская вялікасць дасць вам грамату або праз ганца свайго пашле да вашага гаспадара, каб даслаў іншых паслоў для падпісання мірнай дамовы, калі вы такія ўпартыя.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі адказаў:

— Як мы разумеем, вы хочаце ўскласці віну за заламанне прысягі на наша пасольства. Але Бог бачыць ваш падман і вам цяжка схаваць вашу хлусню. Мы выконваем загад караля, яго міласці пана нашага, таму, выконваючы місію нашага пасольства, гатовы давесці да ладу распачатыя справы. Мы і не думаем ад'язджаць адсюль, нічога не здзейсніўшы. Хіба, калі гаспадар ваш і вы самі прычынай таму будзеце. Не зловіце нас тымі сілкамі, якія на нас паставілі сваімі хітрыкамі.

Яго міласць пан камянецкі, які спачатку моцна настойваў на карэце, цяпер пачаў з імі лагодна і прыязна аб усім размаўляць. Для ўсіх стала зразумела, што неабходна альбо працягваць бессэнсоўна ўпарціцца, або ўсё ж такі спыніць спрэчкі і завяршыць распачатую справу, не выклікаючы больш абурэння маскавітаў.

*4 у нядзелю*. Паводле заведзенага звычаю прыставы прыйшлі да іх міласцяў паноў паслоў. На гэты раз паслы пачалі размаўляць з імі вельмі лагодна. Яны, урэшце, дамовіліся пра завяршэнне добрай справы.

У той дзень, а шостай гадзіне ўдзень, паводле маскоўскага часу, персідскі пасол ехаў да Крым-горада ў наступным парадку.

Маскоўскія стральцы ў колькасці 170 чалавек, ідучы адзін за адным, неслі разнастайныя золатагаловыя персідскія матэрыі па адной штуцы. Кожная з іх была часткова адгорнута для бачнасці.

Затым ехаў канюшы, за якім персы пешшу вялі сем коней, прыкрытых чалдарамі, і двух мулаў.

За імі персы неслі ўпрыгожаныя сякеркі, персідскія калпакі, страмёны, вуздэчкі, лук, лубы і розныя сёдлы. Кожную рэч неслі паасобна, многія з якіх былі без усялякага аздаблення.

Потым 200 маскоўскіх стральцоў неслі нейкі напой, мядовага колеру, у шкляных акруглых слоіках з тоненькімі шыйкамі, накшталт збаноў. Кожны стралец нёс па адным слоіку.

За імі зноўку персы вялі пад чалдарамі сем коней.

За імі стральцы, у колькасці 70 асоб, неслі розныя лёгкія персідскія матэрыі. Кожны нёс па адной штуцы. Іншыя неслі каштоўныя чапрагі, рыхтаваныя золатам.

На заканчэнне маскоўскія стральцы неслі 12 шаўковых дываноў, упрыгожаных золатам. А таксама шэсць проста шаўковых, але вялікіх настолькі, што кожны разгорнуты дыван неслі па 8 стральцоў. А пару дываноў наогул неслі ажно 12 стральцоў.

Потым два конюхі вялі асядланых коней.

Затым сам пасол ехаў у маскоўскіх санях. Яго вёз маскавіт. Сам пасол сядзеў у залатой шапцы, меў пучок і пару фазанавых пёраў. Тыя, якія стаялі на санях перад ім, таксама былі ў пазалочаных шапках. З правага боку ехалі приставы. З левага боку яго суправаджалі трое саней. Яны ехалі гэтак блізка да пасольскіх саней, што, здавалася, нібыта, яны разам звязаныя. Сані маскавітаў ні на крок назад або ўперад не выступалі, роўна з пасольскімі ехалі.

Па баках ішлі некалькі персаў з янычарамі, якія, па ўсім відаць, неслі нейкія рэчы ў падарунак цару.

За пасольскімі санямі персы (а па-маскоўску — казлубашы) неслі светлы лук з калчанам і лубай.

Ззаду ехалі персы, якіх было 17 чалавек, на белых царскіх конях, усе пад шэрымі пёрамі. Гэтаксама ў кожнага каня, якіх раней праводзілі, былі пёры заткнутыя на хрыбтах.

Той пасольскі поезд нават не спадзяваліся ўбачыць, але прыставы прыйшлі да іх міласці паноў паслоў і сказалі, што ўсе з пасольства могуць пайсці і паглядзець на тое.

Так давялося ўбачыць выхваленні маскавітаў. Яны такім чынам паказвалі, у якой надзвычайнай прыязнасці з іх гаспадаром жыве персідскі шах і якія падарункі дасылае яму.

*5 у панядзелак, дзень святога Казіміра.* Пасля прыходу прыставаў і доўгіх прывітанняў, распачалі з імі абмяркоўваць публічныя справы.

Яго міласць пан камянецкі прамовіў:

— Вы выдатна ведаеце, з чым мы да вас прыехалі. Але трымаеце нас некалькі тыдняў пад замком. Мы нават не пачалі гаварыць пра завяршэнне распачатай справы. Вы наўмысна ўсё зацягваеце. Будзе справядліва, калі вы паведаміце ад нас вашым думным баярам, каб надалей не затрымлівалі справы.

Гарыхвостаў адказаў:

— Усяму, што накіравана на здзяйсненне дабра, дзякуючы Богу, будзе добрае завяршэнне. Калі ёсць разыходжанні ў малых артыкулах, іх трэба пакінуць і казаць пра галоўнае. Вам, вялікія паслы, на гэтым свеце будзе слава на доўгія гады і ласка ад Бога, калі вы паміж вялікіміваспанамі і іх шырокімі дзяржавамі спыніце праліццё крыві хрысціянскай і здзейсніце вечны мір па абодва бакі.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі адказваў:

— Мы сабе таго ж гэтаксама жадаем. І прыехалі сюды не гуляць, а гатовыя да завяршэння давесці распачатую справу. Мы страцілі некалькі дзён з-за таго, што хацелі ехаць возам, а вы ад імя цара і думных баяраў загадвалі ехаць вярхом. Мы змушаны былі трохі пачакаць, а не адразу выконваць вашыя распараджэнні. Мы і цяпер хочам ехаць да вашага гаспадара паводле нашай волі, не слухаючы нічыіх загадаў. Паедзем гэтак, каб больш паміж намі не паўставала спрэчкі.

Прыставы заявілі, што не зразумелі слоў, сказаных ім. Яны прасілі іх міласцяў паслоў больш выразна выказацца адносна таго, што тыя згодныя ехаць вярхом на конях.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі адказаў:

— Неверагодна доўга вы вялі з намі непатрэбную спрэчку наконт той паездкі. Не жадаючы, каб тая добрая справа з-за цяганіны была разарвана, мы вам дэкляруем, што гэтак паедзем, як нам падасца зручным. І больш няхай не будзе аб тым аніякай кручыны. І ведайце, што мы тое ўчынім з нашай добрай волі, а не з дазволу цара або думных баяраў.

Яго міласць пан камянецкі сказаў прыставам:

— Да сённяшняга дня збіраўся ехаць на возе, паколькі ў мяне балела нага. Менавіта таму я жадаў ехаць да замка ў карэце. Цяпер мой боль прайшоў. Паеду паводле жадання маіх таварышаў вярхом на кані.

Ледзьве ён тое прамовіў, маскавіты вырашылі, што іх міласці паслы пагадзіліся ехаць вярхом на конях. Прыставы нізка пакланіліся іх міласцям панам паслам, а Гарыхвостаў прамовіў:

— Вялікія паслы, не з таго складаўся пачатак, на чым мы на доўгі час спыніліся, і не пра тое завяршэнні ішла гаворка! Аб вялікай справе нам усім ласкава трэба размаўляць і ўсякімі спосабамі яе чыніць. А калі Бог вечную дружбу і сяброўства паміж нашымі васпанамі ўмацуе, то і меншыя артыкулы самі сабой палагодзяцца. Хай здзейсніцца ўгодная Богу справа! А цяпер вам, вялікім паслам, за тое чалом б'ем. Паведамім думным баярам вашу волю і дамо вам адказ, калі зможаце быць у нашага гаспадара.

Калі скончылася святая імша, прыставы вярнуліся з замка да іх міласцяў паноў паслоў. Маскавіты далі знаць, што паслы могуць быць заўтра зранку ў цара.

Гарыхвостаў літаральна сказаў:

— Дасць Бог, добрая справа неўзабаве здзейсніцца. І вы, вялікія паслы, убачыўшы вочы гаспадара нашага, паводле яго загаду разам з баярамі, думнымі людзьмі, недамоўленыя артыкулы ўзгодніце. І вам за тое будзе вялікая Слава! І праліццё крыві хрысціянскай спыніце! За гэта вялікая хвала Госпаду Богу Ісусу Хрысту Спасу! І ўсім Божым анёлам і ўсім сілам нябесным вялікая будзе радасць! І ад усіх людзей, якія жывуць у дзвюх дзяржавах, вам будзе багамолле!

Яго міласць пан камянецкі адказаў:

— Спадзяёмся на ласку Бога, які над усім валадарыць, што ён гаспадароў нашых і іх вялікія дзяржавы прывядзе да сумоўя і згоды пасля жорсткага кровапраліцця, на доўгі час і наступныя вякі захавае тую дабраславенную згоду. Каб паміж нашымі гаспадарамі і дзяржавамі адбылося трывалае злучэнне сілы. Каб яны прыходзілі на дапамогу супраць паганых непрыяцеляў Крыжа Хрыстова.

Маскавіты ўсталі, узнеслі рукі да неба і дзякавалі іх міласцям панам паслам за іх шчырую працу на карысць заключэння вечнага міру. Прыставы, якія некалькі дзён перад тым хадзілі, як кажуць, павесіўшы насы і вельмі сумныя, цяпер выглядалі больш жвавымі і весялейшымі, і, здаецца, былі ўсім задаволенымі.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі на дзень святога Казіміра прымаў у сябе яго міласць пана камянецкага і яго міласць пана Вяжэвіча і іншых названых іх міласцяў і сваіх слуг.

Пасля набажэнства, якое кожны дзень у яго міласці пана ваяводзіча віленскага з музыкай праводзілася, прыйшлі да яго міласці прыставы, павіншавалі з імянінамі і пажадалі, з ласкі Божай і з ласкі вялікіх гаспадароў, добрага здароўя, шчаслівага і доўгага веку.

Свае добрыя пажаданнні прыставы выказалі на іх роднай мове. Яны гэтаксама паведамілі, што ў іх існуе звычай не толькі віншаваць падчас імянін, але і дараваць узаемныя крыўды і непаразуменні.

Прыставы прасілі іх міласцяў паноў паслоў абмеркаваць дагэтуль неабгавораныя артыкулы, каб пры гэтым, аднак, не прысутнічалі іншыя асобы. І каб толькі яны, ад імя думных баяраў, упаўнаважаных на тое царом, маглі заставацца падчас размовы.

*Другі візіт да цара.*

*6 у аўторак*. Надвор'е было выдатным. Крыху слушнай выглядала крытыка іх міласцяў, што ў гэтакі дзень, нібыта, з-за непагадзі ў карэце ехаць хацелі.

А палове на адзінаццатую выехалі іх міласці паны паслы гэтакім жа парадкам, як і першы раз.

Узышоўшы на гару, накіраваліся да цара. Прайшлі праз адну ізбу і ўвайшлі ў Залатую палату. Там знаходзілася царскае атачэнне — дваране і дзякі ў строях, шатах і цэрыманіяльных вопратках. Без усялякіх перашкод яны сустракалі і праводзілі іх міласцяў паноў паслоў.

Цар сядзеў на меншым троне, чымся мінулы раз. Ён трымаў у руцэ жэзл, яблык ляжаў побач. На галаве ў яго была сабаліная шапка, а на ёй — карона, якая адрознівалася ад той, што была ў яго мінулы раз. Гэтая была менш каштоўнай. Цар сядзеў у шатах, аздобленых жэмчугам і каштоўнымі камянямі.

Палац, дзе праходзіла сустрэча, быў значна меншым, чымся той, дзе адбывалася першая аўдыенцыя. Навокал папярэдняга палаца паўсюль ішоў памост.

Неўзабаве іх міласці прыйшлі да цара і пакланіліся яму.

Пячатнік ад імя цара прамовіў да іх:

— Вялікі гасудар, цар і вялікі князь Міхайла Фёдаравіч, усяе Русі самадзержац і многіх дзяржаў гасудар і ўладальнік, вас, вялікага гасудара Уладзіслава

Чацвёртага, караля Польскага, вялікага князя Літоўскага і іншых, брата свайго, вялікіх паслоў пытаецца, ці здаровыя вы?

Іх міласці паны паслы адказвалі:

— Дзякуючы ласцы Божай, — мы здаровыя! І за такое падараванне царскай вялікасці выказваем падзяку.

Той жа пячатнік пачаў казаць зноў:

— Вялікі гасудар цар грамату вялікага гасудара Уладзіслава чытаючы слухаў, і тая, яго царскай вялікасці і нам усім баярам, думным людзям, спадабалася. На яе, яго царская вялікасць да вялікага гасудара вашага, дасць вам, вялікім паслам, сваёй граматай адказ.

У адказ на вашу просьбу і аб мірнай дамове, вялікі гасудар наш, яго царская вялікасць, загадаў баярам сваім дамовіцца з вамі, вялікімі пасламі.

Затым выступіў Васіль Іванавіч Стрэшнеў, акольнічы царскі. Ён зачытаў спіс тых думных баяраў, з якімі належала дамаўляцца. Весці перамовы з іх міласцямі пасламі даручалася — думнаму баярыну Фёдару Іванавічу Шарамецьеву; намесніку пскоўскаму, князю Дзмітрыю Міхайлавічу Пажарскаму-Старадубскаму; намесніку каломенскаму, князю Фёдару Фёдаравічу Валконскаму; акольнічаму і намесніку калужскаму, пячатніку, думнаму дзяку Івану Тарасавічу Грамаціну і думнаму дзяку Івану Апанасавічу Гаўранёву.

Пячатнік вымавіў:

— Ідзіце, вялікія паслы, дамаўляцца з намі, яго царскай вялікасці баярамі.

Яго міласць пан камянецкі папрасіў аўдыенцыі. Атрымаўшы яе, прамовіў да цара:

— Хацелі мы пачынаць наша пасольства не з таго артыкула, вялікі гаспадар, цар і вялікі князь Міхайла Фёдаравіч, усёй Русі самаўладца. Жадалі, найперш, вызвалення вязняў убогіх, бо яшчэ доўгі час да пачатку заключных запісаў і прысягі абодвух вялікіх паслоў. Яны затрыманы тут, у сталіцы, і ў іншых гарадах тваёй царскай вялікасці. Людзі з нашага народа просяць нас аб тым, каб мы тваёй царскай вялікасці білі чалом, молячы адпусціць адусюль на волю нашых палонных.

Вядома нам, што выйшаў загад тваёй царскай вялікасці, каб ніхто ў тваёй дзяржаве не наважваўся затрымліваць і хаваць нашых людзей. Знаходзяцца, аднак, такія, што не хочуць выконваць мірнай дамовы, прысягі вялікіх паслоў і загады тваёй царскай вялікасці.

Калі ён тое гаварыў, усе іх міласці паслы знялі шапкі. Бо спачатку, калі гаварылі ад караля яго міласці, то шапак не здымалі. А цяпер, калі гаварылі ад сябе, гэтак зрабілі. Але, калі іх міласці паслы нічога не гаварылі, то ўскладалі шапкі назад на галовы. І калі Грамацін гаварыў, у шапках яго слухалі і адказвалі яму. Здымалі толькі ў той момант, калі згадваўся кароль, яго міласць, або цар.

Дваране і слугі ўвесь час без шапак стаялі. Іх міласці паслы заўжды мелі лаўкі, каб прысесці.

Грамацін, выслухаўшы тыя просьбы, трохі наблізіўся да цара і пашаптаўся з ім. Затым звярнуўся да іх міласцяў паслоў са словамі:

— Па ўсім шырокім гаспадарстве выйшаў яго царскай вялікасці загад, каб з усіх гарадоў і ад баяраў усе палонныя сюды прыведзены былі. Той, хто не паслухаецца таго загаду царскага вялікасці і людзей вашых затрымае, заплаціць сваёй галавой. І ўжо прыйшлі больш за чатыры тысячы палонных з далёкіх гарадоў і цяпер яшчэ дасылаюць іх, і тут ім страву даюць. Калі тут усе збяруцца, паводле мірнага дагавору, без затрымкі, усе адпушчаныя будуць. Акрамя тых, якія па добрай волі на імя царскай вялікасці будуць цалаваць крыж.

Яго міласць пан камянецкі адказваў:

— Мы пра такіх не кажам. Кожны вольны, хто хоча, застацца. Аб тых толькі яго царскую вялікасць просім, каторыя хочуць вярнуцца да Айчызны.

Потым приставы праводзілі ад цара іх міласцяў паноў паслоў да адведнай палаты. Туды гэтаксама прыйшлі і прызначаныя для размовы раней пералічаныя баяры.

*Першая размова з баярамі.*

Баяры першымі звярнуліся да іх міласцяў паноў паслоў з наступным.

1.Чаму кароль яго міласць у сваім лісце цара не называе братам?

2.Чаму той ліст нёс нехта з тых асоб, якія ішлі пешкі? Яго мусіла несці публічная асоба, а не чалавек нізкага паходжання.

3.Чаму іх міласці паны паслы, выконваючы пасольства да цара, не здымалі шапак?

4.Чаму іх міласці паны паслы, прызначаны дзень наведвання цара, наўмысна сапсавалі?

На тое іх міласці паны паслы адказвалі баярам:

— Па той прычыне яго міласць кароль, пан наш, не называе братам вашага гаспадара, што вашы паслы, якія знаходзіліся ў туркаў, разбуралі той мір. Навошта было разбураць рэшткі прыязнасці і артыкулы вечнага замірэння?

Баяры адказалі:

— Зусім не хавалася тая справа і вялікі гасудар наш і мы, думныя баяры, усёй дзяржавай той з вамі мір абвясцілі. І паведаміў аб тым вялікі гасудар наш, яго царская вялікасць, усім навакольным вялікім гаспадарам — ангельскаму, імператару рымскаму, французскаму, дунскаму і царам — турэцкаму і татарскім.

На другі пункт баяраў іх міласці паслы адказвалі:

— Ліст караля яго міласці несла не асоба нізкага паходжання, яго нёс пан Кратоўскі, дваранін караля яго міласці, які ехаў з намі. А тое, што яго несла не публічная асоба, у тым вашая віна, бо вы нас не папярэдзілі аб гэтым.

У тым, што мы не здымалі шапак, нічога новага мы не прыўнеслі. Так рабілі, як і ранейшыя нашы паслы. Там, дзе была патрэба, не чакаючы нічыёй навукі і напамінаў, здымалі шапкі і надалей гатовыя здымаць. Як мы паступаем у вас, гэтак і вашыя паслы вольныя будуць паступаць у нас.

Дзень нашага знаходжання ў вашага гаспадара вы самі сапсавалі. Уласна на вас у значнай меры застаецца віна, бо загадвалі нам ехаць паводле вашай волі. Хоць тады нас вельмі ўразіла нечуваная рэч — падпарадкоўвацца вашаму ці царскаму загаду. Па вашай віне здарылася затрымка.

Маскавіты пярэчылі таму. Яны даводзілі, што не мелі намеру загадваць, але толькі ім, як любым братам, напаміналі.

Адказаўшы на пытанні баяраў і супакоіўшы іх, паны паслы пачалі размову аб неабгавораных артыкулах на Палянаўцы і ўключаных у даклад цару. Іх паслы перадалі баярам у пісьмовым выглядзе.

Уся гутарка заняла каля чатырох гадзін. Потым іх міласці паны паслы развіталіся з баярамі і ад’ехалі са сваімі прыставамі да пасольскага двара.

*7 у сераду.* Калі прыйшлі прыставы, іх міласці паны паслы запатрабавалі, каб яны данеслі баярам наступныя словы:

«На тыя пункты, якія іх міласці паны паслы пісьмова падалі, каб баяры далі адказ.

Дзень царскай прысягі, праз прызначаных абодвух паслоў, каб зараз быў дакладна вызначаны. Каб іх міласці паны паслы маглі пэўна ведаць дату і здолелі выправіць з паведамленнем ганца да караля яго міласці. Каб пристава да ганца выдзелелі без затрымкі».

Гэта прыставы павінны былі данесці баярам.

Іх міласці паны паслы абмеркавалі з прыставамі справы купцоў. Яны прапанавалі, каб іх купцы да нашых, а нашы да іх хадзілі і ўзаемна вольна гандлявалі. Бо цяпер паміж маскоўскімі купцамі і нашымі пачаліся непаразуменні, відаць, па

той прычыне, што маскоўскія купцы не маюць царкага ўказання. Паслы ўказвалі на тое, каб купцы не толькі маглі вольна гандляваць таварамі, але каб ім не чыніліся перашкоды іншага парадку, напрыклад, не завышаліся наўмысна кошты, дазвалялася выкарыстоўваць розныя меры.

Прыставы адказалі:

— Вялікага гаспадара нашага яго царскай вялікасці выйшаў указ і загад, і дазвол усім купцам, якія жывуць у Маскоўскай дзяржаве, каб вольна, без усялякага страху, боязі і забаронаў нашым купцам з вашымі гандляваць, прадаваць і мяняць. Ці, як хто хоча, — за любоў аддаваць. Усё так, як вы, вялікія паслы патрабуеце. Мы едзем да баяр думных паведаміць ім вашу просьбу, каб вашым з нашымі купцамі ўсялякімі мерамі вольна было гандляваць.

У той дзень адзін немец, яго міласці пана камянецкага, прадаўся маскавітам. Ён быў капітанам над пяхотай.

Увечары прынеслі прыставы ад думных баяраў запячатаную грамату. Іх міласці паны паслы не сталі адразу чытаць яе, а адклалі да раніцы.

*8 у чацвер.* Іх міласці паны паслы прачыталі грамату ад думных баяр, прынесеную ўчора.

У гэты дзень прыставы не наведваліся да іх міласці паноў паслоў.

*9 у пятніцу*. На тую грамату іх міласці паслы накіравалі цераз прыставаў адказ думным баярам.

*10 у суботу*. Прыставы абедалі ў яго міласці пана камянецкага. У той дзень аніякіх публічных спраў не абмяркоўвалі.

*11 у нядзелю*. Прыставы былі ў іх міласцяў паноў паслоў і запэўнілі ад імя думных баяраў, што неўзабаве, без усялякіх затрымак, аб недамоўленых артыкулах пачнуць весці гутарку.

*12 у панядзелак.* Увечары прыставы прыйшлі да іх міласцяў паноў паслоў і паведамілі, што цар загадаў заўтра раніцай іх міласцям быць у яго.

*Трэцяе наведванне цара іх міласцямі панамі пасламі.*

*13 у аўторак*. Трэцяе знаходжанне іх міласцяў паноў паслоў у цара. А дзясятай з паловай ад’ехалі іх міласці паны паслы з прыставамі да Крым-горада. Усёй чэлядзі, апрача тых, каго ўнізе трымаць мелі, загадалі застацца ў двары.

Перад палацам стаяў тлум, а ў палацы натоўп, што здзівіла маскавітаў.

Пры паездцы іх міласцяў паноў паслоў, на конях сядзелі і рухаліся звычайным спосабам, нічога ні дадаць і ні адняць.

Папраўдзе, маскавіты заступілі тое месца на ўсходзе, дзе іх міласці паслы звычайна сыходзілі з коней. Але настойліва і рэзка іх міласці паны паслы коньмі адціснулі маскавітаў. Некаторым са слуг дасталося нагайкамі. Дзіўная цярплівасць іх!

Сустракалі іх міласцяў паноў паслоў тыя ж дваране і дзякі, выконвалі ўсе неабходныя цырымоніі звычайным спосабам. Прамаўлялі такія ж словы, якія выкарыстоўвалі падчас першых прыездаў паслоў да цара, у тым парадку, які раней апісаны.

Праводзілі нас на гару прыставы. Падвялі нас да драўлянага палаца, які быў збудаваны накшталт залы. Ён называўся Сталовая палата. Там у той час сядзеў цар на невялічкім і непрыкметным троне. Ён быў у шатах, аздобленых жэмчугам і камянямі, у нізкай сабальковай шапцы, на якой была невялічкая карона. Цар сядзеў і трымаў у руцэ скіпетр. Яблык ляжаў непадалек ад трона, з правага боку на прадаўгаватым пяньку, які быў зроблены накшталт вежачкі і акаваны залацістым серабром.

Асабістая ахова — чатыры чалавекі, як і ў мінулыя разы, апранутыя гэтак жа і з бердышамі, сталі перад царом.

Іх міласці паны паслы ўвайшлі ўслед за слугамі і, хутка пакланіўшыся, сталі перад царом.

Думны дзяк Гаўранёў прамовіў:

— Вялікаму ўладару і цару, і вялікаму князю Міхаілу Фёдаравічу, усяе Русі самадзержцу, вялікія паслы — Аляксандр, Казімір і Пётр — чалом б'юць.

Потым для іх міласцяў паноў паслоў прынеслі лаўку, накрытую дыванам, якую яны называюць *скамекай*. Паслы селі на яе.

Ад імя цара пячатнік спытаў паслоў пра здароўе. Яны адказалі звычайным чынам.

Пячатнік падышоў да цара і ціха перамовіўся з ім. Затым ён адышоў ад цара і звярнуўся да іх міласцяў паноў паслоў.

Пячатнік сказаў:

— Вялікі гасудар наш, яго царская вялікасць вам, вялікім паслам, на тыя артыкулы, пра якія надоечы гаварылі і пісьмова прасілі, дае адказ праз тых сваіх баяраў, якія і раней з вамі дагавор чынілі.

Затым ён пералічыў усіх баяр, прызначаных для перагавораў, а сярод іх — і сябе.

Іх міласці паны паслы падзякавалі яму за гэта.

Пячатнік прапанаваў іх міласцям паслам, каб яны ішлі да іншай ізбы, у якой баяры чакалі іх для абмеркавання артыкулаў.

*Другая размова з баярамі.*

Выйшаўшы ад цара, іх міласці паны паслы накіраваліся да Адведнай палаты. Туды прыйшлі і баяры, прызначаныя для перамоваў з імі. Баяры далі іх міласцям вусны адказ, зачытаўшы яго з карткі. Потым тую картку паслам пакінулі.

У сенях Адведнай палаты стаяла мноства смачных закусак з рознымі напоямі. Хапала і сярэбраных чарак, у якіх напоі насілі ў ізбу. Налівалі ў сенях з конаўкі і давалі нашым, калі хтосьці жадаў. Кожнаму з нашых было дазволена самому выйсці ў сені і выпіць любога напою, які пажадае. Ніводзін з маскавітаў не наважваўся нават пакаштаваць пачастункаў.

У тых сенях, перад тым, мабыць, ставілі вялікія сярэбраныя бочкі, якіх зараз не было відаць. Аніякіх цынкавых пасудзін, у цара асабліва, ніхто з нашых не бачыў. Відаць, з-за вайны іх зараз не хапае.

Правёўшы ў замку ў цара і баяраў каля чатырох гадзін, іх міласці паны паслы ад'ехалі да пасольскага двара.

*14 у сераду.* Іх міласці паны паслы запатрабавалі ад прыставаў, каб яны даведаліся ў думных баяраў дакладны дзень царскай прысягі і паведамілі ім пра вызначаную дату. Гэтаксама паслы запатрабавалі, каб баяры далі прыстава для ганца.

Паслы настойвалі, каб вязняў, якіх дагэтуль затрымлівалі, адпусцілі, у адпаведнасці з заключнымі запісамі і пасольскай прысягай.

Паслы ўказвалі, што маскоўскія купцы з нашымі паступаюць крывадушна, хаваюць лепшыя тавары, а горшыя паказваюць, а таксама не ўмеюць устанаўліваць справядлівыя кошты. Належыць, каб ім было дазволена вольна гандляваць з нашымі.

Яго міласць пан камянецкі дамагаўся, каб яму дазволілі выязджаць па яго асабістых справах у карэце.

На ўсе патрабаванні паслоў прыставы абяцалі прынесці адказ ад баяраў.

*Трывога.*

Пасля апоўначы ў горадзе пачаліся забурэнні. Ва ўсіх трох мурах у Крымгорадзе нязвыкла ўдарылі ў званы і ў бубны. Гэта называлася — ударыць у набат, у які білі падчас трывогі. Адусюль да Крым-горада і на іншыя муры беглі людзі. Маскоўская конніца за горад вываліла.

Нам той лямант давялося слухаць у двары. Нас ахоўвалі пехацінцы, усе аднастайна пастрыжаныя. Яны перарвалі сон і ўхапіліся за зброю.

Пяхота яго міласці пана ваяводзіча віленскага і драгуны яго міласці пана камянецкага са стрэльбамі і запаленымі кнатамі стала ля брамы. Усе ў пасольскім двары — моладзь і слугі, чэлядзь і купцы — згрупаваліся, паводле загаду іх міласцяў паслоў, і насцярожыліся.

Розныя думкі былі з нагоды таго забурэння, асабліва з-за недаверу да таго народа. Не навіна для іх здраджваць сваім панам, а нашых забіваць! Прыходзілі на памяць іх непрыглядныя ўчынкі са сваімі гаспадарамі і нашымі пасламі. Мы асцерагаліся і нашых здраднікаў, якіх у Маскве было больш за дзве тысячы, каб яны не ўздумалі сесці на карак іх міласці панам паслам, каб выбрацца з Масквы.

Да раніцы беспарадкі пачалі сціхаць. Але мы ўсе ажно да белага дня гатовыя былі да розных нечаканасцей. Не маглі ні ад каго дакладна даведацца аб прычынах таго забурэння. Сапраўды, бачылі невялікі агонь у Белым горадзе. Але з-за такога малога пажару не ўзнік бы гэтакі сполах!?

Калі нашы пачалі выходзіць з двара і пытацца пра прычыны тлуму, маскавіты на гэты раз былі на дзіва інфармаваныя і ўсе гаварылі, што прычынай стаўся пажар. Усе аднастайна, каго мы ні запытвалі, баяраў або простых людзей, тыя называлі галоўнай прычынай пажар. Яны распавядалі, што нядаўна перад тым горад выгараў дашчэнту. З-за пажару людзі аказваліся ў вялікай небяспецы. Таму ўсе прывыклі бегчы гасіць пажар, каб ратаваць горад і сябе.

Толькі потым іх міласці паны паслы даведаліся ад надзейных людзей аб сапраўдных прычынах той бурды. Як мы дачуліся, падчас нашага знаходжання ў Маскве, татары ўзімку напалі на Маскоўскую дзяржаву і ўчынілі краіне вялікую шкоду. Маскавіты хавалі ад нас тое. Іх міласці паслы, аднак, пры той аказіі, выпыталі і дакладна даведаліся, што татары спалілі горад Ялец і ўзялі вялікі палон. А той горад Ялец знаходзіцца ў 50 мілях ад сталіцы, усяго два дні язды для татараў.

З таго татарскага войска ў тую ноч у Маскву прывялі 16 палонных.

Менавіта таму беглі на муры і ў поле, што баяліся татарскага нападу. А халупы запалілі ў Белым горадзе менавіта для таго, каб людзі, якія прыбеглі туды, даведаліся ад асоб, на тое прызначаных, аб сапраўднай небяспецы ад татараў. Іншыя, аднак, даводзілі нам тое, што падпал зрабілі наўмысна, каб мы не даведаліся пра існаванне сапраўднай небяспекі для Масквы з боку татараў. Каб мы падумалі, што тыя забурэнні ўзніклі з-за пажару.

*15 у чацвер*. Прыставы ад імя думных баяраў адказалі іх міласці панам паслам:

— Паведамілі вашы словы думным царскай вялікасці баярам, і яны вам, вялікім паслам, адказ праз нас даюць, што хроснае царскае цалаванне будзе неўзабаве. І вы, вялікія паслы, паміж сабой думайце, калі маеце яшчэ якія-небудзь артыкулы недамоўленыя, і калі не маеце, альбо, калі маеце, то агучце ў тую пару, калі ў вялікага гасудара нашага будзеце. І вялікі гасудар наш, яго царская вялікасць, абавязкова дзень пэўны свайго царскага цалавання вам абʼявіць загадае.

Пристава да ганца можна даць. Таксама загадалі паведаміць вам, думныя баяры, што другі ваш ганец да вас, вялікіх паслоў, ідзе. І лепш бы тое было, калі ён прыйдзе, і вам у тую пару, ведаючы пра дакладна прызначаны час царскага хроснага цалавання, адпусціць ганца з любіцельнай справай.

Усіх вязняў вашых адпускаюць пасля хроснага цалавання. Нікога сілай не затрымоўваючы, акрамя тых, якія на гасударава імя самі захочуць застацца і крыж цалаваць. А тых, якія хочуць у Літву, усіх адпускаюць да мяжы. І корм, і падводы паводле ўказу царскай вялікасці даюць. А калі вы нам не верыце, што шмат вашых вязняў на імя гасударава крыж хочуць цалаваць, то вам варта пасла́ць да іх сваіх дваран і спытаць пра тое.

Купцам усім не забараняецца з вашымі купцамі гандляваць. І калі хто асмеліцца вашым купцам перашкаджаць, няхай яны нам паведамяць. І паводле ўказу царскай вялікасці мы вінаватага пакараем.

А што ты, камянецкі, хочаш у фурманцы на прагулянку ехаць, на тое няма адказу.

Яго міласць пан ваяводзіч віленскі даведаўся ад прыставаў, што нядаўна з розных гарадоў прыслалі некалькі сот вязняў. Сярод іх было некалькі дзясяткаў з маёнтка яго міласці пана маршалка Вялікага Княства Літоўскага Горскага. Таму ён паслаў да іх свайго слугу пана Станіслава Кошчыца, каб ён запытаўся ў іх у прысутнасці маскавітаў, хто з іх хоча вярнуцца да Айчызны. Усе палонныя ў адзін голас папрасіліся, каб іх дамоў адпусцілі. А дзве жанчыны, якія выйшлі за татараў, хаця і сваіх мужоў мелі, пажадалі застацца і заявілі аб тым, што ім лепей застацца тут, у татараў.

*16 у пятніцу*. Приставы не прыходзілі да іх міласцяў паноў паслоў, таму ні пра якія рэчы з імі перагаварыць не ўдалося. А калі прыставы бывалі ў іх міласці паноў паслоў раней, заўжды пыталіся пра час і заўжды на іх спатканне выходзіў пан Кратоўскі.

*17 у суботу*. Іх міласці паны паслы перадалі праз прыставаў для думных баяраў дзве граматы і пільна прасілі прызначэння пэўнага дня царскай прысягі.

Увечары прыйшлі прыставы і паведамілі панам паслам:

— Раніцай вам, вялікім паслам, вялікі гасудар наш, яго царская вялікасць, загадаў быць на перамовах з баярамі. Калі мы прынеслі баярам граматы ад вас, яны адклалі іх на наступны дзень, каб даць вам адказ. У панядзелак будзеце з імі на размове.

*18 у нядзелю*. У яго міласці пана ваяводзіча віленскага на абедзе былі прыставы. Калі яго міласць за здароўе караля і за здароўе іх гаспадара піў, яны гэтаксама пілі за іх здароўе. Яны не ўстрымаліся і абышлі ўсіх наўкол, хто сядзеў за сталом. Потым пілі за здароўе царскіх дзяцей і яны зноў з такімі ж рэверансамі абышлі ўсіх за сталом.

Адышлі прыставы вясёлыя, нахвальваючы венгерскае віно, якога яны, апроч він заморскіх, не мелі.

*19 у панядзелак*. Пасля паведамлення прыставаў іх міласці паны паслы ехалі да Крым-горада. Але там не былі ў цара, а толькі з баярамі ў Адведнай палаце зносіліся.

*20 у аўторак*. Пра прыстава для іх ганца іх міласці паны паслы гаварылі прыставам. Яны адзначылі, што прыстаў гатовы, і калі спатрэбіцца, зараз жа будзе ў двары.

*21 у сераду*. Царскім імем прыставы дазволілі іх міласці панам паслам ездзіць на прагулкі ў карэце. Яго міласць пан ваяводзіч віленскі, які іх аб тым не прасіў, таму і не дзякаваў. Ён і не збіраўся нікуды ездзіць, але яго моцна прасіў пан камянецкі, каб склаў яму кампанію і даў згоду. Двойчы пан камянецкі дасылаў свайго прыяцеля пана Кратоўскага, які прасіў пана ваяводзіча віленскага, каб той не адмаўляўся і паехаў разам з ім. На трэці раз пан Кратоўскі перадаў пану ваяводзічы віленскаму, што пан камянецкі гэтаксама нікуды не паедзе, калі той адмовіцца, ці, у крайнім выпадку, не загадае сваім слугам дзеля асістэнцыі ехаць з панам камянецкім. Варта, каб і ён сваіх людзей паказаў на публіцы, што будзе не лішнім.

У адказ на настойлівыя просьбы, пан ваяводзіч віленскі загадаў усім сваім людзям элегантна апрануцца. Належна падрыхтаваўшыся, яго міласць пан ваяводзіч віленскі выехаў у карэце.

Прыставы ў сваіх вазках, запрэжаных па аднаму каню, ехалі звычайна побач з карэтай, а, часам, і перад карэтай.

З горада нас праводзілі цераз Пакроўскую браму, у кірунку Рубцова сяла, якое знаходзілася ў чвэрці мілі ад горада. Як распавядалі прыставы, менавіта туды часта прыязджае цар для ўцехі і адпачынку. У тым сяле ёсць мураваная царква Пакрова.

З таго фальварка вярталіся назад цераз Краснае сяло, бачылі з правага боку Ямскую слабаду.

Праводзілі нас у Белы горад праз Цвярскую браму.

На той прагулцы іх міласці паны паслы правялі каля дзвюх гадзін. Яны не мелі аніводнай уцехі і, не ўбачыўшы нічога вартага, вярнуліся ў пасольскі двор.

*22 у чацвер*. Прыставы паведамілі іх міласці панам паслам, што заўтра зранку ім варта быць у замку на сустрэчы.

У той жа дзень іх міласці паны паслы адправілі ганца Грабоўскага, чалядніка пана камянецкага, з лістамі да караля яго міласці. Пан Грабоўскі перад тым якраз прывёз лісты ад караля яго міласці. Назад яго суправаджаў прыстаў. З Грабоўскім ад’ехалі некалькі нашых купцоў з таварамі, а таксама тыя людзі, якія прыехалі з іх міласцямі, каб адшукаць і вызваліць з палону сваіх кроўных. З імі адпусцілі ўсяго каля 60 чалавек вызваленых палонных.

*23 у пятніцу*. Іх міласці паны паслы былі ў баяраў на спатканні.

Адказ ім з карткі прачытаў Гаўранёў.

Потым, паміж іншымі прыватнымі размовамі, паведаміў ім пячатнік, што сюды, у часы караля Аляксандра, Іван Сапега перадаў каштоўны звон для царквы. Той звон і дагэтуль знаходзіцца ў сталіцы ў той жа царкве.

Увечары пасланец з Вялікага Княства Літоўскага Міхалевіч прывёз ад двара лісты да іх міласцяў паноў паслоў. Пра тое, што ён ідзе, маскавіты паведамілі панам паслам паўтара тыдня назад. Але недзе яго доўгі час затрымлівалі.

*24 у суботу*. Іх міласці паны паслы прасілі праз прыставаў думных баяр, каб яны той адказ, які ім надоечы зачыталі з карткі, даслалі ў пісьмовым выглядзе.

У тую ноч у Белай крэпасці згарэлі некалькі дамоў. Але аніякага тлуму і трывогі не назіралася. Хаця пажар быў дзесяцікроць большым, чымся папярэдні, усё было ціха, нібыта не існавала аніякай небяспекі. Ні ў званы, ні ў набат не білі. Прыставы, прыехаўшы да пасольскага двара, загадалі варце, каб іх міласцяў паноў паслоў нават не будзілі. Яны сказалі:

— Шмат ёсць гасударавых людзей. Ёсць каму абараняць і гасіць. Сюды, да пасольскага двара, агонь не прыйдзе.

*25 у нядзелю*. Іх міласці паны паслы былі на сустрэчы з думнымі баярамі ў Адведнай ізбе.

Калі яны вярталіся з замка і ўжо ўязджалі ў пасольскі двор, адбылося здарэнне. Адзін з нашых вязняў, якога доўга трымалі ў цяжкім палоне і гвалтам змусілі прысягнуць на царскае імя, ўплішчыўся сярод моладзі, якая ехала з іх міласцю панамі пасламі, і хацеў трапіць у пасольскі двор.

Маскавіты падсцераглі вязня і кінуліся за ім, каб схапіць яго. Нашыя захацелі яго павесці з сабой, і пабілі стральцоў, якія пагналіся за ім, абухамі. Затым нашы адціснулі стральцоў коньмі і той вязень знік з іх вачэй, схаваўшыся недзе паміж забудовамі.

Прыставы былі на абедзе ў яго міласці пана Вяжэвіча. Потым, вярнуўшыся да сябе, паслалі да пана Пястрэцкага, старшага слугі яго міласці пана ваяводзіча віленскага, просячы, каб яны маглі ўбачыць таго чалавека, які заскочыў у двор і схаваўся. Яны хацелі дапытаць яго, якім чынам і пры якіх абставінах ён прысягаў на царскае імя. Паколькі, без яго міласці пана ваяводзіча віленскага тое адбыцца не магло, яго міласць паслаў да прыставаў, каб паведаміць, што хоча таго чалавека ім перадаць. Адзінае, што ён запатрабаваў ад прыставаў, каб яны, дапытаўшы таго чалавека, не затрымлівалі яго ў сябе і дазволілі вярнуцца назад, да слуг яго міласці.

Прыставы былі ўдзячныя яго міласці ваяводзічу віленскаму за яго ўчынак, але запатрабавалі, каб той уцякач пабыў у іх распараджэнні адну ноч. Яго міласць ні ў якай меры не хацеў згаджацца на тое, каб палонны заставаўся ў іх на ноч. Але прыставы паабяцалі, што пасля допыту адпусцяць яго без усялякай затрымкі. Яго міласць у суправаджэнні сваіх слуг адаслаў таго чалавека да прыставаў. Яны

даведаліся ад палоннага, якім шляхам і ў якіх абставінах той цалаваў крыж на царскае імя, адпусцілі яго.

*26 у панядзелак*. Прыставы, прыйшоўшы да яго міласці пана ваяводзіча віленскага, дзякавалі яму ад думных баяраў і ад сябе асабіста, што не схаваў таго вязня, а дазволіў ім дапытаць яго. Паколькі высветлілася, што той палонны не здраднік, яму дазволена без перашкодаў вяртацца дадому. А той, хто яго несправядліва ўтрымліваў у палоне, будзе пакараны. Тое паведаміўшы, прыставы адышлі ад яго міласці.

Пазней дзяк Няміраў прынёс да іх міласці паноў паслоў спіс усіх вязняў, якіх яны, паводле заключнага пакта, адпускалі.

*27 у аўторак*. Праз сваіх прыставаў цар ад імя свайго сына Аляксея адарыў іх міласцяў паноў паслоў рознымі неардынарнымі пачастункамі і напоямі.

У той дзень у маскавітаў надарылася вялікая гулянка. І цар, здаецца, запрашаў да сябе на банкет думных баяраў.

*28 у сераду*. Іх міласці паны паслы былі ў замку на спатканні з думнымі баярамі.

*29 у чацвер.* Пасля працяглай цяганіны і настойлівых патрабаванняў паслоў быў канчаткова прызначаны пэўны дзень цалавання крыжа царом.

У дзесяць гадзін раніцы паслы выехалі ў Крэмль звычайным парадкам. Прыставы суправаджалі іх на гару, да Адведнай палаты. Там паслы затрымаліся з баярамі гадзіны на дзве. Затым паслоў апавясцілі, што ім варта ісці да цара. Без усялякіх перашкод і непаразуменняў паслы ў адпаведнасці з пасольскімі звычаямі здзяйснялі неабходныя цырымоніі. Яны сваімі ўчынкамі выказвалі павагу да цара.

Цар знаходзіўся ў Залатой палаце. У дарагой вопратцы ён сядзеў на троне. На яго галаве была нізкая карона, у руцэ ён трымаў скіпетр. Каля яго знаходзіўся яблык з крыжам.

Увайшоўшы да цара, паслы пакланіліся яму, зняўшы шапкі. Царскі акольнічы Стрэшнеў паведамляў цару, што першымі яму б’юць чалом паслы з Вільні, а затым б’юць яму чалом дваране. Цар спачатку пытаўся паноў паслоў пра іх здароўе, а затым пытаўся дваран пра іх здароўе.

Падзякаваўшы за царскую ўвагу, паслы і дваране адказалі, што здаровыя, дзякуючы Божай міласці.

Затым прынеслі лаўкі, накрытыя дыванамі. Паслы размясціліся на іх.

Пячатнік Іван Грамацін, зняўшы шапку, звярнуўся да паслоў:

— Вялікі гаспадар, цар і вялікі князь Міхайла Фёдаравіч, усяе Русі самадзержац і многіх дзяржаў гаспадар і ўладальнік, вялікага гаспадара Уладзіслава IV, брата свайго, караля польскага, вялікага князя літоўскага і іншых, вам, вялікім паслам, паведаміць загадаў.

Варта рабіць і выконваць усё гэтак, як нашы вялікія паслы з вялікімі пасламі гаспадара вашага пастанавілі на рэчцы Палянаўцы. Каб мы ўсталявалі вечны мір паміж нашымі вялікімі дзяржавамі, змацавалі яго сваімі душамі, пячаткамі і рукамі.

Усё, пра што вы, вялікія паслы, з баярамі і з нашымі думнымі людзьмі, з загаду нашага гаспадарскага, дамовіліся, усё тое, мы, вялікі гаспадар, цар і вялікі князь Міхайла Фёдаравіч, усяе Русі самадзержац і многіх дзяржаў гаспадар і ўладальнік, жадаем заключнай перамірнай граматай і пячаткай зацвердзіць і ўмацаваць нашай душой.

Усё, што запісана ў той заключнай грамаце, мы будзем цвёрда і няўхільна выконваць.

З вашым вялікім гаспадаром Уладзіславам Чацвёртым, каралём польскім і вялікім князем літоўскім і іншых, нашым братам, нам быць у брацкай дружбе і любові.

Спадзяёмся, што і наш брат, ваш вялікі васпан, таксама будзе выконваць тую заключную грамату і мірны дагавор.

Пячатнік Іван Грамацін казаў, нібы царскімі вуснамі. Іх міласці паслы слухалі яго, зняўшы шапкі.

Затым пячатнік падышоў да цара і ціха пра штосьці размаўляў з ім. Потым ён звярнуўся да паслоў:

— Наш цар і вялікі гаспадар хоча цалаваць крыж у пацверджанне таго, што запісана ў заключнай грамаце.

Паслы ўсталі са сваіх месцаў і наблізіліся да цара. Думныя баяры таксама сталі з двух бакоў трона перад царом. Затым усталявалі высокі столік, накшталт пюпітра. Ён быў накрыты царкоўным покрывам. На стале ляжаў крыж. Цар устаў са свайго трона, сышоў па прыступках і схіліў сваю галаву для зняцця кароны. Карону з царскай галавы зняў яго дзядзька Мікіціч і трымаў яе ў руках. Цар, стоячы, здзяйсняў прысягу, прамаўляючы наступныя словы:

— Божым наказам, мы, вялікі гаспадар, цар і вялікі князь Міхаіл Фёдаравіч, усяе Русі самадзержац і многіх дзяржаў гаспадар і ўладальнік, вялікаму гаспадару Уладзіславу Чацвёртаму, брату нашаму, каралю польскаму, вялікаму князю літоўскаму і іншых, гэты жыватворчы крыж цалуем. Усё тое, што запісана ў заключнай грамаце, будзем непарушна выконваць на вякі.

Сказаўшы тыя словы, цар схіліўся і пацалаваў крыж. Затым ён зноў надзеў карону і шапку і сеў на трон. Падчас прысягі баяры трымалі адкрытым заключны пакт. Калі цар зноў сеў, яны загарнулі пакт у чырвоную кітайку, і цар са сваіх рук аддаў пакт паслам. Яны ўсе разам узялі яго з царскіх рук.

Яго міласць пан Песачынскі звярнуўся да цара, павіншаваўшы яго з мірам. Ён пажадаў цару доўгага і шчаслівага валадарання і каб яго сын Аляксей, заняўшы месца свайго бацькі, таксама шчасліва валодаў дзяржавай.

Пячатнік Іван Грамацін, мабыць, не зразумеў слоў пасла, бо нічога на іх не адказаў. Ён толькі сказаў:

— Цяпер едзьце ў пасольскі двор. Царскі стол будзе потым.

Падчас знаходжання паслоў у цара ім усім кожны раз дазвалялася свабодна ўваходзіць у палаты, дзе жыў цар. Перад пасламі звычайна ішлі слугі, а ўслед за імі — маладыя людзі. Праціснулася нямала і чэлядзі. Нікому з простых людзей і вознікаў маскавіты не рашыліся забараняць уваход. Аднак, пан Сапега, віленскі ваяводзіч, даручыў свайму пяхотнаму ротмістру стаць з пяхотай ля ўвахода і ў дзверы і не прапускаць чэлядзь.

Выйшаўшы ад цара, паслы накіраваліся да свайго двара. Мсціслаўскі войскі, пан Мадаленскі, нёс наперадзе паслоў пакт аб вечным міры. Надвор'е сапсавалася, ішоў дождж уперамешку са снегам. А перад самай прысягай распагодзілася, было вельмі яснае надвор'е.

Неўзабаве паслы прыехалі ў двор. Да іх прыйшоў дзяк і паведаміў, што цар, выказваючы паслам сваю павагу, даслаў ім ежу і напоі.

Сышоўшы з коней, паслы ўсе разам накіраваліся да пана Песачынскага, дзе пан Мадаленскі паклаў на стол пакт аб вечным міры. Пан Вяжэвіч, як пісар і сакратар пасольскай місіі, хацеў забраць дакумент да сябе. Аднак пан Песачынскі папрасіў пакінуць той пакт на ноч у яго. Ён выказаў жаданне яшчэ раз перачытаць артыкулы вечнага міру.

Песачынскі тады сказаў:

— Пакт нікуды не знікне. Перачытаўшы артыкулы, я адпраўлю іх да вашай міласці і да пана Сапегі.

Я давяраў яго словам. Тым больш, што ні хто-небудзь адзін з нас, а ўсе мы ўтрох мелі права ведаць пра змест пакта. Таму яму не пярэчыў ні пан Вяжэвіч, ні пан Сапега. Утрох яны павінны былі ўсё ўзгадняць і знаходзіць паразуменне.

*30 у пятніцу.* Яго міласць пан Сапега, ваяводзіч віленскі, пажадаў яшчэ раз праглядзець артыкулы пакта. Ён паслаў па дакумент да пана Песачынскага. Аднак той не захацеў адсылаць пакт Сапегу. Песачынскі спасылаўся на тое, што дакумент не варта аддаваць яшчэ ў чые-небудзь рукі. Тады я асабіста заняўся гэтым пытаннем і сустрэўся з панам Песачынскім.

Праз некаторы час пан Песачынскі прыйшоў да пана Сапегі. Тут канчаткова праяснілася сутнасць учарашніх хітрыкаў з затрымкай пакта ў пана Песачынскага. Ён пачаў абмяркоўваць з Сапегам пытанне аб тым, у каго павінен захоўвацца падпісаны пакт. Яго міласць пан Сапега незвычайна здзівіўся такой несумленнасці, паколькі сам з'яўляўся ўзорам ветлівасці і добрага выхавання.

Віленскі ваяводзіч прамовіў:

— На справе выйшла так, як маскоўскія цары прывыклі казаць: «Думайце баяры, што цар надумаў». Ваша міласць абышлі нас у сваёй хітрасці. Вы займелі пакт у свае рукі, і зараз пачынаеце непатрэбныя высвятленні, пытаючыся, у каго ён павінен захоўвацца. Відавочна, ваша міласць адзін хоча зжаць тое, што мы ўсе разам пасеялі. Шкада, што ўсё гэта адбываецца ў чужой дзяржаве і можа быць не правільна вытлумачана рускім народам. Інакш вы б не пазбеглі заслужанага пакарання.

Пан Песачынскі адказваў яму:

— Я толькі хацеў засцерагчы сябе і супакоіць вашу вялікасць.

Яго міласць пан Песачынскі развітаўся і сышоў.

Да паслоў прыйшлі прыставы і папрасілі скласці спіс асоб, якія будуць прысутнічаць за царскім сталом. З-за спісу адбылася другая сутычка.

Пан Песачынскі хацеў, каб за царскім сталом сядзелі ў той чарговасці, у якой ажыццяўлялася прывітанне цара. Ён не жадаў лічыцца з тым фактам, што з панам Сапегам прыехала шмат знакамітых асоб, важных земскіх (дзяржаўных) чыноўнікаў. Песачынскі настойваў на тым, каб з аднаго боку стала сядзелі прыяцелі пана Сапегі, а з другога боку — яго людзі.

Яго міласць пан Сапега, убачыўшы працяглае абдумванне панам Песачынскім і затрымку ім спіса, асабіста пайшоў да яго. Прыйшоўшы да Песачынскага, Сапега спытаў:

— Можа, ужо досыць высокіх разважанняў?

Пан Песачынскі абурыўся:

— Прыходзіш да мяне раптоўна і без папярэджання. Я пакуль не магу нічога сказаць.

Яго міласць пан Сапега сказаў:

— Ваша міласць ставіць нас у цяжкае становішча, паколькі яшчэ нічога не пачынаў. Што да вашых разважанняў, то я вельмі дзіўлюся. Чаму вы нам, годным людзям, не верыце, хоць сам кароль нам давярае? Чаму ты пакт скраў і трымаеш у сябе?

Пан Песачынскі парырываў Сапегу:

— Таму не веру, што асцерагаюся, як бы ваша міласць пакт у сябе не схаваў. Патрэбныя нейкія пацверджанні і зарука.

Пан Сапега спытаў:

— Скажы, ваша міласць, чым трэба пацвярджаць? Калі крывёю, то будзь упэўнены, што і з вашай міласці таксама не малако пацячэ. І шлях да Варшавы можа вам здацца вельмі далёкім.

Пан Песачынскі адказваў:

— Ваша міласць можа стаць мне на шляху і разбіць мяне. Я гатовы развітацца з маім жыццём.

Пан Сапега адплаціў яму за тыя яго словы:

— Ці не вучыліся разбіваць! Далёка ад Бескід жывём, аднак свайго дамагацца ўмеем. Ваша міласць — стары палкоўнік. Але будзьце ўпэўненыя, і ў мяне сэрца жаўнера. Да нашай Айчыны далёка, але і тут, за сталіцай, ёсць прасторнае поле, дзе можна пазмагацца.

Пан Песачынскі адказваў:

— Я цаню вашу ласку і вашу вайсковую мужнасць. Але і я не такі тоўсты і бездапаможны, каб не змог абараніць сябе.

Пан Сапега адказваў яму:

— Кожны ясна бачыць і прызнае, што пакт не належыць вам. Ваш учынак варта расцэньваць адназначна. Вы беспадстаўна затрымалі пакт у сябе, а прасцей сказаць — скралі. Цяпер усім трэба баяцца вашай напускной сумленнасці і пачцівасці, за якімі хаваецца хлусня. У пана Вяжэвіча, а не ў вашай міласці павінен захоўвацца пакт.

Пасля сваркі, якая доўжылася некалькі гадзін, вялікія паслы, нарэшце, разышліся. Пан Вяжэвіч, якога дадзенае пытанне датычылася ў першую чаргу, а таксама пан Мадаленскі, з'яўляліся пасрэднікамі ў дыскусіі паміж вялікімі пасламі.

Пасля працяглых спрэчак і ўзаемных папрокаў, паслы ўсё ж знайшлі згоду: захоўваць пакт у асобным сейфе з трыма замкамі. Па адным ключы атрымліваў кожны, каб ніхто ў адзіночку не меў доступу да пакта. Толькі пасля ўзгаднення і сустрэчы ўтрох, можна было адкрыць сейф і перадаць дакумент каралю. Таксама пастанавілі, што сейф будзе знаходзіцца на захоўванні ў пана Песачынскага.

*31 у суботу*. Паны паслы сустрэліся і паклалі пакт у сейф з трыма замкамі, спецыяльна набыты для гэтай мэты. Сейф замкнулі і перадалі пану Песачынскаму. Аднак пан Сапега пакінуў усе тры ключы ў сябе.

Неўзабаве пан Песачынскі даслаў да пана Сапегі свайго чалавека з патрабаваннем аддаць яму адзін ключ, як яны дамовіліся раней. Пан Сапега адмовіўся даваць ключ. Ён папрасіў на словах перадаць Песачынскаму:

— Дастаткова і таго, што ў пана Песачынскага знаходзіцца сейф. А ў мяне няхай застануцца ключы. У яго не будзе чым адкрываць, а ў мяне не будзе што адкрываць.

Пан Песачынскі быў уражаны учынкам Сапегі, які не выканаў дамоўленасцей і выказаў яму недавер. Песачынскі гнеўна абураўся тым, што пан Сапега называў яго злодзеем, а сам не аддаў яму ніводнага ключа.

*У цара на банкеце*.

У дзесяць гадзін прыехалі прыставы і запрасілі вялікіх паслоў у замак на абед.

Прыбыўшы ў замак, паслы адправіліся да цара на гару. У той час ён размяшчаўся там, у Залатых палатах. Паслоў і дваран ад царскага імя спыталі пра здароўе. Пры сустрэчы з баярамі і дзякамі вялікія паслы здзяйснялі неабходныя цырымоніі.

Калі іх міласці паны паслы селі, цар сказаў:

— Вялікія паслы, запрашаю вас да стала.

Пячатнік Іван Грамацін прапанаваў паслам накіроўвацца ў Адведную палату. Але паслы крыху затрымаліся. Пан Сапега папрасіў аб аўдыенцыі ў цара і атрымаў яе. Ад імя караля пан Сапега звярнуўся да цара з просьбай вызваліць з палону Рыгора Торна і Іосіфа Грыгаровіча — паслоў імператара Святой Рымскай Імперыі. Яны накіроўваліся з пасольствам у Персію, але былі затрыманыя і амаль 20 гадоў знаходзіліся ў цяжкай няволі. Цяпер кароль прасіў у цара аб іх вызваленні.

Пячатнік Іван Грамацін наблізіўся да цара і спытаўся ў яго, што яму належыць адказаць Сапегу.

Неўзабаве пячатнік адышоў ад цара і паведаміў:

— Вялікі гаспадар наш, яго царская вялікасць, для вялікага гаспадара вашага, свайго брата, дзеля братняй дружбы і любові, згодны выканаць вашу просьбу. Ён загадвае вызваліць тых людзей нямецкага імператара, калі яны будуць знойдзеныя жывымі.

Паны паслы пакланіліся цару, адышлі да Адведнай палаты. Там гадзіны дзве яны знаходзіліся разам з прыставамі. Затым прыйшоў князь Васіль Машукоў-Чаркаскі і папрасіў паслоў да царскага стала. Ён праводзіў паслоў да Гранавітай палаты. Па шляху баяры трохразова сустракалі іх. Паслы раскланьваліся з баярамі і неўзабаве паўсталі перад царом.

Пячатнік Іван Грамацін ад царскага імя папрасіў паслоў садзіцца за стол.

У Гранавітай палаце стаялі чатыры сталы. За першым сталом сядзеў сам цар на троне, без кароны, у шапцы з чорна-бурай лісіцы. На ім было плацце, падшытае сабалямі. Перад ім ніхто не стаяў, акрамя крайчага і падчашага. Не было таксама і тых чатырох целаахоўнікаў.

Другі стол знаходзіўся справа ад цара, у шасці кроках ад яго. Ён размяшчаўся ўпоперак ізбы. За ім сядзелі думныя баяры. Першым сярод іх быў князь Чаркаскі. Перад ім сядзеў пратапоп саборнай царквы Звеставання Мікіта Васілевіч — царскі духоўнік. У той царкве цар звычайна прысутнічаў на службе.

Трэці стол, такі ж, як і другі, знаходзіўся злева ад цара. За ім сядзелі іх міласці паны вялікія паслы. Перад імі сядзеў царскі баярын Буйносаў, сляпы на адно вока і з бяльмом. За ім сядзелі прыставы і дзякі. Далей сядзелі дваране і іншыя паны. Тут жа размяшчаліся і маладыя людзі, якія прыбылі ў складзе пасольства.

Чацвёрты стол знаходзіўся паблізу калоны. Ён размяшчаўся пасярэдзіне палаты. За ім сядзелі паны і маладыя людзі, якія не змясціліся за пасольскім сталом. Каля калоны і пасярэдзіне палаты стаяла прыслуга і шэсць шэрагаў са сталовымі прыборамі. Усе сталы былі накрыты абрусамі. На іх не было ніводнай талеркі.

Абед пачаўся ў гадзіну пасля апоўдня. Спачатку крайчы Васіль Енішавіч Суляшоў паднёс цару тонка нарэзанага хлеба, накшталт бісквіта. Цар спачатку паслаў праз свайго крайчага кавалачак таго хлеба Чаркаскаму, а затым — пану Аляксандру Песачынскаму. Потым зноў некаму са сваіх думных баяраў. Потым, пану Сапегу. Пану Мадаленскаму падалі вялікі кавалак нарэзанага хлеба. Перад усімі гасцямі і баярамі былі пакладзены тыя хлябцы. Але яны падаваліся не для стравы, а замест талерак.

Затым да цара паднеслі напоі. Той жа крайчы, разам з іншым, — Лявонам Апанасавічам Пляшчэевым, падавалі напоі цару ў вялікіх кубках. Затым цар з іх наліваў напоі ў куфлі. Асобны падчашы — Барыс Аляксандравіч Рэпнін-Абаленскі — спрабаваў кожны напой. Пасля яго цар піў з чары. Потым па чарзе пілі думныя баяры і паны паслы.

Цар піў гарэлку з невялікага крыштальнага келіха. Такія ж келіхі паставілі і паслам перад ужываннем розных страў. Налівалі раманею, мальвазію, петэрсэмон, піва і гарэлку.

У той час стольнікі, узяўшыся за рукі, парамі здзяйснялі вакол калоны нейкую працэсію. Яны не кланяліся цару і не здымалі шапак. Абышоўшы калону, яны выходзілі за дзверы, а праз некаторы час вярталіся з ежай. Спачатку яны прынеслі чорнай і чырвонай ікры, шмат цытрын, якія яны называлі халоднымі закускамі.

Першым стравы спрабаваў цар, затым яны падаваліся думным баярам, а затым — вялікім паслам. А пасля — усім іншым удзельнікам царскага застолля.

Крайчы Суляшоў, калі падносіў паслам чарговы напой ці страву, заўсёды казаў:

— Цар і вялікі князь падае.

А затым ён называў імя таго з вялікіх паслоў, каму падаваў напой або страву — Аляксандр Песачынскі, Казімір Львовіч Сапега і гэтак далей.

Ад царскага стала крайчы падаў пяць страў. Усяго было пададзена 12 страў. Адна страва змянялася другой. Частка з іх засталіся некранутымі нашымі, бо не ўсё прыходзілася даспадобы. Асабліва тыя прыйшліся не даспадобы, якія былі запраўлены цыбуляй і часнаком. Асобныя стравы былі прыгатаваныя без солі, таму на стале ўсюды густа стаялі срэбныя сальнічкі, у адпаведнасці з іх звычаямі. Прыборы на сталах былі з волава. Падобнага нашы людзі раней не бачылі ў сваіх краях. У нас было прынята ўсё падаваць на срэбры, а ў выпадку асаблівай пашаны — на залатых місках і паўмісках. Тут гэтага няма і ў паміне. Мабыць, царскай скарбніцы перад тым былі нанесены вялікія страты.

Перад сталом, дзе сядзелі паны паслы, стаў чашнік Юрый Андрэевіч Сіцкой-Яраслаўскі і яго другі таварыш. Ён браў у стольнікаў напоі і стравы, а затым аддаваў іх паслам са словамі:

— Цар і вялікі князь падае.

Паставіўшы пачастункі на стол, чашнік называў імя вялікага пасла. Той жа чашнік падаваў пачастункі і астатнім дваранам. Імя кожнага, перад якім ён ставіў страву або наліваў напой, чашнік зачытваў па рэестры. Той рэестр прыставы атрымалі ад іх міласці паноў паслоў. Маскавіты зрабілі з яго свой спіс і карысталіся ім.

У сярэдзіне абеду царскі акольнічы Стрэшнеў паведаміў паслам:

— Вялікі гаспадар, цар і вялікі князь Міхайла Фёдаравіч, усяе Русі самадзержац і многіх дзяржаў гаспадар і ўладальнік, яго царская вялікасць, п'е за здароўе вялікага гаспадара Уладзіслава Чацвёртага — свайго брата, караля польскага, вялікага князя літоўскага і іншых.

Цар устаў і пачаў піць. Паны паслы падняліся са сваіх месцаў і на тры крокі ад свайго стала сталі перад царом, чакаючы пакуль той вып'е. Калі цар выпіў да дна, паслы селі па сваіх месцах.

Стравы падавалі адна за адной. Затым пачалі падаваць мёд — вішнёвы, малінавы, парэчкавы, патачны.

Калі ад цара што-небудзь падавалі прыставам, яны ўставалі з-за стала і нізка кланяліся цару.

Ніхто з думных баяраў не піў за іх міласць паноў паслоў. Толькі калі ім падавалі ад царскага імя пачастунак, яны спачатку кланяліся цару, а затым здалёк кланяліся паслам. Думныя баяры сядзелі ў белых футрах, мабыць, пабеленых, не накрытых ніякай матэрыяй.

Той банкет доўжыўся да самай ночы. Калі стравы прыбралі са сталоў, перад царом паставілі некалькі падносаў з алівамі. Цар дазволіў стольнікам браць сваімі рукамі па дзве аліўкі, у знак сваёй павагі да іх. Яны адзін за адным ахвотна бралі аліўкі і ўцякалі. Калі ўсім стольнікам далі па дзве аліўкі, падносы з астатнімі пладамі прыбралі са стала.

Пасля адпраўлення ўсіх тых цырымоній, пячатнік звярнуўся да паслоў з наступнымі словамі:

— Вялікі гаспадар, цар і вялікі князь Міхайла Фёдаравіч, усяе Русі самадзержац і многіх дзяржаў гасудар і ўладальнік, з вялікім гаспадаром вашым Уладзіславам IV, сваім братам, каралём польскім, вялікім князем літоўскім і іншых, вам, вялікім паслам, ад сябе загадаў сказаць.

Мы, вялікі гаспадар, жадаем быць з ім у любові і братэрстве, а таксама і нашы вялікія дзяржавы. Жадаем, каб паміж сабой усялякі мір, братэрства і сяброўства моцна трымалі. Усё тое, што нашы паслы на рацэ Палянаўцы пастанавілі і што з дазволу нашага гаспадарскага думныя баяры тут з вамі, вялікімі пасламі, дамовіліся, у заключнай запісе, перамірнай грамаце, запісана. І ўсе тыя дамоўленасці граматай, пячаткай і душою нашай умацавалі. І грамата ад нас да гаспадара вашага будзе вам дадзена.

Затым паслы падышлі бліжэй да цара. Пан Песачынскі з рук цара ўзяў грамату і звярнуўся да яго з прамовай. Затым ён перахрысціў цара і пацалаваў царскую руку.

Потым да цара падышоў пан Сапега, узяў царскую руку ў сваю руку, пацалаваў яе і сказаў:

— Цяпер цалую руку тваёй царскай вялікасці, паколькі ты прынёс прысягу яго міласці каралю, нашаму пану міласэрнаму. Жадаю тваёй царскай вялікасці жыць у вечнай дружбе і сімпатыі з яго міласцю нашым каралём, доўга і шчасліва панаваць у тваіх уладаннях.

Пацалаваўшы руку, пан Сапега адступіў ад цара.

Затым пан Вяжэвіч і пан Мадаленскі, а за імі і ўсе астатнія, цалавалі царскую руку.

Калі паслы накіроўваліся з ізбы, думныя баяры падыходзілі да іх і віншавалі. Паслы і баяры радаваліся і абдымаліся без усялякіх цырымоній. Дзякі, якія заў-

сёды сустракалі і праводзілі паслоў, і цяпер выконвалі свае абавязкі. Затым яны таксама радасна абдымаліся з пасламі.

Спусціўшыся з гары, паны паслы селі на сваіх коней. У горадзе для асвятлення былі развешаны паходні (каганцы). Стральцы з запаленымі паходнямі праводзілі паслоў да пасольскага двара.

Неўзабаве, пасля таго як паслы селі на коней, паміж імі пачалася новая сварка з-за месца захоўвання царскай граматы. Пан Песачынскі, атрымаўшы грамату ад цара, схаваў яе спачатку ў сябе за пазухай, а затым аддаў пану Кратоўскаму, каб той занёс яе ў пасольскі двор. Але захоўванне граматы ўваходзіла ў абавязкі пана Мадаленскага, як старэйшага каралеўскага двараніна.

Пан Сапега пачаў з гэтай нагоды ўшчуваць пана Песачынскага:

— Ваша міласць добра злаўчыўся ў крадзяжы. Хіба недастаткова таго, што ты скраў пакт і схаваў яго ў сябе. А цяпер царскую грамату спачатку паклаў сабе за пазуху, а затым аддаў яе несці таму, каму менш за ўсё яе варта было несці, хіба толькі ў выпадку адсутнасці пана Мадаленскага. Ваша міласць падманулі нас, выкарыстталі хітрасць і хлуслівыя словы. Асабліва закрануты гонар пана Вяжэвіча, у абавязкі якога ўваходзіць захоўванне пакта. І зараз яшчэ раз усё вылілася вонкі, — царская грамата перададзена ў рукі чалавека, які не мае паўнамоцтваў на яе захоўванне. Калі б не ішла гаворка пра маю рэпутацыю і рэпутацыі нашага караля, то я б, нягледзячы на маю стрыманасць і разважлівасць, знайшоў бы спосаб правучыць вашу ласку за нявартыя ўчынкі і здзекі. Але прыйдзе час і ваша міласць за ўсё адкажа.

Пан Песачынскі адказаў пану Сапегу на яго словы, патлумачыўшы, чаму ён падтрымліваў з ім адносіны:

— Я трываў вашу ласку да таго часу, пакуль ваш аўтарытэт і слава патрэбныя былі для карысці дзяржавы. Цяпер усё скончылася. Хачу падсумаваць, што больш няма ніякай неабходнасці клапаціцца пра прыязнасць да вас.

Пан Сапега адказваў:

— Вельмі рады, што ваша вялікасць, нарэшце, паведамілі мне аб сваёй уяўнай павазе да мяне. Упрыгожвалі сябе чужым пер'ем, а цяпер усё прысвойваеце сабе. Уражвае рэзалюцыя вашай міласці аб тым, што вы ніколі раней не стараліся аб узаемнай сімпатыі, а цяпер тым больш не будзеце пра яе думаць. На вашу падступнасць я адкажу адэкватна. Дасць Бог, і я паквітаюся з вамі.

Пан Песачынскі сказаў:

— Ваша міласць мог бы выказаць мне належную павагу, паколькі я сяджу там, дзе сядзелі знакамітыя продкі вашай міласці і цяпер сядзяць, — побач з яго вялікасцю каралём. Вашых пагроз я не баюся. Тады будзеш мне пагражаць, калі ў цябе будзе барада, як у мяне.

Пан Сапега адказваў:

— Вы першы з вашага роду, хто здолеў заняць месца ў Сенаце. Таму не занадта высока заносцеся. Мае продкі з даўніх часоў займалі высокія пасады, і зараз наш старэйшы высока сядзіць. Але ніхто з нас не быў камянецкім панам і не жадае ім быць. Няхай ваша міласць займае гэтак высокую пасаду і далей. А ад вашай казлінай барады, якой вы прыкрываецеся, няма ніякай карысці. Ніхто яе і не жадае мець.

З узаемнымі абразамі і лаянкай паслы прыехалі да пасольскага двара.

Неўзабаве да іх прыбыў царскі стольнік Куракін, які і раней прыязджаў. Ён прывёз царскае падараванне (узнагароджанне) — напоі і розныя стравы, якія былі ў замку на стале ў паслоў. Пан Сапега аддзячыў стольніка за два разы. Ён паслаў яму рострухан — двайны, срэбны і з пазалотай.

Уначы за белымі сценамі згарэла пяць хацін.

## IV

***Красавік 1635 года.***

*1 у каляровую нядзелю*. Да царквы Святой Тройцы, што размешчана ў Кітай-горадзе, недалёка ад Крамля, з замка адправілася працэсія. Сам цар ішоў пешшу. Патрыярх сядзеў на муле і хрысціў людзей крыжам. Канец лейцаў знаходзіўся ў руках у цара, нібы ён вёў мула, на якім ехаў патрыярх. Пад правую руку цара падтрымліваў акольнічы і дварэцкі Стрэшнеў, а пад левую — князь Хаванскі. З царквы цар, здаецца, з'ехаў на санях.

Тром паслам прынеслі падарункі ад цара, — па чатыры саракі собаляў. Для двара пана Сапегі, — восем саракоў, а для двароў пана Песачынскага і пана Вяжэвіча, — па шэсць саракоў собаляў. Пан Песачынскі і пан Вяжэвіч падзяліліся падарункамі са сваімі людзьмі, але большую частку сабе пакінулі. Дваране пана Сапегі не прынялі собаляў, паколькі яны аказаліся сапсаванымі. Яны перадалі іх капліцам святога Бэноні і святога Казіміра, што знаходзіліся ў Вільні. Ксяндзу Юргевічу, а таксама ўсім астатнім дваранам, пачынаючы з пана Мадаленскага, дасталася па сорак собаляў.

Таму, хто даставіў падарункі ад цара, пан Сапега ў адказ падарыў медны таз аўстрыйскай працы з налівачкай (рукамыйніцай).

Для нас прыгналі падводы, лікам 300.

*2 у вялікі панядзелак*. Пан Сапега ўзнагародзіў прыставаў. Казлоўскага — залацістай шабляй, упрыгожанай бірузой і каштоўнымі камянямі. Гарыхвостаў атрымаў пазалочаны меч, упрыгожаны камянямі. Міглецкаму дастаўся палаш, апраўлены ў золата. Абодвум дзякам Сапега падараваў па шаблі, якія былі апраўлены ў золата. Асобна ён узнагародзіў Пажарскага. Сапега паслаў яму гнядога скакуна турэцкай пароды. Усім, хто аказваў паслугі на пасольскім двары — піўнічым, цалавальнікам, пекарам, вартаўнікам, дазорцам, дворным і гэтак далей, — далі па некалькі дзясяткаў талераў.

Пасля абеду прыбылі дарожныя приставы — Філон, Аляксей і Малюта. Прыставы паведамілі паслам, што са згоды цара яны прызначаныя ў якасці павадыроў да мяжы.

Працяглае знаходжанне, цесната і розныя нязручнасці вельмі надакучылі ўсім. З-за гарачага сонца і дажджоў, якія доўжыліся паўтара тыдня, пачало псавацца надвор'е. У вялікіх паслоў і ва ўсіх нас было велізарнае жаданне хутчэй выбрацца ў дарогу.

Прыставы, аднак, не дазвалялі ад'езду. Спасылаючыся на загад цара і думных баяраў, яны патрабавалі без прамаруджання выдаць ім каля 15 чалавек з нашых людзей, якія раней трапілі ў палон і вымушаныя былі цалаваць крыж цару. Цяпер яны схаваліся на нашым двары, жадаючы вярнуцца дадому. Мы паўсталі перад выбарам: альбо затрымацца і настойваць на вяртанні тых людзей, альбо выдаць іх прыставам і выракчы на верную і ганебную смерць.

Пан Песачынскі запатрабаваў:

— Выдаць усіх назад.

Некаторыя з названых людзей, даведаўшыся пра яго рашэнне, спрабавалі скончыць жыццё самагубствам. Яны такім шляхам хацелі пазбавіць сябе ад цяжкіх пакут.

Пан Сапега і пан Вяжэвіч не жадалі выдаваць прыставам тых «здраднікаў». Пан Сапега сказаў прыставам:

— Нават калі мне самому прыйдзецца застацца тут назаўсёды, я не выдам вам ні аднаго з гэтых людзей. Вы, відавочна, сілай прымусілі нашых людзей цалаваць крыж цару, супраць іх волі прымусілі прынесці яму прысягу на вернасць. У нас вашых людзей не трымаюць, а адпускаюць, калі яны пажадаюць выехаць з вашымі пасламі. Калі нават хто-небудзь жыў у нашай зямлі і 20 гадоў, ён мае права свабодна з'ехаць. Вы біце чалом вашаму цару і думным баярам, каб яны дазволілі тым нашым людзям, якія жадаюць, паехаць з намі. З-за іх не ўбудзе людзей у вашага гаспадара.

П373ставы з тым з’ехалі ў замак, а калі вярнуліся, заявілі:

— Вялікі гаспадар наш, яго царская вялікасць, паводле твайго, Казімір Львовіч, прашэння, загадаў усіх тых людзей, якія ў вас у двары, без затрымання вольна адпусціць. І вы б такое ў вашай зямлі рабілі, нашых людзей да нас адпускалі. Калі і іншыя з вашых людзей пажадаюць вярнуцца дадому, царская вялікасць загадвае іх свабодна адпусціць.

Гадзіны за дзве перад заходам сонца паны паслы выехалі з Масквы праз Цвярскія вароты. Калі пераехалі Маскву-раку, прыставы — Казлоўскі, Гарыхвостаў і Міглецкі, а таксама два дзякі, абняліся з вялікімі пасламі і развіталіся з усімі астатнімі.

Начлег правялі ў вёсачцы,названай Вяскоє. Там было каля 12 халуп. Праехалі 3 мілі па вельмі дрэннай дарозе.

*3 у Вялікі аўторак*. Начавалі ў Кубінску. Праехалі 8 міль па цяжкой дарозе.

*4 у Вялікую сераду*. Начавалі ў Мажайску. Праехалі 7 міль па дрэннай дарозе.

*5 у Вялікі чацвер*. Пан Сапега, пан Вяжэвіч і пан Мадаленскі начавалі разам з іх дварамі ў Калачынскім манастыры. Праехалі 4 мілі.

Пан Песачынскі пасля Мажайска паехаў іншым шляхам, абмінуўшы той манастыр.

Да пана Сапегі прыходзілі прыставы і скардзіліся на слуг пана Песачынскага, якія адказвалі за правіянт, за тое, што яны абразілі пад’ячага, які вёз правіянт, рознымі непрыстойнымі словамі і сілай адабралі ў яго авёс.

Прыходзіў да пана Сапегі прыстаў Філон. Ён сказаў наступнае:

— Вялікага гасудара нашага, яго царскай вялікасці, ёсць загад, каб вам, вялікім паслам, тут заначаваць. На ноч і на наступны дзень тут нарыхтаваны прадукты для людзей і корм для коней. А таварыш твой самавольна едзе. Пры табе, Казіміру, другі пасол і ўся шляхта едзе. А там з ім купцы паехалі. А той Аляксандр непрыгожае робіць. Калі ўжо вялікія гаспадары нашы памірыліся, нам бы ўсім трэба ў любові і ў брацкім сяброўстве быць. А яго слугі ліхімі словамі мацюкаюцца. Ды калі б мы самі ў тую пару тут былі, і ён бы сам такія словы слухаў, і нічога б не ўзяў. Калі б быў царскі ўказ, можна было б нам, прыставам, разлучацца: аднаму ехаць з Песачынскім, а другому тут з табой заставацца. Мы ўсё робім паводле ўказа яго царскай вялікасці. Мы не можам па сваёй волі ехаць з ім.

*6 у Вялікую пятніцу*. Выехалі ў поўнач, паколькі дарога да гэтага часу трохі выправілася, бо яе ледзь прымарозіла. Начавалі ў Царовым Займішчы. Праехалі 9 міль. Тут заспелі пана Песачынскага.

Ноччу да паслоў са сталіцы ад цара і думных баяраў прыскакалі князь Лявонцій Шахоўскі і дзяк Грыгорый Нячаеў.

У ноч перад *Вялікай суботай* рана пачало днець. Лявонцій Шахоўскі і дзяк Грыгорый Нячаеў прыйшлі да паслоў і былі прынятыя імі ў адпаведнасці з пасольскім звычаем. Маскоўскія людзі, як і належала, зачыталі грамату. У ёй паведамлялася, што маскоўскаму паслу Львову не быў уручаны дыплом ад караля, пана нашага. На думку Масквы, гэта азначала, што заключныя запісы і прысяга вялікіх паслоў на рацэ Палянаўцы, гублялі сілу. Маскоўскі пасол Львоў, як вынікала з граматы, не жадаў выслухоўваць прысягі яго каралеўскай міласці да таго часу, пакуль яму не будзе ўручаны дыплом. Усё гэта было шырока і шматслоўна апісана ў грамаце, прывезенай Шахоўскім і Нячаевым з Масквы. Тая грамата была ўручана паслам.

На словах Лявонцій Шахоўскі і дзяк Грыгорый Нячаеў выказвалі здзіўленне хлуслівымі, на іх думку, паводзінамі нашага караля і паноў сенатараў. Свайго цара яны выстаўлялі сумленным і адказным. Паводле іх словаў, ён рабіў усё, як і было дамоўлена. Асабістай прысягай ён зацвердзіў заключныя запісы і адпусціў паслоў з гонарам.

Лявонцій Шахоўскі і дзяк Грыгорый Нячаеў патрабавалі, каб кароль таксама паступаў сумленна, як іх цар, і прыклаў неабходныя намаганні для аднаўлення вечнай прыязнасці.

Пан Сапега адказаў ім:

— Не наша справа шукаць дыплом для вашага пасла. Мяркую, калі дыплом адшукаюць, яго адразу аддадуць яму. Вам варта ведаць, што прысяга нашага караля важней за ўсякія запісы. Няхай ваш цар і думныя баяры будуць упэўненыя ў тым, што наш кароль, як сапраўды вялікі манарх, умее трымаць сваё слова і веру. Прысяга нашага караля — важнейшая за ўсякія запісы. Таму ваш пасол і быў накіраваны да караля, каб выслухаць яго прысягу. Як толькі я, дасць Бог, вярнуся ў сваю Бацькаўшчыну, то прыкладу ўсе намаганні і старанні, каб адшукаць страчаную грамату. Калі знойдзем яе, то без усякай затрымкі яна будзе аддадзена вашаму паслу.

Маскоўскія людзі, выслухаўшы такі адказ, сышлі.

Пра падзеі пры каралеўскім двары ў Маскву паведаміў маскоўскі ганец, з якім мы размінуліся каля Мажайска. Калі б ён застаў нас у сталіцы, нам бы прыйшлося яшчэ надоўга там затрымацца.

Наступны начлег прыйшоўся на Вязьму. Праехалі 8 міль. Дарога была жудаснай з-за праліўнога дажджу.

*8 у нядзелю*. У такое цудоўнае свята і ўрачысты дзень не толькі вандроўнікі, але і коні заслугоўвалі адпачынку, хоць бы адзін дзень. Шлях быў доўгім і вельмі складаным. Але здарылася так, што давялося выехаць у напрамку мяжы ў той жа дзень.

Ютрань адслужылі ў доме, дзе размясціўся пан Сапега. Святая літургія прайшла ў звычайны час, з музыкай, з дазволу пана Сапегі. Пан Сапега і яго людзі ні пра што не турбаваліся, на службе яны правялі каля гадзіны. Але раптам пану Сапегу паведамілі, што другі пасол пан Аляксандр Песачынскі тэрмінова, з некалькімі сваімі людзьмі, выехаў з горада. Пан Песачынскі распарадзіўся, каб яго вазы і вазы яго людзей як найхутчэй выбіраліся з горада.

Пан Сапега меркаваў, што прычынай такога тэрміновага ад'езду Песачынскага служыла сапсаванасць дарогі. Але ён пакуль што не ведаў сапраўднай прычыны, паводле якой пан Песачынскі спехам і ўлегцы выехаў з горада, пакінуўшы ззаду сябе вазы, а таксама, чаму за ім з такім трэскам рушылі ўслед яго людзі.

Неўзабаве, аднак, ад самога пана Песачынскага прыйшла вестка. Пасля таго ўжо, як Песачынскі пакінуў горад, ён праслаў свайго ганца да пана Вяжэвіча з папярэджаннем, што ў сталіцы за імі рыхтуецца пагоня. Ён сцвярджаў, што мае аб тым дакладныя звесткі. Пан Вяжэвіч накіраваўся да пана Сапегі і перадаў яму тое, пра што паведамляў пан Песачынскі.

Даслухаўшы Боскую службу і рана паснедаўшы, пан Сапега аддаў загад усім людзям рыхтавацца ў дарогу. Пад пагрозай строгага пакарання, ён распарадзіўся, каб ніхто ў адзіночку не з'язджаў наперад і не заставаўся ззаду.

Ад'езд пана Сапегі здарыўся праз чатыры гадзіны пасля ад'езду пана Песачынскага. Як толькі былі падрыхтаваны вазы, сабраныя ўсе вознікі і пяхота, пан Сапега і пан Вяжэвіч з усімі іх людзьмі выехалі з Вязьмы.

Прыставам — Філону, Аляксею і Малюту — пан Сапега падараваў па трое коней, узнагародзіўшы, такім чынам, іх за работу. Приставы не паехалі з панам Песачынскім, хоць ён і падарыў ім пярсцёнкі. Выказваючы ўдзячнасць пану Сапегу, прыставы праводзілі яго да самай мяжы, да рэчкі Палянаўкі. Яны пераехалі на наш бок ракі, абняліся на развітанне з панам Сапегам, а таксама развіталіся з усімі намі. Прыставы выказалі пажаданне часцей бачыць пана Сапегу ў іх зямлі. Яны пажадалі яму ўдачы ва ўсіх справах.

Весялей свет і ясней неба стала для кожнага з нас, як толькі мы пераехалі мяжу і апынуліся на нашым баку рэчкі. Ад Вязьмы праехалі амаль тры мілі. А ад мяжы да вёсачкі Шэмлова — адлегласць больш за дзве мілі. Начлег мелі ў той вёсачцы Шэмлова.

***Пераклад Івана САВЕРЧАНКІ.***

Арына ГАРДЗЕЙ

# ЛАБІРЫНТЫ ДОЎГІХ ГАЛЕРЭЙ




*Адам ГЛОБУС*

**СЯМ'Я**

*Мн., Мастацкая літаратура, 2017.*

Цягам апошніх гадоў сегмент беларускай літаратуры пашырыўся такім відам кніг, якія можна аднесці да, умоўна кажучы, «літаратуры Фэйсбуку». Такія тэксты аб'ядноўвае форма дзённікавых запісаў ці асабістых занатовак, можа існаваць і спавядальнасць, адносна невялікі памер частак тэксту (абумоўлена невялікім фарматам прылады, з якой чытаецё, і тым, што лонгрыды ў стужцы навін звычайна мала хто праглядае) і г. д. З нядаўніх прыкладаў адразу ўспамінаюцца «Радзіва Прудок» А. Горвата, «лірычныя адступленні» ў «Дні Святога Патрыка» Г. Севярынец і творы А. Глобуса. Зразумела, што спіс дастаткова прыблізны, не абмежаваны толькі гэтымі аўтарамі і дапаўняецца новымі характарыстыкамі нават зараз.

Усе вышэйпералічаныя адметнасці стылю і магчымай прыналежнасці да інтэрнэт-літаратуры можна знайсці ў творчасці А. Глобуса: напрыклад, кнігах «Play.by», «Імёны. Літаратурныя партрэты», «Партрэты», «Зваротная перспектыва» і «Сям'я», што пабачыла свет у 2017 г. і якая будзе прадметам размовы. Зыходзячы са зместу папярэдніх твораў, зварот да тэмы сям'і і стварэння партрэтаў у творчасці літаратара далёка не першы. Тым цікавей прасачыць, ці ўдасканальваецца аўтар і якім чынам.

Раман «Дом» складае большую частку кнігі, і ў ім А. Глобус стварае своеасаблівае генеалагічнае дрэва сям'і. На гэтым дрэве мноства галінак — маленькіх аповедаў ці кароткіх занатовак, звязаных з роднымі. Гэта мноства назіранняў, уважлівасць да дробязей, слоў, што былі сказаны або так і не паспелі прагучаць. Гэта і магчымасць зазірнуць у сябе і асэнсаваць нават тое, што заўсёды хаваецца як мага далей («Агрэсія»), сутыкнуцца з непазбежным і таксама гэта асэнсаваць. І занатаваць.

Разам з тым твор багаты на вобразы. Апавядальнік аднначасова выступае не толькі літаратарам, у якога чалавек і яго жыццё — цэлая глава, як у кнізе, так і ў жыцці, але і мастаком, у якога асобны чалавек — партрэт. Зрэшты, вызначэнне А. Глобуса як аднначасова літаратара і мастака зусім не новае, таму ў гэтым сэнсе «Сям'я» не стала адкрыццём. Бацьку пісьменнік апісвае пераважна ўжо ў апошнія гады жыцця. Маці паўстае цярплівай і адданай сваёй сям'і, але пры гэтым не безаблічнай, а

пра астатняе расказвае ўжо сам літаратар: «*Ці ідэалізую я вобраз мамы? І так, і не. Каго яшчэ мне любіць і ўсхваляць, як не яе? Тату? Я спазніўся са словамі прыязнасці і павагі*». Баба ў рамане непадзельна звязаная з беларускімі народнымі казкамі, фальклорам ці міфалагічнымі звычаямі, якіх зараз ужо амаль не пачуеш свабодна, паколькі носьбітаў становіцца ўсё меней («Казка пра дзедаву дачку», «Казка пра Васілька», «Ведзьмакі» і інш.). Дзед — гэта асэнсаванне ўплыву на сябе: «*Вобраз дзеда зусім далёкі, як сон; нібыта ён, мой дзед Валодзя, і не меў той вызначальнай ролі ў маім станаўленні, якую насамрэч меў*», пераемнасць («10 сантыметраў», «Хата» і інш.). Адносіны да брата Міраслава ў А. Глобуса можна ахарактарызаваць словамі «*Выбіраючы паміж сябрам і братам, заўсёды выбіраю брата*». Пры гэтым таксама хапае апісаных выпадкаў, якія дазволяць чытачу хутка скласці партрэт брата пісьменніка, паколькі лаканічнасць і дакладнасць аповеду гэта дазваляюць («Гады», «Карты», «Скура» і інш.). Найбольш ярка прасочваецца стаўленне А. Глобуса да дзядзькі ў словах «*Не так і шмат людзей на свеце, каму ты можаш даверыць пакунак з грашыма, сабранымі на чорны дзень. У мяне быў такі чалавек — Антон з Койданава, надзейны родны дзядзька*». Вядома, што гэта не адзінае апісанне, хапае і жыццёвых сітуацый, якія ствараюць вобраз і характарызуюць героя з розных бакоў. Разнастайнасці дадае апісанне цёткі, што складаецца не толькі з яе моўных звычак, а і з асацыятыўных вобразаў, якія стварае А. Глобус: «*Бацькоўскае Кісель і матчына Александровіч ёй пасавалі значна горш за салодкае Сахарцава. Яна заўжды была салодкая і белая, пудранацукровая, кандытарская, цукерачная. Яе ўсе любілі так, як любяць здобную булачку, густа пасыпаную салодкай пудрай*». Адносіны з дачкой літаратар характарызуе англійскім словам «cool», а ва ўзаемаадносінах з жонкай разважае пра някрэўнасць, праз якую партрэт не так лёгка пішацца і патрабуе іншага падыходу: «*Яна самы блізкі мне чалавек, але з удакладненнем — сярод някрэўных. Гэтая біялагічная, антрапалагічная, расісцкая акалічнасць апынулася непераадольнай мяжою*». Самая кароткая частка прысвечана ўнуку, але зразумела, што калі яна скончылася ў кнізе, то працягнецца ў асабістых нататках А. Глобуса, як працягнуць, напэўна, занатоўвацца згадкі, успаміны і іншае, што паспела або не паспела здарыцца.

Кампазіцыйна раман «Дом» складаецца з шасці частак, у кожнай з якіх знайшлося месца ўжо вышэйазначаным асобам — бацьку, маці, жонцы і г. д. Такі падзел сцвярджае думку, што кожны герой не толькі «асобны партрэт» ці «глава» ў кнізе, але і паўнавартасная частка жыцця самога аўтара.

Моўныя сродкі, якія выкарыстоўвае А. Глобус, дазваляюць творам раўназначна існаваць у фармаце і звычайных кніг, і інтэрнэт-публікацый. Невялікая колькасць вобразных сродкаў, якія ўжываюцца ў кароткіх аповедах, становіцца ў такіх умовах асобнай яркай адметнасцю, якая прыцягвае ўвагу чытача сярод «роўнага» тэксту, тым самым ствараючы акцэнт на тым, што выдзяляе аўтар («*“У мяне кроў з носу ідзе, — кажа жонка...” ... На белай падлозе чырванеюць крывавыя манеткі*»; «*Намаляваў вялікае, крытае саломаю гумно і высачэзныя серабрыста-крохкія таполі пад рэдзенька-шарым небам*»; «*Шкло разляцелася на аскепкі, але і кулак ператварыўся ў крывавую кашу*» і г. д.). Стылістычныя асаблівасці таксама з'яўляюцца паказальнікамі «дваістасці». Сярод іх можна вылучыць лаканічнасць, калі закончаным творам можа з'яўляцца мініяцюра з аднаго ці некалькіх сказаў («*Мама сказала, што няможна пакінуць тату ні на хвіліну, бо стаў зусім дзіця. Спрабаваў з'есці ўсе таблеткі. “Што ты робіш, Чэсь?! — “Ты ж мне сказала: з'ясі ўсе таблеткі — і хутка паправішся...”*»). Да гэтага дадаецца дакладнасць, неразрыўна звязаная з гіперрэалізмам, якая становіцца ўжо, хутчэй, звышдакладнасцю, паколькі асабістае жыццё і пэўныя перажыванні ці аповеды падаюцца без аздаблення дадуманым. Яшчэ адной рысай, якая часам

выразна адрознівае малыя празаічныя ці паэтычныя формы — афарыстычнасць; выразаў, якія могуць ужывацца па-за кантэкстам, у тэкстах дастаткова («*большасць нашчадкаў і спадкаемцаў творчага чалавека якраз цікавяць законы і грошы, выгандляваныя за спадчыну», «чалавек — істота ваенная», «хто не зразумеў прыгажосць кветкі, той не зразумеў жыцця», «у сям'і галоўнае — разуменне і дараванне недаравальных учынкаў*» і інш.). Часам узгадваюцца і цікавосткі. Калі яны дадаюцца да аповеду ў невялікім фармаце, то гэта дадатковы пункт, які дапамагае прыцягнуць увагу чытача і дазваляе лепш запомніць яркі момант, асабліва, калі такія фрагменты дадаюцца сярод збольшага стылістычна «роўнага» тэксту. Гэта можа быць і згадка пра тое, чые карты прадаваліся ў Мінску ў 90-я, пра пакрыўджанага Успенскага, які «абураўся на тэлеэкране і заклікаў рускіх дзяцей не чытаць кнігі пра амерыканскіх чарапашак-ніндзя» і пра тое, хто ж стварыў тых самых чарапашак.

Працягваюць кнігу «Сям'я» «Глобусы» з пазнакай «*Словы пра прозвішча маёй маці — Ніны Глобус*». Гэта таксама зборнік эсэ-мініяцюр, але падобны да своеасаблівага даследавання А. Глобусам сваіх каранёў, наведвання мясцінаў, дзе жыў дзед, і аповед пра сустрэчу са стрыечнай сястрой маці ў краме «1000 дробязей». Невялікі па аб'ёме, твор пакідае пачуццё незавершанасці, але застаецца толькі здагадвацца, ці гэта зроблена назнарок, каб пазней выйшаў працяг, ці проста далей насамрэч нічога не адбылося. Усім астатнім «Глобусы» амаль нічым не адрозніваюцца ад папярэдніх мініяцюр, хіба што больш вялікім аб'ёмам, большай колькасцю дакументальных звестак і аповедаў ад тых, хто непасрэдна жыў у мясцінах, якія наведваў пісьменнік.

Твор «Бацькі», які завяршае кнігу, можна назваць своеасаблівым працягам «Дому». Ці калі не працягам, то часткай, якая дапаўняла б частку першую «Тата+мама». Ні стылістычна, ні па іншых прыкметах, таксама мініяцюры не адрозніваюцца ад тых, што падаваліся ў кнізе перад гэтым, акрамя нагоды, з якой былі напісаны (80-годдзе В. Адамчыка і «*словы пра сыход мамы*»). Тым больш, што «Бацькі» былі ўжо надрукаваны раней (у 2014 г.) як асобная частка кнігі «Партрэты». Пэўна, існавала прычына перадруку, і застаецца спадзявацца, што гэта вынік чытацкай зацікаўленасці, а не патрэбы дабіць такім чынам колькасць старонак у кнізе.

Падсумоўваецца ўсё даволі дваіста. З аднаго боку, перад чытачом пранікнёныя словы пра блізкіх людзей, якія занатоўваліся доўга, збіраліся і апрацоўваліся. З іншага, новая кніга А. Глобуса не сказала амаль нічога новага. Майстар прытрымліваецца ўжо добра вытрыманых манеры і стылю і відавочна не мае ніякай патрэбы ў тым, каб змяняць нешта ў галіне аповедаў пра сям'ю. Такія тэксты будуць няблага выглядаць і ў папяровым выглядзе, і на экране любой прылады, з якой зберацеся чытаць. Аднак часцей за ўсё гісторыі пра жыццё і родных, якія часам можна пачуць у грамадскім транспарце, чарзе і г. д. ад выпадковых суседзяў, выклікаюць калі не раздражненне, то жаданне па магчымасці не абцяжарваць сябе ведамі пра людзей, якіх асабіста не ведаеш і ведаць не будзеш. І ў такім выпадку ці былі б звесткі, пададзеныя ў кнізе, такімі каштоўнымі, калі яе аўтар быў бы не такім вядомым, каб не была такой вядомай сям'я? Але асобай усё і робіцца. Кніга «Сям'я» дакладна зацікавіць прыхільнікаў В. Адамчыка, А. Глобуса, аматараў біяграфічных звестак, паколькі жыццёвых падрабязнасцей зашмат і ўсё расказваецца як ёсць. Вось толькі такога гіперрэалізму набярэцца таксама і ў вялікай колькасці іншых людзей, якія кантактуюць са сваімі роднымі і любяць іх. Хіба тады так патрэбна ўбіраць у сябе чужыя, часам змрочныя і цяжкія думкі, блукаць сярод мноства партрэтаў толькі з-за гэтага? Наўрад ці. Усё роўна нізка жыццёвых гісторый у кожнага ёсць ці будзе свая. Толькі калі не сам нацiснуў «падпісацца» або набыў кнігу.

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# У САНЦАТКАНЫХ КАЛЯСНІЦАХ

**ПЯЛЁСТКІ ЛОТАСА І ХРЫЗАНТЭМЫ:**

**Сто паэтаў Кітая XX стагоддзя**

***Уклад. А. КАРЛЮКЕВІЧ***

***Пер. з кіт. М. МЯТЛІЦКАГА***

*Мн., Мастацкая літаратура, 2018.*

Як вядома, пісьмовая гісторыя Кітая ахоплівае перыяд у 3500 гадоў. Велізарны назапашаны вопыт пакаленняў абумоўлівае незвычайную філасофскую глыбіню паэзіі гэтай краіны, не заўсёды зразумелую для еўрапейскай свядомасці. Маштабныя перакладчыцкія праекты апошняга часу выконваюць, безумоўна, у нейкім сэнсе, асветніцкую функцыю, набліжаючы кітайскія вобразы, нязмушана ўводзячы іх у беларускі культурны кантэкст. Важна, каб пераклады лепшых кітайскіх паэтычных узораў рабіў паэт значнага эпічнага таленту, які зможа па-мастацку «пражыць» верш і зрабіць яго крыху «нашым» таксама. Мікола Мятліцкі спрычыніўся да пераўвасаблення на беларускую мову многіх нацыянальных літаратур. Але асаблівае значэнне надае менавіта літаратуры кітайскай. «Пялёсткі лотаса і хрызантэмы» — працяг распачатай раней вялікай справы. Выданне «Пад крыламі дракона», што пабачыла свет пяць гадоў таму, таксама змяшчала пераклады ста кітайскіх паэтаў, але ранейшых перыядаў (Цюй Юань, Цао Чжы, Лю Чжэня, Цзо Сы, Се Аня, Лу Кая, Фань Юня, Ван Вэя, Ду Фу, Ду Му, Яня Шу і інш.). Сёлетняя кніга ж праводзіць паўнавартасны экскурс у Кітай XX ст.




Баксёрскае паўстанне, рэвалюцыя 1911 года, Першая сусветная вайна, эра мілітарыстаў, праўленне Гаміньдану, японская акупацыя і Другая сусветная вайна — безліч лёсавызначальных, часта драматычных падзей прадвызначылі воблік Кітая сучаснага… Сімвалічна, што распачынаецца кніга менавіта перакладам верша «Першая раніца 1900 года» Хуана Цзуньсяня:

Ужо дзевятнаццаць стагоддзяў пажару таму,
Што нішчыць хаціны, зямлю залівае крывёй.
Не знаю, што спыніць багіню вайны Сіванму
І колькі стагоддзяў шчэ цешыцца бедамі ёй.

Шмат у анталогіі і вострасацыяльных твораў: цыкл «Набыццё пасады» Су Маньшу, «Грошы», «Ворыва» Лю Дабая… Абсалютна неспалучальнае, здавалася б, можа паяднацца ў высокамастацкім: бруд вуліц і перліны зорак, натуралістычныя апісанні і звароты да мудрасці філосафаў мінулага. Гукі цыня і рык свяшчэннага льва чуюцца праз крыкі вулічных гандляроў, а недзе за спінамі іх паўстае «ў ролі блазна-скамароха задыханая эпоха» («Сучаснасць у мініяцюры» Чжу Цзыцін). Незвычайная ўвага да бытавых дэталяў-сімвалаў робіць вершы аб'ёмнымі і зразумелымі. Звычайны дыванок у аднайменным вершы Лю Баньнуня — сімвал чыстай надзеі для бедняка, які баіцца прыкрыць ім брудныя плечы, каб не запэцкаць.

Своеасаблівай эпохай у мініяцюры паўстае і жытло кітайцаў. Набыццё інжынерам уласнай кватэры — сімвалічнае дзеянне сцвярджэння новага ладу жыцця:

Ты утульнае крэсла сваё
на балконе пастаў,
Вочы ціха прымруж,
адпачні ад вярэдлівых спраў…
Чуеш? Ключ павярнуўся ў замку —
дотык нечай рукі.
Гэта вершы ідуць пра цябе,
за радкамі радкі.

Паяднанне рэфлексіўнасці і эмацыйнасці — яшчэ адна цікавая рыса кітайскай паэзіі XX стагоддзя. Горкая, непрыхаваная роспач чуецца ў радках верша Вэнь Ідо:

Не Кітай, а кашмарны
І жудасны сон,
Вось якая ты, стрэчы хвіліна.
Родны вецер прашу:
— Адкажы мне, дзе ён?
Дзе Кітай, дарагая айчына?

Ачышчальнай жа, гаючай сілай выступае для кітайскіх мастакоў слова прырода (пры тым, што анталогія ў многім менавіта ўрбаністычная):

У гразкіх лужах кірзачы прамоклі,
Ды асвяжыў душу і вымыў лівень;
У ноздры б'е сырым дыханнем глеба,
Што вільгаці удосталь напілася…

*(Вэнь Ідо «Першыя строфы аб вясне»)*

Створаная ў фармаце мастацкага альбома (шчодра аздобленая ілюстрацыямі Каміля Камала), анталогія «Пялёсткі лотаса і хрызантэмы: Сто паэтаў Кітая XX стагоддзя» прадстаўляе шырокую галерэю вобразаў вялікага этапу развіцця Паднябеснай. Кітайскія паэты XX стагоддзя, досыць розныя ў сваёй мастацкай манеры, робяцца, дзякуючы перакладчыку, зразумелымі і блізкімі беларускаму сэрцу. Перадача творчай індывідуальнасці — задача надзвычай складаная. І Міколу Мятліцкаму цалкам удалося пабачыць навакольны свет праз прызму ўсходняй мудрасці, кемлівасці і жыццялюбства ажно сотні выдатных творцаў.

*Алена ВАСІЛЕВІЧ*

**ВЕРНІСАЖ**

*Мн., Мастацкая літаратура, 2018.*

«Старэйшая пісьменніца Беларусі» — такое азначэнне цалкам аб'ектыўна замацавалася за Аленай Васілевіч. Асобай легендарнай ужо тым, што творы яе многія чыталі ў межах



школьнай праграмы, а потым мелі магчымасць пісаць для часопісаў і выдавецтваў, у якіх Алена Сямёнаўна працавала. Апякунка творчых і мэтанакіраваных, чалавек чулай душы, яна стварыла панарамную карціну жыцця людзей передваеннага пакалення. А эсэ, эцюды, апавяданні Васілевіч вызначаюцца і сёння на дзіва свежымі, сучаснымі поглядамі і меркаваннямі. Мінулы год быў адзначаны не толькі 95-годдзем пісьменніцы, а яшчэ і 70-й гадавінай яе першай публікацыі. Вельмі важна сёння нагадваць дзецям і дарослым простыя і разам з тым вечныя ісціны, спасцігнутыя Аленай Васілевіч, захапляцца яе гумарам і мудрасцю. На старонках часопіса «Маладосць» з'явілася апавяданне «Станцыя Чымша» юбіляркі, а выдавецтва «Мастацкая літаратура» падрыхтавала абаяльны зборнік твораў для дзяцей.

Лёгкасць аповеду — адна з найбольш важных вартасцей дзіцячай літаратуры. А колькі нязмушанасці ў радках апавяданняў Алены Васілевіч! Жывыя дыялогі, дынамічны сюжэт, лаканічнасць… Хто з нас не памятае цудоўных братоў-артыстаў з аднайменнага твора? Наколькі цікава ды экзатычна сучасным дзецям будзе пачытаць пра баранчыкаў, што гойсаюць па школьных партах! Рана асіраццелая, пісьменніца асабліва значэнне надае сямейным адносінам. «Вернісаж» — шчымлівы твор аб падрыхтоўцы дзяцей да Восьмага сакавіка: «…Мы сустрэлі сваю маму з работы яшчэ на парозе. Мы тут жа ўзялі ў яе з рук цяжкую сумку. (Мы стрымаліся! Мы не спыталі яе на гэты раз: “А што ты прынесла нам?..”) Мы дапамаглі ёй распрануцца і ўрачыста, пад рукі, павялі яе ў пакой: там, на самым бачным месцы, віселі нашы малюнкі — Натчын голуб, або “Вароне недзе Бог паслаў кавалак сыру”, і мой зімовы лес, або “Плакала Саша, як лес высякалі…”» Захапляюць творы Алены Васілевіч і кампазіцыйна. Вельмі ўдала пачынаць цікавы аповед з жывой гутаркі:

«— Гэта дзяўчынка?

— Не.

— Хлопчык?

— Не.

— А хто ж?

— Гусыня. Гуска.

— Раскажы.

— Калі будзеш добры і паслухмяны — раскажу.

— Буду.

— Тады слухай» («Геша»).

Цудоўным падарункам для малодшых школьнікаў стане, без сумнення, каляровы, зыркі «Вернісаж». Разумныя, вясёлыя і дасціпныя гісторыі, якія будуць цікавымі заўсёды. Ды і разглядаць у кнізе шмат чаго знойдзецца — ілюстрацыі Юліі Ермаліцкай вельмі пасуюць непаўторнаму пісьменніцкаму стылю Алены Васілевіч.

**ПЕРШАЦВЕТ:**
**проза і паэзія маладых**

***Выпуск 2***

*Мн., Мастацкая літаратура, 2018.*

Міжнародны літаратурны конкурс «Першацвет», аб'яўлены ўпершыню ў 2016 годзе, засведчыў сваю папулярнасць сярод маладых пісьменнікаў. Сёлета ўдзел у ім прыняло каля 200 паэтаў і празаікаў. Другі выпуск альманаха твораў пераможцаў стаўся прадстаўнічым і багатым на цікавыя імёны.



Важна, што зборнік яскрава люструе сучасны літаратурны працэс. Стракаты і рознагалосы. Цешыць і тое, што змяшчаюцца ў кнізе даволі вялікія нізкі твораў асобных аўтараў. Аблічча пісьменніка бачыцца яскрава…

Імя беларускага паэта з Тулы Аляксея Арцёмава добра вядомае многім. Празрыстасцю вобразаў, сапраўдным, не штучным пачуццём, лаканічнасцю фраз. Як яшчэ лепей і прасцей сказаць пра светлы сум:

Я засумаваў без дай прычыны
(Так заўжды маркоціцца бядак),
Хоць люблю звычайную жанчыну,
Простую, як ціхая вада.

Шмат у яго паэзіі і трапных, асацыятыўных вобразаў: парфума з водарам бяды, уздыхі электрычнага дажджу, паветранае мора, шкарлятынавая луска дрэў, пластыкавы век… Свет, як ні круці, рэч простая — у сваёй неймавернай складанасці. І зразумець яе дапаможа толькі сіла праўды і прыгажосці…

Па-іншаму, у міфалагемах, архетыпах бачыць навакольны свет Кацярына Массэ. Прайсці «за трыдзевяць жыццяў і трыдзевяць смерцяў», каб знайсці запаветны Алатыр, пракаціцца ў «санцатканых калясніцах», сустрэць усемагутнага Светагора — вось яно, паўнакроўнае жыццё!

А можна — рэфлексаваць разам з Воляй Чайкоўскай, ператвараючыся ў журавіну ці кроплю вады, адчуваючы сябе жырафай альбо Эйфелевай вежай, узгадваючы і ўзважваючы на шалях часу свае позіркі, вершы, дасягненні.

Тая ж разнастайнасць і ў прозе «Першацвета».

Добра распрацаванымі псіхалагічнымі дэталямі, партрэтамі ўражваюць апавяданні Арыны Гардзей. Дэспатычная крыклівая старая — як высахлая палка, дзяўчына, якая жыве ў свеце мрой, мінак, што назаўжды згубіўся ў чужым горадзе — галерэя вобразаў маладога празаіка адметная і пазнавальная.

Як і каляровая гама Еўфрасінні Капусцінай. «Тры адценні Пецярбурга» — сур'ёзны псіхалагічны твор, твор сталення. Ад жоўтага шчаслівага пачатку восені праз шэрую дажджлівасць хмар да блакітнага неба вясны крочыць лірычны герой шляхам спазнання, шляхам самотных герояў Дастаеўскага, каб пачуць нарэшце ціхае: «Христос воскресе»…

Памежна шчыра пра сябе, пра лёс пакаленняў і вострыя праблемы сучаснасці піша Арамаіс Міракян. Прамаўляе гучна, нават калі «поўны рот крыві». Глядзіць на свет вачыма хлопчыка, які пабачыў тату ў інвалідным вазку, вачыма знявечанага югаслаўскага народа… І, пры гэтым, размаўляе на мове пяшчоты: «Когда я сижу рядом с тобой, мне не хватает воздуха, словно весь он ушел из помещения внутрь тебя, в твою душу, в твои глаза, и теперь единственный способ остаться в живых — смотреть на тебя».

Кацярына Захарэвіч, Андрэй Кімбар, Святлана Курганава, Ніна Лістота, Ігар Палынскі, Станіслава Умец і яшчэ шэраг цікавых, адметных аўтараў прадстаўляюць сучасную беларускую літаратуру на старонках «Першацвета». Ім ёсць пра што сказаць, ёсць чым захапляцца і абурацца. А гэта — прыкметы паўнавартаснага жыцця. Звычайнага, чалавечага — і творчага, безумоўна…



